**ГЕРАІЧНЫЯ СТАРОНКІ З ЖЫЦЦЯ НАДЗІ БАГДАНАВАЙ**

**АПАВЯДАННЕ ВЯДЗЕ СЦЕЖКАМІ ЮНАЦТВА**

**РАСКАЗВАЕ ЎДЗЕЛЬНІК ВОЛЖСКАЙ ЭПАПЕІ**

**ЛІСТКІ З ЯПОНСКАГА БЛАКНОТА**

**ШЛЯХІ І ГАРЫЗОНТЫ МАЛОЙ ПРОЗЫ**



**2**

**ЛЮТЫ**

МІНСК, 1968

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Выдавецтва «Звязда»**

## У НУМАРЫ:

Вокладка **Ю. Архіпава.**

Шмуцтытулы **В. Шаранговіча** (стар. 3). і **А. Дзітлава** (стар. 97).





# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

● УЛАДЗІМІР ПАЎЛАЎ ● ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН ● МІКОЛА ПАНАСЮК ● ЯЎГЕН ШАБАН ● АНАТОЛЬ СІДАРЭВІЧ ● АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ ● СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ● МАРК СМАГАРОВІЧ ● УЛАДЗІМІР АЛЯХНОВІЧ ● АНАТОЛЬ КАЗЛОВІЧ

# ПАЭЗІЯ





**Уладзімір ПАЎЛАЎ**



●

Калі выйдзе паўночная зорка
І абсяг патане ў цішыні,
Партызан з-за асмяглых пагоркаў
Выязджае на белым кані.

У зямлю капытом б'е стаеннік,
І наезнік наструнены ўвесь.
А за імі ў нямым утрапенні
Чарадзейна варушыцца лес.

Партызан выглядае з сакрэту,
Ці якой небяспекі няма;
Можа выйдзе на двор Лізавета
І вароты адчыніць сама;

Можа тая яго прычакала,
Што аднойчы з ім мілай была —
Востру шаблю ў сядло падавала,
Пад аброць варанога вяла?!

Можа той партызан гэта ўвішны,
Што аднойчы забыў пра сяло?! —
Аляксеі, Міколы і Мішы,
Столькі вас пад ракіты лягло,

Што згадаць могуць толькі матулі
У лясной у маёй старане,
Колькі вас пакланілася кулям
І на той і на гэтай вайне...

Знаю я, чаму ўспыхне ракета
І засвецяцца вочы чаму.
Мы выходзім з дачкой Лізаветы
З крайняй хаты насустрач яму.



●●

Гулі самалёты, як восы,
Над ніткамі дзвюх перапраў.
А воддаль, галодны і босы,
Стары на пагорку араў.

Адна пераправа — у пекла,
Другая — вяртала у рай.
Тут рота сапёрная ссекла
На пáлі бярозавы гай.

Жыўцом хоць кладзіся, хоць трэсні,
А дай пераправу у час!
Бярвенне раскідваў, як трэскі,
Пры кожным налёце фугас.

Гулі самалёты, як восы,
Над ніткамі дзвюх перапраў.
Стары, згаладалы і босы,
Каняку ў сапёраў узяў.

Пакуль тыя пілы вастрылі,
Кацілі к вадзе круглякі,
Старога нямоглыя сілы:
За плугам хістала ў бакі.

А бомбы ляцелі у жыта,
У пойму, на ўзмежак лясны.
Са злосці сцярвятнік падбіты
Па дзеду тады паласнуў.

Пакуль не спынілі гнядога, —
Палёгку адчуў балазе, —
Цягнуў ён за лейцы старога
Па цёплай яшчэ баразне.

Бамбёжкай ні пáлі не ссекла, —
Сапёрная рота, спявай!
Адна пераправа — у пекла,
Другая — таксама не ў рай.

●●●

*Нет, весь я не умру...*
А. ПУШКІН.

Я нечым у нашчадках паўтаруся,
Як зерне — з зерня, шышка на сасне.
І будуць хлопцы жыць на Белай Русі,
Падобныя аблíччам на мяне.

Я не пакіну поўнага ім сподка,
Апроч нябёс і роднай баразны.
Ім будзе чуцца, як рыпяць іх продка
Вужышчамі абвітыя вазы.

Той чэсны хлеб, што ўзяты працай потнай,—
Тут ні сабе ні ім я не зманіў,—
Нашчадкам будзе цяжка і клапотна
З характарам і з норавам маім.

Пакуль дамчацца да халоднай зоркі,
Пакуль няцяжкай зробіцца хада,
Не раз к зарослым прыйдуць панадворкам,
Бо й птушкі не цураюцца гнязда.

Тады адчую: час не зацярусіць
Ні след мой нада мной, ні паплавы.
Бо я ў любві вялікай паўтаруся
І, мёртвы, буду ведаць: я — жывы!

●●●●

Як знятыя чахлы да бою,
Да стрэлу ўскрыты патранташ,
Так абавязвае з табою
Ісці наперад выбар наш.

Хай наша светлая надзея
Жыве пакуль яшчэ нішком,—
Чакае ўперадзе нядзеля
І хлеб пад чыстым рушніком.

●●●●●

Хлопчыкі гуляюць у вайну,
Хлопчыкі не ведаюць яшчэ:
Гэту цётку цяжка абмінуць,
Гэта цётка вогнівам пячэ.

Перамогі хочацца усім —
Кожны смела кідаецца ў «бой».
Хлопчыкі не ведаюць зусім,
Што за гэта плаціцца крывёй.

На падмогу коціць самакат.
Цацачная зброя за спіной.
Адпіхае будучы салдат
Ад сябе зямлю адной нагой.

Чым жа нашу вымераць віну,
Хто, калі аддасць яе назад?
Хлопчыкі гуляюць у вайну,
На падмогу едзе самакат.



# ПРОЗА

● Генадзь БУРАЎКІН

● Мал. В. ШАРАНГОВІЧА



# ТРЫ СТАРОНКІ З ЛЕГЕНДЫ

## ШТРЫХІ АДНАГО ЛЁСУ

Яе нарадзіла на нашай беларускай зямлі Вялікая Айчынная вайна — легенду пра суровае дзяцінства, пра адданасць Радзіме, пра чалавечую мужнасць. Я пачуў яе на Віцебшчыне, у азёрным і лясным краі, дзе і сёння тысячы сцяжынак вядуць да партызанскіх зямлянак і брацкіх магіл. Гады сцiралі некаторыя падрабязнасці, а магчыма і дабаўлялі новыя, побач з суровай быллю часам ішла гераічная казка, але самыя яркія, самыя хвалюючыя старонкі легенды заставаліся амаль нязменнымі. І я вам раскажу іх...

## ПЕРШАЯ СТАРОНКА

За ноч вокны зацягнула марозам, і першае, што зрабіла Надзя, ускочыўшы з пасцелі,— прадыхала на шыбе невялікае «вочка». На двары было пуста і шэра. Як ні ўглядалася яна, нікога ўбачыць не магла. Толькі проста перад акном стаяла бяроза, уся ў бухматым інеі...

Надзя апранулася, выйшла ў сенцы, хуценька апаласнула халоднай вадой твар. Сон як рукой зняло. Прыйшла ў душу лёгкасць і гарэзлівасць. Каб былі лыжы, выскачыла б на вуліцу і — туды, да возера, да ўзгоркаў, па цаліку, па ціхай белізне.

У хаце ля печы завіхалася гаспадыня,

яшчэ зусім маладая жанчына з гладка зачэсанымі валасамі, у чорных бурках.

— Можа памагчы?.. — папыталася Надзя.

— Ды ўжо не трэба,— адмахнулася тая.— Пакуль ты сны даглядала, я ўправілася. Прыйдуць хлопцы, есці паможаш...

Надзя прыбрала ложак, прычасалася і зноў прынікла да «вочка». На бярозе сядзеў надзьмуты верабей. Ён смешна ўздрыгваў усім сваім шэрым цельцам — і з галінкі сыпаўся іней. Надзя пастукала ў шыбу. Верабей пераскочыў вышэй, зірнуў чорненькім круглым вочкам на акно і паляцеў.

Добра зімою ў цёплай хаце, у мяккай цішыні, калі патрэскваюць дровы ў печы і закіпае чыгун з бульбай. Надзя сцепанула плячыма, успомніўшы ўчарашні мароз, поле і п'янага паліцая. «У, гад даўгацыбы...» Ён ехаў на санях і, дагнаўшы яе — у дзіравай ватоўцы, з жабрацкай торбай за плячыма, ссінелую ад холаду — з усяго размаху выцяў пугай. І зарагатаў... «Ну, мы з табой яшчэ сустрэнемся...— са злосцю падумала Надзя.— Не можа быць, каб нашы дарогі не сышліся. Я табе прыпомню пугу... Парагочаш...»

Рыпнулі дзверы, у сенцах затупацелі — і пачуўся звонкі голас Міколы Буцілёва:

— Усё грэецеся ля печы? Хопіць. Ваяваць трэба... Багданава! Надзя!.. Камандзір кліча.

Надзя накінула на плечы кажушок, замітусілася, шукаючы хустку:

— Што там такое?

— А хто яго ведае,— Буцілёў стаяў каля печы, расчырванелы і вясёлы.— Мы людзі маленькія. Нам не дакладваюць. Сказана — паклікаць Багданаву, я і пайшоў. А вы, начальнікі, рашайце, ці нам бульбу есці, ці тол са снарадаў выплаўляць. Я б, напрыклад, зараз бульбачкі...

— Ну, хопіць,— зусім па-даросламу сказала Надзя.— Не казалі, чаго клічуць?

— Не казалі. Відаць, у разведку. Па тваёй спецыяльнасці...

Яны разам выйшлі з хаты, пайшлі па пустой вуліцы, і снег смачна парыпваў пад нагамі. Мікола Буцілёў ішоў моўчкі ззаду і, ужо калі падыходзілі да штаба, папытаўся:

— Надзя, скажы, ну, няўжо табе не бывае страшна? Табе ж нейкіх там трынаццаць гадоў...

— Чатырнаццаць,— удакладніла Надзя.

— Хай будзе чатырнаццаць, усё роўна дакументаў няма...

— А табе не страшна?

— Ну — мне... Я мужчына, раз. Старэйшы за цябе, два. Гэта мой абавязак...

— І мой.

— Ну, ладна,— Буцілёў спыніўся.— Задачу я выканаў. Дазвольце ісці, таварыш начальнік?

— Ідзіце.

Надзя засмяялася. Ёй падабалася гульня Буцілёва ў «начальніка» і «падначаленага». Было прыемна, што яе ведаюць, што ёй даручаюць адказныя заданні, што камандзір атрада выклікае яе да сябе.

На ганку штаба яна абтрэсла з валёнак снег, абцягнула кажушок, прыняла самы сур'ёзны выгляд.

— Па вашаму загаду з'явілася,— стрымана адрапартавала, пераступіўшы парог.

— Добра,— падышоў да яе начальнік штаба, заўсёды строгі і, як ёй здавалася, трохі злосны Іван Сцяпанавіч Скуматаў.— Як спала?

Надзя здзіўлена паціснула плячыма: навошта ў яе пытаюць пра гэта? Але Скуматаў чакаў адказу, і яна нясмела вымавіла:

— Добра... Нармальна...

— Ну, тады можна пачынаць гаворку.— Скуматаў кіўнуў камандзіру атрада Дз'ячкову, які сядзеў за сталом: — Выправачка якая — салдат! — І павярнуўся да дзяўчынкі: — Справа да цябе важная. Вельмі. Прасілася ты на адказнае заданне, дык вось—больш адказнага і не прыдумаеш... Хадзі сюды.

На стале была разаслана вялікая карта, уся ў чырвоных і сініх паметах. Скуматаў схіліўся над ёй. Побач з ім стаў Дз'ячкоў. Надзя нясмела прымасцілася збоку.

— Вось Віцебск,— аловак Скуматава ўпёрся ў вялікі кружочак.— Бачыш, дарогі?.. Во гэта — гарадоцкая шаша... Вось Гарадок... А гэта — наш атрад. Заналючкі... бачыш? Мяжа, Карасёва і — Заналючкі... Дык вось трэба ісці ў Віцебск.

— Я гатова,— падхапілася Надзя.

— А ты не спяшайся.— Скуматаў паклаў ёй на плячо руку.— Пайсці — не фокус. Справу зрабіць і вярнуцца трэба. А гэта — цяжэй. Трэба ў Віцебску вывесіць чырвоныя сцягі. Хутка свята...

— Ага, Кастрычнік,— кіўнула галавой дзяўчынка.

— Дык вось перад святам хочацца вестачку падаць віцяблянам. Хай бачаць, што ўлада наша жыве і здавацца не збіраецца...

— Дык я гатова,— зноў выцягнулася Надзя.

І зноў Скуматаў спыніў яе:

— Не спяшайся. Да канца слухай... З такім заданнем мы пасылалі ўжо адну групу. Тыдзень назад. Усе загінулі... Падступы да горада добра ахоўваюцца, у горадзе поўна фашыстаў і паліцаяў.

— Дык што, вы думаеце, я спалохаюся? — нават трошкі пакрыўдзілася Надзя.— Вы мяне ведаеце...

— Таму і паклікалі,— сказаў Дз'ячкоў.— Акрамя смеласці, тут яшчэ і хітрасць патрэбна. Каб на ражон не лезці... Як ты сцягі ў горад пранясеш?

Надзя задумалася.

— У торбе, пад акрайцамі хлеба...— Але перадумала: — Не... Абматаюся... пад адзеннем...

— Абматаешся? Так рабіла першая група...

Надзя разгубілася: больш нічога не магла прыдумаць. Але ж не можа быць, каб не было нейкага хітрага ходу.

— Дык вось што,— Скуматаў пасадзіў яе на крэсла.— У нас ёсць план. Ён зацверджаны. Па ім будзеце дзейнічаць разам з Ванем.

Толькі цяпер Надзя заўважыла ў цёмным кутку незнаёмага хлапчука.

— Хадзі сюды, Ваня,— паклікаў яго Дз'ячкоў.— Пазнаёмцеся. Вам з Надзяй разам ісці...

Ваня быў сярэдняга росту, цёмнавалосы. На выгляд гадоў чатырнаццаці-пятнаццаці. Надзя акінула яго прыдзірлівым позіркам: росту яны аднолькавага, яна нават, можа, трошкі вышэйшая.

— Дык вось якія справы,— Скуматаў абняў іх за плечы.— Вас у горад прапусцяць лягчэй, чым дарослых. Гэта раз. А па-другое, вы проста павезяце на базар мяцёлкі.

Надзя з Ванем пераглянуліся.

— Так, мётлы. Самыя звычайныя, якіх мы вам сёння навяжам цэлую гару. Толькі тры мяцёлкі будуць... з сакрэтам. Перад тым, як насадзіць іх на палкі, мы палкі абкруцім чырвонай тканінай...

— Здорава! — не ўтрымалася Надзя.

— Ага. І проста,— падтрымаў Ваня.

— Але гэта палавіна справы. Другую вам давядзецца рабіць самім. Гэта будзе нялёгка. Надзя трошкі ведае Віцебск. Так што, Ваня, ты трымайся ў горадзе яе. Але і стрымлівай, дзе трэба... А то я цябе ведаю,— Скуматаў пагразіў Надзі пальцам,— палезеш, куды не просяць. А нам вы жывыя патрэбны. Адным словам, задача ясная?.. Ну, тады ідзіце, добра пад'ешце. Мы хлопцам далі загад накарміць вас уволю. Паспіце. Недзе ноччу рушым. Да Гарадка давязём, даведкі дадзім, каб усё ў парадку было...

Ля самага Гарадка партызаны спыніліся. Мікола Буцілёў у перадсвітальным змроку агледзеў яшчэ раз Ваню і Надзю.

— Ну што ж, жабракі з вас проста натуральныя... Нават мне хочацца вам хлебца даць. Але...— ён палез за пазуху,— замест хлеба даю вам паперкі. З сапраўднымі нямецкімі пячаткамі, з подпісамі. Ажно шкада аддаваць... Ну... Бярыце... Дзякуйце...

Ваня яшчэ раз памацаў, ці добра ўвязаны мётлы, і Надзя ўзялася за санкі.

— Ну,— падаў ёй руку Буцілёў,— шчасліва! Чакаем вас заўтра, паслязаўтра. Бульбы наварым, сала насмажым. Так што старайцеся...— І не стрымаўся, каб зноў не пажартаваць: — Страшна будзе, крычыце: «Мама!..»

Мама... Мікола не ведаў, як даўно яна нікому не гаварыла гэтае слова. А яна, мабыць, недзе ёсць, жыве, яе маці. Толькі Надзя яе забыла, нават голасу не памятае. Яна ўжо звыклася з думкай, што няма ў яе бацькоў. Былі... Быў бацька, пячнік і кравец, які не мог тыдня ўседзець на адным месцы. Хадзіў па вёсках і ўлетку, і зімой, шыў боты, кажухі, клаў печы. І ўсюды з ім хадзіла яе маці... і сёстры, і браты. Колькі іх было, сясцёр і братоў, Надзя і цяпер толкам не ведае. Памятае толькі, што многа... У нейкай вёсцы яе пакінулі — ці то ў сваякоў, ці то ў знаёмых. Казалі, быў неўрадлівы год, не хапала хлеба... Трапіла потым у Магілёў, у дзіцячы дом...

Святлейшых успамінаў, чым дзетдомаўскія, у Надзі не было. Гэта была сапраўдная казка — светлы будынак, школа, бібліятэка, гульні, акрабатычны гурток. «Рабінзон Круза» — любімая кніжка. Перачытала яе тры разы...

— Можа, давай я павязу санкі?— перабіў яе думкі Ваня.— А то стомішся...

— Не. Я прывычная. Як стамлюся, скажу...

...Неяк каля Магілёва былі вайсковыя манеўры — і да іх у дзіцячы дом у госці прыехаў Варашылаў. Што рабілася! Надзя не магла тады паверыць — жывы Клім Варашылаў, савецкі маршал! Песні пра яго спявалі, вершы вучылі — вось ён тут, разам з імі... Пра сустрэчу гаварылі доўга, хлапчукі адмахваліся ад дзяўчынак: што вы, мы вось станем салдатамі, камандзірамі, і Варашылаў будзе нам даваць загады...

Паглядзелі б хлапчукі на яе цяпер...

Ваня зноў тузануў за рукаў:

— Ну, хопіць табе. Дай я...

Яна аддала яму вяроўчыну і запыталася:

— Што, замёрз?

— Не,— крутнуў галавой Ваня.— Мы хутка ідзём... Але ж нельга, каб ты адна...



Надзя агледзелася. Гэтыя мясціны яна ведала. Не адзін раз прыходзіла сюды ў разведку, выглядала ўсё, запамінала. Хутка яны абыдуць старанОй Гарадок, і можна будзе выбірацца на шашу. К таму часу зусім развіднее.

— А сёння цяплей, чым учора,— зазначыла яна.— Адпусціў мароз. Можа, адліга будзе...

— Можа,— азваўся Ваня і летуценна дадаў: — Вось каб мяцеліца...

— Ага,— падхапіла Надзя.— Гэта было б здорава! Завіруха мяце. Ноч. А мы са сцягамі... Справіліся б за гадзіну. Ніхто б не заўважыў...

Яны ўжо выбраліся на шашу і пайшлі шпарчэй. Санкі з мётламі лёгка каціліся ззаду.

— Ты ніколі не быў тут? — запыталася Надзя.

— Не. Мяне ў разведку пасылалі ў другі бок, пад Езярышча.

Гаворка не клеілася. Можа таму, што яны зусім не ведалі адно аднаго. А хутчэй за ўсё таму, што абодва ўвесь час думалі, як іх сустрэне Віцебск, што ім рыхтуе сённяшняя ноч...

Каля ўваходу ў горад іх спынілі паліцэйскія. Доўга разглядалі даведкі, а потым адзін стаў іх абшукваць, а другі скінуў з санак мётлы. У Надзі пахаладзела ў грудзях, калі ён ухапіў якраз тую, з сакрэтам, і выскаліўся:

— Дубцы добрыя будуць... А?.. Можа паспрабуем?..

Але той, што абшукваў Надзю і Ваню, змрочна прыкрыкнуў:

— Хопіць. Развесяліўся... Аддай малым!.. А вы,— спадылба бліснулі халодныя сінія вочы,— джгайце хутчэй. Гандляры!.. Каму патрэбны ваш тавар?..

Узяўшы мётлы, Ваня з Надзяй подбегам кінуліся ў горад.

На вуліцах было ціха і пуста. Надзі здавалася, што іх крокі чуваць на добрую вярсту, а ў спіны ім глядзяць сотні чужых вачэй... Пуста, ціха... Як быццам усе яшчэ спяць. А ўжо ж за поўдзень...

Надзя ішла наперадзе і не азіралася, быццам баялася, што Ваня ўбачыць, як раптам усё ў ёй сціснулася ў камячок. Яна не магла зразумець, што яе так насцярожыла. Паліцэйскія? Не. Хіба гэта першы раз! Адчуванне блізкай небяспекі? А калі яе не было... Прыгнятала хітрая і непрывычная цішыня, бязлюднасць. Здавалася, вуліцы няма канца.

Калі яны, нарэшце, дайшлі да Полацкага базару, Надзя з палёгкай уздыхнула. Тут было людна. Натоўп рухаўся, гаманіў, нават смяяўся. Выгуквалі дзядзькі:

— Новыя боты!.. Хромавыя!.. За хлеб...

— Махорачка-гарладзёрачка... Каму на сэрцы цяжка, памагае зацяжка...

— Кажух! Кажух!.. Мяняю на соль...

Надзя падміргнула Ваню: «Ну, пайшлі!» І — падалася ў кіпень натоўпу.

— Мяцёлкі! Мяцёлкі!.. Каму мяцёлкі?..— крыкнула яна.— Бярыце мяцёлкі!.. Мяцёлкі!..

На іх ніхто не звяртаў увагі, быццам іх наогул не існавала. Побач стракатала тоўстая жанчына:

— Іголкі... Іголкі... Магазінныя... Магазінныя іголкі... Мяняю на цукар... Мяняю на цукар...

Надзя праціснулася далей:

— Мяцёлкі! Мяцёлкі!..

Але і тут не цікавіліся мяцёлкамі.

— Булён!.. Булён!.. З мясам... Булён з мясам! — паблізу тонэнькім голасам залемантавала старэнькая бабуля, і да яе кінуліся з усіх бакоў...

Надзя спынілася.

— Ды ну іх! — злосна махнула рукой.— Пайшлі, Ваня, дзе-небудзь прысядзем... Ногі падгінаюцца. Стамілася.

Яны адышліся ўбок, прымасціліся на санкі. Тут сядзелі дзве немаладыя жанчыны, прадавалі журавіны. Гандаль у іх ішоў слаба, і яны дзяліліся навінамі:

— Пецьку Кулінінага ведаеш? У паліцыю запісаўся. Кажа, канец нашай уладзе. Саветы, кажа, разбіты, немец Маскву бярэ.

— А-а, чаго цяпер толькі не гавораць...

— Кажа, глядзеў немцавы танкі. Кіно яму паказвалі... Самалёты, пушкі... Сілы такой, кажа, на цэлым свеце няма.

— Ды ўжо сіла ў іх ёсць.

— І кажа, не выкруцішся ніяк. Або служы немцу, або канец табе.

— Пачакаў бы трошкі. Чаго ўжо так спяшыць?

— Куліна прасіла. Ды ў яго свой розум. Кажа, чакаць далей пустое дзела. Пакуль усе чакаюць, можна месца добрае заняць...

— Якое там месца... сабачае...

Надзя ажно падскоквала на санках — так ёй не цярпелася кінуцца да цётак, крыкнуць, што маніць Пецька, што вернуцца нашы, што ніколі не ўзяць фашыстам Маскву. Але нельга. Трэба маўчаць. Трэба прыкідвацца абыякавай...

Надзя ўстала, прайшла далей. Вусаты дзядзька ў старэнькім кажушку разам з хлопцам гадоў дваццаці збіраў свае збанкі і гаршкі.

— Натаргаваў...— злосна бурчаў ён.— Дзень тут мёрз, а каб было за што...

— Нічога, нічога,— супакойваў яго хлопец.— Заўтра пашанцуе... Затое ў мяне ёсць адна прапанова.

— Прапанова? — ажывіўся дзядзька.

Хлопец агледзеўся і, не звяртаючы асаблівай увагі на Надзю, зашаптаў:

— На тытунёвай фабрыцы можна пажывіцца. Праўда, махорку ўсю выграблі. Але застаўся пыл. Курыць можна.

Дзядзька ўзрадаваўся:

— Праўда? Дык давай хутчэй. А то разнюхаюць, наляцяць, тады свішчы...— І прыкрыкнуў на Надзю: — А ты чаго тут таўчэшся?.. Папругі хочаш?..

Але Надзя і сама ўжо кінулася назад. У галаве яе нарадзіўся план. Трэба бегчы на тытунёвую фабрыку. Набраць таго пылу. Хлопцам у атрадзе няма чаго курыць...

Яна растлумачыла ўсё Ваню, але той засумняваўся:

— Ці трэба? Раптам пападзешся...

— Я? Пападуся? — Надзя хацела расказаць, у якіх пераплётах яна бывала, але вырашыла, што гэта зойме шмат часу, і па-камандзірску строга загадала: — Ты чакай тут. А я хуценька... Заадно зірну на вуліцы...

Схапіўшы торбачку, яна знікла.

Ваня патаптаўся на месцы, узяўся за санкі. Ён разумеў, што нельга было адпускаць Надзю. Яму ж казаў Скуматаў: «Стрымлівай»... Ды і без табакі можна абысціся. Падумаеш, курыва! Ён не





курыць, і — нічога... Не вялікая бяда, калі і іншыя пажывуць без гэтага дыму...

Яго аклікнуў мужчына ў акулярах:

— Хлопец! Мяцёлкі прадаеш?

— Прадаю. Купіце,— Ваня падняў з санак самую, на яго думку, лепшую.— Трэба?

— Ды трэба... А што бярэш?

— Хлеб, бульбу...

— Ну! Такое глупства, і — хлеб... Не, браток, гэта не тое... Хочаш цукерак?

Ваня рашыў адмовіцца, але перадумаў і з цікавасцю зірнуў на мужчыну:

— Пакажыце.

— Цудоўныя,— мужчына выцягнуў з кішэні некалькі рознакаляровых «падушачак».

У Вані ажно пад лыжачкай засмактала, і ён, не зводзячы вачэй з дзядзькавай далоні, кіўнуў:

— Бярыце...

Адну цукерку Ваня адразу ж паклаў у рот, астатнія схаваў. І тут жа аблаяў сябе ў думках: «Слюнцяй! Расплыўся перад цукеркамі...» На душы стала прыкра. Хіба яго сюды паслалі, каб ён цукеркі еў?..

Людзі з базару ўжо сталі разыходзіцца. Пацішэла. Знікла тлумнасць. Памалу пачынала шарэць. Набліжаўся вечар.

З'явілася радасная Надзя з мяшком за плячыма.

— Амаль поўны,— падміргнула яна Ваню.— А ты казаў — не трэба... Ведаеш, як хлопцы абрадуюцца!..

Ваня хацеў прамаўчаць, але не стрымаўся, пахваліўся:

— А я мятлу прадаў,— палез у кішэню і падаў ёй цукеркі.—На. Твае асталіся.

Надзя не паверыла:

— Падушачкі?

— Ага.

— Сапраўдныя?

— Салодкія...

Гэта было ўжо дзівам, цудам...

Яшчэ так нядаўна «падушачкі» лічыліся проста недарагімі цукеркамі. Цяпер жа Надзя глядзела на іх, як на казачны ласунак.

Цукеркі вельмі хутка растаялі ў роце, і яна кіўнула Ваню:

— Пайшлі. Я была каля вакзала, паглядзела. Можна. Вывесім. І яшчэ ў мяне ёсць адно месца. Там трэба абавязкова...

Яны паціху рушылі да вакзала. Цягнулі санкі з нікому не патрэбнымі мётламі, уважліва азіраліся па баках. То тут, то там высіліся закопчаныя руіны. Няўтульна выглядаў Віцебск — нібы дом, які раптам страціў клапатлівага і рупнага гаспадара.

Групкамі па вуліцах праходзілі фашысты, з аўтаматамі на грудзях, з настаўленымі каўнярамі шынялёў. Гучна перагаворваліся, смяяліся.

Надзя звярнула ўлева. Трошкі прайсці — і будзе старая хата. Ніхто ў ёй не жыве, яна ледзьве ліпіць, вось-вось абваліцца: там можна схаваць мяцёлкі, адпачыць.

У хаце было цёмна. Толькі праз шчыліны прабівалася некалькі палосак шэрага вячэрняга святла. Ваня нерашуча пераступіў парог.

— Хадзі, хадзі,— падагнала яго Надзя.— Не бойся. Падлога цэлая. Я тут была.

Пасярод хаты стаяў стол. Каля яго дзве шырокія лаўкі.



— Халаднавата, а то жыць можна,— падхвальвала прытулак Надзя.— Мы трошкі пасядзім. А потым я табе пакажу і вакзал, і камендатуру, і тое месца...

Яна села на лаўку і горача зашаптала яму:

— Разумееш, у былым рамесным вучылішчы цяпер іхняя казарма, а ў двары — лагер ваеннапалонных. Нашы там. Трэба сцяг... Разумееш, раніцай глядзяць, а тут — чырвоны сцяг!..

Ваня маўчаў.

— Ты не думай, што так ужо цяжка. Там можна...

Але Ваня ўсё яшчэ маўчаў, нешта думаў. І тады Надзя пакрыўдзілася: такі план, такая радасць будзе для нашых ваеннапалонных, а ён з сябе начальніка строіць, асцярожнічае... І выпаліла:

— Я адна зраблю! Не пабаюся.

На гэта Ваня рашуча сказаў:

— Нічога адна рабіць не будзеш. Нас паслалі дваіх. Дваіх і будзем выконваць заданне... Я старэйшы...

— Падумаеш,— хмыкнула Надзя,— ён старэйшы...

— І над казармай вывесім сцяг...

— Ну, вось,— узрадавалася Надзя.

— Толькі спачатку над вакзалам і камендатурай...

— Ладна,— згадзілася яна.

Галоўнае, што Ваня прыняў яе план. І з ім, вядома, лягчэй. Усё ж удваіх...

Цёмна і ціха. Проста не верыцца, што ў горадзе можа быць такая цемра і такая цішыня. Падміргваюць рэдкія зоркі, ды яны так высока і такія дробныя, што ад гэтага цемра здаецца яшчэ больш густой.

Але самае дзіўнае — цішыня. Такая, што чуваць, як рыпяць дзверы недзе ў канцы квартала, як пакашлівае вартавы. Самае небяспечнае — гэтая вось цішыня. Ступіш не так — і загрыміць якая-небудзь бляшанка, пакоціцца ўніз раструшчаная цагліна...

Надзя чуе, як побач насцярожана дыхае Ваня. Яны ўжо цэлую гадзіну ні слова не сказалі адно аднаму. Моўчкі перабеглі перон на вакзале. Моўчкі Ваня ўзлез на дах. Моўчкі Надзя ўнізе сачыла за вартавымі. Секунды, мінуты цягнуліся бясконца доўга. Зазвінела нейкая бляха — відаць, Ваня зачапіўся за вадасцёчную трубу. Звінела доўга і гулка... Толькі б не пачулі... Ваня саскочыў. Сціснуў ёй руку — і яна адчула, як дрыжаць яго пальцы. Відаць, ад стомы — гэта ж трэба залезці, падцягваючыся на руках, і спусціцца...

Потым — камендатура.

І вось былое рамеснае вучылішча. Чырвоны цагляны будынак. Цяпер не відаць, што ён чырвоны, але Надзя памятае. Добра памятае. І высокі ганак. І тыя жалезныя пруты. Відаць, у святы да іх прымацоўвалі дрэўкі сцягоў, нашых, чырвоных. Нехта іх пагнуў, але вырваць не змог, яны засталіся.

Надзя намацала сцяг. Ён быў ля самага цела — кавалак чырвонай тканіны. На кароткай палцы. Як закалоціць заўтра фашыстаў, калі ўбачаць яго! І як узрадуюцца нашы, тыя, у лагеры, за калючым дротам!..

Мінут пятнаццаць яны назіралі за казармай, назіралі, як хадзілі два нямецкія салдаты з вінтоўкамі. Часам салдаты сыходзіліся і пра нешта гаварылі. І зноў адзін — у адзін бок, другі — у другі. Сышліся. Разышліся. Туп-туп... Туп-туп...

«Цяпер цёмна,— думала Надзя.— Як разыдуцца, перабегчы да казармы. Схавацца за вуглом. Зноў пачнуць ад яе разыходзіцца,

тады вывешваць... Вось толькі — ці паспею...» Яна стала лічыць крокі вартавых. Раз... Два... Пяць... Пятнаццаць... Пятнаццаць туды, пятнаццаць назад. Можна паспець... Толькі б не заўважылі. Толькі б не пачулі... Як грукае сэрца! «Ваня яшчэ падумае, што баюся...» Ага. Сышліся. Стаяць. Чыркнула запалка. Закурылі. Стаяць, гавораць... Адзін пайшоў у казарму. Будзе мяняцца, ці што?

Надзя торгнула Ваню за рукаў. Немец пайшоў ад казармы. Крок... Тры... Пяць... Ну! Падхапілася, прыгінаючыся, шмыгнула да казармы. За ёю Ваня. Лягла за вуглом, прыціснулася да сцяны. Ваня — побач... Здаецца, немец не пачуў. Ідзе сюды. Туп-туп... Туп... Спыніўся. Бліскае агеньчык папяросы. Кінуў папяросу. Агледзеўся. Пайшоў назад.

Надзя кранула за плячо Ваню. Той падсадзіў яе. Эх, не дастае да прутоў!.. Ваня падставіў плячо. Стала на плячо. Ухапілася за прут. Незанятай рукой пачала выцягваць сцяг...

Рыпнулі дзверы. Надзя саскочыла на зямлю. Здалося, што зямля аж скаланулася, загрымела...

З казармы выйшаў той, другі, салдат. Нешта сказаў першаму і зарагатаў... Разыходзяцца... Крок... Два...

Ваня зноў падставіў плечы. Сцяг у руцэ. Яна намацвае пятлю ў жалезным пруце. Устаўляе туды дрэўка. Яно не лезе... Эх... Азяблымі пальцамі натыкаецца на дрот. Мяккі... Ага... Прыкруціць дротам. Так. Раз, два. Трымаецца. Яшчэ раз. Здаецца, добра. Ну, яшчэ... Ідуць немцы назад. Крок... Два... Тры... Усё. Сцяг прыкручаны... Надзя асцярожна спаўзае на дол.

Немцы спыніліся. Тупаюць нагамі. Відаць, замёрзлі, хоць мароз і невялікі... «Ваякі»... Пайшлі... Крок... Два... Тры... Надзя падхопліваецца і перабягае вуліцу. Следам — Ваня.

Паціху, хаваючыся за руіны, адыходзяць яны ўсё далей і далей. Праходзіць, знікае насцярожанасць. На душы становіцца лёгка і радасна. І Надзя пляскае Ваню па плячы, пытаецца шэптам:

— Ну?

— Добра,— адказвае той.— Малайчына!

— Ты таксама,— шэпча Надзя.— Я цябе, калі злазіла, па галаве нагой стукнула... Выбачай.

— Нічога. Не балюча...

Ім абодвум хацелася гаварыць адзін аднаму харошыя словы, хацелася бягом бегчы ў атрад, каб расказваць, расказваць, расказваць. Нейкая незвычайная смеласць з'явілася ў іх. Здавалася, што цяпер яны могуць усё... І яны вырашылі не чакаць раніцы, ноччу выбірацца з горада.

Ужо каля самага Болецка насустрач ім з лагчыны выскачылі сані. Надзя і Ваня саступілі з дарогі, і конь прамчаў міма, абдаўшы іх цёплым пахам поту. Яны не паспелі нават заўважыць, хто сядзеў у санях. Відаць, хтосьці сабраўся ў Гарадок...

Нечакана конь спыніўся і з саней падняўся паліцай, гукнуў да іх:

— А ну, топайце сюды!

Надзя і Ваня пакорліва падышлі.

— Хто такія? — строга папытаўся паліцай і для большай упэўненасці ўзяў у рукі вінтоўку, што ляжала ўпоперак саней.

— Ды... Мы...— Надзя пачынала хныкаць,— мы... хлеба просім... Сіроты мы...

— Адкуль ідзяце?



— Па вёсках ходзім... Хлеба просім... Сіроты...

— Сіроты, сіроты,— передражніў яе паліцай.— Дзе былі?

— У Гарадку былі...

Яны падалі яму свае торбачкі — і паліцай, не развязваючы, стаў прывычна абмацваць іх.

— Так... бяры,— ён кінуў Ваню ягоную торбу і ўзяўся за Надзіну.— А тут... Чакай, чакай...— развязаў і здзівіўся: — Табака? Адкуль?

— Я знайшла. На дарозе... Не адбірайце,— Надзя ўхапілася за торбу.

Але паліцай быў дужэйшы, і торба асталася ў яго.

— Нешта, галубочкі, тут не так... Сядайце-ка ў сані. Паедзем у Гарадок. Там і разбяромся, хто вы такія і чаго тут швэндаецеся...

Усю дарогу Надзя думала, чаму іх затрымалі. Выпадкова? А можа нешта ведаюць? Можа ў Віцебску іх нехта прыкмеціў?.. Здаецца, усё рабілі добра, нідзе не памыліліся. Праклятая табака...

Сані ўехалі ў Гарадок. Надзя з цікавасцю глядзела па баках. Драўляныя дамы з палісаднікамі. У вокнах часам паказваюцца цікаўныя твары.

І раптам Надзя ледзь не ўскрыкнула. Сані занесла ўбок, і — над самай яе галавой захісталіся пасінелыя босыя ногі... Яна ўзняла вочы — над ёю вісеў мужчына. На ліпе. З дошкай на грудзях. На дошцы няроўныя чорныя літары: «Партызан»... Трошкі праехалі — на бярозе яшчэ... Дзяўчына. Рукі звязаны ззаду. Босая. Дошка на грудзях...

Паліцай заўважыў, што Надзя спалохалася, і растлумачыў:

— Гэта галоўная вуліца...

Надзя маўчала. Яшчэ ні разу яна не бачыла столькі павешаных.

— Здымаць іх забараняюць,— зноў растлумачыў паліцай.— Кожны дзень вешаюць...

Ён паспешна спыніў каня ля будынка паліцыі. Ускінуў вінтоўку на плячо, загадаў Надзі і Ваню:

— Пайшлі!

На ганку прывітаўся з нейкім дзядзькам, папытаўся:

— Мордзік ёсць?

— Ёсць... Дзе ж яму быць?

Паліцай прыдзірліва агледзеў малых, для большай важнасці яшчэ раз памацаў іх торбы і адчыніў дзверы.

Начальнік раённай паліцыі Мордзік, убачыўшы Надзю і Ваню, незадаволена паморшчыўся. Навошта яму гэтыя дзеці? У яго хапае работы з дарослымі...

— Ну, што ў цябе? — прыкрыкнуў ён на паліцая.

— Падазроныя, пан начальнік,— выцягнуўся перад Мордзікам паліцай.— Затрымаў каля Болецка.

— А што падазронае?

— Табака...— і паліцай паслужліва падаў начальніку торбу з махорачным пылам.

— Ну...— Мордзік яшчэ не зусім разумеў свайго падначаленага.

— Кажуць, пан начальнік, у Віцебску не былі. А адкуль табака?

— Ясна,— Мордзік нарэшце нешта скеміў.— Больш нічога?

— Нічога.

— Можаш ісці. А вы,— ён кіўнуў на Надзю і Ваню,— сядайце, расказвайце. Хто такія, адкуль, як завуць? Адным словам, усё...

— Сіроты мы,— пачала Надзя дрыжачым голасам.— Ходзім па вёсках, хлеба просім...

— А чаго ты калоцішся?
— Змерзла...— Надзя раптам расплакалася: — Я хацела на хлеб выменяць... А ён забраў...
— Ну, супакойся,— Мордзік павярнуўся да Вані: — А ты што скажаш?
Ваня пацiснуў плячыма:
— Нічога... Надзя казала: міласціну просім...
Мордзік прыкрыкнуў на Надзю:
— Не румзай. Цябе ніхто не чапае... Дзе табаку ўзяла?
— Знайшла... На дарозе... Мяняць хацела...
— Дзе знайшла?
— Каля Зазер'я...
— Цікава...— Мордзік не верыў ёй, але нічым не мог даказаць, што яна маніць.— Значыць, на дарозе валяўся мяшок...
— Ага...
— А дзе вас паліцэйскі ўзяў?
— Каля Болецка.
— Та-ак... А калі вы з Віцебска выйшлі? — нечакана спытаў ён.
— Мы не былі ў Віцебску,— Надзя зноў пачала плакаць.
— Дапусцім.— Мордзіку пачынала надакучаць уся гэтая валтузня з малымі. Ён падышоў да дзвярэй: — Эй! Хто там? Трэба адвесці арыштаваных у капліцу. Хай трошкі пасядзяць, падумаюць...
Шчыра кажучы, Мордзік не бачыў нічога падазронага ў хлопчыку і дзяўчынцы. Колькі такіх, асірочаных і выгнаных з дому вайной, ходзіць цяпер па дарогах! Калі ўсіх арыштоўваць, дык і турмаў не хопіць. Але што паробіш — загад... З жандармерыі паведамілі, што ў Віцебску ноччу вывесілі чырвоныя сцягі і, мяркуючы па слядах ля казармы, зрабілі гэта падлеткі.
Мордзік яшчэ раз агледзеў Надзю і Ваню. Не, не верыў ён, што гэта партызаны. Не верыў ён і таму, што мяшок з махорачным пылам яны знайшлі на дарозе. Укралі. У гэтым ён быў перакананы. Укралі. Можа, нават і ў Віцебску... Але каб яны вывесілі сцягі над вакзалам і над нямецкай казармай... Дудкі! Ён чалавек вопытны і ведае, як ахоўваюцца дарогі ў Віцебск, як сцерагуць вакзал, казарму... Калі б не загад, ён бы зараз добра ўсыпаў гэтым смаркачам, каб не бралі чужога, і адпусціў бы. Клопатаў і без іх хапае. Няма таго дня, каб не даручалі арыштоўваць некага, павесіць, расстраляць...

У капліцы было холадна, і, як ні ціснуліся Надзя з Ванем адно да аднаго, не маглі сагрэцца.
— Ваня! — пазвала ціхенька Надзя.— Ты на мяне не злуеш? А?
— Не,— голас у Вані глухі, незадаволены.— Не злую.
— Не трэба. Я не хацела...— І раптам яна заплакала.— Каб жа я ведала...
Ваня, як умеў, суцяшаў яе, халоднымі пальцамі няўмела выціраў ёй слёзы.
— Не плач... Усё будзе добра. Нас адпусцяць...
Адпусцяць. Вось каб сёння на Гарадок партызаны напалі. Акружылі б паліцаяў. І гранатамі іх, гранатамі. А Мордзіка жывым. Каб потым судзіць. І прыйшлі б партызаны ў капліцу. Выламалі б дзверы і — убачылі іх... А яны б з Ванем падняліся насустрач. І Скуматаў загадаў бы даць ім кажух, пасадзіць на сані і везці ў атрад. Яны б прыехалі — а ўсе ўжо ведаюць, што яны сцягі ў Віцебску вывесілі, што не спалохаліся допыту. І ўсе б хвалілі іх...



Надзя не заўважыла, як думкі закружылі, залюлялі яе — і самі сабой заплюшчыліся павекі. Пасля знямогі, пасля страшэннага нервовага напружання прыйшоў сон. Трошкі пазней заснуў і Ваня. І снілася яму сіняе высокае неба і самалёт. З чырвонымі зоркамі на крылах. А ў кабіне пілота ён — у шлеме, у цёплай лётчыцкай куртцы. І свяціла блізка сонца. І больш нікога, нікога не было ў небе...
Раніцай паліцай адвёў іх да немцаў, у палявую жандармерыю. У кабінеце, куды іх упіхнулі, сядзеў афіцэр і штосьці пісаў на вялікім лісце паперы. Пісаў ён доўга і нібы зусім не заўважаў іх. Нарэшце ён заклеіў канверт і з пісьмом выйшаў. Надзю ажно скаланула — у акно, трэба сігануць у акно! Яна паднялася ўжо, але Ваня тузануў яе назад:
— Пад акном варта...
Малайчына Ваня. Заўважыў. А яна не звярнула ўвагі. Ёй стала няёмка: разведчыца, а магла так недарэчна выдаць сябе.
Афіцэр вярнуўся. Сеў за стол, закурыў. У Надзі заказытала ў горле ад папяроснага дыму, і ўсім целам сваім яна адчула голад.
— Ну, будзем пачынаць,— звярнуўся да арыштаваных афіцэр.— Я з'яўляюся нямецкі афіцэр,— ён падняў вочы на партрэт Гітлера, які вісеў над яго сталом, і памаўчаў хвіліну, нібы памаліўся на свайго фюрара.— Мы вызваляем ваш народ ад бальшавік... Вашы бацька на фронт?
Надзя і Ваня закруцілі галовамі:
— Не... Мы — дзетдомаўцы...
— О-о... Дзетдом... Вы — сірот?
— Ага...
— Бедный дзеці... З дзеці мы не ваюй... Мы хочам дзеці шчасця... Мы забірай Масква. Мы разбівай Красна Армія...
Надзя не разумела, навошта ён гаворыць ім усё гэта глупства. Няўжо ён думае, што яны павераць? Але ўсім сваім выглядам яна старалася паказаць, што не прапускае ніводнага слова афіцэра, што кожнае з іх западае ёй у самую душу.
— Мы даём Беларусь свабода... Мы харошы чалавек не страляй. Мы страляй нехарошы чалавек, партызан. Вы нам сказаць, дзе жыве партызан...
— Што? — Надзя не зразумела.
— Вы... нам,— афіцэр памагаў сабе жэстамі, тыцкаючы пальцамі то сабе ў грудзі, то ў іхні бок.— Сказаць... дзе... атрад партызан...
— Дзе партызанскі атрад? — перапытала Надзя.
— Я... Я...— заківаў галавой фашыст.
— Я не ведаю.
— І я не ведаю,— шчыра развёў рукамі Ваня.
Афіцэр паморшчыўся:
— Я ведай — вы быў Віцебск... выконваў заданне. Я ведай...
— Не былі мы ў Віцебску,— захныкала Надзя.— Гэта выдумаў той паліцай... Мы хлеба прасілі...
Афіцэр устаў з-за стала.
— Не плакай... Салдат вялікай Германіі не любіць няпраўда. Вы быў Віцебск. Вы знай, дзе партызан... Вы... павінен сказаць, а то мы будзем вас страляй...
— Ну і страляйце! — вырвалася ў Надзі.— Чаго чакаеце?..
— О-о! — афіцэр узяў са стала яшчэ адну папяросу.— Істэрык... Я не хачу істэрык... Вы быў Віцебск...
— Мы не былі ў Віцебску,— падаў голас Ваня.— Пан афіцэр, вам сказалі няпраўду. Паліцай сказаў няпраўду...

Надзю і Ваню вывелі ў двор, але нікуды далей не пагналі, а спусцілі ў падвал, зачынілі ў цёмным і халодным закутку. На цэментаванай падлозе валялася старая салома, праз маленечкае акенца за кратамі нясмела прабівалася святло.

Цяпер ужо Надзя амаль не верыла, што ім удасца выратавацца. Уцячы адсюль немагчыма. Афіцэр іх і слухаць нават не хоча... Усё ясна. Іх расстраляюць. Але няўжо фашысты што-небудзь ведаюць? Не можа быць...

Са скрыгатам адчыніліся дзверы. Немалады нямецкі салдат прынёс ім два салдацкія кацялкі і некалькі скібак хлеба.

— Эсэн... Абедаць...— растлумачыў ён і паставіў кацялкі на падлогу.

У адным была каша. У другім — чай.

З кішэні салдат дастаў дзве лыжкі, дзве таблеткі сахарыну, аддаў іх Надзі і Ваню. Пакуль яны елі, ён стаяў у дзвярах і ўздыхаў:

— Кіндэр... Кіндэр... О, майн гот!..

Потым забраў кацялкі, лыжкі, азірнуўся на дзверы і хуценька зашаптаў Ваню:

— Шысэн... Страляць... Пуф-пуф... вас...—пальцам ён паказаў на Надзю і на Ваню і зноў уздыхнуў: — О, майн гот!

Пасля кашы і кіпятку стала цяплей, але яшчэ больш настойліва палезлі ў галаву думкі. Надзя штурхнула ў бок Ваню:

— Вань... Расстраляюць нас...

— Ага...— Ваня нават не паварухнуўся.

— З-за мяне...

— Не выдумляй,— у Ваневым голасе зноў з'явіліся камандзірскія ноткі, як тады, у Віцебску, у пакінутым доме.— Выкінь з галавы...

— Вань... А давай скажам, што гэта мы сцягі вывесілі... Хай ведаюць... Пра атрад — ні слова... А пра сцягі скажам...

— Нельга.

— Чаму? Расстраляюць, і ведаць пра нас ніхто не будзе,— Надзін шэпт рабіўся ўсё гарачэйшым.— Мы скажам і плюнем у твар ім. Хай ведаюць, што мы не баімся смерці, што мы ненавідзім іх.

— Нельга... А ведаць пра нас будуць. І пра сцягі... Нашы, партызаны, будуць ведаць... Нам трэба маўчаць. Каб думалі, што тыя, хто вывешваў сцягі, не злоўлены. Зразумела?

Надзя ўсё зразумела. Але не хацелася ёй паміраць, прыкідваючыся жабрачкай. Хай бы расстрэльвалі як партызанку...

Яны доўга сядзелі моўчкі. Потым Надзя аклікнула:

— Ваня, ты дзівішся, адкуль я так добра Віцебск ведаю. Дык слухай... Калі наш дзетдом везлі ў эвакуацыю, за Смаленскам на цягнік наляцелі самалёты і пачалі нас бамбіць. Гэта было жахліва. Мы разбегліся з вагонаў хто куды, хаваліся ў кустах, у лесе. Я забегла далёка ў лес, і калі бамбёжка скончылася і я выйшла да чыгункі, поезда ўжо не было. Адстала і яшчэ некалькі нашых — Юра Сямёнаў, Маруся Савельева. Сабраліся мы разам і вырашылі прабірацца ў Віцебск — у Марусі тут сваякі былі. Колькі ішлі, не памятаю, але да Віцебска дабраліся. Жылі ў горадзе некалькі тыдняў. У тым доме, дзе мы мётлы хавалі. І ў былой школе. Начавалі ў руінах. Шукалі зброю. І вось аднойчы...

...Ім тады здавалася, што план яны прыдумалі выдатны. Усё было падрыхтавана, усё прадумана. Заставалася толькі ноччу прабрацца да склада і падкласці тол...



Гэты абгароджаны калючым дротам склад яны заўважылі выпадкова. Ішлі неяк па ўскраіне і здзівіліся, што адразу ажно пяць аўтамашын з закрытымі брызентам кузавамі пад'ехалі да глухога, на водшыбе, цаглянага будынка. Сталі назіраць — і ўбачылі, як у будынак згружаюць цяжкія скрынкі. Адна скрынка разламалася, і салдаты пачалі насіць на руках, як дровы, снарады — круглыя і доўгія.

Юра Сямёнаў, як толькі даведаўся пра склад, прапанаваў узарваць яго.

— Гэта будзе наш піянерскі салют. Каб аж Гітлер пачуў... Як бабахне, дык увесь Віцебск задрыжыць...

Усе горача ўзяліся за справу. Разведалі, як лепш прабрацца да склада. Знайшлі нажніцы, каб разрэзаць калючы дрот. Назбіралі толу. А адзін хлапчук, які прыстаў да іх кампаніі ўжо ў Віцебску, нават прынёс запал. Адным словам, усё было гатова...

У той вечар яны сабраліся ў падвале разбуранага дома непадалёк ад склада. Усе былі радасна ўзбуджаныя. Зноў і зноў размяркоўвалі абавязкі, правяралі тол і ніяк не маглі дачакацца, пакуль сцямнее. Маруся Савельева нават спрабавала спяваць, але на яе зашыкалі.

«Мінёр»,— так празвалі хлапчука, які прынёс запал і лічыўся самым вопытным падрыўніком сярод іх,— стаў звязваць кавалкі толу. Усе акружылі яго і з зайздрасцю глядзелі, як упэўнена ён абмацвае тол, як беражліва пакручвае капсуль.

— Цёмна,— сказаў «Мінёр».— Трэба святло.

— А так нельга? — папыталася Маруся.

«Мінёр» хмыкнуў — што тут гаварыць з гэтым дзяўчом, хіба яна разбіраецца ў сур'ёзных мужчынскіх справах! — і пайшоў шукаць газоўку. У змроку замігцеў кволы язычок агню.

— Трэба варту,— коратка загадаў «Мінёр».— Каб агонь не заўважылі...

Усе маўчалі. Нікому не хацелася тырчаць на вуліцы, калі тут будзе рабіцца сапраўдны цуд, калі будзе рыхтавацца выбух, які пачуюць ажно ў самім Берліне.

— Ну! — «Мінёр» незадаволена агледзеў усіх.— Чыя чарга?

Чарга была Юркава і Надзіна. Ім давялося вылазіць з падвала і хавацца ў руінах.

Ужо добра пацямнела. Час ад часу, нібы нехаця, накрапваў дождж. Трошкі пацярусіць і перастане. Нібы дражніцца.

Надзя перасвіствалася з Юрам, які сачыў за вуліцай з другога боку. Ёй надакучыла сядзець у руінах. Усё роўна нікога няма — ні немцаў, ні паліцэйскіх. Нават крокаў патруля не чуваць. А «Мінёр» там ужо заканчвае, відаць, апошнія падрыхтаванні...

Надзя пракралася да Юры.

— Чаго ты? — злосна спытаў ён.— У цябе сваё месца...

— Кінь! — адмахнулася Надзя.— Пайшлі адсюль... Усё роўна нікога не чуваць. Ды і агню нашага не відно. Я прыглядалася.

Юра задумаўся. Яму таксама надакучыла быць на вуліцы. Але ж нялоўка пакідаць пост. Раптам патруль пойдзе — хто тады папярэдзіць...

Надзя напірала:

— Пара ісці. Цёмна. І дождж.

Юра здаўся.

— Ну, ладна,— сказаў ён.— Пойдзем... Ты наперадзе. Я—следам.

Надзя выбралася з руін, кінулася да падвала. І ў гэты момант ярка-ярка штосьці ўспыхнула перад самымі вачыма і рванулася зямля з-пад ног. Страшэнны выбух аглушыў яе, а нейкая невядомая сіла



падняла над зямлёй і адкінула назад. Надзя балюча выцялася галавой аб тупую жалязяку. На яе пасыпалася тынкоўка і дробныя каменьчыкі. Ад пылу і гаркаты яна на міг задыхнулася. Нічога не разумеючы, паднялася на ногі і зусім блізка пачула спалоханы Юркаў голас:

— Надзя!.. Надзя!..

— Што? Тут я! — азвалася яна і няўпэўнена пайшла на голас сябра, трымаючыся за галаву, якая налівалася тупым надакучлівым звонам.

Юра падхапіў яе, агледзеў з усіх бакоў, радасна абнадзеіў:

— Жывая!.. Нічога, Надзя. Ты — жывая...

Не згаворваючыся, яны кінуліся да падвала. І спыніліся ва ўтрапенні. Там, дзе быў падвал, дымілася яма. Вялізная, глыбокая чорная яма. Курэў пыл і дым. Ціха асыпаўся пясок. І не было нікога... Нікога...

— Падарваліся,— яшчэ сам сабе не верачы, прашаптаў Юра.

Толькі цяпер Надзя зразумела ўсё. Падарваліся. Маруся. «Мінёр». Усе... Падарваліся... Няма. І ніколі не будзе...

— Маруся!..—закрычала Надзя ў адчаі — Маруся-а-а!..

Ніхто не адгукаўся. Толькі побач плакаў Юра... Непадалёк пачулася нямецкая лаянка, загрукацеў аўтамабіль. Юра схапіў Надзю за руку і пацягнуў яе далей ад гэтага страшнага месца...

— А ты дзівіўся, што я ведаю Віцебск,— Надзя уздыхнула.— Я, Ваня, Віцебск ніколі не забуду.

Яна змоўкла. Успамінала сваіх сяброў, што загінулі недарэчна і нечакана, так і не ўзарваўшы варожы склад. Успаміпала Марусю, «Мінёра». Самы вопытны сярод іх падрыўнік, ён проста не ўмеў абыходзіцца з запаламі і толам...

А Ваню ўспамінаўся дзіцячы дом і родны Ленінград. Шырокі Неўскі праспект. Нява. Смольны, куды іх вадзілі на экскурсію... Дзе цяпер ягоныя сябры? Можа, загінулі так вось, як Надзіны. Можа, трапілі да партызан. А можа, у тыле ходзяць у школу, гуляюць, вучаць на памяць вершы...

Адчыніліся дзверы. Салдат, што прыносіў есці, знакамі загадаў ім выходзіць.

Пасля цёмнага падвала на вуліцы асляпіла дзённае святло. Снег пад нагамі не рыпеў, а ціха асядаў. Са стрэх сям-там капала. Пачыналася адліга.

Нямецкі афіцэр чакаў іх на двары.

— Вы мелі час падумаць,— старанна падбіраючы словы, сказаў ён.— Вы маглі выбіраць жыццё і смерць... Я спадзяюся ваш розум...

— Мы нічога не ведаем,— панура вымавіў Ваня.

І Надзя пацвердзіла:

— Не ведаем...

Афіцэр нетаропка расшпіліў кабуру, выняў пісталет, узвёў курок, коратка выдыхнуў:

— Сцяна!..

Салдат пачаў паслужліва падпіхваць Надзю і Ваню:

— Шнэль... Шнэль...

Надзя чула, як стукаюць у Вані зубы, адчувала, як дробна дрыжаць рукі.

— Я буду лічыць тры,— афіцэр узняў пісталет.— Пасля тры я буду страляць.

Надзя павярнула трошкі галаву, зірнула на Ваню. Ён моцна сцяў вусны і закрыў вочы.



— Айн,— выкрыкнуў афіцэр.

Проста перад яе вачыма — цагляная сцяна. Краі ў многіх цаглін абкрышыліся...

— Цвай...

Куды ён стрэліць? У галаву? У спіну? Толькі б адразу...

— Драй!

Загрымеў стрэл. Надзя пахіснулася і лбом упёрлася ў сцяну. Зверху на яе пасыпаліся кавалачкі цэглы, пыл. Што гэта? Яна не адчувае ніякага болю... Зірнула ўбок — Ваня таксама стаіць... Праграмеў яшчэ адзін стрэл. Зноў пасыпалася цэгла. І зноў — нічога...

Не папаў?.. Яшчэ стрэл... І яна зразумела — афіцэр спецыяльна страляе паверх галоў.

— Ну! — закрычаў ён.— Прызнавайся. Кляйнэ швайн!..

Кулі цяпер пралятаЛі каля самага вуха. Яна, здаецца, нават адчувала, якія яны гарачыя... Адна... Другая...

Нарэшце афіцэр стаміўся.

— Вы... Вы...— голас у яго перарываўся.—Вы неразумныя дзеці... Так нельга...

Ад нервовага напружання ў Надзі закружылася галава, усё цела абвалакла цёплая, цяжкая стома. Яна марудна павярнулася да афіцэра і папрасіла:

— Страляйце... Страляйце...

Афіцэр нічога не адказаў. Ён паклікаў салдата, які стаяў непадалёк, аддаў нейкі загад і пайшоў, нават не зірнуўшы на Надзю і Ваню.

Салдат зняў з пляча вінтоўку, паказаў дарогу.

Ён прывёў іх у лагер ваеннапалонных. Упіхнуў за калючы дрот, сказаў нешта вартавому і пайшоў.

Надзя і Ваня спыніліся каля самых варот, агледзеліся. Гэта была вялікая пустка, абнесеная калючым дротам. Групкамі ў абадраных шынялях, у ватоўках, пінжаках тут і там сядзелі палонныя. Худыя, няголеныя. У многіх перавязаны бруднымі бінтамі галовы, рукі.

Высокі мужчына ў пінжаку, з абматанай падраным шалікам шыяй, падняўся насустрач, паклікаў:

— Хадзіце сюды! Не стойце там...

Надзю і Ваню пасадзілі ў сярэдзіну. Той, у пінжаку, папытаўся:

— Хто вы? За што?

Як захацелася Надзі выкласці ўсё-ўсё гэтым дарагім, змардаваным людзям! І пра дзетдом, і пра эшалон, і пра Віцебск... Усё расказаць...

Ваня апярэдзіў яе:

— Сіроты. Хадзілі па вёсках, прасілі есці. Схапілі. Кажуць, у Віцебску сцягі вывесілі. Усіх падазроных хапаюць.

Палонныя зашумелі.

— Ага!.. Баяцца!

— Сцягі?.. У Віцебску?..

Да іх праціснуўся зусім малады салдат з шрамам на левай шчацэ.

— А можа, вы гэта,— у Віцебску? А?

— Не,— пакруціў галавой Ваня.

— Шкада-а...— палонны расчаравана адсунуўся назад.

«Мы! Мы!» — захацелася крыкнуць Надзі. «Мы гэта зрабілі! Вывесілі сцягі мы!» Хай бы ведалі гэтыя людзі, што яны не проста нейкія прыблуды, а байцы, партызаны...

Але Ваня не даваў ёй сказаць:

— Не мы... другія... Іх не злавілі...

Твары ў палонных пасвятлелі. Яны пачалі наперабой пытацца:

— Што чуваць?

— Як там Масква?

— Партызан многа?

Ваня адказваў асцярожна, узважваючы кожнае слова. Надзя ажно дзівілася: усё і правільна і — хітра...

— Пра Маскву рознае гавораць. Адны кажуць, што немцы ўзялі яе, другія — што наша яна... А партызаны ёсць...



Надзя разумела, што Ваня не хоча гаварыць прама, баіцца, каб не было тут правакатараў, але ўсё роўна яе разбірала злосць: мудрыць, круціцца... Сказаў бы, што і ў Бярозаўцы, і ў Заналючках — партызаны. Вось толькі зброі малавата...

Ваню ўсё распытвалі, распытвалі. Ён павесялеў, нават спрабаваў жартаваць.

Але доўга пагаварыць не давялося. Надзю і Ваню паклікалі да варот. Там ужо было некалькі палонных, акружаных фашыстамі і паліцаямі. Двое з іх ледзь стаялі на нагах, увесь час іх падтрымлівалі таварышы.

— Ну, з богам! — весела гукнуў высокі паліцай з вінтоўкай наперавес.— Гэта ёсць наш апошні, так сказаць...

Іх вялі да хмызоў. Наперадзе палонныя. Ззаду Ваня і Надзя. З бакоў — паліцаі і фашысты. З вінтоўкамі, з аўтаматамі.

«Куды гэта? — думала Надзя.— У Віцебск? Ці ў турму? Ці...» Пра смерць не хацелася думаць. Навошта ім страляць гэтых бяссільных, змучаных палонных, якія ўжо ледзь перастаўляюць ногі?..

Наперадзе спыніліся. Надзя пастаралася разгледзець, што там робіцца, паднялася на дыбачкі, але заўважыла толькі кусты і нейкі роў. Відаць, да вайны тут капалі торф. Зямля каля рова чорная, выкладзеная акуратнымі квадрацікамі.

Паліцаі сталі выстройваць усіх па двое. Потым пералічылі. Немец у акулярах абышоў строй, праверыў паперы і махнуў рукой.

— Пачалося...— сумна зазначыў паліцай, які стаяў каля Надзі.

Пярэднія пайшлі — і Надзя з Ванем крануліся з месца.

— Кругом! — хтосьці выкрыкнуў там, наперадзе, і адразу секанула аўтаматная чарга...

«Усё.— Надзя сцяла зубы.— Расстрэльваюць».

Яна перастаўляла ногі і, здаецца, не чула, не бачыла нічога і нікога. Проста ішла туды, да смерці, якую яшчэ засланялі ад яе з Ванем спіны палонных, нашых. Але вось яе і Ваню спынілі, а палонных пагналі далей. Яны ідуць туды, да рова. Вось ужо каля самага...

— Кругом! — камандуе паліцай, той, што гаварыў пра апошні...

Палонныя паварочваюцца, і ў гэты час — грыміць аўтаматная чарга... Яны падаюць адначасова, так і не расчапіўшы рук. Туды, у роў...

— Шнэль! — крык над самым вухам.

Надзя бярэ Ваню за руку, сціскае яе моцна-моцна, як толькі можа, і робіць першы крок. Яны ідуць, падняўшы галовы.

— Кругом!

Гэта для іх.

Надзя выпускае Ваневу далонь і пачынае паварочвацца. І — ляцяць, ляцяць, ляцяць у іх маленькія, гарачыя кулі. Многа-многа. Яна бачыць тую першую, што цаляе проста ў сэрца. Маленькая. І ўсё расце, расце, расце. Вось яна ўжо, як снарад. Як бомба. І — разрываецца. На момант робіцца светла-светла, а потым вочы закрывае цемра...

А побач, падломваючы ногі, падае Ваня. І здаецца яму, што разламваецца ягоны самалёт, той, на якім ён павінен быў паляцець у сіняе высокае неба, і падае, падае ў халоднае прадонне бліскучае крыло з чырвонай зоркай...

Апрытомнела Надзя ад холаду і млоснасці. Расплюшчыла вейкі і проста над сабой убачыла шэрае, ухутанае хмарамі неба, цяжкое

і нізкае. Яна захацела правесці рукою па твары, каб зняць з вачэй гэтую шэрасць, але рука не слухалася. Штосьці цяжкае прыдавіла— і Надзя ледзьве выслабаніла яе. Падняла руку і ў страху заплюшчыла вочы. Уся яна была ў крыві. Кроў запяклася на далоні, на рукаве... Сон... Сон... Яна ўшчыкнула сябе і зноў раскрыла вочы. Не сон.

Яшчэ не зусім апомніўшыся, Надзя ўзняла галаву — і ўсю яе закалаціла. Яна ляжала між мноства людзей. І справа, і злева, падкурчыўшы ногі, закінуўшы галовы, схапіўшыся за жывот, ляжалі людзі. Акрываўленыя... І ўсе глядзелі проста на яе страшным невідушчым позіркам. Усе вочы, застылыя і пустыя, скіраваны на яе. Надзя закусіла вусны, каб не закрычаць. І ўбачыла Ваню. Ён ляжаў непадалёк. Без шапкі. Цёмныя валасы зліпліся ад крыві. У кулак сціснуты пальцы левай рукі. І ўвесь твар заліты крывёй.

І тут да яе вярнулася памяць. Яна ўспомніла ўсё: і Віцебск, і паліцая, і фашысцкага афіцэра, і страшную каманду: «Кругом!» Успомніла ўсё — і зноў ёй здалося, што сніцца неверагодны сон. Яе ж таксама вялі расстрэльваць. Яна бачыла, як ляцела ў яе маленькая куля...

Яна яшчэ раз ушчыкнула сябе... Балюча. Паспрабавала падняцца і не змагла. На яе нагах ляжаў мужчына ў шапцы-вушанцы і лапленых шэрых валёнках. Сабраўшы ўсе сілы, Надзя адпіхнула яго. Цела мужчыны цяжка спаўзло ўніз, з галавы звалілася шапка.

«Што рабіць? Што гэта такое?» Надзя ніяк не магла зразумець усё да канца... Так — іх вялі... Па іх стралялі... Яна помніць, добра помніць. Ёй і Ваню загадалі: «Кругом!». Яна пачала паварочвацца... Ваня забіты. Усе забіты... А яна — жывая. Відаць, за нейкую долю секунды да аўтаматнай чаргі ў яе падагнуліся ногі і яна ў беспрытомнасці паляцела ў роў.

Надзя абмацала сябе. Нідзе не баліць. Рукі згінаюцца. Ногі таксама. Значыць, нават не параненая. Толькі ўся ў крыві. У чужой... Абапёрлася рукамі. Села... І адразу ж спахапілася: «Што я раблю? А раптам немцы прыйдуць ці паліцаі... Заўважаць...» Яна стаілася між трупаў.

Ваня... Ваня... Яна не ведала нават яго прозвішча. Проста Ваня. Ленінградзец. З дзетдома. Вось і ўсё. Думала, што яшчэ не раз будуць выконваць заданні, будуць прабірацца ў Віцебск... Ужо ніколі ён не падставіць ёй сваё плячо, не стрымае, не папярэдзіць...

Надзі станавілася жудасна ад думкі, што яна ляжыць сярод мёртвых, у магіле. Адна. Жывая. Адна, якая можа падняцца, пайсці. А вакол дзесяткі забітых. І маладых, і старых. І Ваня...

Час цягнуўся марудна. Вечар нібы не хацеў надыходзіць, і над зямлёю вісеў шэры паўзмрок... Надзя замёрзла. Яе калаціла і ад холаду, і ад жудасці, і ад нецярплівасці. Хутчэй бы выбрацца з рова... Хутчэй бы да сваіх... Яна верыла, што цяпер ужо не пападзецца, дойдзе, дапаўзе. Толькі б наступіла цемра...

Ужо на самым змярканні ўверсе пачуліся галасы. Надзя трошкі расплюшчыла вочы — і прама над сабой убачыла чатыры постаці. Адзін быў у афіцэрскай фуражцы, астатнія ў зімовых шапках. Яны аб нечым упаўголаса пагаварылі, той, у афіцэрскай фуражцы, нахіліўся, паглядзеў у роў, і — усе пайшлі... Надзя спалохалася: а раптам прывядуць новых на расстрэл ці прыйдуць засыпаць роў... Але варушыцца пабаялася і засталася ляжаць. Ішлі мінуты — наверсе ніхто не паказваўся.

Ноччу Надзя выбралася з рова, хаваючыся за кусты, пачала прабірацца да чыгункі, доўга пятляючы па лесе, выйшла на межанскі



бальшак. Абліваючыся потам, подбегам спяшала да сваіх. Па лесе. Адна. І не баялася ні ваўкоў, ні цемры. Яна цяпер нічога не баялася...

Пад раніцу Надзя наткнулася на партызанскі пост. Яе аклікнуў малады незнаёмы партызан. Яна стомлена і радасна села проста на зямлю і папрасіла:

— У штаб мне... Да Дз'ячкова...

Партызан недаверліва перапытаў:

— Куды?.. Куды?..

— У штаб, да Дз'ячкова,— паўтарыла Надзя.— Я свая. З задання...

Партызан пастаяў над ёю, падумаў, потым адышоўся і гукнуў:

— Мікола!.. Хадзі хутчэй!..

Ён не дагаварыў — з-за кустоў вынырнуў Мікола Буцілёў, весела пацікавіўся:

— Што, зноў мядзведзь паказаўся? Страляй яго...— і ўбачыў Надзю, кінуўся да яе:— Надзя! Ты?

Яна слаба ўсміхнулася:

— Я... Я...

— Што з табою? — Мікола падняў яе з зямлі.— Ты ўся ў крыві...

— Нічога. Гэта чужая...— і раптам на ўвесь голас разрыдалася: — Ваня...

Мікола трымаў яе за плечы і не ведаў, што рабіць. Суцяшаць? Як? Ён не ўмеў суцяшаць і толькі прасіў:

— Не трэба, Надзя, не трэба... Пайшлі... Пайшлі... Там чакаюць... Трымайся...

У штабе быў адзін Скуматаў.

Надзя стала перад ім навыцяжку:

— Таварыш начальнік штаба... Заданне...

Скуматаў замахаў рукамі:

— Не трэба, не трэба... Ведаю. Сядай, расказвай усё.

Надзя бяссільна апусцілася на лаўку, нібы сама сабе мармычучы:

— Выканалі... Заданне выканалі... Усё зрабілі... Не выдалі нікога...

— Што з ёй? — трывожна папытаў Скуматаў Буцілёва.

— Не ведаю, таварыш начальнік штаба,— пацісну плячыма Мікола.— У крыві ўся... Калоціцца, як у ліхаманцы...

— Ваня... Ваня...— Надзя застагнала.— Забілі... Гады, гады... Ваня. Не трэба... Не памірай... Ваня...

Скуматаў пакратаў яе лоб, асцярожна паклаў на лаўку.

— Трызніць... У агні ўся... Буцілёў, хуценька па доктара!

Надзя пачула, паднялася, хістаючыся, зрабіла некалькі крокаў.

— Не трэба доктара, не трэба. Позна. Яго ў галаву, у скроню... Забілі...

Скуматаў узяў яе на рукі, кіўнуў Буцілёву—ну, бяжы, не стой!— паклаў на лаўку і накрыў сваёй ватоўкай.

## ДРУГАЯ СТАРОНКА

Ветру зусім не было, і вялікія, бухматыя сняжынкі падалі павольна, доўга кружачыся над зямлёю. Надзя працягнула руку. На пальцы апусцілася некалькі сняжынак — танюсенькіх халодных крышта-

лікаў. Ад цеплыні яны абвялі, скрышыўся іх строгі ўзор, і на пальцах засталіся кропелькі вады. Адразу стала сумна, нібы хтосьці адабраў прыгожую казку.

Надзя ўсміхнулася, паправіла за плячыма торбу і пакрочыла па дарозе. Ісці было лёгка, нават прыемна. Дарога добра ўезджаная, шырокая, і нікагусенькі на ёй няма. Нібыта ўсе людзі недзе стаяць каля сваіх хат, любуюцца сняжынкамі і баяцца выбірацца насустрач завірусе. Толькі яна адна ідзе, і далёка відаць яе чорная постаць на бяскрайняй белізне поля. А завіруха, пэўна, будзе: неба паступова наліваецца сіняватай шэрасцю, сняжынкі падаюць усё марудней... Надзя крочыць шпарчэй — у завіруху лепей сядзець у хаце, глядзець з акна на злосную віхуру і слухаць, як у коміне ходзіць халодны вецер.

Неба апускаецца ніжэй і ніжэй, хмарам усё цяжэй трымаць на сабе горы снегу, яны хочуць скінуць яго і зноў падняцца ўверх, да чыстай сінявы. Надзя паглядае на неба, і ногі самі бягуць туды, дзе на даляглядзе чарнеюць купкі дубоў. Там Балбекі. Надзя ведае. Яна там была. Праўда, не адна... Амаль каля кожнай хаты ў Балбеках стаяць дубы, высокія, разгалістыя — некаторыя ўжо не адно пакаленне балбекаўцаў перажылі. На іх там-сям гнёзды буслоў...

Надзя выцерла пот з ілба, трошкі сцішыла хаду, прыкінула сама сабе: «Паспею... Да ўзгорка метраў чатырыста, а там і Балбекі». Абмацала торбу, хацела дастаць акрайчык хлеба, але перадумала — «у вёсцы накормяць, не можа быць, каб паесці не далі».

На ўзгорку ёй сустрэўся немец у лёгкім шынеліку, з вінтоўкаю. Раўнадушна зірнуў на яе. Надзя спынілася, зняла торбачку, моўчкі паказала яе, жаласна папрасіла:

— Пан салдат, хлеба... Пан салдат...

Немец пакруціў галавой, махнуў рукой — бяры сваю торбу — і пакрочыў прэч...

Надзя накіравалася да першай хаты: не трэба абмінаць ніводнай — так і ўбачыш больш, і ніякіх падазрэнняў не будзе.

У сенцах абтрэсла з латаных валёнак снег, намацала клямку. Дзверы тоненька зарыпелі. Дыхнула ў твар густой цеплынёй, і Надзя сцепанула плячыма, толькі цяпер адчуўшы, які халодны вецер гуляе на двары.

У хаце ніхто не абзываўся, нібыта не чулі прарэзлівага рыпу дзвярэй і Надзінага тупату ля парога. Надзя кашлянула, насцярожана ўглядаючыся ў паўзмрок, ступіла наперад.

— Ці ёсць хто дома? — запыталася гучна.

Перачакала хвіліну і ўжо хацела павярнуцца назад да дзвярэй, калі з цёмнага кутка незадаволены мужчынскі голас прабурчэў:

— Што трэба?

— Ці не далі б паесці, дзядзечка?

Надзі стала трошкі боязна гэтага злоснага голасу, і яна збіралася шмыгнуць за дзверы, але да яе ўжо сунуўся высокі з сівымі валасамі дзед у чорных валёнках і сіняй сацінавай касаваротцы. Ён сеў за стол, які стаяў каля невялічкага акна, кіўнуў на лаўку:

— Садзіся... Змерзла, пэўна.

Надзя бокам падышла да лаўкі, села на ладнай адлегласці ад старога, агледзела хату, цесную і неахайную. Стары некалькі разоў зірнуў на яе з-пад насупленых броваў і ўжо лагодна пацікавіўся:

— Бежанка?

— Ды не...— Надзя ўсё яшчэ пабойвалася яго.— Сірата... З дзетдома...



— Сірата? — Дзед устаў, пачухаў патыліцу, уздыхнуў.— Чым жа мне цябе частаваць?

— А што ёсць...

— Бог яго ведае, што ёсць. Хлеб ды сала.

Надзя прыглядзелася да яго, і дзед ужо не здаваўся злосным. Проста ён, відаць, хворы і нечым незадаволены.

— Ды вы не турбуйцеся...— Надзя паднялася з лаўкі.— Я ў суседзяў папрашу.

— Сядзі! — прыкрыкнуў дзед.— Накармлю. Суседзі лепшага не дадуць.

Ён схаваўся за печкай, хвіліны са тры грукацеў там чымсьці драўляным і вярнуўся з акрайчыкам хлеба і скрылём жоўтага сала, густа пасыпанага буйнай соллю. Надзя з прагнасцю ўпілася зубамі ў сала і чэрствы, прапахлы кмінам хлеб. І ад гэтага кміннага паху, ад перасоленага да гаркаты сала стала адразу хораша і ўтульна. Нібыта прыйшла ў госці да бабулі, зараз добра пад'есць і пабяжыць на вуліцу гуляць у снежкі.

Дзед глядзеў, як Надзя ўмінае хлеб, і ўсмешка патроху кралася да яго суровых вачэй.

— Ну, весялей стала? — кіўнуў ён, калі Надзя дажавала хлеб.— Хлеб ды сала — ежа царская...

— Дзякую. Наелася.

Надзі не хацелася ісці з цёплай хаты. Дзед быў добры і глядзеў на яе зусім ласкава. Яна нават падсунулася да яго бліжэй. Нібы просячы прабачэння, зірнула ў акно:

— Круціць...

— А ўжо ж...— падтрымаў дзед.— Цяпер толькі ў хаце сядзець. А ты куды гэта выправілася? Ды адна яшчэ, відаць?

— Адна...

— Смелая! У такі час спакайней бы дома. Усё-такі сцены...

— Няма ў мяне, дзядуля, дому. Ні дому, ні бацькоў.

— Ага... Сіроцкі хлеб горкі,— уздыхнуў дзед.— Яснае дзела. Я во без бабы астаўся і то цяжка.

— Памёрла? — пацікавілася Надзя.

— Забілі. Немцы...

— За што?

— А так, з-за свінёнка, каб ён здох... Выкарміла на сваю галаву... Парасяцінкі захацелася немцам. Яны ў хлеў, а старая мая за імі. Яны за свінчо, і яна за свінчо. Ведама ж, баба... Ну і стрэліў адзін...

— Забіў?

— На месцы. Нават і слова не сказала...— дзед часта заморгаў, апусціў галаву, памаўчаў і, ужо нібы сам сабе, ціха сказаў: — Яно, дзетка, час такі. Нелюдзі прыйшлі. Што ты ад іх хочаш?.. А тваё бацькі?

— З дзетдома я...

— Ага... Значыць, да вайны яшчэ асірацела?

— Да вайны. У дзетдоме жыла.

— А чаго ж гэта цяпер адна? Распусцілі вас, ці што?

— Ды не...— Надзі неяк вельмі добра было з гэтым дзедам, і яна нечакана для самой сябе пачала яму расказваць, як іх везлі ў эвакуацыю, як наляцелі самалёты..

— І стралялі па дзецях?

— Стралялі... І бомбы кідалі.

Надзя хацела ўжо далей расказваць, але спахапілася, што і так нагаварыла многа, і сумна закончыла:



— Вось і асталася я адна...

За акном кіпела, гула завіруха, раз-пораз кідала ў шыбы снегам, у хаце цямнела, і яшчэ мілейшай здавалася цеплыня.

Надзя з дзедам маўчалі, і дзяўчынка адчувала, што думае стары пра нешта незразумелае для яе і вельмі сумнае. А перад яго позіркам быццам праносілася чарада гадоў, то шчымліва вясёлых, то самотных і горкіх. Было іх многа ў яго. І радасць была. І гора таксама. А калі так недарэчна загінула старая, з якой пражыў ажно паўвека, гэта зусім падламіла яго і зрабіла абыякавым да цэлага свету. І вось гэтае дзяўчо, цыбатае і галоднае, трошкі растапіла ў душы наледзь апошніх дзён, і не лягчэй ад гэтага, а яшчэ гарчэй стала.

Стары страсянуў галавой, нібы адагнаў сон-назолу, і не прапанаваў, а папрасіў Надзю:

— Аставайся ты ў мяне... за ўнучку. Удвух весялей нам будзе, смялей...

Надзя гэтага не чакала, і ёй спярша здалося, што сама яна прыдумала гэта, што дзед усё яшчэ маўчыць, перабіраючы ўспаміны, але не, дзед глядзеў на яе і чакаў адказу.

— Не, дзядуля, не магу,— Надзі шкада было адмаўляцца, але што паробіш...— Мне сваіх трэба шукаць, дзядзьку, цётак... Яны тутэйшыя...

— Канешне, свае заўсёды радней.— У дзеда ў вачах пагаслі вясёлыя агеньчыкі, і зноў стаў ён стары і пануры.— Шукай...

Надзя адчувала, што цікавасць да яе ў дзеда прапала і яна стала нібы лішняй у хаце. Алеісці на вуліцу не хацелася. Хатняя цеплыня хіліла ў сон, завіруха ўсё яшчэ гойсала за сценамі, ды і спяшацца не было асаблівай патрэбы. Можна яшчэ паспець аблазіць Балбекі з канца ў канец. Запамінаць жа ўсё, што трэба, яна налаўчылася. Да яе прыйшла тая няўлоўная разведчыцкая інтуіцыя, калі, здаецца, само сабою вока заўважае галоўнае, а вуха не прапускае ніводнага важнага слова.

Пасля гібелі Вані і яе нядоўгай хваробы камандзір атрада не хацеў больш пасылаць Надзю нікуды, баяўся, што яна нарвецца недзе на кулю, трапіць яшчэ раз у лапы ворагаў, і, хто ведае, ці заслоніць яе зноў тое рэдкае шчасце, якое выратавала яе ў Гарадку. А Надзя ні пра што другое, акрамя помсты, не магла думаць. Яна рвалася ў бой, хацела помсціць кожны дзень, на кожным кроку, кожнаму фашысту. Нібы ліхаманка, калаціла яе жаданне рызыкаваць, дзейнічаць, ісці ў самае пекла вайны.

Калі яе не ўзялі ў разведку першы раз, яна паўдня праплакала, але ў штаб не пайшла. Калі ж і другі раз разведчыкі пайшлі на заданне без яе, яна пабегла да Дз'ячкова і праз слёзы выпаліла, што пяройдзе ў другі атрад, хоць за сто ці дзвесце кіламетраў, а адседжвацца каля кухарак не будзе, таму што ні ў кога няма права забараніць ёй ваяваць, абараняць Радзіму, помсціць за Ваню. Дз'ячкоў угаворваў, спасылаўся на ўрача, які не раіў ёй выходзіць з партызанскага лагеру, даказваў, што пакуль што дапамога яе не патрэбна. Надзя заявіла, што ў такім разе яна будзе дзейнічаць самастойна, адна. І камандзір атрада здаўся...

Нечакана ў хаце пасвятлела. Завіруха кончылася раптоўна, нібыта на небе хтосьці павярнуў выключальнік — толькі што гуло, круціла і вось стала ціха і светла. Надзя ўсхапілася з лаўкі:

— Дзякую, дзядуля. Пайду ўжо...

Стары яе не затрымліваў — кіўнуў сівой галавой, звычна пажадаў:

— Хай табе бог паможа.

Дзяўчынка хуценька рыпнула дзвярыма, выбегла на двор. Было яшчэ бялей, чым да завірухі. Мяккі снег паслухмяна асядаў пад валёнкамі.

Надзя глянула на падслепаватае дзедава акенца, падумала, як яму сумна аднаму са сваім горам, як доўга, відаць, будзе для яго цягнуцца сённяшні дзень, і патупала да бліжэйшай хаты. Галава яе ўжо была занята другім, самым важным і галоўным, і свежасць, якая панавала цяпер на зямлі, толькі надавала думкам яснасці. Трэба даведацца, колькі тут немцаў, колькі паліцаяў, дзе штаб...

Хата, у якую яна зайшла, была прасторная, чыстая. На стале свежы абрус, у куце, у ручніках, вялікая бліскучая ікона. Надзя перахрысцілася на ікону, нізка пакланілася і папрасіла:

— Ці не далі б што сіраце?

Гаспадыня, хударлявая, маладая яшчэ жанчына, адразу ж кінулася да печы. Але гаспадар, які наразаў табаку на ўслончыку, спыніў яе:

— Чакай. Паспееш.

Ён адсунуў табаку, падышоў да Надзі. Гэта быў здаравяка гадоў трыццаці пяці з чорнымі вачамі і невялікім шрамам на ілбе. Бесцырымонна агледзеўшы Надзю, мужчына незадаволена буркнуў:

— Што, зусім сірата?..

— Зусім,— кіўнула Надзя.— Забілі бацькоў...

— Хто?

— Партызаны... Нядаўна...— Надзя не зводзіла з мужчыны вачэй, лавіла кожны яго рух.

Мужчына няпэўна хмыкнуў, перакінуўся позіркам з жонкаю.

— За што ж іх?

Надзя ахвотна растлумачыла:

— Старастам бацька быў... Прыйшлі ноччу і ўсіх застрэлілі... Адна я асталася, пад ложкам схаваўшыся была.

— Чула? — кіўнуў да жонкі мужчына, а потым падышоў да стала і клікнуў Надзю: — Хадзі, накормім. Капусту будзеш?

— Ага,— Надзя хуценька пасунулася да стала, зняла з плячэй торбачку.

Тым часам жанчына ссунула з краю стала абрус, паклала некалькі лустак хлеба, драўляную лыжку, пачала даставаць з печы чыгун.

Надзя сядзела ціха, глядзела на падвойныя вокны, на гронкі рабіны, акуратна пакладзеныя на вату паміж рамамі.

Жанчына прынесла гліняную міску з капустай. Над міскай падымалася духмяная пара. У капусце густа плавалі свечкі ад сала, і Надзя, не чакаючы запрашэння, узялася за лыжку. Пакуль яна сёрбала, мужчына скруціў сабе цыгарку, прагна зацягнуўся.

— Развялося партызан гэтых, як вашэй у голад. Дзяцей сірацяць...

Жонка нясмела глянула на яго, ціха ўставіла:

— Дык і немцы ж таксама.

— А цябе ніхто не пытае! — павысіў голас мужчына.— Не бабскай галавой тут рашаць.

Надзя даела капусту, падзякавала, узнялася з-за стала. Гаспадыня адразу ж кінулася прыбіраць посуд.

— Бацька твой багаты быў? — звярнуўся да Надзі мужчына.

— Ага,— Надзя ажывілася.— Зайздросцілі ўсе.

— Ясна,— мужчына павярнуўся да жонкі, нібы хацеў сказаць — а я хіба не пра гэта? — Старастам, кажаш, быў?



— Ага. Паставілі. Дык ён і рабіў, што скажуць...

— А здалёку ты?

— Ды не дужа. З-пад Езярышча.

— Недалёка,— мужчына спахмурнеў.— Так і да нас дабяруцца.

Надзя з наіўным выглядам пацікавілася:

— А што, у вас партызан няма?

— Каб жа не было. Ёсць. Дзе лес, там і яны. Толькі да нас не сунуцца.

— Баяцца?

— Пабаішся. У нас гарнізон. Ды не абы-які. Мінамёты, гарматы нават.— Ён гаварыў пра гэта радасна, з гонарам нават, нібы пра выгадаванага жарабка ці пятнаццаціпудовага парсюка.—Пасты вакол...

Надзя закінула за спіну торбачку.

— Ну, бывайце... Дзякую вам...

Жанчына сунула ёй лусту хлеба, папярэдзіла:

— У канцы вёскі камендатура, штаб. Туды не ідзі — затрымаць могуць.

Яна правяла дзяўчынку да сянец, ласкава пагладзіла плечы, уздыхнула. Надзя борздзенька пераступіла парог.

«Ну, гэтую хату я запомню,— паабяцала яна.— Пару лімонак не пашкадую. Увесь дабрабыт — на вецер, з агнём... Куркуль пракляты!..»

Перад самай ноччу Надзя выйшла з Балбекаў, звярнула з дарогі, трохі пахадзіла па лесе і рушыла ў атрад. Сваёй чэпкай разведчыцкай памяццю яна запомніла ўсё: кулямёты на ўскрайку вёскі, і гармату, схаваную за пуняй, і мінамёты ў двары караульнага памяшкання. Пералічыла яна фашыстаў, што таўкліся каля штаба, і паліцаяў, што швэндаліся па вуліцы.

У штабе атрада яе ўважліва выслухалі. Скуматаў удакладніў, колькі хат у Балбеках, ці бачыла яна аўтамабілі ў вёсцы. Надзя адказвала ўпэўнена, падрабязна, і Дз'ячкоў пахваліў:

— Малайчына, Багданава! Справу сваю ведаеш.

Надзя зачырванелася ад радасці. «Ну вось,— хацелася ёй сказаць,— а вы мяне не хацелі браць на заданні». Радасная, выйшла яна са штаба, пабегла да разведчыкаў, жартавала, смяялася. І здавалася ёй, што ўсе глядзяць на яе з павагай, нават з зайздрасцю, бо яна зноў стала роўнай з усімі, а можа нават і лепшай, смялейшай за іншых. Не кожнаму ж даручыш ісці ў разведку, не кожнаму Дз'ячкоў скажа: «Малайчына!» І Скуматаў быў задаволены. Яна бачыла, як ён пераглядваўся з камандзірам, як падкрэсліваў у блакноце некаторыя лічбы...

Радасны настрой сапсаваў ёй начальнік разведкі Слесарэнка, высокі, кучаравы ўкраінец. Заўсёды спакойны, негаваркі, ён прыкрыкнуў на яе:

— А ну, спаць!.. Тут не дзіцячы сад!..

Надзя пакрыўджана зашылася ў куток. На душы стала прыкра. Усё ж яе не лічаць за роўную. «Дзіцячы сад...» Хіба яна вінаватая, што ёй не дваццаць, не трыццаць? А ваяваць яна ўмее. І няма чаго напамінаць пра гады. Сама ведае. Толькі не ў гадах справа. Палёгкі яна не просіць. Наадварот.

Словы Слесарэнкі здаліся Надзі знявагай, яна ўжо сабралася сказаць яму пра гэта, але не паспела: яе змарыў сон. А калі прачнулася, крыўда прайшла і помнілася толькі пахвала камандзіра ды ўчарашняя радасць.

Апоўдні аб'явілі, што ноччу атрад выступае на разгром гарнізона

ў Балбеках, і ўсе заварушыліся, пачалі правяраць зброю, ладзіць боты і валёнкі. Настрой ва ўсіх стаў прыўзняты, невядомасць хуткага бою надавала бадзёрасці і адчаю. Надзя хадзіла між партызан героем. Тыя, хто ніколі не быў у Балбеках, распытвалі ў яе, што гэта за вёска, ці далёка ад яе лес, ці многа там немцаў.

Вечарам, перад самым выступленнем, разведчыкаў выклікаў Дз'ячкоў.

— Вы пойдзеце наперадзе,— сказаў ён.— Задача такая. Непрыкметна прабрацца ў вёску, закідаць гранатамі штаб і каравульнае памяшканне, узняць паніку. Па сігналу вашай ракеты з лесу падымаюцца асноўныя сілы... Для гэтага разбіваецеся на дзве групы. Яўсееў і Шамкоў...

Разведчыкі выцягнуліся «смірна».

— За вамі каравульнае. Слесарэнка і Багданава — штаб... Галоўнае — зрабіць усё хутка. Ад вас залежыць многае, а можа і ўсё. Так што не падкачайце...

Больш ён не сказаў ні слова, але чамусьці яшчэ раз уважліва агледзеў усіх і кіўнуў галавой — «усё!».

Слесарэнка няўмела ляпнуў па плячы Надзю, паспрабаваў жартаваць:

— Ну, памочнічак, усё ясна?

— Ясна! — гукнула Надзя.— Будзе выканана.

— Ну, глядзі...— Слесарэнка нахмурыўся.— Ад нас, чула, усё залежыць. Так што слухайся старэйшых...

«Зноў пачынаецца,— зморшчылася Надзя.— Зараз скажа, што я малая, што многае не разумею, што вопыту няма...» Але Слесарэнка пайшоў.

Слесарэнку ў атрадзе любілі. Быў ён чалавекам прыкметным. Амаль двухметровага росту, спакойны, чарнявы, ён быў смелы і рашучы ў баі. Перад самай вайной ён чакаў дэмабілізацыі, збіраўся на сваю родную Украіну. Але вайна перакрэсліла ўсе яго планы. Давялося з баямі адступаць, а потым, выбіраючыся з акружэння, астацца на Віцебшчыне і пайсці ў партызаны. У разведцы ён быў незамяніны, бо ў яго характары надзвычайная храбрасць шчасліва спалучалася з разважнасцю і цвярозым разлікам.

І калі шчыра прызнацца, Надзя ўзрадавалася, што іменна са Слесарэнкам, «дзядзькам Ферапонтам», як звалі яго між сабою разведчыкі, ёй давядзецца ісці ў Балбекі. З такім не прападзеш. Такога і паслухацца не грэх. І ўсё ж крыўдна, калі ён напамінае табе пра ўзрост...

Ішлі па лесе моўчкі. Неяк адразу ва ўсіх гарэзлівы настрой змяніўся задумлівасцю, засяроджанасцю. Кожны, як бы не жадаючы ўспамінаць пра хуткі бой, думаў пра свой дом, пра сяброў. І ўсё роўна потым вяртаўся да Балбекаў, да сённяшняга задання.

Слесарэнка раз-пораз, непрыкметна для Надзі паглядаў на яе. Трошкі смешна было, як яна стараецца патрапіць у яго сляды. Дзе там. Не кожны мужчына ўгоніцца за ім, а тут дзеўчанё...

Слесарэнка часта здзіўляўся Надзінай смеласці, яе спрыту. Ён, чалавек вопытны ў нялёгкай вайсковай справе, ведаў, якою цаной дабываюцца ўсе гэтыя «разведдадзеныя». Што тут было — прыродны талент ці проста ўдача? Відаць, патроху і тое, і другое...

Ноч была ціхая, марозная. З-за хмар часамі выпаўзаў месяц, і тады было светла, як днём. Гучна рыпеў снег пад нагамі.



Надзі надакучыў гэты рып, яна злавалася. І зусім ужо недарэчы быў месяц, круглы і бліскучасты, як медны гузік. Здаецца, і невялікі, а столькі святла...

Перад Балбекамі спыніліся. Дз'ячкоў падазваў разведчыкаў.

— Ну, вам пара. Мы застаёмся ў лесе. А вы падпаўзайце — і ўсё, як па плану. Не спяшайцеся, асцярожна. Не лезьце на ражон. Беражыцеся. Гранат не шкадуйце... Чакаем вашай ракеты. Чырвоную — на адыход — даю я. Сачыце... Ні пуху, ні пяра...

Надзя здзівілася, што голас у камандзіра нейкі занадта ласкавы, зусім няма ў ім строгіх нотак. Ён быццам не загадвае, а просіць ці па-сяброўску раіць.

Слесарэнка пашаптаўся з невысокім, поўным Яўсеевым, аддаў яму ракетніцу і махнуў рукой Надзі — за мною. Спачатку яны ішлі, адводзячы рукамі калючыя галіны елак, па цаліку, потым, калі засвяцілася ўзлессе, прыгнуліся, хаваючыся за кустамі. Потым папаўзлі. Надзя не спускала вачэй са Слесарэнкі, трымалася яго, не звяртаючы асаблівай увагі на астатніх. Ззаду і з бакоў чуўся шоргат і перарывістае дыханне. Наперадзе, ужо зусім блізка, была вёска. Усё бліжэй. Хаты нібы вырастаюць, павялічваюцца і робяцца няўклюднымі і непрыступнымі.

Слесарэнка спыніўся. Шэптам загадаў:

— Надзя са мной, астатнія — улева...

Нечакана ў кагосьці бразнуў затвор, і ў марознай цішыні пачуўся спалоханы голас паліцая-вартавога:

— Стой! Хто там?

Хтосьці з партызан прыўзняўся.

— Ляжаць! — злосна скамандаваў Слесарэнка.— Ляжаць!..

Вартавы ўжо больш патрабавальна паўтарыў:

— Хто там?

Грымнуў стрэл, і Надзя пачула, як мякка ўпаў на снег вартавы. «Малайчына Слесарэнка, не разгубіўся»,— падумала яна. А начальнік разведкі ўжо ўсхапіўся на ногі і, не хаваючыся, крыкнуў:

— Бягом!

Надзя сіганула следам за Слесарэнкам, на хаду адвязваючы лімонкі.

Дзядзька Ферапонт бег лёгка, трохі прыгнуўшыся, не звяртаючы ні на кога ўвагі, ні на міг не спускаючы вачэй з штаба. «Паспець! Паспець! — калацілася ў грудзях сэрца.— Не даць апамятацца». Не дабегшы да будынка, ён наўздагад паласнуў па ім з аўтамата, потым шпурнуў у чорныя вокны адну за другой дзве гранаты і адскочыў за суседнюю хату. Пачуў звон разбітага шкла, убачыў, як мільганулася Надзіна постаць, і з радасцю адчуў, як здрыганулася ад выбуху зямля. «Паспелі... Цяпер ужо будзе лягчэй... Ініцыятыва ў нашых руках».

Паласнула полымя на другім канцы вёскі, дзе павінен быў быць Яўсееў са сваімі хлопцамі, узвілася ў неба ракета. І Балбекі абудзіліся. Пачуліся крыкі. Застракаталі аўтаматы. Гахнулі яшчэ і яшчэ раз гранаты. І загрымела «ўра!».

Надзя стаяла за вуглом хаты, пільна сачыла за вуліцай. Рукі адчувалі востры халадок аўтамата, цела пачынала біць нервовая ліхаманка. «Ну, ну,— нібы падганяла яна фашыстаў і паліцаяў,— выбягайце, не сядзіце!.. Ну, хутчэй, хутчэй!..» І яны пасыпалі проста з вокан, у споднікох, разгубленыя і няўцямныя. Яны не маглі разабрацца, што тут робіцца, і стралялі абы-куды, не ведаючы, дзе свае, дзе чужыя.

Ліхаманка перастала калаціць Надзю, прыйшлі спакой і ўпэўненасць, і яна націскала, націскала на спускавы курок. «Гэта вам за Ваню, за Марусю, за Мінёра».

Да яе падбег Слесарэнка. Азіраючыся па баках, прашаптаў:

— Давай прабірацца наперад. Сачы за ракетай. Не адставай...

І пабег, прыціскаючыся да парканаў. Надзя рушыла за ім, толькі цяпер успомніўшы пра здаравілу і яго ўтульнае гняздо. Трэба не абмінуць... Яна збочыла на агароды, падалася бліжэй да канца вёскі. Хата тая стаяла. Яна гэта ясна бачыла. Стаяла вялікая, чорная, нават цяпер самазадаволеная і спакойная.

Надзя абмацала ў кішэні дзве лімонкі. Хопіць. Галоўнае, каб гаспадар не ўцёк, каб не ўпусціць яго.

І раптам Надзя стала, як укапаная. Там, на ўскрайку Балбекаў, загаварыў нямецкі кулямёт. Так, так. Яна цяпер ясна бачыла. З гарышча старэнькай, з забітымі вокнамі і пашчапанымі дзвярыма хаты біў кулямёт. Страляў па нашых. Кароткая чарга, доўгая, яшчэ кароткая, яшчэ доўгая. Надзя нават у начной цемры бачыла, як падалі партызаны. Яны ж не чакалі. Яны ж не ведалі пра гэты кулямёт.

«Што я нарабіла! Што я нарабіла!..» Надзя закусіла вусны. Як жа гэта, як жа яна зусім не звярнула ўвагі на гэтую хату? Ішла паўз яе, два разы ішла паўз яе. І нічога не заўважыла... Палічыла проста струхлелай, даўно пакінутай гаспадарамі, нікому не патрэбнай...

А кулямёт страляў. Кароткая чарга... Доўгая... Кароткая... Кароткая. Замоўк. Зноў доўгая чарга...

Надзя напрасткі кінулася да кулямёта. Бегла, не зважаючы ні на што. Яна верыла, што дабяжыць, паспее. Не можа быць, каб не паспела. Яна павінна прымусіць гэты кулямёт змоўкнуць. Не хто-небудзь іншы, а яна, толькі яна. Перад самаю хатаю яна нечакана спатыкнулася. З рук выслізнуў аўтамат. Рыўком Надзя падскочыла да хаты, з усяе сілы шпурнула адну за другой лімонкі і кінулася на зямлю.

Выбуху яна не пачула, бо нечакана пакацілася ўніз — хата, аказваецца, стаяла на ўзгорку, і яна ў спешцы не заўважыла гэта. Яна кацілася, ніяк не магла спыніцца і са страхам чакала, што вось-вось там, наверсе, зноў загрукоча кулямёт, а ў яе ўжо няма ні лімонак, ні нават аўтамата. Але кулямёт маўчаў. Да яе толькі даляцеў крык Слесарэнкі: «Надзя! Надзя!..»

Нарэшце яна спынілася, выплюнула снег, што набраўся ў рот, пачала папраўляць хустку. Ёй здалося, што на яе хтосьці глядзіць. Яна павярнулася і міжволі ўскрыкнула. Проста за яе спіной на снезе з ручным кулямётам ляжаў здаравенны рыжы немец. Відаць, ён не чакаў сустрэчы з Надзяй, не мог ніяк зразумець, адкуль яна з'явілася, і глядзеў на яе разгублена і недаўменна.

Не ад страху, а неяк інстынктыўна, па-дзіцячы, тоненькім жаласлівым галаском Надзя гукнула:

— Дзядзька Ферапонт!.. Дзя...

Немец выйшаў са здранцвення, з недарэчнай усмешкай пацягнуўся да кулямёта. І тады Надзя, як кошка, кінулася на яго, учапілася ў яго шырокі карак. Яна не думала ў гэты момант, што сілы ў іх не роўныя, што куды ёй цягацца з гэтым дужым фашыстам. Яна ведала адно — нельга даць страляць немцу, нельга дапусціць яго да кулямёта...

Немец лёгка адарваў яе рукі ад сваёй шыі, крутануў іх, ірвануў уніз. Надзя ўскрыкнула ад болю, абмякла, зажмурылася і ў адчаі зубамі ўпілася ў яго руку. Немец гучна вылаяўся і ўдарыў яе нагой



у жывот. Дзяўчынка адляцела на некалькі крокаў, адчуваючы, як ёй займае дыханне, як расплываецца па жываце цяжкі, пякучы боль. Яна скурчылася, і, здавалася, ужо ніякая сіла не дапаможа ёй выпрастацца, ужо так і застанецца яна ляжаць на снезе. Бяздумна, з абыякавай асуджанасцю, сцяўшы ад болю зубы, чакала яна стрэлу. Але немец не павярнуў кулямёт на яе. Яна ўзняла галаву і ўбачыла там, на ўзгорку, высокую постаць Слесарэнкі. Ах, вось што — фашыст збіраецца застрэліць спачатку яго...

Сама яшчэ не верачы ў свае сілы, Надзя ўскочыла, учапілася кулямётчыку ў каўнер шыняля, і ніхто цяпер не мог бы адарваць яе. Яна пачула стрэлы. Не ведала толькі, хто страляе — немец ці Слесарэнка. Хай бы Слесарэнка, хай бы паспеў...

Немец пакаціўся па снезе. Локцем правай рукі ён балюча біў яе ў бок. Біў, біў, біў. І вось прыціснуў яе да зямлі, прыдушыў. Ёй стала млосна, цёпла, і вочы засланіла нешта цёмнае, вялікае...

Ачнулася яна на каленях у Слесарэнкі. Начальнік разведкі злёгку шчыпаў яе за шчокі, прыкладаў да ілба калючы халодны снег. Яна расплюшчыла вочы, убачыла, як у тумане, знаёмы твар.

— Жывая? — нахіліўся да яе Слесарэнка.

— Ага.

Да яе памалу вярталіся сілы, з вачэй сплываў туман, дыхаць станавілася лягчэй.

— Прыдушыў, гад,— нібы апраўдваючыся, сказала Слесарэнку і папыталася: — А дзе ж ён?

— Там, дзе трэба,— усміхнуўся дзядзька Ферапонт і кіўнуў галавой трошкі ўбок. Там ляжаў забіты немец.— Атрымаў усё, што заслужыў. А я баяўся, што ён цябе прыкончыў.

Надзі ўжо зусім было добра, і яна пажартавала:

— Ну, што вы! Я жывучая, як кошка...

І тут яна заўважыла, што левая рука ў Слесарэнкі ўся ў крыві і звісае, як чужая.

— Што з вамі, дзядзька Ферапонт?

Слесарэнка паспрабаваў паварушыць параненай рукой, зморшчыўся ад болю і глуха застагнаў:

— Усё-такі паспеў, гад... Добра, што ты на яго навалілася...

— Баліць? — Надзя дакранулася да рукі камандзіра.

Слесарэнка паківаў галавой:

— Баліць, Надзя. Відаць, косць разбіла.

— Трэба перавязаць. І — да сваіх...

Яна адвярнулася, расшпіліла ватоўку, ірванула з усяе сілы падол сваёй кашулі.

— Зараз, зараз, таварыш камандзір... Пачакайце...

Але тых палосак, якія яна нарабіла, было мала. Кроў прабівалася праз павязкі. Рукаў кажуха набрыняў ёю. Слесарэнка ўсё часцей моршчыўся ад болю.

А бой тым часам ужо заціхаў, перамяшчаўся бліжэй да лесу.

Слесарэнка так-сяк заматаў руку, усцягнуў рукаў кажуха, падхапіў нямецкі ручны кулямёт, свой аўтамат перадаў Надзі і стомлена сказаў:

— Давай даганяць сваіх...

Ісці на ўзгорак было цяжка. Снег правальваўся пад нагамі. Здаровая правая рука, якой Слесарэнка трымаў кулямёт, стамлялася. Прыходзілася часта спыняцца. Узабраўшыся на ўзгорак, ён прысеў, з жахам адчуваючы, як слабее, як пачынае кружыцца галава. Гэта ўсё ад страты крыві. Боль у руцэ быў ужо не востры. Рука нібы ляжала ў

лянівым полымі. Толькі часамі на нейкіх дзве-тры хвіліны пачынала торгаць то недзе зверху, то ўнізе, а потым зноў гарэў той ціхі агонь, да якога ён ужо прывык.

Трывожыла Слесарэнку не столькі яго рана, колькі Надзя. Ён быў адказны за яе, за тое, каб зноў яна не трапіла ў небяспеку, каб шчасліва выбралася з гэтага бою. Яна ж па гарачцы, па сваёй дзіцячай нявопытнасці можа нарабіць глупства, палезе ў самае пекла, і пасля ён не даруе сабе, што не здолеў спыніць, уберагчы яе... Трэба спяшацца да сваіх.

Але праскочыць узгорак яны не паспелі. Насустрач ішлі немцы.

«Толькі гэтага не хапала!» — у думках вылаяўся Слесарэнка. Ён кінуўся ў снег, выцягнуў з кішэні гранату, зубамі вырваў чаку і, наваліўшыся на параненую руку, нязграбна размахнуўся і шпурнуў гранату перад сабою. Ён яшчэ не паспеў апусціць руку, калі наперадзе бліснула полымя і грымнуў выбух. Нехта віскліва закрычаў. І тады Слесарэнка тарганўў хуценька затвор кулямёта і сакануў чаргой туды, адкуль пачуўся крык. Побач застракатаў Надзін аўтамат.

— Да лесу! — крыкнуў камандзір разведкі.— Хутчэй!

— А вы?

Яго пачынала злаваць, што дзяўчынка не выконвае загад, задае недарэчныя пытанні, марудзіць, калі дорага кожная хвіліна.

— Я сказаў — да лесу!..

— І вы... І вы...

Надзя не магла пакінуць яго аднаго, параненага, знясіленага. Яна адчувала, што без яе дапамогі ён не дабярэцца да лесу, трапіць у рукі ворагаў.

— Мы разам,— папрасіла яна.— Разам...

І тады Слесарэнка са злосцю даў яшчэ чаргу і кінуўся з узгорка. За ім хуценька скацілася Надзя, узрадаваная, што камандзір паслухаўся яе і цяпер усю небяспеку яны будуць дзяліць на дваіх, пароўну, як і належыць баявым таварышам.

Слесарэнка ўсхапіўся, праваліваючыся ў снег, пабег да недалёкіх хмызоў. Ён ведаў, што Надзя шыбуе за ім, чуў ззаду яе цяжкае дыханне і чакаў, калі з узгорка ўдараць аўтаматы. Але вось ужо і кусты, хутка і лес, а па іх не страляюць.

Ён бег і бег. Не страх, нават не жаданне хутчэй вырвацца з-пад куль, а боязь за Надзю, за яе жыццё падганялі яго. Пот ручаямі ліўся з-пад шапкі, параненая рука, як на тую бяду, раз-пораз чаплялася за галіны дрэў, і боль высякаў з вачэй іскры, ногі ад стомы пачыналі падломвацца. Яму здаваўся дужа гарачым і цесным кажух. Але ён бег, не ведаючы толкам, куды,— толькі б наперад, у гушчар лесу. І калі задыхнуўся і ад болю і ад слабасці, упаў, падмяўшы пад сябе калючую маладую ялінку, снег таяў пад яго разгарачаным ілбом.

Падбегла Надзя і таксама ўпала побач, прагна хапаючы губамі снег. Тады ён падняўся, сеў, выцер рукавом мокры і ўжо трохі астылы твар і з жахам зразумеў, што не толькі бегчы, а і ісці далей не зможа. Выклаў ён усе сілы, што былі, без астатку, развярэдзіў рану — і ад гэтага балела не толькі рука, а і плячо, і ўвесь левы бок.

Слесарэнка прыслухаўся. Было ціха. Лес амаль не шумеў. І не было чуваць ні стрэлаў, ні крокаў. Зірнуў уверх. Неба шэрае, толькі дзе-нідзе на ім прабіваліся дробныя мігатлівыя зоркі. Справа, над вершалінамі сосен, выпаўзала на яго чырвань. Відаць, гарэлі хаты ў Балбеках...

Калі б цяпер у Слесарэнкі папыталі, колькі часу прайшло ад таго



моманту, як ён шпурнуў гранаты ў вокны нямецкага штаба, ён бы не адказаў. Здавалася, што прайшоў не адзін дзень, што бой цягнуўся доўга-доўга і беглі яны доўга. А прайшло, пэўна, не больш гадзіны. На зямлі яшчэ ноч, тая самая, у якую яны ішлі атрадам на заданне, тая самая, якая яшчэ невядома чым закончыцца.

Тое, што яны адсталі ад сваіх, начальніка разведкі не палохала. У неспакойным лясным жыцці такое здаралася не раз. Горш было другое — тое, што яго пакідаюць сілы, што побач кволая дзяўчынка. Праўда, яна добра ведае тутэйшыя мясціны, смелая. Але было б спакайней і зручней, каб побач сядзеў сталы мужчына. З ім прасцей, з ім можна, як кажуць, ісці ў адкрытую, рызыкаваць.

Надзя паднялася, падышла да Слесарэнкі.

— Ну вось, таварыш камандзір, мы і ўцяклі. А вы хацелі, каб я адна...

— Уцячы мы ўцяклі,— уздыхнуў Слесарэнка,— а вось што далей?

— Як, што далей? — здзівілася яна невясёламу настрою камандзіра.— Далей усё ясна. Сарыентавацца і дабірацца на базу атрада.

— У прынцыпе—правільна...

— Зараз агледземся, разбяромся, дзе мы, і рушым...

«Як у яе ўсё проста і ясна». Слесарэнка адчуваў, што яго хіліць у сон, што цела цяжэе, становіцца чужым.

— Зараз я пагляджу дарогу ці сцежку.

Надзя стала на ногі і здзівілася, што ў левым валёнку хлюпнула. Вада? Не можа быць. Яна сцягнула валёнак. У ім была кроў. Свіціліся дзве дзірачкі. Памацала нагу. Баліць. Разматала анучу. Рана была зусім лёгкая. Куля неглыбока, зверху зачапіла лытку. Вось толькі крыві набегла... Надзя адарвала яшчэ шкумат ад сваёй кашулі, перацягнула рану, уссунула валёнак.

— Што ў цябе там? — пацікавіўся Слесарэнка.

— Нічога, таварыш камандзір, пераабулася. Ануча закасалася, муляла...

Яна паспрабавала ісці. Можна. Нага амаль не баліць.

Прадзірацца давялося праз гушчэчу маладога ельніку. Каб не напароцца на вострыя сухія галінкі, Надзя там-сям ішла бокам, плячом прабіваючы сабе дарогу. Ішла марудна, азіраючыся. На лапах вялікіх елак ляжалі гурбы снегу. Калісьці Надзя вельмі любіла абтрасаць іх. Скінеш палкаю снег, галінка выпрастаецца, пагойдаецца трохі і застыне, зялёная-зялёная, зусім, як летам ці вясной... Цяпер было не да гэтага...

На дарогу Надзя выйшла нечакана. Уласна, гэта можа і не дарога, а так — сцяжына, па якой адзін ці два разы праехалі на санях. Відаць, недалёка вёска, бо там-сям санны след быў зацярушаны сенам, а сена тут здалёк не возяць. Стагі звычайна стаяць ці на выгане, ці на ўскрайку лесу, ці на вялікай паляне.

Надзя павярнула назад. Трэба параіцца са Слесарэнкам, вырашыць, што рабіць далей, куды ісці.

Камандзір разведкі асунуўся ў снег і, здавалася, драмаў. Надзя павалтузіла яго за плячо. Ён маўчаў. Тады яна паклікала:

— Дзядзька Ферапонт... Таварыш камандзір!

Слесарэнка маўчаў.

Надзя напалохалася. Што ж гэта такое? Зазірнула яму ў твар. Твар быў бледны і хваравіты.

— Таварыш камандзір!..

Слесарэнка цяжка падняў галаву.

— Надзя? Ты?

— Я, таварыш камандзір. Тут дарога недалёка. На Альшанікі ці на Арцюхі... Трэба ісці...

Слесарэнка трохі прыйшоў у сябе, страсянуў галавой, застагнаў.

— Вось што, Надзя... Ты ідзі... Адна. Шукай нашых... Я не магу. Сіл няма... Потым прыйдзеце па мяне. Ідзі...

Надзя бачыла, як дрэнна камандзіру, як вось-вось ён зноў упадзе ў непрытомнасць, і ў адказ толькі круціла галавой:

— Не... Не... Я без вас нікуды. Я не пакіну...

— Ідзі. Ідзі, Надзя... Я загадваю...— ён зноў застагнаў.— Я загадваю табе...

Яна не магла яго пакінуць. Пакуль яна дабярэцца да партызан, пакуль яны прыйдуць сюды, ён замерзне. Ён столькі страціў крыві. Ён не вытрывае.

Надзя абхапіла яго галаву, заплакала:

— Дзядзька Ферапонт... Не трэба... Я не магу вас пакінуць. Пойдземце, дзядзька Ферапонт, пойдземце...

Ён моўчкі падняўся, апіраючыся на яе худзенькае плячо, зрабіў некалькі крокаў.

— Ну, вось, ну, вось, бачыце,— узрадавалася Надзя.—Мы дойдзем, дойдзем...

Ён ступіў яшчэ некалькі разоў і сеў.

— Не, не магу... Ідзі адна...

Што з ёю рабіць? Як яе прымусіць кінуць яго? Яна не павінна аставацца. Раптам па іх слядах пойдуць немцы ці паліцаі. Навошта, каб гінула і яна?

— Ідзі, ідзі, Надзя...

Слесарэнка зноў страціў прытомнасць. Надзя паспрабавала падняць яго вялікае, абмяклае цела і не здолела. Тады яна вытаптала каля дарогі пад вываратнем яму, наламала яловых лапак, паклала на іх бледнага, непрытомнага Слесарэнку, так-сяк замаскіравала і вырашыла ісці шукаць дапамогі. Адна дацягнуць параненага да жытла, тым больш да базы атрада, яна не зможа. Ад стомы яе хістала, шумела ў галаве, натруджаныя пальцы зводзіла сутарга.

У лесе па-ранейшаму было ціха. Бязветраная марозная ноч усё яшчэ вісела над зямлёй. І Надзі хацелася, каб ёй не было канца, каб сёння світанне запазнілася. Трэба выратаваць Слесарэнку, трэба даставіць яго да сваіх.

Яна ішла наўздагад, ледзь перастаўляючы ногі. Здавалася, тое, што яна ідзе, ужо не залежала ад яе: проста хтосьці падпіхнуў яе і яна не магла ні прыбавіць хады, ні спыніцца, а так вось марудна пасоўваецца наперад, пакуль нехта выйдзе насустрач і спыніць яе. Час нібы замёр, нібы згубіла сваю меру адлегласць. І асталася толькі гэтая механічная, нудная хада. І яшчэ думка — паспець у вёску да раніцы, знайсці надзейных людзей.

Калі кончыўся лес, пайшлі кусты, і наперадзе зачарнелася хата, Надзя нібы ачнулася, скінула з сябе стому. Зноў зацеплілася надзея на ўдачу, прыйшла ўпэўненасць у сваіх сілах. Думка запрацавала ясна і хутка... Гэта, напэўна, Арцюхі... Яна пойдзе ў першую хату. Калі спытаюць, хто такая і адкуль, скажа, што была ў сваякоў у Балбеках, у час бою пабегла ў лес і заблудзілася. Пасля ўжо можна будзе прыглядзецца і павесці гаворку пра Слесарэнку...

Хата стаяла на водшыбе. За ёю зноў пачыналіся кусты, і толькі далей ледзьве ўгадвалася вёска. У акне расплыўчата свяціўся агеньчык, слабенькі, кволы. Ці то газоўка ледзь ліпела, ці то акно было завешана старою хусткай.





Надзя смела пашыбавала да хаты. У двары стаяў конь, упрэжаны ў лёгкі вазок. Ён сонна жаваў сена, кінутае яму пад морду. У хляве было ціха — ці то скаціна спала, ці то хлеў быў пусты. Нікога вакол не відно. Гэта насцярожыла Надзю. Кінуць аднаго каня, нават не прывязаўшы яго...

Яна асцярожна ўзышла на ганак. Дзверы ў сенцы адчынены. Пераступіла парог, прыслухалася. У хаце гаварылі. Зрабіла некалькі крокаў. Прарэзліва рыпнула маснічына. Галасы ў хаце змоўклі. Потым нехта злосна крыкнуў. Па-нямецку. Надзя спалохана застыла на месцы. Так, так, у хаце хтосьці гаварыў па-нямецку. Яна кінулася ў двор. Пераступаючы парог, зачапілася за пустое вядро. Яно гучна загрукацела. У спіну, як камень, ударыў злосны голас:

— Хто там? Што такое?!

Надзя, яшчэ сама толкам не ведаючы, што робіць, схапіла на спіне каля лейцы, ускочыла ў сані і з усяе сілы рванула каня ўлева.

— Но! — выцяла яго лейцамі, выкіроўваючы на дарогу.— Но!..

Ззаду грымнуў голас:

— Куды? Ні з месца!

Сekануў стрэл — з пісталета.

Надзя сцёбала каня, прасіла яго шэптам:

— Ну, родненькі, ну, міленькі, хутчэй... Хутчэй, даражэнькі... Хутчэй!

Сані імчалі да лесу. Іх кідала ва ўсе бакі. Конь хроп, з-пад яго

капытоў вылятаі камякі снегу. А ад хаты застракатаў аўтамат, потым другі.

Надзя кінулася ў сані, з усяе сілы трымаючыся за білы. Толькі б утрымацца... Кулі ціўкалі, здаецца, з усіх бакоў, два разы ёй у твар адляцелі трэскі ад палазоў. Вось-вось пацэляць па кані... Але пачаўся лес, стрэлы заціхлі. Немцы пабаяліся сунуцца далёка і вярнуліся.

Надзя яшчэ колькі часу ляжала ў санях, ніяк не верачы, што ўсё кончылася ўдала, што і на гэты раз шчасце не абмінула. Шанцуе ёй. Самой прыйсці ў рукі фашыстаў, можна сказаць, напрасіцца на смерць і — вырвацца, ды яшчэ з канём...

Неба над соснамі пачынала шарэць. Зорак зусім не было відно. Патрэсквалі ад марозу дрэвы. Надзя адчула холад, ухутала ногі сенам і посцілкай, якая ляжала ў перадку саней. Трэба шукаць Слесарэнку...

А лес вакол зусім незнаёмы. Здаецца, і сосны не тыя, і елкі нейкія незвычайныя, і дарога вузейшая. Надзя спалохалася. А што, калі яна не знойдзе яго? Уцякаючы ад пагоні, яна не глядзела на дарогу і, відаць, праехала ўсе тыя камлі з абадранай карой і надламаныя галіны, па якіх магла арыентавацца. Цяпер усё ёй здавалася аднолькавым і незнаёмым.

Яна спыніла каня, прывязала яго да прыдарожнай бярозы. Ёй здалося, што нехта застагнаў. Яна кінулася ў гушчар, набіраючы ў валёнкі снегу, падаючы, абдзіраючы рукі аб калючыя елкі. Але нікога там не было...

Цішыня злавала, Надзя пачынала яе ненавідзець. Здаецца, было б лепш, каб вакол стралялі, лаяліся. Толькі б пачуць чалавечы голас... У роспачы Надзя з усяе сілы гукнула:

— Эге-гей!..

Лес паслухмяна паўтарыў яе крык і замоўк, спакойны і раўнадушны.

Яна выйшла на дарогу, сумна пакрочыла да каня. І тут да яе данёсся стогн. Так, гэта не здалося. Радасна і гулка забілася сэрца. «Слесарэнка, жывы Слесарэнка!» Яна не сумнявалася, што гэта быў ён.

Слесарэнка ляжаў пад вываратнем і стагнаў. Калі яна падышла, ён усхапіўся.

— Гэта я, дзядзечка Ферапонт,— гукнула Надзя.— Багданава...

— А, Надзюша. Ты яшчэ тут? Чаму не ў атрадзе?

— Будзем, будзем у атрадзе.— Яна гаварыла з ім, нібы маці з малым, які толькі-толькі пачаў ачуньваць пасля цяжкай хваробы.— Усё будзе добра. Цяпер ужо хутка...

Ён нічога не разумеў. Няўцямна глядзеў памутнелымі вачыма на Надзю і імкнуўся стрымаць стогн. Боль, здавалася, разрываў увесь левы бок. Рукі ён ужо не адчуваў.

Надзя памагла Слесарэнку выбрацца на дарогу, пабегла па каня. Калі вярнулася з санямі, камандзір разведкі зноў быў непрытомны. Ён трызніў, клікаў некага, прасіў патронаў і паўтараў: «Абыходзяць.. Абыходзяць... Флангі, флангі глядзіце...»

Няўмела, відаць, прычыняючы яму нясцерпны боль, Надзя ўскаціла Слесарэнку на сані, паклала зручней, накрыла посцілкай, закідала сенам аўтамат. Куды ехаць, яна не ведала. Адчувала толькі, што трэба трымацца лесу, не выбіраючыся на вялікую бойкую дарогу, дзе абавязкова стаяць варожыя пасты. Лясныя сцежкі — саюзнікі партызан. З імі надзейней. Іх баяцца немцы, іх абмінаюць паліцаі.



Навокал святлела, адплывалі кудысьці ўверх апошнія прыцемкі начы, па зямлі крочыла зімняе світанне. Дарога пачала пятляць, нырнула ў хмызнякі.

На душы ў Надзі было лёгка і весела. Яна ўжо не сумнявалася, што да атрада дабярэцца своечасова, што Слесарэнка выратаваны, што яна «вязучая». Пасцёбваючы каня, яна чакала знаёмага — «Стой! Хто ідзе?» — воклічу вартавога, і палоска зары між елак здавалася ёй чырвонай стужкай на партызанскай шапцы...

## ТРЭЦЯЯ СТАРОНКА

Фама Фёдаравіч Укляя, начальнік разведкі Другой Беларускай партызанскай брыгады імя Панамарэнкі, агледзеў дыверсійную групу і пажартаваў:

— З такой кампаніяй не тое, што масты ўзрываць, але і ў сваты ехаць не страшна.

А потым пасур'ёзнеў, прыбавіў у лямпе святла і расклаў на стале карту:

— А калі гаварыць шчыра, заданне ў нас не з лёгкіх... Падыходзьце бліжэй, глядзіце... Вось гэтае скрыжаванне. Тры дарогі: на Ленінград, Вялікія Лукі, Веліж. Дарогі важныя, немцам патрэбныя пазарэз... Вось мост. Ахоўваецца немцамі і паліцаямі. Па два чалавекі на кожным баку. Мяняюцца прыкладна праз гадзіну... Вось чыгунка. Ну, а тут шаша... Задача — замініраваць і мост, і чыгунку, і шашу. Ясна?.. У чым складанасць? Па-першае, дарога бойкая, часта ходзяць машыны. Па-другое, побач вялікі гарнізон... Трэба ўсё зрабіць хутка, непрыкметна, ціха. Адна неасцярожнасць — і ўсё можа сарвацца. А заданне важнае. Для хуткай перамогі над ворагам трэба, каб дарогі гэтыя не працавалі...

Надзя слухала і спадылба аглядала дыверсійную групу. Чацвёра былі з брыгаднай разведкі і чацвёра свае, «бліноўцы» — з шостага атрада Блінова.

— Рашуча патрабую,— Укляя падкрэсліў гэтае слова,— патрабую самага строгага, самага дакладнага выканання плана. Ніякага самавольства, ніякай лішняй рызыкі. Міны, тол, запалы атрымаеце ў мяне...

Ён падышоў да Надзі:

— Ну, Багданава, чуў пра цябе шмат. Цяпер пабачу на сапраўднай партызанскай рабоце. Так сказаць, апошні экзамен на разведчыцкую сталасць. Правяраюцца вытрымка, разлік, хітрасць. Ну і яшчэ сёе-тое...

Надзя выцягнулася перад ім:

— Буду старацца, таварыш камандзір.

— Давай, давай... Напарнік у цябе харошы. Арол... Правільна, Сямёнаў?

Юра Сямёнаў зачырванеўся:

— Ну, навошта так, таварыш камандзір?

— А што? Ты ў нас хлопец на ўсе сто...

Надзя і Юра выйшлі з хаты разам.

— Дык што, спаць? — папытаўся Юра.

— Не. Усё роўна не засну,— махнула рукою Надзя.— Учора добра выспалася. Ды і не хочацца...

— А што рабіць?

— Збяру торбу сваю...
— І цяпер з торбай?
— На ўсякі выпадак. Як казаў Слесарэнка, маскіроўка плеч не намуляе.
— І то праўда.
— І маскхалат трэба трохі зашыць, а то ён у мяне распаўзаецца.
— Хто ж вінаваты, што ты растаўсцела,— засмяяўся Юрка, і Надзя з прытворнай злосцю накінулася на яго, пачала калаціць кулачкамі па спіне.
— Вось табе, во... Каб не здзекаваўся... Будзеш?
— Ну, не растаўсцела,— рагатаў Юра.— Паправілася...
Ім было весела. І ад таго, што хутка выпраўляцца ў дарогу, і ад таго, што над іх галовамі праплыло толькі па нейкіх чатырнаццаць гадоў. Вайна многаму навучыла іх, правяла праз кроў і агонь, паклала ў зямлю не аднаго іх сябра і пасеяла ў душы нянавісць, але не змагла зрабіць чэрствымі і нелюдзімымі. Холад металу, з якім яны цяпер спалі, елі, які неслі ў сваіх руках, не прабраўся ў сэрца — яно хацела і дураслівасці, і гульні.
Надзя і Юра аж заліваліся ад смеху, кідалі адзін на аднаго снегам, гатовы былі абое пакаціцца па зямлі, як двое бесклапотных медзведзянят. І партызаны, што назіралі за імі, не спынялі іх, не гналі ў хаты. Ім самім было добра на душы ад дзіцячай гарэзлівасці, ад іх звонкага і зусім мірнага рогату...
Урэшце Надзя замахала рукамі, абтрэсла снег:
— Хопіць. Падурэлі і — хопіць. Пойдзем збірацца...
І адразу сталі яны з Юрам нейкія задумлівыя і маўклівыя, нібы вецер зноў нагнаў на іх вочы дым пажарышчаў, а ў памяці ўсплылі сябры, якіх ужо не ўбачыш ніколі. Дзяцінства, як лёгкая бялюткая хмарка, адплыло, і на яго месца прыйшла будзённая заклапочанасць барацьбы з ворагам, дарослая развага і трывога...

Да дарогі паўзлі моўчкі, адзін за адным. Перад Надзяй — Юра, амаль квадратны ў сваім маскхалаце, нязграбны і нетаропкі. Дзяўчынцы карцела падагнаць яго, падпіхнуць, але строга загадана маўчаць і не спяшацца.
Каля прыдарожных кустоў Укляя спыніўся, дачакаўся ўсіх, шэптам спытаў:
— Усё ў парадку?
— Ага. Нармальна...
— Тады так: група, якая мініруе чыгунку, непрыкметна перапаўзайце дарогу і рабіце сваю справу. Як закончыце, адыходзьце, не чакаючы нікога. Месца збору вядома... Астатнія залягаюць тут...
Тры чалавекі па-пластунску падаліся ўздоўж дарогі, і праз нейкую мінуту іх ужо зусім не было відно.
— Хлопцы,— Укляя падазваў тых, што асталіся,— працуем, як дамоўлена. Я — на мосце... Багданава і Сяменаў, як толькі здымем вартавых, выбіраюцца на веліжскую шашу. Паставіце міны і — да лесу. Ні мінуты затрымкі. Калі раптам пачуеце машыны, адразу ж адыходзіць. Ясна? Ну, а цяпер—занялі пазіцыі...
Надзя і Юрка адпаўзлі трошкі ўправа. З Укляём асталіся два хлопцы з брыгаднай разведкі.
Трэба чакаць, калі прыйдзе змена вартавых. Тады і пачнецца ўсё.
Ціха. Ветру няма. Чутно, як у нейкіх сямідзесяці метрах, каля



моста, тупаюць немец і паліцай. Часам яны аб нечым перагаворваюцца, але напаўголаса, і немагчыма разабраць, аб чым. Часам стукаюць дзверы вартавой будкі — відаць, нехта ідзе пагрэцца. Надзі здаецца, што яна чуе, як цікае гадзіннік на руцэ Укляя. Ён цікае, цікае, цікае, а час паўзе марудна...
Надзя не любіць чакаць. У галаву тады лезуць розныя думкі, сумненні. Пачынаеш баяцца, ці не забыўся чаго-небудзь, ці не нарабіў памылак...
Надзя паглядзела на Юру. Ён спакойны, засяроджаны. Нібыта нічога не хвалюе яго, нібыта ўсё ён ведае наперад. Нават у цемры відны яго доўгія вейкі. «Як у дзяўчынкі,— падумала Надзя.— І вочы ў яго шэрыя, вялікія».
Недзе зарыпеў снег. Надзя сціснулася ў камячок. Гэта зменшчыкі тым, каля моста. Яны пройдуць зусім блізка, па сцежцы...
Укляя сціснуў зубы. Цяпер усё залежыць ад яго, ад яго разліку, вытрымкі. Сэрца грукае роўна, але вельмі ж гулка... Рып усё бліжэй, бліжэй. Вось ужо і постаці відны. Чамусьці толькі дзве. А дзе ж трэці? Адстаў? Прыйдзе потым?..
Крокі зусім побач. Прайшлі. Узнімаюцца на насып. Іх не вельмі строга аклікае зверху паліцай:
— Хто такія?
— Свае, свае.
— Пароль!
— Дрэздэн...
— Ну, праходзь... Доўга вы нешта сёння. Замёрзлі тут, як ваўкі.
— Нічога, пагрэецеся. Самагонкі прынеслі цэлы буталь.
— Хоць трохі пакінулі?
— Хопіць... Як у вас справы?
— Ды ўсё спакойна. Ніякай халеры няма. І машын сёння мала.
«Дзівакі! — хмыкнула, слухаючы іх гаворку, Надзя.— Так гарлаюць, што за вярсту чутно... Як быццам, акрамя іх, на свеце нікога няма...»
Паліцай і немец марудна спускаюцца з насыпу. Яны ўжо вось-вось падыдуць да кустоў.
Укляя выцягнуў з-за пазухі нож, таўхануў у бок суседа-разведчыка, пальцам паказаў яму: «Мой першы». Той кіўнуў галавой: «Ясна...» «Ну!..»
Дзве белыя цені кінуліся ад кустоў, штосьці храснула, нібы зламалася пад нагой сухая галінка, і вартавыя курчыліся ўжо на зямлі.
Укляя адцягнуў забітых са сцежкі, хуценька скінуў з сябе маскхалат, проста на ватоўку пачаў усцягваць чорны шынель паліцая. Другі разведчык апранаўся ва ўсё нямецкае.
Праз нейкіх дзесяць мінут былі зняты і вартавыя каля моста. Іх месца занялі Укляя з таварышам. Убачыўшы ля вартавой будкі іх знаёмыя постаці, Надзя і Юра подбегам кінуліся да дарогі.
Работа ў іх ішла хутка. Юра раскідаў снег, вялікім паляўнічым нажом дзёўб прамёрзлы грунт, выграбаў яго рукамі і акуратна ўкладваў міны. Надзя разраўноўвала зямлю над імі, засыпала снегам.
Усё было спакойна. Пастаўлена апошняя міна.
Надзя разагнулася, каб клікнуць Юру, і тут пачула гул машын. Ён узнік нечакана, нібы зваліўся з неба, і каціўся проста на іх, цяжкі, роўны. Відаць, ішла цэлая калона.
Надзя разгубілася, так-сяк замаскіравала міну. Юра схапіў яе за руку, кінуўся з дарогі.

— Хутчэй! Хутчэй!
Юра разумеў, што трэба хутчэй да лесу, пакуль не паказаліся машыны, не грымнулі выбухі. Ён цягнуў за руку Надзю і паўтараў: «Хутчэй! Хутчэй!»
Але праскочыць раўніну не ўдалося. Проста на іх з кустоў вынырнулі трое паліцаяў. Яшчэ нічога не разумеючы, Юра і Надзя паспешліва здзёрлі з сябе маскхалаты, засунулі іх разам з гранатамі пад шчыт з пашыны,— іх звычайна ставяць для снегазатрымання,— паправілі за плячыма торбачкі, адышлі трохі ўбок.
Паліцаі спыніліся каля іх. Адзін, высокі, няголены,— гэта відно было нават у змроку,— гаркнуў:
— Што вы тут робіце?
Надзя кінулася да яго, як да заступніка:
— Дзядзечка, ён адабраў у мяне хлеб. Мы разам хадзілі па вёсках. Яму далі бульбы, а мне хлеб. І ён забраў...
— Ноччу па вёсках? — паліцай нахіліўся над торбамі.
Юра і Надзя паслужліва вывернулі перад імі свае мяшкі. Высокі паліцай гідліва паморшчыўся, наском бота паварушыў абгарэлыя бульбіны, заплеснелыя недагрызкі, шкумат нейкай аўчыны. Ён ужо сабраўся ісці далей, кіўнуў астатнім і проста так падфутболіў мяшок. І тады з яго вылецеў брусок толу...
Цяжка сказаць, для каго гэта было большай нечаканасцю — ці для аслупянелых паліцаяў, ці для Надзі і Юры. Дзе яны забыліся выкінуць тол, як ён у іх астаўся, ніводзін не мог успомніць. Ён ляжаў на снезе, зусім невялікі, жоўты брусок, такі непатрэбны цяпер.
— Ну, ну, ну...— ачомаўся высокі.— Стойце, галубочкі! Што гэта за фокусы?
— Гэта? — Надзя хацела ўзяць тол, але паліцай не дазволіў.— Гэта ж ніткі фарбаваць. Ведаеце, у карычневы колер...
Даказаць яна не паспела. Перакрываючы цяжкі гул машын, аглушальна грымнуў выбух. З віскам праляцелі ў паветры асколкі. Надзя ўбачыла, як над мостам ускінулася яркае полымя. «Ну, вось. Заданне выканана». Запахла порахам, паленай гумай. Каля моста хтосьці прарэзліва крычаў, хтосьці лаяўся. Усчалася бязладная страляніна. Узляцелі ў ранішняе неба ракеты.
Паліцаі стаялі бледныя, напалоханыя. Высокі прыкрыкнуў:
— Трымайце гэтых галубочкаў добра! Імі толькі і апраўдаемся...— і брыдка вылаяўся.
Выбухаў больш не было — і паліцаі ўзялі Юркаву і Надзіну торбы, дуламі вінтовак выпхнулі хлопчыка і дзяўчынку наперад.
Амаль усю дарогу да вёскі яны маўчалі. Толькі няголены двойчы паабяцаў адно і тое ж:
— За ўсе гэтыя выбухі галовамі давядзецца разлічвацца. А вам, партызанскія ваўчаняты, вісець на слупе...
Юру стала жудасна ад гэтых слоў, нават не столькі ад іх саміх, колькі ад тону, якім яны былі сказаны, ад той звярынай нянавісці, што была ў ім. А да вайны ж, відаць, прыкідваўся сваім, жыў сярод тых, хто цяпер на фронце ці ў партызанах... Няўжо ён думае, што яму не адпомсцяць за ўсё, што не знойдуць яго, не паклічуць на суд? Ён жа ведае, не можа не ведаць, што пад Масквой немцам ужо далі па карку...
Уваходзячы ў вёску, высокі параіў:
— Калі хочаце трохі пажыць, галубочкі, не рыпайцеся. Выкладвайце ўсё, што ведаеце: дзе партызаны, колькі іх, якімі дарогамі



ходзяць, з кім трымаюць сувязь у вёсках. Толькі гэта выратуе.
— Мы не ведаем,— сказала Надзя.— Нічога не ведаем. Мы сіроты, пабіраемся...
Але і сама яна адчувала, што на гэты раз ніхто ёй не паверыць, што ніякія слёзы і просьбы не памогуць...
У камендатуры каржакаваты мужчына ў чорным фрэнчы выслухаў паліцаяў, пакруціў перад вачыма брусок толу, коратка загадаў:
— Разувайся! Распранайся!
Надзя не адразу здагадалася, што гэта ім, і недаўменна азірнулася.
— Вам, вам кажу, — мужчына падышоў да яе, груба рвануў з галавы хустку.— Не чакайце, каб паўтараў... Дагала!
Надзя зірнула на Юру, уся сцялася. Як гэта — дагала? Тут жа мужчыны і... Юра.
— Без фокусаў. Міны ставіць не саромеліся. Не саромцеся і распранацца. А то паможам.
Дрыжачымі рукамі Надзя скінула ватоўку, зняла валёнкі. Навошта гэта? Няўжо яны думаюць нешта знайсці ў іх?
— І хутчэй, не ў лазню прыйшлі.
Мужчына падышоў да Юры, ірвануў на ім нацельную сарочку. Яна затрашчала. Юра схапіўся за яе абедзвюма рукамі, адскочыў ад мужчыны. Той зарагатаў:
— Ваякі! Соплі не высахлі яшчэ...— І кіўнуў паліцаям: — Абшукаць...
Да Надзі накіраваўся высокі, але потым перадумаў і пайшоў да Юры. Яе абшукваў малады хлопец, гадоў дзевятнаццаці, светлавалосы, з сінімі-сінімі вачыма, якія ён увесь час хаваў. Рукі ў яго дрыжалі, калі ён абмацваў яе, расплятаў косы. «Баязлівец... Відаць, ад страху і служыць немцам пайшоў,— падумала Надзя.— А сумленне яшчэ трошкі асталося. Вочы хавае...»
На стол леглі Юркаў паляўнічы нож, сапсаваная нямецкая запальнічка, невялікі трохкутны кавалак тоўстага люстэрка і два лісты з вучнёўскага сшытка, густа спісаныя фіялетавым алоўкам. Мужчына ўхапіўся за паперы.
— Што гэта?
Хуценька прабег іх і здзекліва паківаў галавой:
— Ай-яй-яй! А яшчэ піянеры, так сказаць, будаўнікі новага грамадства... Пра Паўліка Марозава чыталі, пра Чкалава чулі. І верыце ў бога...
У руках ён трымаў два «святыя пісьмы».
Хто іх прыдумаў у час вайны, цяжка сказаць. Але хадзіла іх нямала, звычайных ліосткоў паперы з малітвамі, з замовамі ад кулі, ад агню, ад нагавору. Нічога новага і святога ў гэтых «пісьмах» не было. Проста жыла ў іх надзея на выратаванне, на ўдачу ў віхуры вайны. А словы малітвы надавалі нейкую ўрачыстасць, незвычайнасць — «Иже еси на небеси...»
Дзеля канспірацыі, каб выглядаць звычайнымі сіротамі, якія і ад неба чакаюць літасці і збавення, насілі заўсёды з сабой «святыя пісьмы» і Надзя з Юрам. Калі б папытацца ў іх, што там напісана, наўрад ці адказалі б яны, бо не надта ўчытваліся ў каракулі, якія прасілі ў бога канца вайны, хлеба, шчасця.
Мужчына ў фрэнчы ўсё яшчэ здзекаваўся:
— Пра бога ўспомнілі, нехрысці... Раней трэба было думаць. Бог, ён не цяля, бачыць круцяля. Вось вы прыкідваецеся сіроткамі, бедненькімі, а бог усё бачыць.

Ён сеў за стол, адпусціў паліцаяў, дазволіў памякчэлым голасам:

— Апранайцеся. І слухайце, што старэйшыя гавораць.

У яго чамусьці быў нядрэнны настрой.

— У школе вас вучылі лічыць, чытаць, маляваць. Гэта добра. Але вось што мазгі вам сацыялізмам зацямнялі, гэта дрэнна. Вы малыя. Вам сказалі: сацыялізм — добра, вы і паверылі. А аказалася, пшык — ваш сацыялізм... Немцы прыйшлі ратаваць нас. Ад саветаў, ад камуністаў.

Юра не стрымаўся:

— А чаго ж і беспартыйных вешаюць?

Мужчына хмыкнуў:

— Ну вось, я ж і казаў, што вы малыя, не разбіраецеся. Ёсць жа і беспартыйныя бальшавікі. Чулі пра такіх? Партыйны білет не носіць, а ў душы бальшавік.

— Дык нешта ж многа іх.

— А нічога, справімся.— Мужчына замоўк, а потым доўга не зводзіў вачэй з Юры.— Тут, хлопча, шкадаваць не даводзіцца. Лепш два лішніх забіць, чым аднаго пакінуць...

На ганку затупалі, і ён узняўся з-за стала. Увайшлі двое: нямецкі афіцэр і хударлявы, сівы мужчына ў кажушку і шапцы-кубанцы. Афіцэр нетаропка скінуў шынель, павесіў яго на вешалку, што стаяла каля стала, акуратна расчасаў не густыя ўжо валасы, штосьці сказаў свайму спадарожніку. Той выслухаў і ціхім, ласкавым голасам пераклаў:

— Пан афіцэр пытае дзяцей, як з імі абыходзіўся бургамістр.

Пытанне было нечаканае. Надзя паціснула плячыма, а Юра ўсміхнуўся:

— Добра. Нават і не чакалі такога.

Перакладчык аб нечым параіўся з афіцэрам, таксама распрануўся. Быў ён у карычневым гарнітуры, белай кашулі з чорным гальштукам, акуратненькі і падкрэслена інтэлігентны.

— Калі дзеці хочуць есці, пан афіцэр прапануе шакалад.

Надзя хацела адмовіцца, але Юра ўзяў з рук перакладчыка ладную плітку. Надзя таксама захрумсцела шакаладам. Ён быў смачны, і пахла ад яго чымсьці незнаёмым, далёкім і даўно забытым.

— Пан афіцэр просіць прабачэння, што ён вымушаны пачаць допыт, і раіць вам быць разумнымі і шчырымі. Ён не вінаваціць вас у тых дыверсіях, якія сёння ноччу былі зроблены партызанамі, і верыць, што шашка толу, якую знайшлі ў вас, трапіла да вас выпадкова. Верачы вам, ён спадзяецца, што і вы будзеце яму верыць, і просіць назваць свае імёны.

— Надзя.

— Юра.

— Першыя пытанні будуць да Юры.

Надзя з нейкай палёгкай уздыхнула. Усё ж смялей будзе адказваць пасля таварыша. Можна будзе зразумець ход яго думак, улавіць яго план.

Афіцэр штосьці гаварыў доўга-доўга, стукаючы па стале пальцамі і ўважліва гледзячы на перакладчыка. Перакладчык урэшце заківаў галавой і звярнуўся да Юры:

— Пан афіцэр хоча папярэдзіць, што многае, вельмі многае з таго, пра што цябе будуць пытаць, яму вядома. Гэта вымушаная праверка тваёй шчырасці. І трэба, каб ты адказваў прама, гаварыў усё, што ведаеш.

Уступ, такі грунтоўна і падкрэслена ветлівы, пачынаў злаваць





Юру. У душу яго кралася няўпэўненасць. Што яны прыхавалі? Не можа ж быць, каб за ветлівасцю не таілася нейкая пастка.

— Пан афіцэр хоча ведаць, дзе і калі вы бачылі партызан.

Юра задумаўся. Адказаць, што не бачыў? Не паверацъ. Каб хадзілі па вёсках і ні разу не натрапілі на партызан — такога быць не можа...

— Месяцы паўтара назад. За Усвятамі.

— За Усвятамі? — перапытаў афіцэр.— І многа?

— Не. Чалавек пяць.

— А адкуль ты ведаеш, што гэта былі партызаны?

— Мне так сказалі.

— Хто?

— Сустрэўся нейкі дзядзька, сказаў, што ў вёску наехалі партызаны, і паказаў на іх.

— А ты гэтага дзядзьку запомніў? Можаш паказаць яго, калі мы цябе павязём ва Усвяты?

У Юры загарэліся вушы. Навошта ён прыплёў дзядзьку?.. Здаецца, перастараўся...

— Я не ведаю... Было цёмна...

— А дзе размяшчаюцца партызаны? Дзе іхні штаб?

Юра закруціў галавой:

— Не ведаю.

— І не чуў?

— Не... Я не пытаўся.

Афіцэр зноў нешта доўга гаварыў перакладчыку. Той нават сёетое памячаў алоўкам у блакноціку, які выняў з кішэні пінжака.

— Пан афіцэр сумняваецца,— нарэшце пачаў ён,— што ты сказаў усю праўду. Але ён і сам ведае, што база партызан — вёска Заналючкі, а камандуе атрадам Дз'ячкоў...

Надзя ледзь не падскочыла з лаўкі. Як, яны ведаюць прозвішча камандзіра? Яны ведаюць, дзе размяшчаецца штаб брыгады? Адкуль? Няўжо нехта выдаў, няўжо сярод партызан знайшоўся здраднік?

— Пан афіцэр ведае і прозвішча камісара — Волкаў. Яму многае вядома. І ён раіць табе гаварыць усю праўду, бо хлусіць нядобра, а ты малады, і пачынаць жыццё з хлусні непрыгожа... Пан афіцэр мае спіс партызан, якімі кіруе Дз'ячкоў, план усіх партызанскіх аперацый...

«А чаму ж тады дазволілі ўзарваць мост? — сам сабе ўсміхнуўся Юра.— Шыш у вас, а не план».

— І ў спісах ёсць вашы прозвішчы...

Гэта нешта новае... Праўду ён кажа ці бярэ на пушку?

— Таму пан афіцэр не хоча рабіць выгляд, што не ведае вас, і яшчэ раз просіць адказваць на пытанні, нічога не ўтойваючы... Ён хоча спытаць у Надзі, калі яна выйшла з партызанскага атрада.

Надзя задумалася. Думала яна не пра адказ. Хіба так важна, што яна скажа? Галоўнае — ці прызнавацца, што яны партызаны?.. Яна зірнула на Юру. Ён сядзеў спакойны і сур'ёзны... Што рабіць? Ад таго, што яна скажа, будзе або добра, або дрэнна і Юру, абодвум.

— Пан афіцэр чакае адказу.

— Я... я не выходзіла.— Надзя зірнула проста ў вочы афіцэру.— Мы не партызаны, мы сіроты...

Афіцэр усміхнуўся, сказаў нешта перакладчыку.

— Пан афіцэр вельмі спачувае вам. Але нічым дапамагчы не можа, бо ён ведае, што вы партызаны.



— Мы не партызаны. Паверце,— Надзя прыціснула рукі да грудзей.— Не партызаны мы.

— Юра таксама?

Юру нічога не аставалася, як кіўнуць галавою ў знак згоды.

— Што ж, у такім разе размова закончана.

Афіцэр падняўся, пачаў апранацца. Хуценька ўсцягнуў на сябе кажушок і перакладчык. Мужчына ў фрэнчы, які ўвесь гэты час сядзеў моўчкі збоку ад стала, кінуўся праводзіць іх.

Каля парога афіцэр зноў загаварыў.

— Пан афіцэр вельмі шкадуе,— растлумачыў перакладчык,— што вы аказаліся неразумнымі дзецьмі. Як бачыце, яму ад вас нічога не патрэбна. Ён усё ведае сам і хацеў проста праверыць вашу чэснасць... Але пан афіцэр дае вам магчымасць апамятацца, усё абдумаць і напісаць усё, што вам вядома пра партызан. Бургамістр адвядзе вас у асобны пакой, дасць паперу і алоўкі, а праз гадзіну пан афіцэр зноў зойдзе да вас.

Правёўшы гасцей ажно на ганак, мужчына ў фрэнчы вярнуўся ўзрушаны, паківаў на Надзю і Юру пальцам.

— Нядобра, нядобра. З вамі, як з людзьмі, культурна, прыгожа абыходзяцца, а вы — «не ведаем, не чулі...» Са мной нават так ветліва не размаўляюць. Цаніць трэба...

Мужчына сапраўды быў у захапленні ад допыту, ад тону гаворкі нямецкага афіцэра, ад яго спакою і дасведчанасці. Хоць бы раз павысіў голас, грукнуў кулаком па стале. Не тое, што ў паліцыі: брудная лаянка, крык, пасля кожнага слова — удар.

Ён дастаў з шуфляды стала стос чыстай паперы, два алоўкі, адвёў Надзю і Юру ў бакоўку, шчыльна прычыніў за імі дзверы.

— Хоць цяпер не рабіце глупстваў. Пішыце ўсё, як на споведзі...

Надзя і Юра асталіся адны.

Юра не сумняваўся, што ўся ветлівасць нямецкага афіцэра, яго ўвага да іх — толькі тактычны ход. Глупства, што ён правярае іх, што ўсё ведае пра партызан. Калі б ведаў, дык навошта распытваць іх, навошта даваць паперу. Не, ён хоча абдурыць іх. Думае, калі малыя, дык можна заблытаць, угаварыць... Тое, што яны партызаны, ён здагадваецца. Урэшце, таго толу, які знайшлі ў іх, дастаткова, каб расстраляць іх як партызан...

Надзя ж ніяк не магла адкараскацца ад разгубленасці, якую пасеяў у яе душу афіцэр сваім упамінаннем Заналючкаў і Дз'ячкова. Што, калі і праўда гітлераўцам многае вядома — і спісы, і планы? Як дапамагчы сваім? Як папярэдзіць іх?.. А можа, партызаны падумаюць, што гэта яны з Юрам выдалі, што не вытрымалі, спалохаліся... Яна шукала выйсця і не магла знайсці. Няма праз каго паведаміць у атрад. Амаль ніякіх надзей на выратаванне...

Юра ўзяў ліст паперы, штурхнуў Надзю ў бок і напісаў: «Будзем маўчаць. Мы нічога не ведаем. Мы не партызаны. Тол знайшлі выпадкова. Што б ні было, маўчаць». Яна яму адказала: «Ясна. Буду маўчаць». І не стрымалася, запытала: «Адкуль ім вядома пра Дз'ячкова?» Юра адразу ж напісаў: «Не вер. Нейкая правакацыя. Хочуць нас абдурыць».

Надзя кіўнула галавой, на душы адразу стала весялей. Ну, вядома ж, правакацыя. Не могуць ворагі нічога ведаць пра планы партызан. Няма адкуль...

Юра старанна закрэсліў усё, што пісаў, парваў ліст на драбнюсенькія кавалачкі і схаваў іх у кішэню. Тое ж зрабіла Надзя. Цяпер ёй усё было ясна. Ніякіх сумненняў, ніякіх ваганняў.

Час ішоў паволі. За акном ужо быў дзень, ярка свяціла сонца. Промні яго прабіваліся ў пакойчык, залатымі палоскамі кла-ліся на старую шпалеру сцен.

Надзя і Юра сядзелі моўчкі. Алоўкі ляжалі на паперы. Юра паспрабаваў маляваць зайцоў, але выходзілі яны дужа падобныя на катоў, і ён паспяшаўся замазаць іх. Надзя ж намалявала рамонак — нічога іншага яна не ўмела...

Калі ў кабінеце каменданта затупалі і да іх зайшоў перакладчык, яны спакойна падняліся насустрач новым выпрабаванням, насустрач катаванням, яны гэта ведалі, да гэтага ўнутрана падрыхтаваліся.

Перакладчык забраў паперу, ветліва запрасіў:

— Калі ласка, ідзіце за мной.

Афіцэр сядзеў за сталом, акуратны, падцягнуты. Ён здзіўлена перагледзеў паперы, якія яму аддаў перакладчык, кіўнуў Надзі і Юру — сядайце. Перакладчык паслужліва стаў каля яго.

— Пан афіцэр любіць жарты і з задавальненнем прымае вашы малюнкі, хоць яны і не дужа ўмела зроблены, але вайна, на жаль, вельмі сур'ёзная і, больш таго, суровая рэч. І ён хацеў бы ад жартаў зноў перайсці да справы. Ён пытаецца, ці ўспомнілі вы што-небудзь за той час, які быў вам адведзен... Юра...

— Мне няма чаго ўспамінаць.

Афіцэр узняў бровы.

— Смелы адказ. Немцы любяць смелых людзей, калі гэта смеласць разумная... А Надзя...

— Я нічога не ведаю...

— Так... У такім разе ўлады, паведамляе вам пан афіцэр, вымушаны будуць прымяніць да вас не зусім гуманныя метады. Ён не хоча гэтага. Ён лічыць, што самы мудры і плённы метад выхавання — перакананне словам. Але...

Афіцэр яшчэ памаўчаў, чакаючы, відаць, што Юра і Надзя нешта папросяць, потым устаў і выйшаў у бакоўку. Перакладчык нахіліўся да вуха мужчыны ў френчы, штосьці зашаптаў, і Юра заўважыў, як дрыжаць яго пабялелыя вусны. «Пачынаецца»,— зразумеў ён і паспрабаваў па-заліхвацку падміргнуць Надзі, але з гэтага нічога не атрымалася, на твары застыла нейкая недарэчная грымаса, не то ўсмешка, не то выраз пакуты.

Бургамістр выйшаў і хутка вярнуўся з двума паліцаямі. Адзін аказаўся старым знаёмым — высокі, няголены, той, што арыштаваў іх.

Другі быў чырванашчокі крапак з бычынай шыяй і закасанымі рукавамі шэрага світэра. У яго чорных, з вузкім разрэзам вачах блукала нейкая ністрымная блазенская радасць. Ён стаў пасярод пакоя і выскаліўся:

— Што, гэтых? — і агледзеў з ног да галавы Надзю і Юру.

— Ага,— кіўнуў бургамістр.

Крапак падышоў да Юры, узяў яго за грудкі, падняў трохі над падлогай і, амаль не размахваючыся, з выдыхам ударыў. Хлопчык адляцеў да сцяны, гулка ўдарыўся галавой і абмяк, асеў каля парога. Увачавідкі на ілбе яго вырас гузак. З носа пайшла кроў.

Надзя рванулася да Юры, але высокі паліцай затрымаў яе:

— Спакойна. Не лезь. Чарга дойдзе і да цябе.

Надзя заплюшчыла вочы, адвярнулася, калі крапак над Юрам замахнуўся нагой. Яна пачула нейкі ватны ўдар і слабы Юраў стогн. Потым было яшчэ некалькі ўдараў, але стогну ўжо не чулася.



Схамянулася дзяўчынка ад дотыку чужой рукі. Над ёю ва ўхмылцы навіс твар высокага. Ён нешта гаварыў, але слоў Надзя не разбірала. Яна чакала ўдару, молячы самую сябе не закрычаць, не абрадаваць гэтых вылюдкаў крыкам ці слязамі.

Крапак падышоў да яе, пастаяў, але біць не стаў.

— Што, мне аднаму трэба? — адвярнуўся ён.— Хай і другія рукі запэцкаюць...

Бургамістр кіўнуў высокаму. Надзя бачыла, як у таго па-драпежніцку захадзілі жаўлакі на шчоках, як засвяціліся халодным агнём нянавісці вочы, і пачула, а не адчула першы ўдар. Ён біў яе па твары размашыста, хлёстка, і яна дзівілася, што боль быў не такі ўжо і страшэнны, як яна чакала. Сцяўшы зубы, яна спачатку лічыла ўдары, але пасля чацвёртага перад вачыма бліснула асляпляльная маланка, у вушах зазвінела, і яна марудна спаўзла на падлогу...

Юра ачнуўся сам. Аблізаў з разбітых вуснаў густую кроў, абвёў позіркам пакой. Каля стала ляжала тварам уніз Надзя. Спіной да ўсіх ля акна стаяў і курыў бургамістр. З нейкімі вінаватымі ўсмешкамі ў кутку стаялі паліцаі... Ён падняўся, трымаючыся за сцяну і здзіўляючыся, якое цяжкае яго цела і якія слабыя ногі — так і падгінаюцца. У жываце, пад самымі грудзьмі, нешта тупа ныла.

— Садзіся...

Голас у бургамістра быў хрыплы і ціхі.

— Вытрыся!

Бургамістр, не гледзячы на Юру, кінуў яму насоўку.

— І падыміце дзяўчо,— гэта ўжо да паліцаяў.

Яны кінуліся да Надзі, паднялі яе, высокі наліў з графіна ў шклянку вады і пырснуў ёй у твар. Надзя села, страсянула галавой, убачыла побач Юру.

З бакоўкі выйшлі нямецкі афіцэр і перакладчык. Афіцэр доўга, са спачуваннем, аглядаў Юру і Надзю, сеў за стол і закурыў цыгарэту. Перакладчык адразу ж пачаў перакладаць яго словы.

— Пан афіцэр кажа, што яму вельмі непрыемна бачыць такіх мілых хлопчыка і дзяўчынку пабітымі і ў крыві. Але вайна — гэта кроў і пакуты. Галоўнае, каб былі яны не дарэмнымі, каб можна было пакласці іх на алтар дабра... Тое, што вы маўчыце, неразумна. Ніякіх сакрэтаў, важных для германскай арміі, вы не ведаеце, бо вашы камандзіры іх вам проста не давяраюць. Вы — дзеці. Дзяліцца з вамі ваеннымі сакрэтамі не стане ніводзін вопытны вайсковец... І я хачу, пан афіцэр хоча ад вас, толькі аднаго — каб вы гаварылі праўду, каб вы не хлусілі перад салдатамі вялікага фюрара, каб вы зразумелі, што рызыкаваць жыццём з-за нейкіх там не вельмі важных даных няварта... Пан афіцэр спадзяецца, што цяпер вы будзеце гаварыць, і пытаецца, хто ў навакольных вёсках звязаны з партызанамі...

— Мы... Мы...— Юру было цяжка гаварыць, верхняя губа садніла.— Не ведаем мы... Не скажам...

— А Надзя?.. Неразумна браць прыклад з таварыша, калі ён робіць няправільна. Пан афіцэр кажа, што ён не патрабуе назваць усіх. Дастаткова аднаго прозвішча.

Надзя пакруціла галавой:

— Нікога не ведаю, нікога...

Афіцэр зноў падняўся з-за стала і пайшоў у бакоўку, кінуўшы на хаду некалькі фраз. Перакладчык, ужо не хаваючыся, галасна перадаў іх паліцаям:

— Пан афіцэр дазваляе прадоўжыць. Ён пачакае прыкладна паўгадзіны...

Сказана гэта было абыякава, як быццам дазволілі камусьці зайсці ў хату ці прасілі закурыць. Прадоўжыць... Надзя і Юра міжволі ўвабралі галовы ў плечы. Пакуль афіцэр угаворваў іх, яны паспелі трохі аддыхацца, апамятацца. А тут — зноў...

На гэты раз першую аклікнулі Надзю. Паліцаі павялі яе да дзвярэй. Яна ішла, думаючы, што зараз, напэўна, паставяць яе на марозе, будуць біць на двары. Але каля парога яе спынілі. Крапак узяў яе левую руку, прыадчыніў дзверы і сунуў яе пальцы паміж дзвярыма і вушаком. Надзя яшчэ не паспела зразумець, што з ёй хочуць зрабіць, як усю яе, нібы токам, скалануў боль. Яна закрычала і — спалохалася свайго крыку, закусіла ніжнюю губу. Крапак ціснуў дзверы памалу — боль нарастаў, абвастраўся.

Надзя адчувала, што пракусіла губу: у роце стала саланавата ад крыві. Сэрца пачало тахкаць з перабоямі, па целе паплыла слабасць. Пачуўся хруст. Блізкі і дужа гулкі. Яна ўскрыкнула і страціла прытомнасць. Яна не чула, як білі шомпаламі Юру, як страшэнна ўсю глотку лаяўся высокі паліцай. Не чула, як зайшлі зноў афіцэр з перакладчыкам і як крычаў бургамістр, што яму надакучыла не патрэбная нікому валтузня з малымі, што там, дзе хопіць кулі, даводзіцца траціць сілы і нервы.

На гэты раз іх ужо не саджалі на крэслы. Аблілі вадой, прыткнулі да сцяны, і, як толькі яны адкрылі вочы, перакладчык запытаўся:

— Будзеце гаварыць?

Юра пакруціў цяжкай, тлумнай ад катаванняў галавой і працадзіў скрозь зубы:

— Ні слова... Ні слова...

Надзя агледзела сваю акрываўленую руку з сінімі расплюшчанымі пальцамі. Далонь была нейкая вялікая і нібы чужая. Дзяўчынка не адчувала яе і баялася да яе дакрануцца.

Афіцэр пачаў хуценька апранацца. Ён ніяк не мог трапіць рукою ў левы рукаў, і перакладчык паслужліва дапамог яму. У афіцэра пачало нервова торгацца брыво. Ён са злосцю цёр яго і гаварыў, падкрэслена стрымана і спакойна. Перакладчык хуценька перакладаў:

— Я магу вам расказаць, што вас чакае... Я не хацеў бы быць на вашым месцы... Вы смелыя дзеці, але гэта вам не дапаможа. Мы расстраляем вас. Але не адразу. Вас будуць доўга катаваць. І тое, што было сёння, не самае горшае. Больш таго, мы дадзім магчымасць вам пераканацца, што партызанскія камандзіры зусім не такія людзі, якімі вы іх лічыце. Ваш атрад гэтай ноччу разбіты, а яго кіраўнікі здаліся ў палон. Вы іх убачыце. Яны разумнейшыя, чым вы. Яны хочуць жыць, і яны не маўчалі. Тое, чаго яны патрабавалі ад вас, яны самі не зрабілі... Вас павядуць у Мяжу, дзе знаходзяцца ўзятыя ў палон Дз'ячкоў і Волкаў, дадуць магчымасць пагаварыць з імі, а потым расстраляюць.— І каля дзвярэй спыніўся: — Вядома, калі па дарозе вы яшчэ не перадумаеце. У вас застаўся апошні шанц...

Стукнулі дзверы, болем аддаўшыся ў Надзінай руцэ, і ў пакоі павісла злавесная цішыня. Парушыў яе мужчына ў фрэнчы. Ён са смакам непрыстойна вылаяўся:

— Інтэлігенты!.. Філосафы!.. Рассусольваюць, а мы працуй... Яны — паны, а мы — чорнарабочыя...



Паліцаі аддана глядзелі яму ў вочы, і ён, ужо амаль ласкава, дазволіў ім:

— Ідзіце... Можаце добра выпіць. Толькі каб да заўтра праспаліся...

Потым, правёўшы паліцаяў за дзверы, падышоў да Надзі і Юры, нахіліўся:

— Баліць?.. Навошта ж маўчалі? Трэба было гаварыць... А цяпер вам крышка. Гэта як піць даць. Цяпер ні вам, ні нам адступаць няма куды...

Ён даў абодвум вады, Надзі кінуў бінт. Яна, уздрыгваючы ад кожнага дотыку да расплюшчаных, акрываўленых пальцаў, так-сяк перавязала іх. Юра дапамог ёй завязаць канцы бінта, падняўся. Спіна ў яго садніла. Здавалася, што нехта прыклаў да яе распалены кавалак бляхі і трымае, усё мацней прыціскаючы да скуры. Нельга паварушыць плячыма, сагнуцца.

Хутчэй бы ўжо ў дарогу... Хай бы вялі. Хай бы расстрэльвалі. Толькі б не чакаць, толькі б не сядзець, слухаючы, як па целе паўзе боль, як прысыхае да раны кашуля...

«Мяжа...» Юра памятаў гэтую вялікую вёску з прыгожым возерам, старымі прысадамі і добрымі хатамі. У Мяжы быў даволі моцны гарнізон.

«Разбілі атрад...» Юра ў гэта не верыў. Колькі разоў ужо аб'яўлялі акупанты, што лясы ачышчаны ад партызан, што ўсе камуністы схоплены і расстраляны. А сілы лясных салдат толькі раслі, іх рабілася ўсё больш і больш. У іх вось быў атрад, а зараз цэлая брыгада... Але навошта іх весці ў Мяжу? Можна ж расстраляць і тут. Навошта даваць «апошні шанц»?

Чым больш Юра думаў, тым больш расла ў сэрцы трывога, тым больш ён пачынаў губляцца ў здагадках. Чаму ў Мяжу? Можа і сапраўды кагосьці з камандзіраў схапілі? Можа і сапраўды ў фашыстаў ёсць нейкія партызанскія дакументы?..

Пра гэта ж думала і Надзя. Пакалыхваючы руку, яна адчайна шукала і не магла знайсці адказу на пытанне, навошта іх з Юрам павядуць у Мяжу. Яны ж усё роўна нічога не скажуць. Яны ўжо вытрымалі катаванні, яны пачынаюць прывыкаць да болю. Ніякімі сіламі ворагі не выцягнуць з іх прызнання... Заставалася адно: думаць, што фашысты падрыхтавалі для іх нейкі хітры «сюрпрыз». Які?..

У Мяжы Надзю і Юру паліцаі пад распіску здалі старасту. Ён не стаў асабліва цікавіцца імі, абыякава папытаўся:

— Будзеце гаварыць?

Яны адмоўна пакруцілі галовамі.

— Ну, як хочаце. Ваша справа. І нам меней тлуму...

Староста вывеў іх на вуліцу, абмінуў некалькі хат, паказаў на пахіленую будыніну — не то пуню, не то старую лазню.

— Во там пераначуеце. Праз гадзіну прынясуць паесці. На ноч паставім вартавога.

Будыніна была лазняй. Валялася круглае каменне, амаль цэлы быў высокі палок. На падлозе куча саломы.

— Тут і размяшчайцеся. Для пэўнасці я вас, вядома, замкну. Але ўцякаць няма сэнсу. Усюды нашы, а не вашы...

Староста пайшоў. Надзя і Юра пастаялі, прывыкаючы да цемры, агледзеліся, селі на салому.

Ніхто нічога не казаў ім пра разгром партызан, ніхто не запрашаў на сустрэчу з Дз'ячковым. Значыць, нямецкі афіцэр хацеў іх абхітрыць, спадзяваўся, што яны паверацъ, спалохаюцца і пачнуць гаварыць. Значыць, атрад дзейнічае, таварышы змагаюцца. І яны не падвялі іх, вытрымалі нялёгкае выпрабаванне... Гэта была радасць, вялікая, сапраўдная радасць.

Надзя прысунулася бліжэй да Юры:

— Юрка, а нашых не разбілі. Усё ў парадку.

Юра адгукнуўся:

— Ага... Не ўдалося нас абдурыць.

— Я пачынала ўжо сумнявацца. Асабліва, калі пагналі ў Мяжу.

— І я трохі спалохаўся. Думаў, а раптам...

— Пад'язджаем, я гляджу, што — калі насустрач каго-небудзь з нашых выведуць... Сэрца так і замірае...

— Галоўнае, невядома, што рабіць тады? Прызнавацца ці адмаўляцца...

— Хітра немцы прыдумалі ўсё...

— Але і мы не лыкам шыты.

Яны замоўклі. Настала сумная, цягучая цішыня.

Юра клапатліва запытаў:

— Пальцы баляць?

Дзяўчынка пакратала хворую руку, шчыра прызналася:

— Вельмі. Але самае страшнае было спачатку. Пасля ўжо лягчэй стала... Паколвае, гарыць, але трываць можна.

— А ў мяне спіна агнём палае. Уся... Як вытрымаў, дзіўлюся... Яны шомпаламі паласуюць, а я толькі аб адным думаю — маўчаць. І злосць ува мне прачнулася. Ах вы, сволачы, шапчу сабе, вы хочаце, каб я галасіў, енчыў, а я вытрымаю, ні гуку ад мяне не пачуеце...

— Ты малайчына....

— Які там малайчына? Плакаў... Схаваў галаву ў рукі, каб не бачылі, і плачу. Слёзы так і сыплюцца... Але не заўважылі...

Зноў у лазні стала ціха. Святло амаль не прабівалася праз вузенькае акенца, шчыльна забітае дошкамі. Чорныя, відаць, закопчаныя сцены толькі ўгадваліся, і лазня здавалася вялізнай і высокай.

Надзя прашаптала:

— Юрка, давай паклянёмся...

— Навошта?

— Паклянёмся, што нічога не выдадзім, нічога не скажам, што б з намі ні рабілі. І што будзем падтрымліваць адно аднаго, будзем усё-ўсё дзяліць пароўну. А калі застанемся жывыя, ніколі не расстанемся...

— Клянуся.

— І я клянуся...

— Ну вось, цяпер мы з табой звязаны клятвай.

— Мы і без клятвы не здрадзілі...

— А пасля клятвы тым больш нельга... Бачыў, як у кіно клянуцца і крывёй распісваюцца?

У Юры нясцерпна балела спіна. Ён не адказаў, лёг тварам уніз, стрымліваючы стогн.

— Мы не будзем распісвацца крывёй, але клятва наша святая. Праўда?

Надзя працягнула руку і наткнулася на спіну Юры. Хлопчык ускрыкнуў.

— Ой, даруй, Юрка. Я незнарок...

— Баліць... Я палажу...



Надзя асцярожна абклала яго саломай, села побач. Яна часта бачыла ў фільмах, як каля параненага героя заставалася сяброўка, як ласкай сваёй дапамагала гаіць раны, спявала над ім пяшчотныя і прыгожыя песні. Зараз Надзя здавалася сабе такой дзяўчынай, а Юра — смелым воінам. Ён прылёг пасля цяжкага бою, і сніцца яму атака, і рука не выпускае шаблі. А яна, таксама зморана і смелая, ахоўвае яго сон, перабірае валасы на яго ілбе і спявае... Надзя ўжо хацела пачаць песню, але перадумала, пабаялася трывожыць цішыню, ды і песень ціхіх і пяшчотных яна не ведала. У галаву ўсё прыходзілі баявыя, маршавыя, якія трэба спяваць голасна і гуртам.

Да вайны Надзя марыла стаць артысткай, здымацца ў кіно. Яна танцавала, спявала, займалася акрабатыкай і лічыла, што зможа з часам замяніць Любоў Арлову. А потым не было калі думаць пра даўнія мары, ды і сэрцам сваім яна адчувала, што нельга залішне далёка загадваць наперад, калі вакол грымяць баі, калі кожны дзень хтосьці гіне. Ды і мары сталі іншыя: добра ўзяць «языка», пайсці ў разведку ці на мініраванне, атрымаць важнае заданне...

Староста прынёс паесці — міску бульбы ў мундзірах, дзве лусты свежага аржанога хлеба. Пачакаў, пакуль Надзя і Юра са смакам уплялі ўсё, спытаў, ці холадна, параіў закапацца глыбей у салому і абыякава сказаў на развітанне:

— Калі надумаеце гаварыць, клікніце вартавога, ён побач...

Вартавога яны не клікалі. Раніцай іх вывелі на двор, пасадзілі ў сані. Староста і паліцай нават ухуталі ім ногі вялікім кажухом.

— Павязём вас у Карасёва,— сказаў староста.— Там зборны пункт арыштаваных. Гаспадараць немцы, СД...

Па тым, як было вымаўлена гэта «СД», Юра і Надзя зразумелі, што наперадзе ў іх самае цяжкае. Пра гэта сведчыла і клапатлівасць старасты, і спачувальны позірк паліцая. Ну што ж, ім чакаць палёгкі не выпадала. Літасці да партызан у фашыстаў не было ніколі, і выключэнне для іх рабіць ніхто не стане...

Спыніліся яны на ўзгорку, каля вялікай, доўгай клеці. Староста пабег да дома, які стаяў непадалёк, а паліцай астаўся пільнаваць Юру і Надзю.

Дзяўчынка агледзелася. Зусім блізка цямнеў лес. За клеццю раслі старыя ліпы. Пад узгоркам была дарога. Нікога на ёй не відаць. Каля дома, у які пайшоў староста, таўкліся нейкія людзі, стаяла грузавая нямецкая машына. Паўз клець праходзіўся вартавы.

Староста вярнуўся з мужчынам у наваксаваных хромавых ботах, галіфэ і жоўтым кажушку.

— Вось прымайце,— ён кіўнуў Юру і Надзі, каб падняліся.— Як было дамоўлена... Больш заданняў ніякіх?

— Не, едзьце.— Мужчына махнуў рукой, загадаў Юру і Надзі: — За мной!..— І, не азірнуўшыся нават, пайшоў, прыпадаючы на правую нагу.

Вартавы адчыніў рыпучыя дзверы, і мужчына ўпіхнуў іх у змрок:

— Размяшчайцеся...

У клеці было холадна. Людзі ціснуліся адзін да аднаго, каб як-небудзь сагрэцца, настаўлялі каўняры ватовак і кажухоў, засоўвалі рукі ў рукавы. Было іх многа, пераважна мужчыны. Большасць сядзелі, некалькі ляжалі, і толькі адна дзяўчына ў дальнім канцы клеці хадзіла ўзад-уперад, абхапіўшы галаву.

— Хадзіце сюды, да мяне,— запрасіў Надзю і Юру дзед з сівой барадой.— Стары ды малы — самая кампанія.

Яны падышлі. Дзед паказаў месца каля сябе.

— Не стойце. Ногі не казённыя...

Яны прыселі на старое перацёртае сена, якое даўно ўжо, відаць, нехта кінуў на намёрзлую падлогу. Дзед параіў:

— Вы зграбіце, зграбіце сянцо. Яно хоць і не дужа грэе, але з ім зацішней. І пахне лугам, летам, душу весяліць...

Надзя паслухмяна сабрала сена, зрабіла сабе і Юру нешта накшталт пасцелі.

— Як жа трапілі вы сюды? — пацікавіўся дзед.— Адкуль?

— Як і ўсе,— сумна азваўся Юра.— Арыштавалі... Прывезлі з Мяжы.

— А за што, калі не сакрэт?

— А хто іх ведае... Сіроты мы, хадзілі па вёсках, есці прасілі. А яны схапілі, пра партызан пыталі...

— Вунь яно што... Партызаны ўеліся ім у пячонкі... І што ж з вамі будзе?

— А хто ведае... Расстраляюць, мусіць...

— Ай-яй-яй! — завойкаў дзед.— Расстраляюць? Проста так, абы забіць?.. А вы прасіліся?

— Не, не прасіліся,— адказаў Юра,— і прасіцца не будзем.

— А гэта дарэмна. Хто просіць, той не галосіць... Немцы, яны, вядома, чужаніцы, але ж людзі. Не можа быць, каб сэрца не мелі... Адпусцяць вас, папрасіцеся толькі.

Надзя і Юра нічога не адказалі, і дзед замоўк, прамармытаўшы ў бараду:

— Божа, божа, што робіцца...

Арыштаваныя здалёк цікавалі за новенькімі. Ім таксама, відаць, карцела распытаць аб нечым, даведацца, што робіцца там, на волі.

Надзя ўглядалася ў твары і не ведала, ці радавацца, ці баяцца, калі раптам надарыцца хто знаёмы. Лепей усё ж, каб знаёмых не было. Ім з Юрам прасцей тады весці сваю лінію, не прызнавацца ні ў чым.

Дзед заўважыў, што Надзя азіраецца, і зноў загаварыў:

— Розныя, дзетка, людзі тут, розныя. Там вунь ляжыць мужчына, ледзь жывы — сувязны, кажуць, партызанам звесткі перадаваў. Б'юць яго не дай бог... Кожненькі дзень, кожненькі дзень... Адно толькі званне, што жывы чалавек. Дзяўчына нямецкаму салдату па мордзе дала, каб не чапіўся... Мужык недалёка сядзіць, дык ён забіў парсюка і сала схаваў, а паліцай данёс... Ну, а я, дзеткі, сам не знаю, чаго тут. Партызанам мне станавіцца сілоў няма, а язык во матляецца добра... Відаць, нешта плявузгнуў, а той, каму не трэба, пачуў, вось і сяджу. Трэці дзень ужо. Нікуды мяне не клічуць, дамоў не пушчаюць... Сяджу...

Рыпнулі дзверы, і ў квадраце святла з'явіўся мужчына ў галіфэ. Ён хвіліну пастаяў, шырока расставіўшы ногі, потым гучна паклікаў:

— Багданава!.. За мной!

Надзя ўзнялася, паспешліва сціснула далонь Юры, атрэсла з каленяў сена і пайшла, адчуваючы, як усе сочаць за ёй, як дзесяткі сумных вачэй праводзяць яе. Ці вернецца яна сюды, да сівабародага дзеда, да дзяўчыны, што застыла на месцы, да Юры? Ці ўбачыць яшчэ гэтых людзей, ці ўжо многія з іх так і не будуць ведаць, хто яна такая і за што загінула?..



Допыт вялі немцы, трое. Паліцаі засталіся ў другім пакоі, сюды нават не зайшлі. Двое немцаў былі маладыя, рослыя, а афіцэр — лысаваты, у акулярах. Каля стала афіцэра стаяў хлопец-перакладчык. Да сцяны тулілася шырокая цяжкая лаўка з прыбітымі да яе рамянямі. На табурэтках (а іх было ажно пяць) ляжалі бізуны, плёткі, нейкія жалязякі. Тапілася каля парога пліта. Было душна і змрочна. Два маленькія, закрытыя цёмнымі фіранкамі акенцы прапускалі небагата святла.

Надзю здзівіў колер лаўкі — нейкі карычняваты. І бярвенне побач запырскана карычневым.

Афіцэр выйшаў з-за стала, прапанаваў, паказаўшы на табурэтку:

— Сядайце.

Спыніўся тут жа, каля яе, пра штосьці перагаварыў з перакладчыкам і запытаў Надзю:

— Ці не надумала маладая партызанка аблягчыць сваю душу прызнаннем?

Надзя пацiснула плячыма:

— Пан афіцэр, мне няма ў чым прызнавацца. Я не партызанка.

Афіцэр сеў за стол, усміхнуўся:

— Вы любіце жартаваць. Але мы вас паклікалі не гуляць у кошкі-мышкі. Мы ведаем, што вы са сваім сябрам партызанскія разведчыкі. Між іншым, пасля ўзрыву моста, як нам данеслі, у атрад не вярнуліся іменна двое... Двое. Гэта значыць — вы.

— Не,— Надзя пакруціла галавой.— Мы не ўзрывалі мост. Мы не партызаны.

Афіцэр адкінуўся на спінку крэсла.

Да Надзі падышлі двое салдат, сарвалі ватоўку, груба заламалі рукі і кінулі яе на лаўку. Яна ледзь не закрычала ад болю, які прачнуўся ў пакалечаных пальцах, моўчкі чакала, пакуль салдаты прывязалі яе рамянямі.

— Мы паможам тое-сёе ўспомніць,— пачула яна голас перакладчыка.— Калі не камандзіра, дык маму...

Ад першых удараў плёткай Надзя ўздрыгвала ўсім целам, міжволі стагнала. Стогн сам сабою, незалежна ад яе волі і жадання, вырываўся з грудзей, і дзяўчынка злавала на сябе, гатова была праклінаць сябе за слабасць. Трэба маўчаць, маўчаць. Хай вар'яцеюць гэтыя звяры, хай бачаць, што нічога не вырвуць з яе...

Удары сыпаліся часцей і часцей, і былі яны ўсё мацнейшыя, але спіна прывыкла да іх, яны нібы і не прыбаўлялі болю. Надзя адвярнула галаву да сцяны, каб не бачыў афіцэр, як сыплецца ў яе з ілба пот, як кусае яна вусны. Яна чакала, што вось-вось страціць прытомнасць...

Нечакана салдаты адышлі ад лаўкі, падышоў афіцэр.

— Ну, а цяпер што скажаш?

О, што яна хацела яму сказаць!.. Яна хацела перш за ўсё плюнуць яму ў твар, у акуляры ў залатой аправе, у шэрыя прыжмураныя вочы. Яна хацела яму крыкнуць, што ён труп, што ён не ўцячэ ў сваю праклятую Германію, што разам з фюрарам будзе вісець на асіне, што ён нічога не даб'ецца ні ад яе, ні ад Юры, ні ад кога... Колькі яна магла яму сказаць!..

Ён чакаў адказу, і яна прашаптала:

— Я нічога не скажу... нічога не скажу...

Афіцэр схапіў бізун і пачаў біць, біць, біць. Па галаве, па плячах, па нагах, пырскаючы слінай, не выціраючы кроў, якая ад бізуна ляцела на яго твар, на яго мундзір. Ён паласаваў Надзю і тады,

калі яна абмякла ў непрытомнасці, і спыніўся, толькі знямогшыся.
Салдаты адвязалі Надзю і выкінулі яе паліцаям.

Ачнулася яна ў клеці. Галава ляжала на каленях Юры. Вакол стаяла чалавек дзесяць. Дзед трымаў ля яе вуснаў бляшанку з вадой, прасіў:

— Папі, папі, родненькая... Глыні вадзіцы...

Яна была ўкрыта сваёй ватоўкай, хусткай і яшчэ пінжаком. Першыя хвіліны пасля абуджэння ёй было лёгка і прыемна, нібы прачнулася пасля цяжкага сну і ўбачыла, што ўсё страшнае, ад чаго яна калацілася, было проста насланнё. Яна напружылася, упёрлася локцямі, паспрабавала прыўзняцца. Але боль, нібы маланкай, ударыў яе ў грудзі, і адразу перахапіла дыханне, і яна бяссільна ўпала на калені Юру. З вачэй пасыпаліся слёзы.

— Не трэба, Надзя...— прасіў Юра.— Не плач... Папі вады...

Яна некалькі разоў глынула з бляшанкі. Ад холаду зайшліся на момант зубы, у грудзях трохі сцішыўся боль.

— Што, ірады, зрабілі! Што зрабілі!..— голас у дзеда задрыжаў.— Дзіця ж горкае... Які з яе ваяка...

Надзя праз слёзы сама сабе ўсміхнулася: «Вось тут ты, дзядуля, памыляешся. Я была нядрэнным ваякам. І страляць умела не горш за іншых, і міны ставіла...»

— Божа, божа! — дзед стаў ксціцца.— Да чаго ж дайшла зямля наша...

Надзя выцерла слёзы, лягла на правы бок — так, здаецца, менш адчуваўся боль,—узяла Юраву руку і паклала сабе пад шчаку. Слабасць і звон у галаве закалыхвалі, павекі самі сабою зліпаліся. Думкі непрыкметна пераходзілі ў сон, перапляталіся з ім, і — сціралася мяжа паміж сном і явай. То Надзі здавалася, што сядзіць яна каля кастра на ўзлеску, і партызаны жартуюць, пякуць бульбу, пасмейваюцца з некага, то раптам перад самымі вачыма ўсплываў раз'юшаны твар афіцэра ў акулярах, рот яго раскрываўся і закрываўся, але яна не чула голасу і хацела ўцячы ад яго, ён гнаўся за ёю і вось-вось насцігаў, то над ёю схіляўся Юра і пытаўся ціха:

— Табе вельмі баліць? Табе што-небудзь трэба?

Што ёй трэба?.. Трэба, каб ніхто не перабіваў сон, каб было ціха і цёпла, як летам у лесе.

Аднойчы, яшчэ калі была ў дзіцячым доме, яна зайшла далёка ў лес і лягла на траву. Каля самых рук скакалі маленькія конікі, поўзалі божыя кароўкі, на пальцы ўзбіраліся жоўтыя мурашкі, а над галавой гудзеў чмель. Ён доўга кружыўся над ёю, не хацеў нікуды ляцець. Можа, яна прымяла кветку, якую ён угледзеў і на якой было многа пылку, а можа, яму спадабаўся яе чырвоны бант... У бярозах і асінах ціўкалі птушкі. Непадалёк трашчала сарока. Нясмела падала голас зязюля і замоўкла. Надзя зірнула на неба. Яно было бледна-сіняе, і па ім ціха-ціха плылі хмаркі. Яна стала ўглядацца ў іх і — убачыла, як у вышыні вырас белы конь, як марудна ён пачаў паднімаць ногі і раптам ператварыўся ў мядзведзя, а потым у гару. Яна стала выдумляць розныя гісторыі, і яе ўяўленне ляпіла з белых хмарак то бабу Ягу, то кракадзіла, то танкі. Непрыкметна Надзя заснула. Спала яна нядоўга, але здалося ёй, што цэлы дзень праляжала ў лесе і нагледзелася на мноства дзівосаў. Ніхто не заўважыў тады яе адсутнасці, ніхто не папытаўся, дзе была, і яна, як тайну, насіла ў сабе радасць лясной цішыні, казкі сіняга неба і самавітае гудзенне чмяля. Нічога асаблівага быццам і не адбылося, а ёй ажно некалькі дзён было весела і хораша на душы.





Гэтак жа хораша на душы было ў яе і пасля першага задання, на самым пачатку арганізацыі іх атрада. Не хапала зброі, і партызаны вырашылі напасці на нямецкі гарнізон, каб назапасіцца гранатамі, патронамі. Дзесятак тых шчасліўцаў, хто меў вінтоўку ці аўтамат, ішлі наперадзе. А за імі наступалі «асноўныя сілы» — з заслонкамі, патэльнямі, трашчоткамі. Яны паднялі тады такі тарарам, што немцы ўцяклі, амаль ні разу не стрэліўшы... Пералічваючы ў лагеры захопленыя трафеі, партызаны цвілі ад радасці. І Надзя, нібы на крылах, лятала між імі. Усё ў ёй спявала, дзень здаваўся самым сонечным за ўсё жыццё, а таварышы — самымі прыгожымі і ласкавымі людзьмі ў свеце. Яна нават не пакрыўдзілася, калі ёй не далі пісталета і адагналі ад гранат. Усё гэта не змяншала радасці перамогі. Першай баявой перамогі!..

Прачнулася Надзя ноччу: замярцвела рука, на якой яна ляжала. Побач пасопваў Юра. Дзеда ў цемры не было відаць.

Недзе ў канцы клеці хтосьці з прысвістам хроп. Ад гэтага храпу Надзі стала весялей. У атрадзе ў іх было некалькі «храпуноў», з якіх заўсёды пасмейваліся і з якімі ніхто не хацеў разам жыць. Неяк Надзя начавала з адным і — да раніцы не магла заснуць...

Заварочаўся Юра, узняў галаву:

— Табе лепш?

— Ага... Сніцца толькі дужа многа. Усялякае. І ўставаць балюча.

— Адпачнеш — падымешся.
— Адпачнеш тут...
— А мяне не выклікалі. Дзіўна...— Юра замоўк.
— Можа, думаюць: дзяўчынка не вытрымае... Але ты, Юрка, не бойся, я вытрываю. Я нічога не скажу. Як пакляліся.
— Я ведаю. Ты смелая...
— А што я плакала ўчора, дык гэта не ад болю і не ад страху. Крыўдна вельмі: цябе б'юць, а ты ім адплаціць не можаш...
— Адплацяць. За нас адплацяць. Не сумнявайся.
— А ўсё роўна крыўдна... Юрка, слухай, а нашы знаюць, дзе мы?
— Павінны.
— Мне немец казаў: ім данеслі, што з аперацыі не вярнулася двое партызан. Кажа, гэта — мы....
— Здагадваюцца... А нашы дакладна ведаюць...
Яны змоўклі. Кожны думаў, як бы было добра, каб іх вызвалілі, каб на выручку прыйшлі баявыя таварышы, і баяўся аб гэтым сказаць уголас, адчуваў, што наўрад ці збудуцца мары.
Раніцай паклікалі на допыт Юру. Надзя глядзела, як ён ішоў да дзвярэй, і з жахам думала, колькі пакут давядзецца яму выцерпець. Яго будуць біць не менш, чым яе, а можа — больш... Яна ўспомніла запырсканую крывёй лаўку, рамяні, бізуны. Няўжо яшчэ раз давядзецца і ёй зайсці ў гэты страшны пакой, убачыць бязлітасныя шэрыя вочы за акулярамі ў залатой аправе?..
Час цягнуўся марудна. Надзя лічыла да сотні і назад, успомніла казку пра папа і яго работніка Балду, песню пра трох танкістаў, а Юры ўсё не было. Ён усё яшчэ змагаўся. Так, змагаўся, бо цяпер іх зброяй было маўчанне. Што б ім ні пагражала, трэба маўчаць. І нават калі іх расстраляюць, перамогуць не ворагі, а яны з Юрам, бо не скажуць нічога, не выдадуць сяброў.
Прынеслі Юру непрытомнага. Двое мужчын асцярожна ўзялі яго з рук паліцаяў, паклалі на сена. Твар яго быў у крыві, вусны рассечаны. Надзя стала выціраць кроў, мачаючы ражок хусткі ў бляшанку з вадой, якую падсунуў ёй пад руку дзед. Некалькі разоў Юра варушыў вуснамі, нібы хацеў нешта сказаць, але замест гукаў з рота выцякалі кропелькі крыві.
Надзя гладзіла Юраў лоб, перабірала яго бялявыя валасы, калыхала на каленях яго галаву. Юра час ад часу спрабаваў усхапіцца, увесь выпростваўся і зноў заціхаў. Нарэшце ён расплюшчыў вочы, ціха паклікаў:
— Надзя!
— Што, Юра?.. Я тут, з табой...
— Піць...
Дзед паслужліва даў вады.
— Вось і мне папала.— Ён хацеў усміхнуцца, але нічога не атрымалася.— Пазнаёміўся...
Надзя параіла:
— Ты паляжы моўчкі... Паляжы...
Ён заплюшчыў вочы, ускінуліся і застылі яго доўгія прыгожыя вейкі. Надзя не стрымалася і дакранулася да іх самымі кончыкамі пальцаў. Юра адразу ж заварушыўся:
— Што?.. Што?..
— Спі, Юра, спі... Гэта я... проста так.
Ёй стала ніякавата. «Знайшла час»,— упікнула Надзя сама сябе. Падсеў дзед:
— Гэта брат твой?



— Не. Таварыш, сябар. Але раднейшага цяпер у мяне нікога няма.
Дзед паклаў руку на Юраў лоб, пакруціў галавой:
— Гарыць увесь... Дзе толькі сілы бяруцца! Тут і мужык не вытрымае... Той, што сувязны быў, памёр. Адмучыўся, бедалага. На тым свеце ў рай трапіць.
Юра, здаецца, супакоіўся, стаў дыхаць раўней, толькі стагнаў і часам скрыгаў зубамі. Надзя ўсё трымала яго галаву на каленях і думала, які ён надзейны сябар. Вось яму яна можа даверыць усё-ўсё — і думкі і сумненні. Яму яна можа прызнацца, калі страшна, можа папрасіць у яго парады. І не пакрыўдзіцца, калі ён папікне ці раззлуецца... А не было б вайны, не трапілі б яны ў адзін атрад, і не ведала б яна, які ён, Юра Сямёнаў. Проста быў бы каржакаваты, бялявы хлопчык, таварыш па дзетдому. Цяпер жа яна ведае, які ён смелы, мужны, які разумны разведчык... І ўсё ж, хай бы вайны не было... У дзетдоме жылося добра. Іх смачна кармілі. Кожны тыдзень паказвалі новае кіно. А колькі кніжак было ў бібліятэцы, якія цікавыя былі паходы!.. Яна цяпер абавязкова слухалася б і піянерважатую, і выхавацельніцу, ніколі не парушала б дысцыпліну...
Надзя цвёрда ў думках вырашыла, што як толькі кончыцца вайна, яна абавязкова вернецца ў свой дзетдом. Але застагнаў Юра, і стогн напомніў ёй пра суровую яву.
Дзед побач маліўся, Надзя са здзіўленнем пачула ў малітве сваё і Юрава імя. Дзед маліўся і за іх, ён і для іх прасіў збавення. «Мілы дзядуля,— усміхнулася дзяўчынка,— ты думаеш, нам нехта можа памагчы. Нам ніхто ўжо не паможа, акрамя партызан. Калі яны толькі паспеюць...»
Юра закашляўся, перавярнуўся на жывот, відаць, забалела спіна, папытаўся:
— Ты не спіш?
— Не. А што?
— Я доўга спаў?
— Не. Трошкі.
— Не стагнаў?
— Не.
— Ведаеш, яны мяне ўсё пра сувязных пыталі. І пра пасты — дзе стаяць... Я нічога не сказаў.
— Малайчына.
— Заўтра цябе зноў павядуць... Афіцэр сказаў: «Будзем мучыць па чарзе, пакуль нехта не здасца».
— Я не здамся, Юра.
— І я...
Аднекуль з цемры паявілася дзяўчына. Яна прынесла сала і нейкага зелля на паперцы.
— Выпіце. Гэта трава... лячэбная.
Надзя хацела ўсё аддаць Юру, але ён падзяліў пароўну і хлеб і зелле. Зелле было горкае, яна ледзь пракаўтнула яго. Сала смакавала, як цукар: не жавала, а смактала, каб яно даўжэй было ў роце.
Спала Надзя трывожна. Не таму, што нылі спіна і пальцы. Кожны раз, калі прахоплівалася, са страхам глядзела на дзверы — чакала світання, а за ім і паліцэйскага: «За мной!» Але прыйшло світанне, пачаўся дзень, а па яе ўсё не прыходзілі. Яна паварочвалася на кожны рып крокаў каля клеці, лавіла галасы на двары, але дзверы не расчыняліся. І ў душу прыйшла кволая надзея, што іх з Юрам пакінулі ў спакоі, што на іх забыліся.

Дзверы адчыніліся пад вечар. Той самы мужчына ў галіфэ гукнуў:

— Багданава! За мной!

Надзя з цяжкасцю паднялася. Галава закружылася, і яна пахіснулася. Дзед ускочыў, абхапіў яе за плечы, дапамог дайсці да дзвярэй, яшчэ не адпускаючы яе ад сябе, хрыпла сказаў паліцаю:

— Крыжа на вас няма. Пабаяліся б бога... Дзеці ж...

Паліцай адпіхнуў дзеда.

— Сядзі, стары, пакуль за цябе не ўзяліся. Гэтыя дзеці нарабілі столькі, што не кожны дарослы зможа... Мост яны ўзарвалі. Ясна?..

Дзед здзіўлена зірнуў на Надзю, бокам падаўся назад...

На гэты раз Надзю білі мала, яна нават пасля допыту сама дабралася да клеці, дайшла да свайго месца.

Юра трызніў і не пазнаў яе. Яна тармасіла яго, спрабавала дазнацца, як ён сябе адчувае, але дарэмна: Юра кідаўся на сене, стагнаў і штохвілі прасіў піць.

— Як толькі цябе павялі, яму стала горш,— растлумачыў дзед.— Клікаў спярша. А цяпер во зусім аслабеў.

Дзед даваў Юру вады, клаў яму на лоб мокрую анучку, ухутваў сенам.

У Надзі нібы заціх свой боль. Цяпер яна думала пра Юру, хацела дапамагчы яму. Але як? Лякарстваў ніякіх няма, урача не паклічаш. Заставалася чакаць, спадзявацца, што Юру палягчэе.

Дзед зашаптаў горача і ўсхвалявана:

— Дык гэта вы — мост?.. Чаго ж хаваецеся ад нас? Мы свае, баяцца нас не трэба...

Надзя павярнулася да яго, не ведаючы, ці прызнавацца, што яны партызаны, ці ўсё яшчэ прыкідвацца сіротамі.

— Мы сваіх ніколі ў крыўду не давалі... І вы мукі церпіце не толькі за сябе, а і за ўсіх нас...

Надзя маўчала. Каб быў зараз побач Юра, ён бы вырашыў, як быць. А без яго яна не магла. Дзед, напэўна, харошы чалавек. Але ж яны пакляліся маўчаць, нічога і нікому не гаварыць.

— Вы скажыце, чым мы можам дапамагчы вам, што зрабіць для вас?

Дзяўчынка ўздыхнула, адказала:

— Нічога не трэба, дзядуля... Не партызаны мы. Нас прымаюць за некага другога.

Дзед заціх. Адчувалася, што ён не паверыў Надзі. Можа, зразумеў, што яна не хоча, не мае права гаварыць яму праўду, а можа, пакрыўдзіўся.

Надзя асцярожна прылягла каля Юры, прыслухалася да яго цяжкага, перарывістага дыхання. Якія ўсё ж моцныя людзі!.. Іх з Юрам білі плёткамі, нагамі, білі бязлітасна, не шкадуючы, а яны ўсё жывуць. І боль, здаецца, ужо не такі востры цяпер.

Заварочаўся Юра, узняў галаву.

— Надзя!

— Я. Я, Юра...

— Вярнулася?

— Ага...

— Добра... А я во нешта захварэў. Горача і — баліць усё...

— Гарачка ў цябе. Яна пройдзе.

— Заўтра зноў мяне... возьмуць...



— Не бойся. Можа не возьмуць...

«Не возьмуць»... Як быццам Юра паверыць!..

Надзя заплюшчыла вочы, паспрабавала заснуць. У вушах звінела. Рукі і ногі здаваліся змярцвелымі. На спіне і жываце саднілі раны. Колькі іх было, Надзя не лічыла. Хіба пералічыш усе, вялікія і малыя! Яна прывыкла да іх, не звяртала на іх асаблівай увагі, ды і балелі яны менш, чым самыя першыя, быццам дзялілі між сабой боль і на кожную прыпадала не так ужо многа. Калі баліць не ў адным месцы, тады лягчэй...

Юру ўзялі з самай раніцы. Толькі прачнуліся ўсе, толькі прабіліся праз шчыліны ў дзвярах першыя праменні, як па яго прыйшлі. Ён не змог сам узняцца, і яго вывалаклі за рукі. Надзя памкнулася памагчы яму, але яе адпіхнулі.

У Надзі пачало шчымець сэрца, у галаву роем палезлі сумныя думкі. Няўжо гэта апошні іх дзень? Няўжо Юра не вернецца?

Яна ўставала, рабіла два-тры крокі, у знямозе зноў садзілася. Пачала жаваць травінку і выплюнула: трапіўся горкі палын. Падсела да дзеда, чакаючы, што той нешта раскажа, але ён маўчаў. Тады ў думках пачала лічыць. Збілася. Пачала ўсё спачатку.

Юры не было. У здранцвенні Надзя не зводзіла позірку з дзвярэй. У вачах стала рэзаць, пакаціліся слёзы, але яна глядзела і глядзела. Сама сабе загадала, што, калі Юра вернецца, усё будзе добра, яны застануцца жыць, вырвуцца з гэтага пекла... Але яго не было.

Замест Юры паказаўся паліцай.

— Дзе Юра? — кінулася да яго Надзя.— Дзе?

Паліцай чамусьці азірнуўся і адказаў ціха:

— Няма... Прыстрэлілі... Выкалалі вочы, рукі выламалі і... прыстрэлілі...

Надзя хвіліну стаяла ва ўтрапенні, потым упала на падлогу і закрычала, зарыдала. Да яе падскочыў дзед, яшчэ хтосьці. Яна сутаргава білася ў іх на руках, не хацела нікога слухаць.

Паліцай, відаць, не чакаў такога і хуценька прычыніў дзверы. Але ненадоўга. Разам з ім паявіўся мужчына ў галіфэ і з парога загадаў:

— Багданава! За мной!

Дзед ірвануўся да яго, замахнуўся сваімі худымі рукамі:

— Вы... Дзяцей мучыце! Сваіх забіваеце! Хай вас пакарае неба, хай маткі вас выракуцца...

Мужчына з усяго маху ўдарыў старога па твары, і ён адляцеў ад дзвярэй, глуха ўдарыўся аб падлогу.

Надзя выцерла слёзы, сцішылася, падышла да паліцаяў:

— Вядзіце!

Яны адступілі на некалькі крокаў, і яна, хістаючыся ад слабасці, выйшла на двор.

Колкі вецер прыемна ахаладзіў твар. Надзя азірнулася навокал. Можа ў апошні раз убачыла клець на ўзгорку, недалёкія зубцы лесу, шэрае неба.

Афіцэр, калі ўвялі Надзю, выйшаў. Вярнуўся ў шынялі і шапцы.

З Надзі сарвалі хустку, ватоўку, знялі валёнкі. Пакінулі ў адной нацельнай кашулі. Вывелі на мароз.

Яна спачатку ступала па снезе асцярожна, нібы баялася параніць ногі. На сцежцы ледзь не пакаўзнулася. Пачалі заходзіцца ад холаду пальцы ног, пяткі.

Нарэшце афіцэр спыніўся, паглядзеў на Надзю, шчыльней захутаўся ў шынель. Трошкі наводдаль спыніліся салдаты. У руках аднаго чамусьці было вядро і вялікая алюмініевая кварта.

Надзю праці́налі дрыжыкі. Нібы ў клешчы, браў мароз у свае абдымкі яе худзенькае цела. Ногі ўжо пачыналі касцянець. «Яшчэ, яшчэ пратрымацца!» — загадвала сама сабе дзяўчынка і чакала, калі ёй стане цёпла. Яна чула, што людзям, якія замярзаюць, робіцца цёпла, іх хіліць у сон. Але ёй было нясцерпна холадна. Вецер, што раптам наляцеў, нібы загнаў у цела адразу тысячу іголак.

Афіцэр кіўнуў салдатам, і яны падышлі да Надзі. Адзін схапіў яе за рукі, моцна сціснуў іх. А другі зачэрпнуў з вядра вады і стаў падымаць над ёю кварту. Цяжкая, нібы свінец, вада ўдарыла па галаве, марудна пацякла па валасах, па твары, прасочваючыся на спіну і грудзі...

Надзя плакала і ад болю і ад бяссілля, і слёзы разам з вадой пачыналі замярзаць на яе целе. Яна адчувала, як робіцца калянай, нібы з бляхі, кашуля, як пруцянеюць ногі. А па галаве біў і біў струмень вады — нібы падалі камяні. Яны хілілі і хілілі галаву на грудзі, і не было сіл падняць яе, не было сіл паварушыцца...

Ачнулася Надзя каля пліты. Афіцэр паспеў ужо распрануцца, толькі на руках яго былі чорныя скураныя пальчаткі. Ён падышоў да яе, здзекліва пацікавіўся:

— Што, холадна?

Каб нават і хацела Надзя яму адказаць, у яе на гэта не хапіла б сіл. Ды і навошта гаварыць?.. Надзя аблізала з вуснаў ваду, паварушылася. Уся яна была мокрая, нібы з галавой акунулася ў палонку. Цэлая лужына расплывалася вакол яе.

— Пасушыць?

Афіцэр кіўнуў салдатам, а сам падаўся да пліты. Надзя не бачыла, што ён там робіць, але чула бразгат жалеза і нейкае сіпенне. Салдаты ўзялі яе за рукі і высока паднялі. Яна зірнула ўніз і зажмурылася ад жаху: унізе ляжалі вялікі распалены да белага кавалак жалеза і чырвоная цэгла. Яна паспрабавала вырвацца з дужых рук і не змагла. З размаху яе паставілі на жалеза. У нос ударыў удушлівы смурод паленай скуры, нешта засвірчэла, і Надзю ахутала ліпкая, цёплая цемра.

Прытомнасць доўга не вярталася да Надзі. Не дапамагала вада, не маглі прымусіць хоць на міг уздрыгнуць яе вейкі ўдары афіцэрскага бота. Але сэрца яшчэ білася. Маленькае, знясіленае, яно не хацела здавацца. І Надзя расплюшчыла вочы. Перад ёю хісталася постаць фашыста. То ўсплываў, то прападаў твар з акулярамі. Яна так і не магла разгледзець яго. Вочы засцілала шэрая плёнка.

Афіцэр, бачачы, як яна спрабуе разгледзець яго і не можа, усміхнуўся.

— Што, як кажуць тут у вас, неба здаецца аўчынкай?..— І загадаў: — А ну, крычы: «Хайль Гітлер»!

Перад самымі вачыма Надзя ўбачыла яго акуляры і, сабраўшы астатак сіл, з нянавісцю, на якую толькі здольна было яе знявечанае цела, плюнула ў твар. Афіцэр адскочыў.

— О, руссіш швайн!.. Ты хочаш, каб я цябе біў, ты хочаш хутчэй памерці. Не, гэтага не будзе. Пакуль хоць адзін нерв будзе ў табе жыць, пакуль хоць адна жылка будзе біцца, я буду катаваць цябе. Смерць для цябе цяпер — шчасце. Я табе яго не дам...

Надзю паклалі на лаўку, прывязалі рамянямі. Яна з абыякавасцю і асуджанасцю чакала ўдараў і ўсё не магла ўцяміць, чаму з вачэй не сплывае туман, чаму яна не можа ніяк разгледзець фашыста. Ён нібы стаяў за закопчаным шклом, і яна толькі здагадвалася, што гэта ён. Вось ён набліжаецца да яе, твар яго расплываецца.



— Мы зараз выдадзім табе даведку. І заверым пячаткай...

Ён голасна зарагатаў.

Надзя пачула, як са спіны здзіраюць кашулю, як падносяць да яе нешта гарачае.

— Ты вельмі любіш зорку. Ты будзеш мець яе.

Боль, як востры нож, увайшоў у спіну, Надзя застагнала і заціхла. Яна не чула ўжо, як афіцэр старанна і бязлітасна выпальваў на яе спіне пяцікутную зорку, як няслі яе, амаль нежывую, паліцаі, як спрабавалі прывясці яе ў прытомнасць арыштаваныя. Сэрца то адчайна калацілася, ледзь не вырываючыся з грудзей, то заціхала, здавалася, назаўсёды. Але жыццё цеплілася, і над ім, як над кволым агеньчыкам, схіліліся сівы дзед, маўклівая дзяўчына з сумнымі вачыма, некалькі мужчын...

Надзя расплюшчыла вочы, няўцямным поглядам абвяла клець. Не паверыла спачатку сама сабе — няўжо больш сёння не будуць біць, няўжо пакінулі яе жывую? Вочы па-ранейшаму засцілаў туман.

Надзя паспрабавала падняцца і не змагла. Цела не слухалася, здавалася чужым. Ног яна зусім не адчувала, быццам іх проста не было. Спіна гарэла, як вялікая пасыпаная соллю рана. Надзя разумела, што вось-вось можа зноў страціць прытомнасць, і папрасіла:

— Дайце што-небудзь, каб напісаць...

— Адкуль жа ў нас будзе? — уздыхнуў дзед.

— Што-небудзь,— яшчэ раз папрасіла Надзя.—Насоўку, можа...

Дзед азірнуўся. Усе сталі хуценька шукаць у кішэнях. Дзяўчына падала шматок белага палатна. Нібы апраўдваючыся, сказала:

— А алоўка няма...

— Не трэба...— Надзя намацала пад рукою трэску, адшчапіла ад яе кавалак.

Яна вырашыла напісаць перадсмяротнае пісьмо. У тым, што заўтра яе расстраляюць, яна не сумнявалася. Здзівілася, як не памёрла сёння, на агні, на залітай крывёй лаўцы...

Куды пісаць? Каму? У атрад, партызанам. Больш няма каму. Сваякоў так і не адшукала — не было калі. А сяброў ужо не было сярод жывых. Усе загінулі. І Юра... Чарніла, аловак ёй не патрэбны. Яна напіша сваёй крывёю...

Надзя разгладзіла на далоні шматок палатна.

— Адступіцеся,— папрасіла арыштаваных, якія ўсё яшчэ стаялі вакол яе.— Мне не відно...

Ад яе адышліся, адступіліся ад святла, але яна ўсё роўна бачыла слаба. Наўздагад накрэсліла першыя словы: «Бывайце, таварышы!»

Ёй стала шкада самой сябе, на вочы навярнуліся слёзы. Паспешліва яна ляпіла літару да літары далей: «Сама я загіну. Вы іх біце, гадаў-фрыцаў, адпомсціце за нас».

У душу памалу прыходзіў спакой. Надзя нібы гаварыла з таварышамі: «Смерць не страшная. Не ўдалося нічога дабіцца ад нас». І падпісала: «1942 г. Багданава Н.»

Адчуваючы, як па целе расплываецца млоснасць, як слабеюць рукі, Надзя падазвала дзеда, перадала яму пісьмо:

— Схавайце, дзядуля. Прыйдуць партызаны, знойдуць...

— Добра, добра,— замітусіўся дзед.— Ты не сумнявайся. Я схаваю.

Галава ў Надзі закружылася, ёй здалося, што яна памалу адрываецца ад зямлі, падымаецца кудысьці ўверх. Зазвінела ў вушах. І яна зноў страціла прытомнасць.

Апамяталася няскора і — здзівілася цішыні. Паклікала:

— Дзядуля!.. Дзядуля...

Ён адразу ж адгукнуўся зусім побач.

— Што гэта, дзядуля? Чаму так ціха?

— Уцяклі ўсе, дзетка.

— Як — уцяклі?

— Узламалі падлогу, выкапалі яму пад клеццю і ўцяклі. Хацелі і нас забраць з сабой...

— Калі?

— Нядаўна.

— А чаму ж ты, дзядуля?

— Хто ведае, дзе лепей — тут ці там...

— Там жа воля, свае.

— Ты адна... Хворая...

Надзя паварушыла рукой, перавярнулася на бок.

— Дзядуля, а дзе лаз?

— Што?

— Ну... Куды лезці, дзірка тая...

— Ёсць, дзетка, ёсць. Хто ж яго будзе закрываць... Ёсць...

— Памажы мне, дзядуля... Туды...

Дзед здзіўлена ўсклікнуў:

— Што ты, родненькая! У цябе ж сіл, як у камара... Замерзнеш...

— Памажы, дзядуля...

— Астанемся лепш. Прыйдуць немцы, убачаць, што ўсе ўцяклі, а мы засталіся, і зразумеюць: не вінаваты мы, адпусцяць нас.

— Не, я не астануся. Ты не ведаеш немцаў, дзядуля... Дапамажы...

Дзед перахрысціўся, асцярожна падняў яе. Яна ледзь перастаўляла ногі.

— Ну, дзе ж ты ўцячэш такая? — уздыхнуў стары.— Ты вунь ступіць кроку не можаш...

Надзя закусіла вусны, прымушала сябе ісці. Толькі так можна ўратавацца. Толькі там, на волі, можна спадзявацца на нешта. Толькі там...

Яна абмацала рукамі лаз, папрасіла дзеда:

— Падпіхні...

Не зважаючы на боль, праціснулася пад сцяной, заграбаючы снег, валакла і валакла далей ад клеці сваё цяжкае, непаслухмянае цела. Сілы пакідалі яе, ззаду заставаўся крывавы след, але сантыметр за сантыметрам яна шкрэблася наперад. Дапаўзці б да нейкай хаты, натрапіць на людзей. Далей ад клеці, далей ад пекла, якое яшчэ смыліць у ёй, успамінам скаланае сэрца. Толькі наперад. І не спыняцца. Ні на міг...

Надзю знайшлі ў гурбе снегу непадалёк ад клеці. Яна і непрытомная спрабавала паўзці. Калі яе паднялі на рукі Іван Лахмотка і Аляксандр Шамкоў, ім здалося, што яна ўжо нежывая.

— Спазніліся,— з горыччу вымавіў Шамкоў.— Няўжо спазніліся?.. Надзя! Надзя!



Дзяўчынка маўчала.

У Заналючках Надзю, як маглі, перавязалі, прамылі ёй раны, паклалі на мяккі ложак. У хату поўна набілася людзей — партызаны, вясковыя жанчыны. Прыйшоў пахмуры Скуматаў, незадаволена адагнаў ад ложка жанчын:

— Чаго сабраліся, як каля нябожчыцы! Ёй спакой патрэбен...

Начальнік штаба доўга глядзеў у твар Надзі, гладзіў яе забінтаваныя рукі. Ён і сам не надта верыў, што дзяўчынка выжыве. Фашысты, здаецца, не пакінулі ёй ніякіх надзей на жыццё... Як толькі вытрымала ўсё гэтае дзіця! Якая мужнасць, якая сіла жыве ў яе слабым, знявечаным целе!

Скуматаў паклікаў гаспадыню:

— Таварыш Шаронак!.. Вы не зводзьце з яе вачэй...

— Гляджу, Іван Сцяпанавіч, гляджу.

— Што трэба будзе, кажыце. Дапаможам. Толькі б на папраўку пайшла...

Скуматаў падняўся, уздыхнуў: успомніліся словы партызанскага ўрача: «Толькі на цуд можна спадзявацца». На цуд... Ён не так ужо часта здараецца на зямлі. Але ж хацелася б, каб ён здарыўся, каб паднялася на ногі вясёлая, няўрымслівая Надзя.

Ішлі дні, а прыкметнага паляпшэння ў здароўі дзяўчынкі не наступала. Яна па-ранейшаму слаба бачыла (разышліся зрэнкі), не магла паварушыць нагамі. Раны на спіне зажывалі марудна. Над яе схуднелым тварам усё яшчэ вісела чорнае крыло смерці.

А тут пачалася блакада. Фашысты кінулі вялізныя сілы на знішчэнне партызан, палілі вёскі, забівалі ўсіх, хто быў звязаны з народнымі мсціўцамі. Дабраліся яны і да Заналючкаў...

Заналючкі апусцелі.

Надзя засталася адна ў напаленай хаце, схаваная за печкаю. Недзе за вёскаю грукацеў бой. Па вуліцы часамі праносіліся коні.

Цяпер усё залежала толькі ад лёсу. «Калі суджана жыць, не загіну,— сама сябе падбадзёрвала Надзя.— Столькі разоў уцякала ад смерці, уцяку і цяпер». Але неспакой нарастаў з кожнай хвілінай. Нязвычна было без людзей, без жартаў разведчыкаў, без клапатлівых рук жанчын. Хоць бы кот які цёрся каля рук...

Немцы прыйшлі ўранні. Спачатку Надзя пачула гул матораў, потым — гучныя каманды. А потым груканулі ў дзверы. Яна стаілася пад коўдрай, і сэрца затахкала часта-часта. Не страх, а невядомасць і трывога затуманілі свядомасць.

Загрымела ў сенцах. Нехта вылаяўся па-нямецку. Рыпнулі дзверы. Хтосьці мякка пераступіў парог. Надзя чула яго перарывістае дыханне. Стаіць ля парога. І вось мяккія крокі набліжаюцца да яе. Сабака... Ён тыцнуўся носам у коўдру ля яе ног і тоненька заскавытаў. Загрукацелі салдацкія боты. З-за печы выглянуў фашыст. Ірвануў з яе коўдру. І тут жа адскочыў — у нос, відаць, ударыў цяжкі пах гною.

— Кранк!.. Кранк!.. — спалохана крыкнуў ён камусьці і падпіхнуў сабаку да выхаду.

Надзя чакала стрэлу. Але ляснулі дзверы, прарыпелі пад акном крокі, і ўсё сціхла. «Мінулася... Пранесла...» Яна не магла паверыць такому нечаканаму, такому вялікаму шчасцю. Ад хвалявання на ілбе буйна высыпаў пот. У грудзях усё яшчэ перарывалася дыханне. Няўжо — выжыла?.. Яна прыслухалася. Стрэлаў не было чуваць. Але нарастаў, шырыўся нейкі шум і трэск. На вуліцы штосьці глуха і роўна гуло. Толькі калі ў хату прабіўся горкі дым, Надзя зразуме-

ла: гараць Заналючкі. Пажар ужо бушаваў на ўсю сілу. Надзя чула, як абвальваліся стрэхі, яна нават, здавалася, на сваіх ранах адчувала блізкую гарачыню. Полымя скакала каля самых вокан, пачынала лізаць сцены. «Ну, вось цяпер — усё...— падумала Надзя.— Цяпер ужо не выкручуся...»

...Цяжка сказаць, хто яго паставіў, гэты невысокі слупок на Карасёўскім могільніку, над грудком, пад якім пахавалі Юру Сямёнава. Можа партызаны, а можа хтосьці з мясцовых сялян. Ён быў відзён здалёк — з самаробнаю зоркаю наверсе, свежы паміж даўніх, пачарнелых крыжоў. Над ім схіляліся маладыя бярозкі і шумелі гонкія сосны, нібы паўтаралі просценькі надпіс, накрэслены чыёйсьці рукой: «Вечная слава юным героям Багданавай Н. А., Сямёнаву Ю. І.»

Плылі па высокім небе белыя лёгкія воблакі. Заліваліся ўгары бесклапотныя жаўранкі. І было на зямлі ціха-ціха, ажно чуваць стракатанне конікаў і гудзенне чмялёў, і не верылася, што яшчэ не кончылася вайна і недзе грукаталі выбухі і паміралі салдаты...

Каля дарогі дзяўчынка, толькі гады на два маладзейшая за Надзю і Юру, ганялася за вялікім прыгожым матылём. І худзенькі твар яе свяціўся дзіцячай радасцю...

●●● ———

Вялікая Айчынная вайна нарадзіла шмат легенд аб чалавечай стойкасці і мужнасці, аб вернасці клятве і суровай ваеннай дружбе. Многія, вельмі многія з іх заканчваюцца трагічна, абрываюцца нечакана, і — стаяць над імі абеліскі, маўчаць надмагільныя пліты...

У легенды, старонкі якой я вам расказаў, шчаслівы працяг. Надзя Багданава не загінула. Яна — цяпер ужо Надзея Аляксандраўна — жыве.

Вёска Заналючкі згарэла, але не ўся. Засталося тры хаты, і ў адной з іх ляжала юная разведчыца. Доўгімі днямі і начамі вырывалі яе з кіпцюроў смерці, выхаджвалі простыя беларускія жанчыны Лідзія Шаронак і Тацяна Самакалёва. І паставілі яе на ногі. У адэскай клініцы імя Філатава дзяўчынцы вярнулі (праўда, не зусім) зрок. Не забыў пра яе Іван Сцяпанавіч Скуматаў, адшукаў, дапамог уладзіцца на работу. І Надзя Багданава зноў вярнулася ў строй. Сустрэла яна негаваркога, душэўнага хлопца Дзмітрыя Краўцова, які стаў мужам, які дзяліў з ёй усе і радасці і нягоды.

Ішлі гады, наладжвалася жыццё, падрасталі дзеці Надзеі Аляксандраўны. І зусім выпадкова даведалася яна аднойчы, што стаіць ёй з Юрам Сямёнавым помнік, што знойдзена запіска, якую яна крывёю напісала ў страшныя лютаўскія дні 1942 года.

Пра подзвігі юнай разведчыцы расказала беларускае радыё, пазнаёміў з імі савецкіх тэлегледачоў Сяргей Сяргеевіч Смірноў. Тысячы пісем з усіх куткоў нашай Радзімы пасыпаліся ў Віцебск, дзе жыве Багданава, многія без дакладнага адрасу, проста: «Віцебск, слаўнай партызанцы», «Віцебск, гераіні Вялікай Айчыннай вайны», «Віцебск, храбрай дзяўчынцы — разведчыцы...» Яе імя прысвойваюць піянерскім атрадам, на яе жыцці вучацца адданасці Айчыне...

Высока ацаніў баявыя справы Надзі Багданавай наш савецкі ўрад. Яна ўзнагароджана ордэнам Баявога Чырвонага Сцягу, ёй прызначана персанальная пенсія...





Н. А. Багданава з дачкой Галяй.

Часта непакояць Надзею Аляксандраўну старыя раны, часта ўспамінаюцца паўшыя сябры, камандзіры, якіх ужо няма сярод жывых (не так даўно памёрлі камісар брыгады Волкаў, начальнік штаба брыгады Скуматаў). Баліць тады сэрца, сумам туманяцца вочы. І ўсё ж рэдка можна сустрэць чалавека такой энергіі і жыццялюбнасці, як яна. Амаль штодзень яе запрашаюць на сустрэчы, і яна не адмаўляецца. Штодзень прыходзяць дзесяткі пісем, і яна адказвае на іх. Да клопатаў аб сваіх чацвярых дзецях прыбавіліся клопаты пра дзяцей хворай Тацяны Самакалёвай, той самай, якая калісьці даглядала яе. Выхоўвае яна яшчэ і Наташу Логвінаву, якая засталася без бацькоў і жыццё якой хацелі пакалечыць адурманеныя рэлігіяй сваякі...

У Віцебску, на вуліцы Праўды, жыве яна, былая партызанская разведчыца, простая беларуская жанчына, чалавек з легенды...



## ПАЭЗІЯ





### Мікола ПАНАСЮК



●

Калі праменнем
сонца росы ліжа
І спіны хваль у рэчцы серабрыць,
Калі па лісцях вербаў,
стромкіх вішань
Лагодны ветрык раптам прабяжыць,
Калі мелодыю
змагу пачуць я
Галін бярозавых,
калоссяў вострых,
Я зноўку захлынаюся
пачуццямі
І ў той жа час плыву на дзіўны востраў.
Яго Паэзіяй назвалі людзі...
Вясною звонкай,
рэхам даляў
Ад сну ён думкі,
як будзільнік, будзіць,
Каб людзям без астатку іх аддаў я.



Бываюць рукі,
як свінцом налітыя,
Калі узняць іх не хапае сілы...
Казалі хлопцы:
— Ну вазьмі ты іх
Ды гулка бразні па ствале асіны...
А я нямы стаяў над мокрай купінай,
Лічыў секунды выбухамі сэрца:
З-пад тоненькай,
патрэсканай шкарлупіны
Са светам прагла птушаня сустрэцца.



*На Палессі, дзе блакітнай стужкай сярод бярэзнікаў і зялёнага пажару аселіц віецца Днепра-Бугскі канал, прашумела маё пасляваеннае дзяцінства. Яшчэ і цяпер прыпамінаю, як у спёку захопліваў абярэмак духмянага сена і закладаў адонак стажарні, каб заслужыць у бацькі-весялуна: «Малайчына, Колька!»*

*З пятага класа пісаў у газеты. А пасля школы здзейснілася першая мара: залічылі карэктарам у штат суседняй Іванаўскай райгазеты. Ой, крэсліў мае «працы» Аляксей Трафімавіч Каўко, нашанскі рэдактар! Прынцыповы, але чулы і добры дзядзька. Ён жа, бы кволае дрэўца, узрасціў мяне да літработніка, потым да загадчыка аддзела. Потым, «выгадаванага», адпусціў на Драгічыншчыну. Кажа, птушку не стрымаеш, калі ў вырай на радзіму прагне. Так і працую з таго часу ў сваёй раёнцы «Запаветы Леніна», на трэцім курсе аддзялення журналістыкі ва ўніверсітэце займаюся завочна.*

*Мікола ПАНАСЮК.*

## ПАЭЗІЯ





### Яўген ШАБАН



●

Там дзяўчынка,
як сцяблінка,
як заранка,—
нарачоная мая
нарачанка.
Мне яна яшчэ маленькай
запомнілася,
калі, ціхім захапленнем
перапоўненая,
над парванаю хусцінкай
чаравала:

вышывала яе,
цыравала...
У тым прызнацца не хацеў я
анікому,
на дзяўчынку ж глядзеў,
як на ікону.

А гады ляцелі чайкамі,
ляцелі...
Ракавінкі пад нагамі
храбусцелі...
Помняць толькі
нарачанскія пярэспы,
як дзяўчына
у сукеначцы пярэстай
вечарамі прыбягала
на спатканні
і са мною сустракала
світанні.

Знаюць толькі
хвалі Нарачы і човен,
як мне стала нарачанка
нарачонай.

●●

*Зноў прыйшла ты, хвароба-разбойніца,*
*Б'е у скроні цяжкая кроў...*
*П. ПАНЧАНКА.*

Ты была ад мяне недалёка.
Нават побач.
Зусім ужо блізка...
Раніцою
певень галёкаў.
Па начах
твой ліхтарык бліскаў.
Ты цяпер
ў трыдзесятым недзе:
да цябе не знайсці мне сцежкі...
І ніхто не пакліча:
—Паедзем
ў трыдзесятае!
І не суцешыць.
Не падніме ніхто з пасцелі,
не прылашчыць,
не падтрымае.
Толькі цені
паўзуць па сценах
ад хваробы,
нянькі трывалай...
Супакойся ж, сэрца,
не грукай,
дай хоць раз
уздыхнуць з палёгкай...
Я хачу
адчуць яе рукі
і паслухаць,
як Нарач пялёхкае.

Больш —
нічога.

●●●

Не дастаць да цябе:
ты — нібы аблачынка.
Не ўтрымаць мне цябе:
ты — нібыта сняжынка.
Ты мне зоркаю свеціш,
ды далёкай,
я ж ведаю...
Ты — мой сон самы светлы.
Прачынацца —
трагедыя.

●●●●

Сэрца бомамі звоніць.
Чуеце?
Трапіў я
у краіну пачуццяў.
Я тры ночы ўжо
сноў не сню,
я тры ночы па вуліцах
споўдаюся.

Мне не верыцца.
Мне не верыцца!
Я не думаў,
што гэта вернецца,
і цяпер,
ахмялёны радасцю,
я хаджу
і згараю ад зайздрасці.
Сам сабе я зайздрошчу жахліва:
нельга ж быць
вось такім шчаслівым!

Я
кахаю!



ПРОЗА



● Анатоль СІДАРЭВІЧ

● Мал. А. КАШКУРЭВІЧА

# СЦІШАНАСЦЬ

Апавяданне



тась паслабіў лейцы, і конь сцішыў хаду. Пачаўся бярозавы гай. Бярозы, бярозы, бярозы... Аж баліць уваччу... І раптам Стасю падалося, што нехта перабег дарогу...

... Гэта была згадка пра першае каханне. «Пра гэта нельга забываць ніколі»,—падумаў Стась.

## 1

Параход, апошні раз моцна раўнуўшы, падышоў да рачнога вакзала. Падалі трап. Натоўп рушыў да выхаду. Апошнімі сходзілі яны. Ішлі, нібы нехаця, ён і яна. Ён невысокага росту белавалосы юнак з крыху аскетычным прадаўгаватым тварам, у сіняй кашулі і светлых штанах. Да кашулі надзвычай пасаваў белы гальштук. Яна была ледзь-ледзь ніжэйшая за яго. Таксама бялявая. У кароценькай сукенцы, з распушчаныміваласамі. Яна была нават крыху падобная да яго. Яны быццам не хацелі сыходзіць з парахода. Прайшлі па вузкім, асветленым адной-адзінаю лямпачкай калідоры вакзала і па трапе падняліся на бераг.

Увесь час яны трымаліся за рукі. І людзі часта аглядаліся на іх. Прыглядваліся.

Там, недзе за горадам, заходзіла сонца. Адсюль быў відзён кавалак пунсовага неба.

— Куды пойдзем, Стасік? — спытала яна.



— Не ведаю. Давай паходзім па набярэжнай...

Народу было густа. Яны ледзь «выкраілі» сабе месца ля парапета і пачалі глядзець уніз. Ён трымаў яе рукі ў сваіх і цалаваў...

— Не трэба...— сказала яна.

І ён перастаў. Хацеў закурыць, але не было цыгарэт.

— Зіта,— сказаў ён,— я пайду пашукаю... Пачакай мяне тут.

— Добра,— адказала яна.

У буфеце-паплаўку былі толькі папяросы. І ён пабег да кіёска, які ўсе тут называлі: «Для будучых тапельцаў». Там быў толькі «гродзенскі фільтр», і Стась узяў два пачкі.

Калі вярнуўся да парапета, Зіты там не было. Ён пашукаў яе вачыма. Нідзе не было. Думаў, чамусьці раззлавалася на яго і пайшла дахаты. Глянуў уніз — там, ля самай вады, вудзілі рыбу заядлыя рыбакі. Ля аднаго з іх — высознага хлопца — стаяла Зіта. Ён нешта расказваў ёй, а яна — аж прысядала — смяялася. Стась памахаў ёй рукою. Але Зіта не заўважыла гэтага. Потым сама паглядзела на яго. І нешта сказала хлопцу. Той зматаў вуды. І яны па гранітнай лесвіцы пачалі паднімацца на набярэжную.

Стась закурыў і — пайшоў ім насустрач.

— Вось, Славік,— звярнулася Зіта да хлопца,— гэта і ёсць Станіслаў Вжэсіньскі. Былы мой аднакласнік. Знаёмцеся.

— Я Вячаслаў Когут.

— Станіслаў Вжэсіньскі.

І яны паздароўкаліся.

— Малайцы,— сказала Зіта.

— Зютачка,— сказаў Слава,— ці не варта было б нам дзе-небудзь арганізаваць вечар адпачынку?

— У нас кватэра свабодная. Тата і мама паехалі да дзядоў,— прапанавала Зіта.

— Бачыш, у камунальнай кватэры трэба выконваць правілы агульнажыцця: пасля адзінаццаці гадзін і не рыпніся... А нам жа і патанцаваць трэба.

— Можа, схадзіць на веранду? — сказаў Стась.

— А ведаеце, што: калі згодны, прыязджайце да мяне ў катэдж. Будуць усе нашы. Там будзе ціха. А то, памятаеш, Зіта, як нас штурмавалі тады ў Гарыка Голдмахера?

— Памятаю. Я згодна. Як Стасік?

— Не ведаю. Буду бачыць.

— Прыязджайце — не пашкадуеце,— сказаў да яго Слава.— Цяпер вам трэба некуды ісці? Я — у другі бок. Чао!

— Пойдзем? — спытала Зіта.

— Зютачка, мне не падабаецца гэты апельсін.

— Ён не дзяўчына, каб табе падабацца. Славік — добры хлопец.

— Адкуль ты ведаеш?

— Відаць, ведаю. Дык што: пойдзем да яго, ці не?

— Я ўжо сказаў, што падумаю.

— Дык думай. Толькі хутчэй. Пойдзем зараз куды?

— Вядома.

Яны пайшлі па набярэжнай. Потым вузенькім завулачкам выйшлі на цэнтральную вуліцу горада. Зрэшты, гэтая вуліца ляжыць паралельна набярэжнай, на самай ускраіне горада. Як і некалі, цяпер тут гандлёвы цэнтр. Таму вуліца лічыцца цэнтральнай. Прайшлі паўз высокую тоўстую мураваную сцяну касцёла. Ля брамкі Стась спыніўся.

— Зойдзем?

— Я не ўмею маліцца.
— А я хіба вельмі ўжо? Чуеш арган? Хадзем паслухаем...
— Хадзем.

Яшчэ не кончылася служба. Яны з Зітай стаялі за калонай і глядзелі, што робіцца ў касцёле. Нарэшце ксёндз узняў рукі, і ўсе паражагналіся. Потым ксёндз узяў свае кнігі і шпаркай хадою пайшоў у рызніцу. Пачалі разыходзіцца і каталікі. Ля выхаду ўкленчвалі, жагналіся, мачылі пальцы ў вадзе і дакраналіся імі да лба.

Касцёл апусцеў. Выйшаў ксёндз. Пачуўся візгат брамкі. Рэха ксяндзовых крокаў. Спыніўся. Узняў галаву да хораў.

— Пане арганісты! Пуйдземы тэраз?
— Проша пана, нех пан ідзе. А я бэндэ тутай ешчэ грал.
— До відзэня!
— Похвалены Езус Хрыстус!
— На векі векуў!

Ксёндз убачыў іх.

— Мое шановане!
— Нашэ тэж,— сказаў Стась.
— Пан і панна пшышлі до мне?
— Не, пане пробошчу. Мамы хэнць слышэць арганістэго.
— Досконале. До відзэня.
— До відзэня.

Ксёндз выйшаў.

— Ён, відаць, падумаў, што мы хочам у яго вянчацца...— усміхнулася Зіта.

Стась не адказаў. Узяў яе за руку. І яны селі на лаўку пад хорамі. Арганісты перабіраў лады. Ледзь-ледзь кранаўся клавішаў. Потым арган зарычаў, і — стала страшна, аж пахаладзела на душы. Здаецца, усё ў гэтую мінуту застыла. І матка боска, якая ідзе кудысьці з сынам на руках... Ах, гэта яна ратуе малога Езуса ад пагібелі, ад катаў цара Ірада!..

Потым арганісты іграў літаню, якую спяваюць на ушысцкіх свентых... А потым «Здровась Марыя»... Не, не саму малітву... Арганісты імправізаваў, і Стасю ўспомнілася другая музыка...

## 2

Тады быў школьны вечар. Першы вечар пасля канікулаў. Усе былі незвычайна ажыўленыя і чамусьці зусім непадобныя да сябе. Яны з Зітай вучыліся ў дзевятым класе. І ён, Стась, увесь час танцаваў з ёю.

А потым вечар кончыўся. Яны пайшлі ў свой клас браць паліто. Стась памагаў Зіце апранацца. Нахіліўся да яе твару... І пацямнела ўваччу... (А мо заплюшчыў вочы?)

... Ён зразумеў, што пацалаваў Зіту.

Яму стала горача і сорамна. І зноў, нейк нечакана для сябе, пацалаваў яе ў шыю, а потым у губы.

## 3

Зіта сядзела сцішаная. Слухала арган. Стась, каб не палохаць, дакрануўся да яе пляча. Яна паглядзела на яго. Стась абняў яе і





сваёю шчакой цёрся аб яе шчаку. Потым пацалаваў. У скронях моцна застукала. Здавалася, вось-вось ён аглухне. Хацелася абняць яе так моцна, так моцна, каб ужо векам не раз'яднацца. І не мог. Толькі, цяжка перадыхаючы, цалаваў яе...

— Стасік...

Яна ўсё імкнулася нешта сказаць, а ён не даваў... Нарэшце паклаў ёй галаў на калені. Яна вадзіла рукой па яго валасах, і яму хацелася забыцца на ўсё.

Арган змоўк... Стась узняў галаў... І — Зіта пацалавала яго ў губы...

— Зіта, я цябе люблю,— сказаў і сам не зразумеў, як гэта вырвалася...

. . . . . . . . . . . . . . . .

А рэха панясло яго голас, яго прызнанне па касцёле. І халодны мур стаіўся. Пачуў, магчыма, упершыню такія словы...

. . . . . . . . . . . . . . . .

## 4

Гэтых слоў ён не казаў яшчэ нікому...

## 5

Яны выйшлі на двор... Абліты чырванню электрычнай лямпачкі, пасярод яго на высокім пастаменце стаяў Езус. Ледзь чутна шапацелі ясакары, што раслі ўздоўж касцельнага мура.

... На вуліцы гарэлі лямпы дзённага святла. Праносіліся легкавушкі. Шыны шоргаліся аб брук, і гэта нагадвала нешта добрае...

— Зютачка, я падумаў і вырашыў паехаць да Славы...

— Тады пойдзем да мамы. Я ёй скажу.

— Яна на рабоце?

— Яна зараз у сваім фешэнебельным рэстаране.

Рэстаран на рагу. Яго відаць здалёк па неонавай рэкламе.

Сустрэў іх стары швейцар.

— Добры вечар, Зіта Баляславаўна.

— Добры вечар, Захар Іларыёнавіч.

Павітаўся і Стась.

— Мама тут? — спытала Зіта.

— Тут, тут.

— Пайшлі, Стасік.

Прачынілі дзверы. Гелена Міхайлаўна нешта чытала. Зіта пастукала. Гелена Міхайлаўна ўстрапянулася.

— Заходзьце, калі ласка. А, гэта ты, дачушка! І твой нязменны рыцар! Прыехалі?

— Але.

— Як адпачывалі, маладыя-цікавыя?

— Добра. Толькі Стасіка трэба пакараць. Увесь час паказваў мне калгасную вытворчасць, фермы.

— Выйдзеш замуж у вёску — спатрэбіцца.

— А чаму ў вёску?

— Як муж захоча, так і будзе...

— У нас раўнапраўе.

— Вось я чытаю Эрнеста Брыля. У яго напісана, што «бабы, як менсо: смачнейшэ, кеды біемы». Дык і цябе мужык наб'е. Для смаку.

— Не вельмі разгорнецца...

— То пабачым. Між іншым, Гарыкаў бацька аднойчы раззлаваўся на мяне і кажа: «Я думаў, полькі не такія ўпартыя, як яўрэйкі. Аж усё роўна такія. У баб,— кажа,— няма нацыянальнасцей, у іх адна нацыянальнасць: бабы». Так што матай, дачка, на вус...

Яны — Зіта і Стась — засмяяліся.

— А табе, Стась, дзякуй за кнігі. Зараз кончу Брыля — да Кабатца дабяруся. І да Аўгустына. І да Богдана Чэшкі. Мо вы, дзеці, есці захацелі?

— Не, мама. Елі на параходзе.

— То нічога яшчэ не значыць.— Гелена Міхайлаўна націснула кнопку на стале.— Я з радасцю паехала б з вамі, дзеткі. Хоць, праўда, вам адным цікавей...

## 6

Яны былі далёка за горадам. Збіралі грыбы. Толькі баравікі. Давялося выняць з цэлафанавага мяшэчка бутэрброды. Потым Стась зрабіў кулёк з газеты. Набралі поўна грыбоў.

Выйшлі на ўскрай лесу. Там была калгасная ферма. Адна даярка, даведаўшыся, што яны — з горада, ашчаперыла галаву:

— То ж цілы дэнь нічого нэ ілы!

Амаль сілком завяла да сябе. І яны — Зіта і Стась — елі бутэрброды з параным малаком. Потым папрасілі ў даяркі картоплі. (Аддалі ёй грыбы, а ў мяшэчак насыпалі картоплі.) І ўжо ў лесе пяклі ў агні. Стась вучыў Зіту аблупваць картоплі, але яна не ўмела. Тады ён аблупваў іх сам і даваў ёй есці.

Потым яны хадзілі да маленькае ляснае рачулкі мыцца і там цалаваліся. Цалаваліся і ля кастра, які нешта завельмі доўга дагараў.

## 7

Увайшоў кухар.

— Вы мяне выклікалі, Гелена Міхайлаўна?

— Так. Арсень Лявонавіч, прынясіце, калі ласка, што-небудзь гэтым маладым.

— Добра.

Кухар выйшаў.

— Мама, Славік Когут запрашаў нас да сябе ў госці.

— Едзьце.

Кухар прынёс шніцэлі і піва. І яны павячэралі.

— Стасік,— сказала Зіта,— выйдзі, калі ласка, на хвілінку.

У гардэробнай маяком стаяў Захар Іларыёнавіч.

— Музыка грае. Джаз-аркестр,— сказаў швейцар, нібы сам Стась не чуў.— Танцуюць,— дадаў між іншым.

Прыйшла Зіта.

— Пойдзем у залу,— сказала Стасю.— Трэба знайсці аднаго чалавека.

У тлуме адшукалі юнака, чорнага, як цыган.

— Колечка, ты хочаш прагулянца за горад? — спытала Зіта.
— Магчыма...
— Паедзем з намі да Когута?
— Згодзен.
Яны прайшлі чорным ходам у двор. Там стаяла машына. Ля яе завіхаўся мужчына.
— Усё ў парадку, Сяргей Рыгоравіч? — спытала Зіта.
— Усё.
Роўна загудзеў матор. Машына кранулася...

## 8

Катэдж Когута быў за пяць кіламетраў ад горада. У двары гарэлі два ліхтары. Вароты былі расчынены, і Коля ўвёў машыну ў двор. Спыніў ля ганка.
— Што ж, пабачу твой вялікі свет...— сказаў Стась.
— Пабач.
Яны вылезлі з машыны, Коля загнаў яе да гаража.
— Ідзі наперад. Ты тут свой хлопец.
...За сталом сядзела грамада. Пяць чалавек.
— Добры вечар,— сказала Зіта.
— Вечар добры! Добры вечар!..— загулі ў адказ.
З-за стала выйшаў Славік. Ён быў апрануты па-дамашняму: белая рубашка і гальштук, на нагах — басаножкі.
— Лэдзі і джэнтльмены, прашу любіць і шанаваць: пан Станіслаў Вжэсіньскі, былы аднакласнік панны Зіты. Цяпер — грамадскі дзеяч у вёсцы.
Славік узяў Стася пад руку і павёў па кругу.
— Канкордзія.
«Нішто...» — падумаў Стась.
— Валянціна.
«Так сабе...»
— Гэля.
«Цаца...»
— Гары Голдмахер,— прадставіўся пекненькі хлопчык з вусікамі і маленькай бародкай, як у настаўніка гімназіі.
Пасля застолля танцавалі пад Гарыкавы запісы. Стась са Славам сядзелі ў яго пакоі. Гаманілі пра ўсё.
Калі вярнуліся ў гасціную, там ішла спрэчка. Гарык быў пад агнём дзяўчат.
— Я вам кажу, цацачкі-лялечкі, што Заля — геній таму, што натураліст...
— А Хэмінгуэй? — спытала Зіта.
— Гэта рэпарцёр, а не пісьменнік.
— Слабенька яго ведаеш!..
— Кажыце, што хочаце, а я прызнаю двух празаікаў — Заля ды Буніна. І двух паэтаў — Блока і Ясеніна. Скажы, Славік, што яны — геніі...
— Безумоўна.
— А што! — Гарык абвёў усіх пераможным позіркам.
— Табе ж ніхто не пярэчыў, што яны не геніі,— сказала Зіта.— Мы хацелі ўбіць табе ў галаў, што, акрамя Заля, ёсць геніі. І глупства твой натуралізм!..
— З вамі гаварыць — камень есці.



## 9

**ІНФАРМАЦЫЯ. Пілі і танцавалі, гаварылі і спрачаліся да другой гадзіны ночы.**

## 10

— Коля, спыні машыну,— сказала Зіта.
— Ты хіба не паедзеш да старых?
— Не. Я буду тут. Ты са мной, Стасік?
— Так.
Яны выйшлі з машыны. Коля паехаў далей.
— Я вельмі п'яная,— сказала Зіта.— Піла партвейн. А потым Гарык вучыў курыць... Ты на мяне не злуеш?
— Не думаў нават. Шкада толькі Славіка...
— Ён занядужаў. З ім часта так бывае. Яму трэба лячыцца. Падтрымай мяне.
Сталі ў дзвярах пад'езда.
— Ты мяне любіш, Стасік?
— Люблю.— Ён пацалаваў яе. Губы былі гаркаватыя ад віна.
— Ты добры,— сказала яна і пацалавала Стася.
— Пойдзем,— сказаў ён.
Яны паціху, каб не нарабіць шуму, падняліся на трэці паверх.
Кругом была цішыня. Сцішанасць. Напятая. Вось-вось прарвецца...
На пляцоўцы яны пастаялі яшчэ... Цалаваліся. Потым Зіта дастала з-пад ходнічка ключ ад англійскага замка. Шчоўкнуў замок— і рэха разнеслася па ўсіх паверхах. Не запальваючы святла, прайшлі ў гасціную. Селі на канапу. І зноў цалаваліся.... Пакуль гадзіннік не прабіў дзве.
— Пасцялі,— сказаў Стась.
Зіта схадзіла ў спальню і прынесла пасцель. Паслала. Стась абняў яе і прашаптаў:
— Ідзі спаць.
Яна пацалавала яго працяглым пацалункам і пайшла ў свой пакой.
. . . . . . . . . . . . . . .

## 11

Яшчэ не хадзілі аўтобусы, яшчэ дворнічыхі шоргалі венікамі, а яны ўжо выйшлі з дому.
Было рана і халаднавата...
... Прыйшлі на вакзал... Доўга хадзілі паміж лаў. Потым падышлі да касы. Чаргі не было, але яны доўга стаялі, быццам яна ўсё ж існуе. Ён узяў білет за колькі мінут да адпраўлення цягніка.
Выйшлі на перон. Ён пацалаваў яе руку. Потым абняў і пацалаваў у губы... Бачыў цікаўныя позіркі пасажыраў і правадніц... І цалаваў. Пакуль не аб'явілі адпраўленне. На хаду ўскочыў у вагон.
... Калі праехаў большую палавіну дарогі, развіднела. З акна вагона заўважыў пачарнелую асіну.
Пачыналася ранняя восень...
І яму ўспомнілася тая восень, калі ён вучыўся ў дзевятым класе...

# ПАЭЗІЯ





## Анатоль ВЯРЦІНСКІ



●

Мёртвым паставім
абеліскі.
Паспачуваем тым,
хто ім блізкі,—
маці, нявесце, удаве.
Сірот пагладзім
па галаве.
І будзем думаць:
«Ну вось і добра».
Будзем задаволены
сабой.
І будзем думаць:
«Няма ў нас доўгу
перад салдатам,
маці,
удавой...»
Падумаем нават,
што яны рады,
што ашчаслівілі
мы іх:
бронзаю — тых,
што няма ў жывых,
жывых —
легкаважнаю спагадай.
Як лёгка рашаем мы!
Як проста!
Мы нават можам
забыць аб тым,
што не патрэбна
салдату бронза,—
салдату хацелася
быць жывым.
Што маці сына
ўсё аплаквае,—
не памагло суцяшэнне
усялякае.
І застаецца ўдава
ўдавой,—
пасля спагады
самай жывой.
Калі хто
спагадзе нашай і рады,
то раны ёю
не залячыць.
Мы можам
страты аблягчыць,
але застаюцца
стратамі страты.



Чалавек маленькага росту,
чаму не рос,
па чыёй віне?
Чалавек адказвае проста:
— Гэта залежыць не ад мяне.
Чалавек маленькага розуму,
мог ты быць разумнейшы ці не?
Чалавек гаворыць цвяроза:
— Гэта залежыць не ад мяне.
Чалавек душы маленькай,
мог ты лепшым быць ці не?
Чалавек маўклівы нейкі,
не адказвае ён мне.
Мабыць, цяжкае пытанне.
Чалавек маўчыць нездарма.
Хібам нашым
ёсць апраўданне,
подласці апраўдання няма.



Абрастаем.
Паперамі, рэчамі,
абавязкамі,
звычкамі,
стрэчамі,
абрастаем болямі, охамі,
як валун абрастае мохам.
Абрастаем мохам абставін.
Абрастаем даўгамі, хвастамі.
Абрастаем, як бераг кустамі.
«Дзе чужое, дзе наша?—
пытаем.—
Дзе расцем, а дзе абрастаем?»—
мы пытаем.
Гэта няпроста
абрастанне адрозніць ад росту.
На душы маёй —
шчэць густая.
Адчуваю:
ідзе абрастанне.
А спыніць яго
я ці ў стане?
Можа, усёю першаасноваю
абудзіцца па-вясноваму?
Жыць пачаць са старонкі новай —

яшчэ чыстай,
яшчэ вясновай?
Толькі як жа мы жыць так
станем,
калі кожны міг абрастаем,
расстаемся з самімі сабою —
нехта з боем,
а нехта без бою...

●●●●

Домік маленькі,
бачу я,
знеслі.
А ў доміку гэтым
спявалі песні.
А ў доміку гэтым
дзяцей нараджалі.
А ў доміку гэтым
гасцей страчалі.
А ў доміку гэтым,
у доміку гэтым
утульна было
зімою і летам...
Шкада мне да болю,
шкада да слёз
доміка, што пайшоў
на знос.
Не тое лепшае,
што навейшае,
а тое лепшае,
што раднейшае.
Не тое лепшае,
што вышэйшае,
а тое лепшае,
што бліжэйшае.
Не тое лепшае,
што прыгажэйшае,
а тое лепшае,
што даражэйшае...
Той домік
блізкі некаму быў.
Той домік нізкі
нехта любіў.
З тым домікам звязаны
нейчы лёс.
Той домік пайшоў
сягоння на знос.

*Беларускаму паэту Станіславу Шушкевічу 19 лютага 1968 года споўнілася 60 год. Ён з'яўляецца аўтарам зборнікаў: «Вершы» (1934), «Дарогаю вясны» (1959), «Услед за марамі» (1961), «Навальніца» (1966). Здадзена ў друк кніга «Вяртанне ў маладосць». Для дзяцей паэт напісаў кніжкі: «Звярыны баль» (1935), «Лясная калыханка» (1958), «Сарочы церамок» (1959), «Мы на змену ідзём» (1961), «Гара Марата Казея» (1963), «Будзільнік» (1966).*

*Кнігі паэта перакладаліся на рускую і ўкраінскую мовы.*

*Нарадзіўся паэт у маёнтку Бакінава (цяпер Дзяржынскі раён Мінскай вобласці), дзе батрачыў яго бацька. У 1934 годзе скончыў у Мінску Вышэйшы педагагічны інстытут. Доўгі час працаваў у рэдакцыях газет, у геалагічных экспедыцыях. Цяпер працуе ў газеце «Літаратура і мастацтва».*



# ПРОЗА

● Станіслаў ШУШКЕВІЧ

● Мал. С. ВОЛКАВА



# РАСПЛАТА

## З апавяданняў пра Марата Казея

З трох бакоў абступіў вёску Смаляры маўклівы бор. Усяго дваццаць хат сабралася ў нізінцы. Паміж садоў, а дзе-нідзе ліп і клёнаў, ледзь-ледзь прабіваліся стрэхі і жураўлі калодзежаў. Крыху на водшыбе ад вёскі стаяла закураная кузня, а за некалькі крокаў ад яе на выгане расла высачэзная старая груша. Пад ёю было ўкапана некалькі слупкоў для конавязі.

Ля старой грушы і адбыліся ўсе падзеі.

У спякотны летні дзень прымчаліся ў Смаляры дзесяць паліцаяў. Яны праехалі праз вёску, пасля завярнулі назад і спыніліся ля грушы. Рассядлалі коней, пакінулі ля іх аднаго вартавога, трое зайшлі ў хату да былога лесніка Сымона Дашкевіча, а астатнія засталіся на падворку.

Паліцэйскі камендант Макар Гыль, зайшоўшы ў хату, кінуў недакурак на падлогу і зірнуў на Сымона:

— Што глядзіш — не тыя госці? Партызанаў чакаў? Дзе твая стрэльба-двухстволка? Давай яе сюды!

Сымон Дашкевіч адказаў не адразу.

— Які ж гэта прайдзісвет наплявузгаў, што ў мяне стрэльба ёсць? Ты ж сам, пэўна, ведаеш, ды і людзі знаюць, што яшчэ летась быў тут нямецкі карны атрад. Нямецкі вахмістр загадаў усе паляўнічыя стрэльбы здаць. Дык мы і сабралі ўсё наша ламачча. Каля дзесятка дубальтовак і аднастволак у кузню прынеслі, немцы іх кавальскім молатам раструшчылі. Вось табе і адказ.

— Ага, дык вы ламачча здалі!.. А куды добрыя стрэльбы дзелі?

— Не верыш, Макарка, дык давай у кузню сходзім...

Дзед Сымон моцна закашляўся: трое паліцаяў, якія зайшлі разам з камендантам, так надымілі, што аж пасінела ў хаце.

Камендант Гыль махнуў рукою, моўчкі паказаў, каб дзед ішоў за ім.

Паліцаі разам з дзедам Сымонам пайшлі да кузні. Сюды ўжо прыбег і каваль Васіль Патупчык. Камендант загадаў адамкнуць кузню. Пад кавальскім горнам ляжала кучка заржавелага ламачча — расплюшчаныя і пагнутыя ствалы стрэльбаў, драўляныя прыклады з жалезнай акоўкай.

Камендант Гыль сказаў:

— Ну, пакажы, дзядзька Сымон, сваю бельгійку.

Стары толькі паціснуў плячамі: маўляў, дзе ты яе пазнаеш тут! Гыль падаў старому знак ісці за ім.

Выйшлі за кузню.

— Ведаеце, дзядзька Сымон, справа тут не толькі ў дубальтоўцы. Можаце яе і не аддаваць. А вось скажыце, як часта наведваюцца да вас партызаны? Хто тут супраць нашай улады галёкае?

Сымон Дашкевіч стаяў без шапкі. Ветрык перабіраў яго сівыя валасы. Шырокія калматыя бровы натапырыліся, барада нібы прыліпла да грудзей. Ён глянуў на Гыля і спакойна сказаў:

— Не чапляйся ты да мяне, Макарка, я табе не раўня. Я сіл не маю іншы раз хату перайсці, а ты хочаш, каб я за людзьмі сачыў. Не па маёй сіле гэта работа.

За выганам нешта як бы стрэліла. Гыль уздрыгануўся і паглядзеў у поле. Там ішоў нейкі хлапчук. Дзед Сымон раптам зарагатаў:

— Напалохаў цябе, Макарка, наш пастух. Ён пугаю як лясне, дык аж рэха коціцца...

Гыль увачавідкі супакоіўся.

— Дык ты, Сымоне, будзеш мне дакладваць пра ўсё. Праз тыдзень зноў прыеду. А калі збрэшаш, няпраўду скажаш, старасць тваю не пашкадую, скуру спушчу!

Сымон паплёўся дахаты, камендант вярнуўся ў кузню.

— Падкуй тым часам мне жарабка, а жонцы скажы, каб накарміла хлопцаў,— сказаў да каваля.

Патупчык па-салдацку чотка і бадзёра адрапартаваў:

— Хай пан Гыль не турбуецца. Падковы, як залатыя, у вашага жарабка будуць. Мінут сорак — і ўсё будзе гатова. Можаце ісці абедаць, я коням канюшыны падкіну і напаю. Ніхто тут да сёдлаў і рукой не дакнецца. Усё, як сваё, дагледжу.

Паліцыянты і камендант пайшлі абедаць. Каваль застаўся з падлеткамі, што даўно ўжо круціліся каля кузні.

Не паспеў Патупчык прывязаць жарабка, глухі стрэл пракаціўся недзе над лесам. Патупчык насцярожыўся, глянуў на хлапчукоў і таямніча прашаптаў:

— Ці не нашы гэта?.. Га? Як вы думаеце?

Хлапчукі кінуліся ў вёску. Адзін з іх ні з таго ні з сяго крыкнуў на ўвесь голас пад акном хаты, у якой абедалі паліцаі:

— Ратуйцеся, партызаны ідуць!..

Каваль вылаяўся:

— Ну і дурное ж хлапчанё! Блазнота няшчасная...

А паліцаі, як адзін, павыскоквалі з хаты і на хаду пачалі правяраць затворы ў вінтоўках і карабінах, адшпільваць патранташы, сядлаць коней. Камендант загадаў свайму памочніку Чмыгуру асядлаць жарабка, а сам хутка ўзабраўся на грушу. Адтуль ён убачыў воддаль за полем некалькі коннікаў і пехацінцаў. Ускраем, праз хмызнякі, хаваючыся, усе яны кіраваліся да выгану.





Гыль спрытна спусціўся ўніз з грушы, ускочыў на жарабка і паскакаў да лесу, туды, дзе бачыў коннікаў і пехацінцаў. Ад яго не адставаў Чмыгур. З лесу пачулася некалькі стрэлаў. Камендантаў конь падняўся на дыбкі, і Гыль плаўна з'ехаў з яго і выпусціў павады. Прылёг за грудком, сцягнуў з пляча карабін і пачаў цэліцца ў конных і пешых людзей, што ўжо з крыкам «ура» беглі да вёскі.

Спешыўся і Рыгор Чмыгур, залёг і раз за разам пускаў кулі са сваёй вінтоўкі.

Астатнія паліцаі, пакружыўшы вакол кузні, конна падаліся дарогай за мосцік. Уцякаючы, пачалі бязладна страляць.

А тым часам да выгану набліжалася трое коннікаў. Пасярэдзіне на шпаркім Орліку імчаўся Марат. Ён разам са сваімі таварышамі спешыўся за паўмежкам на выгане і пачаў страляць па паліцаях. І Гыль і Чмыгур, прыгнуўшыся, падаліся былі ўцякаць на дарогу да мастка, але, пачуўшы адтуль стрэлы, падумалі, што гэта страляюць партызаны. Тады яны кінуліся да рэчкі, перабраліся на другі, забалочаны і дрыгвяністы, бераг і з-за купін зноў пачалі адстрэльвацца. Чмыгур выпрастаўся, каб перабегчы ў лес, і тут яго скасіла партызанская куля. Гыль падняцца не рашыўся, ляжаў побач з забітым Чмыгуром і ўсё страляў, страляў. Чалавек сем-восем партызан паўзлі да рэчкі.

Марат Казей схаваўся за купінай і чакаў. Ён ведаў: рана ці позна паліцай не вытрывае, кінецца ў лес. Так яно і ёсць! Камендант Гыль падняўся і нечакана ўпаў. Марат Казей не паспеў стрэліць. Трэба было зноў чакаць. Куст засланяў паліцая ад Марата. Марат не спускаў вачэй з куста. «Не можа быць, каб не памкнуўся ўцячы». Паліцай выглянуў з-за куста. Марат стрэліў. Ён бачыў, як паліцай падаўся ўбок і тут жа ўпаў. Пачулася яшчэ некалькі стрэлаў. Паліцай не варушыўся.

● ● ●

Над грушаю на гладка выструганай жэрдцы каваль Васіль Патупчык вывесіў чырвоны сцяжок. Хлапчукі паднялі на струхлелай частаколіне чорную пілотку каменданта Гыля і падышлі з ёю да Марата Казея.

— Марацік, на табе патрон і расстраляй паліцэйскую шапку,— сказаў адзін з іх.

Марат узяў баявы вінтовачны патрон і пакруціў галавою:

— Шкода псаваць. Нам вельмі патрэбны патроны.

І тады да Марата падышоў дзед Сымон.

— Унучак мой, Марацік, ды я табе зараз бельгійскую дубальтоўку прынясу, не пашкадуй мой набой. Зрабі ласку, пашкуматай гэтую паганую пілотку.

Сымон Дашкевіч праз нейкі час прынёс аднекуль сваю стрэльбу. Пілотку павесілі на слуп каля старой грушы. Марат адышоў крокаў пяцьдзесят ад слупа, прыцэліўся і стрэліў. Чорная пілотка разлящелася на шматкі. Дзеці кінуліся таптаць іх.

Дзед Сымон Дашкевіч стаяў перад гуртам людзей і, нібы гаворачы сам да сябе, ківаў галавою:

— Паганец. А збіраўся праз тыдзень у Смаляры прыехаць. Колькі ён людзей пастраляў і павешаў! Давайце, людзі добрыя, пойдзем у вёску, дальбог жа, не магу чуць гарэлага паху ад гэтай паганай пілоткі.



# ПАЭЗІЯ

● *Я ў нашу перамогу веру*

●● *Яблынька*

●●● *Партызанская стаянка*

●●●● *У ясны дзень*



**Марк СМАГАРОВІЧ**



●

**Я ў нашу перамогу веру**
**Так, як і веру ў наш народ.**
**Ужо завершан на Венеру**
**Касмічнай станцыі палёт.**
**І людзі чуюць на ўсім свеце**
**Яе пявучы рэпартаж.**
**Цяпер не на адной планеце**
**Красуе серп і молат наш.**
**Таму паэту помніць трэба,**
**Што з гэтай памятнай пары**
**Венера ўжо на шлеме неба**
**Чырвонай зоркаю гарыць.**

●●

**Бура ўжо адбушавала ўночы.**
**Неба дыша чысцінёй шкляной.**
**У гародзе яблынька лапоча,**
**Нібы хоча размаўляць са мной.**
**Расказаць, відаць, мне хоча штосьці**
**Пра нялёгкі свой сірочы лёс.**
**І адкуль ёй знаць, што ў маладосці**
**Я таксама буру перанёс?**
**Дзень і ноч раўла без перабою,**
**І дубы валіла, і кусты...**
**Пачакай, малышка: мне сабою**
**Некага напамінаеш ты.**
**Косы — узлахмачанае лісце,**
**Рукавы-галіны — да зямлі...**
**Ах, прыпомніў: бачыў я калісьці**
**На вайне дзяўчынку ў шынялі...**
**Не глядзі так, яблынька, панура,**
**Роўнай стань, не гніся ад бяды,**
**Не зламала нас навала-бура —**
**Выраслі і выспелі плады!**

●●●

Вайны ўжо залечаны раны,
Ды помнім яе мы сляды...
Сышліся сябры-партызаны,
Паўсталі былыя гады.
Змянілася наша стаянка.
Як колісь, гаворым цішком.
Пад дубам штабная зямлянка
Густым зарасла хмызняком.
Плывуць дарагія ўспаміны.
Яны ў нас у кожнага ёсць.
Быў час і закладвалі ў міны
Сваю мы нянавісць і злосць...
Ну, пойдзем. Прызнацца, празяблі.
З сабою ў нас толькі плашчы.
Лясная дарожка.
Як шаблі,
Вада ў каляінах блішчыць.

●●●●

Пабыць сам-насам на прасторах
Рашыў я ў ясны дзень вясной.
Рунь маладая, нібы мора,
Хвалюецца перада мной.
Бялеюць шыферныя дахі,
Як тыя ветразі, здалёк.
Сваім ключом у небе птахі
Адкрылі ўжо вясны замок.
А тут жа рваліся снарады,
Шугалі выбухаў кусты.
Суровы тупат кананады
Навечна ў памяці застыў.
Ён тых з зямлёю перамешваў,
Хто тут амаль што тры гады
Людзей паліў, расстрэльваў, вешаў,
Знішчаў пасевы і сады.
Цяпер жа мірна за гарою
Грукоча трактара матор.
Падумаць толькі: полем бою
Калісьці гэты быў прастор!



# ПРОЗА




● Уладзімір АЛЯХНОВІЧ

● Мал. І. НЕМАГАЯ


## КВАДРАТНЫ МЕТР ТРАВЫ

Апавяданне

Мікалай Іванавіч, нізка схіліўшыся над картай, значыць нешта алоўкам. На зялёным астраўку намаляваў невялікі кружочак, злучыў яго з хатаю лесніка і, падумаўшы, пацягнуў лінію да надпісу «Дабрыяны».

Дзіма, не адрываючы вачэй, сочыць за кожным ягоным рухам.

На карту з шоргатам упала божая кароўка. Пасядзела, пасядзела і распусціла ярка-чырвоныя крылцы, каб узляцець. Не ўзляцела. Кінулася туды-сюды, супакоілася, а потым упэўнена папаўзла да надпісу «Дабрыяны».

— Ну, брат, пара! — падняўся інжынер.— Па дрыгве будзем ісці не хутчэй за гэту кароўку...

«У-у-ф...»— уздыхае пад нагамі балота. Дзімку здаецца, што ідуць яны па спіне калматага мядзведзя. Спіна паслухмяна ўгінаецца. Напэўна, мядзведзь спіць. Трэба ступаць асцярожна, бо, калі мядзведзь прачнецца, варухнецца, яны — паляцяць у прорву...

«У-у-ф... У-ф-ф...»— уздыхае балота.

«А што, калі Алесь збег? — думае Дзімка. — Прыйдзецца аднаму капаць дзве ямы для тапаграфічных вышак. Напэўна, збег! Нешта надта сумны быў учора... Капаць яму ў паўтара метра глыбіні нялёгка...»

Дзімкавы ногі нечакана праваліліся ў багну.

«У-ф-ф»,— уздыхнула балота.

— Рукі ў бок!— аднекуль здалёку пачуўся голас Мікалая Іванавіча.



Дзімка агледзеўся. Навокал ніводнай травінкі. Чорны, як смала, торф. Так яно і ёсць: палонка. «Ну і разява»,— у думках аблаяў сябе Дзімка.

Балота цягне, засмоктвае ў чорную прорву. Пласт торфу ўсё мацней сціскае грудзі.

«Спакойна, толькі спакойна... І — ніводнага руху!»

За тонкай бярозкай нешта зашаргацела. Мікалай Іванавіч. Ліпкае лісце дакранулася да Дзімкавага твару.

— За ствол, за ствол хапайся! — падае каманду Мікалай Іванавіч.

Дзімка з палёгкай адчуў, што разам з бярозкай ён паднімаецца ўгару...

Сонца прыемна абагрэла ягоныя плечы, рукі. Мякка казытнуў ветрык.

— Мікалай Іванавіч, трэба было б дастаць боты...

Інжынер усміхнуўся. У вачах засвяціліся вясёлыя агеньчыкі.

— Дзівак ты, Дзімка!— весела сказаў ён.— Як жа іх можна дастаць?

— А што, так і застануцца там?— здзівіўся Дзімка.

— Нічога, Дзімка, не тужы,— сказаў Мікалай Іванавіч.— Боты выпішам новыя. А цяпер — у дарогу.

Праз чвэрць гадзіны інжынер і Дзімка ўбачылі белыя дамкі вёскі, ахутаныя вячэрнім туманам. Пахла кветкамі. З нечага двара чуўся натруджаны скрып жураўля.

Інжынер неспакойна агледзеў шырокі луг, што выцягнуўся ўздоўж вёскі. Алеся нідзе не было. «Трэба паглядзець у будане,— вырашыў ён.— Можа спіць?»

Ногі блыталіся ў высокай траве. Асака, дзікая канюшына, шабельнік... «Усё ж збег...»— стукала ў галаве. Але верыць не хацелася. Раптам ён пачуў за спіной шоргат травы і нечаканыя крокі.

Алесь! Ну, вядома ж — ён! І з касой... Чаму?

Алесь вінавата ўсміхнуўся.

— Хутка вы,— усё яшчэ цяжка дыхаючы і пераступаючы з нагі на нагу, загаварыў ён.— Пакуль збегаў па касу, вы ўжо тут...

— А навошта яна? — пацікавіўся Мікалай Іванавіч.

Алесь кінуў вокам на лапік густой травы.

— Шкада мне яе,— глуха сказаў ён.— Такое дабро прападзе. Вось выкашу лапінку, і пачнём там капаць яму.

Мікалай Іванавіч глянуў на Дзімку. На Дзімкавым твары блукала шчаслівая ўсмешка.

# ПАЭЗІЯ

● ——————

●● ——————

●●● *Вячэрні эцюд*



**Анатоль КАЗЛОВІЧ**



●

**Над палямі імжыстымі,
Над ранішнім сном хацін
Птушка крыламі шастае,
Ляціць да сваіх мясцін.**

**Да гнязда свайго рвецца,
Трапеча-лапоча
Сярод нечаканасцей і пагроз —
Згустак
Памяці і заклапочанасці —
Маленькі птушыны лёс.**

●●

**Зіма —
    тужлівага чакання бесканечнасць...
Вясна —
    як радасць самазабыцця...
У летніх дзён —
        кароценькая вечнасць...
І восень —
    як вяртанне да жыцця...**

● ● ●

Таропкасць сцішаных варон
У бок барвовага заходу...
Сплывае неба, як гудрон
Расплаўлены,—
на агароды.
І цені, цені па зямлі,
Як ручаі таго гудрону.
Яны варону ўзнялі,
І хрыпла каркнула варона.
...Расталі...
Не відно ўжо крыл —
Чырвоных...
жоўтых...
чорных...
Спаліў і сцёр іх небасхіл,
Перавярнуўшыся, як жорны...



У НАСТУПНЫХ НУМАРАХ ЧЫТАЙЦЕ:

АПОВЕСЦЬ УЛАДЗІМІРА ПАЎЛАВА

**«СПЕЛЫЯ ТРАВЫ»,**

АПАВЯДАННІ ГАННЫ КРАСНАПЁРКІ

І ВАЛЯНЦІНЫ РУДАВАЙ,

**ПАЭМУ ВЕРЫ ВЯРБЫ**

**«КАЛІНА»,**

ВЕРШЫ РАІСЫ БАРАВІКОВАЙ

І ПАЎЛЮКА ПРАНУЗЫ.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА





- Міхаіл ДЗМІТРЫЕЎ
- Аляксандр ДЗІТЛАЎ
- Іван ЗЯЦЬКОЎ
- Дзмітры УМРЭЙКА
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Лідзія АРАБЕЙ



● Міхаіл ДЗМІТРЫЕЎ,
генерал-палкоўнік артылерыі

# ПЕРАМОЖНЫЯ ЗАЛПЫ НА ВОЛЗЕ

## НОВЫ ФРОНТ

Кастрычнік 1942 года застаў мяне на Варонежскім фронце на пасадзе камандуючага артылерыяй.

Войскі 38-й, 40-й і 60-й армій фронту, якімі камандавалі генералы Нікандр Яўлампіевіч Чыбісаў, Кірыла Сямёнавіч Маскаленка і Іван Данілавіч Чарняхоўскі, праводзілі так званыя прыватныя аперацыі, не даючы магчымасці праціўніку зняць з нашага фронту хоць бы адно пяхотнае аддзяленне.

Камандуючаму фронтам генерал-лейтэнанту Мікалаю Фёдаравічу Ватуціну не сядзелася ў абароне. Чалавек выключна энергічны, настойлівы, ён не любіў пасіўнасці і сумаваў па сапраўдных баях. У другой палавіне кастрычніка яго выклікалі ў Маскву.

22 кастрычніка М. Ф. Ватуцін пазваніў мне з Масквы. Як заўсёды, коратка сказаў:

— Міхаіл Пятровіч, неадкладна здайце справы свайму намесніку. Я чакаю вас 24 кастрычніка ў 12.00 у станіцы Філонаўскай, у цэнтры сяла, ля школы...

Я запытаў:

— Таварыш камандуючы, каго з афіцэраў узяць з сабою? — (Я меў на ўвазе, што нам, магчыма, хто-небудзь спатрэбіцца з афіцэраў майго штаба.)

Ватуцін адказаў:

— Вазьміце ад'ютанта і машыну. Пры сустрэчы пагутарым і пра іншых...

Хутка ўладзіўшы ўсе справы ў штабе, 23 кастрычніка я разам са сваім ад'ютантам старшым лейтэнантам Іванам Данільчуком і шафёрам Апанасам Мальковым адправіліся ў дарогу.

Дарога, між іншым, знаёмая. Ялань, Новахапёрск, Урупінск, Новаанненскі... Па гэтых бяскрайніх стэпах і глыбокіх ярах ішлі палкі нашай 16-й стралковай дывізіі яшчэ ў 1918 годзе. Тут, у войсках Царыцынскага фронту, 16-я пачала свой баявы шлях, пад камандаваннем Васіля Ісідаравіча Кіквідзе.

...Как ходила в бой дивизия
В легендарные года,
Имя смелое — Киквидзе
Поднимало города...

Спявалі мы гэтую песню і пасля грамадзянскай.

11 студзеня 1919 года пад станцыяй Ярыжанскай варожая куля забіла адважнага начдыва, і дывізія стала насіць яго імя.

На розных франтах Вялікай Айчыннай вайны змагаліся ветэраны-кіквідзенцы. Застаўся біць ворага пад Варонежам камандарм 38-й Нікандр Чыбісаў. У карэльскіх лясах біў фашыстаў камандарм 14-й Валерыян Фралоў. На Паўночна-Заходнім фронце — Барыс Пігарэвіч, на Ленінградскім камандаваў артылерыяй Уладзімір Свірыдаў, там жа, на Ленінградскім, начальнікам палітаддзела арміі быў Васіль Мжаванадзе...

Удалечыні паказалася станіца Філонаўская. Данільчук, які сачыў за паветрам, убачыў самалёт. Прыгледзеліся, наш — транспартны. Ён ішоў на пасадку. Напэўна, камандуючы ляціць...

Да школы, у якой размяшчаўся вузел сувязі Генеральнага штаба, мы пад'ехалі адначасова: гэтым самалётам прыбылі начальнік Генеральнага штаба Чырвонай Арміі генерал-палкоўнік Аляксандр Міхайлавіч Васілеўскі і Мікалай Фёдаравіч Ватуцін.

Трэба сказаць, што і А. М. Васілеўскі і М. Ф. Ватуцін нагадвалі маршала Савецкага Саюза Барыса Міхайлавіча Шапашнікава, у якога яны прайшлі не толькі вялікую і добрую школу штабной работы, але і пераймалі яго манеру размаўляць з людзьмі, незалежна ад іх пасады: уважліва, спакойна, заўсёды паважаючы ў кожным перш за ўсё чалавека. Будучы, у пачатку 30-х гадоў, камандзірам артылерыйскага палка ў 16-й дывізіі, я часта сустракаўся з Шапашнікавым, ён тады быў камандуючым войскамі Ленінградскай ваеннай акругі. Ад гэтых сустрэч у мяне засталіся вельмі добрыя ўспаміны — гэта быў багатай душы чалавек і таленавіты военачальнік.

Мы прайшлі ў адзін з класных пакояў, і Ватуцін паведаміў, што фарміруецца новы, Паўднёва-Заходні фронт і загадам Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання ён прызначаны камандуючым гэтага фронту. Гэтым жа загадам назначаны: членам Ваеннага Савета карпусны камісар Жалтоў, начальнікам штаба генерал-маёр Стэльмах, намеснікам камандуючага па авіяцыі генерал-маёр авіяцыі Красоўскі (пераведзены таксама з Варонежскага фронту), намеснікам па артылерыі — аўтар гэтых радкоў. Начальнікам аператыўнага ўпраўлення быў прызначан генерал-маёр Сямён Паўлавіч Іваноў, мой саслуживец да вайны па 16-й стралковай дывізіі і баявы сябар па Бранскаму фронту.

Камандуючы фронту паведаміў яшчэ, што Стаўка вызначыла вельмі жорсткія тэрміны фарміравання франтавога кіравання і пачатку баявой дзейнасці фронту. У Стаўцы зацверджаны план контрнаступлення нашых войск пад Сталінградам. Паводле гэтага плану, наш Паўднёва-Заходні фронт павінен прарваць варожую абарону ў раёне Серафімовіч — Клецкая і імкліва наступаць у напрамку Калач — Савецкі.

Войскам Сталінградскага фронту (камандуючы генерал А. І. Яроменка) трэба было нанесці ўдар з раёна Сарпінскіх азёр і таксама наступаць у напрамку Савецкі — Калач. Сумесным моцным ударам меркавалася акружыць і знішчыць гітлераўскія войскі, якія знаходзіліся ў міжрэччы Волгі і Дона.

Войскам Данскога фронту (камандуючы генерал К. К. Ракасоўскі) была пастаўлена задача нанесці два ўдары — адзін з раёна Клецкай на паўднёвы ўсход, а другі з раёна Качалінскай уздоўж левага берага Дона на поўдзень.

Камандуючы паведаміў мне састаў войск фронту, а праз некалькі дзён я пазнаёміўся з арміямі і іх кіраўніцтвам. 21-й арміяй ка-



Генерал арміі Мікалай Фёдаравіч Ватуцін.

мандаваў генерал Іван Міхайлавіч Чысцякоў, начальнікам штаба ў яго быў генерал Валянцін Антонавіч Пянькоўскі, начальнікам артылерыі Герой Савецкага Саюза, генерал Дзмітры Іванавіч Турбін. З Турбіным мы былі знаёмы па фінскай вайне, дзе ён камандаваў гаўбічным артпалком, які аператыўна падначальваўся мне.

5-й танкавай арміяй камандаваў генерал П. Л. Раманенка, 1-й гвардзейскай арміяй — генерал Дзмітры Данілавіч Лелюшэнка. Ён таксама быў знаёмы мне па фінскай вайне, у часе якой камандаваў танкавай брыгадай.

Сярод артылерыстаў сустракаліся як знаёмыя, так і людзі, з якімі трэба было пазнаёміцца і працаваць. Асабліва радаснай была сустрэча з начальнікам артылерыі 14-га стралковага корпуса генералам Уладзімірам Аляксандравічам Івановым. Мы разам з ім ваявалі ў рэспубліканскай арміі Іспаніі. Сустрэўшыся, мы ўспомнілі іспанскіх таварышаў і нашых саветнікаў — Радзіёна Якаўлевіча Маліноўскага, Мітрафана Іванавіча Нядзеліна, Валерыяна Аляксандравіча Фралова, Міхаіла Сцяпанавіча Шумілава, Івана Сідаравіча Лазарэнку і іншых «камарада руса», як называлі нас іспанскія сябры.

## ПЕРАД НАСТУПЛЕННЕМ

Паўднёва-Заходні фронт меў перад сабой часці 8-й італьянскай арміі, 3-й румынскай і 29-га армейскага корпуса немцаў. Усяго перад фронтам праціўнік меў: пяхотных дывізій — 17, пяхотных брыгад — 1, танкавых дывізій — 2, кавалерыйскіх дывізій — 2.

На працягу 17—18 лістапада праціўнік сканцэнтраваў у раёне Цымлоўскай і Платонаў 14-ю танкавую дывізію, а гэта сведчыла, што вораг улічваў магчымасць наступлення войск Паўднёва-Заходняга фронту.

Абарона праціўніка складалася з густой сеткі апорных пунктаў на пярэднім краі і ў бліжэйшай глыбіні, а таксама з дротавых загарод і мінных палёў.

У аператыўным загадзе № 1 ад 14 кастрычніка 1942 года Галоўнае камандаванне нямецка-фашысцкіх войск паставіла задачу: «Чаго б тое ні каштавала, утрымліваць заваяваныя рубяжы... Гэтым будуць створаны прадпасылкі для прадаўжэння нашага наступлення ў 1943 годзе з мэтай канчатковага знішчэння нашага самага небяспечнага ворага».

Займаючы фронт ад Клецкай да Верхняга Мамона (даўжынёй у 250 кіламетраў), войскі нашага фронту мелі колькасную перавагу над ворагам. Гэтая перавага ў танках, артылерыі і іншых відах узбраення была дасягнута дзякуючы таму, што прамысловасць краіны здолела, нягледзячы на цяжкасці ваеннага часу, наладзіць выпуск узбраення ў дастатковай колькасці, каб задаволіць не толькі патрэбы фронту, але і стварыць неабходныя рэзервы.

Войскі ўсё прыбывалі. Артылерысты вялі няспынную разведку варожых пазіцый, прыстрэльвалі рубяжы, удзельнічалі ў мясцовых аперацыях, якія праводзіліся ў дывізіях і арміях для паляпшэння сваіх пазіцый. У зводках Савецкага інфармбюро гэта называлася баямі мясцовага значэння.

Кожны камандзір палка, дывізіі, корпуса, камандуючы арміяй імкнуўся, каб на яго ўчастку былі зручныя пазіцыі: аднаму неабходна было захапіць вышыню, другому яр для лепшага падыходу і г. д.

Ішла работа і ў штабах. Хоць агульны план контрнаступлення быў распрацаваны, камандуючага фронту часта можна было бачыць над аператыўнай картай. У штаб фронту паступалі ўсё новыя і новыя дадзеныя, праводзілася перадыслакацыя часцей праціўніка, і ўсё гэта неабходна было ўлічыць.

М. Ф. Ватуцін быў чалавекам вялікіх і глыбокіх ведаў, вялізнай сілы волі і цвёрдага характару. Яго палкаводчы талент рос ад аперацыі да аперацыі, кожны раз вызначаючыся чым-небудзь новым, арыгінальным.

На пачатку лістапада прадстаўнікі Стаўкі генерал арміі Жукаў, генерал-палкоўнік А. М. Васілеўскі і генерал-палкоўнік артылерыі М. М. Воранаў знаёміліся з падрыхтоўкай войск да контрнаступлення. Яны пабывалі ў дывізіях, палках, батальёнах і нават на назіральных пунктах камандзіраў батарэй.



Люты 1943-га. Засядае Ваенны Савет Паўднёва-Заходняга фронту.

Запомніўся такі выпадак. Прыбылі на назіральны пункт камандзіра 122-міліметровай гаўбічнай батарэі ў паласе 21-й арміі. Пункт знаходзіўся побач з камандзірам стралковай роты ў другой траншэі. Нябачнае з боку праціўніка, але зручнае для назірання месца. Камандзір батарэі далажыў, куды накіраваны агонь яго гармат, як арганізавана ўзаемадзеянне з камандзірам роты, як працуе сувязь і іншае. Генерал-палкоўнік Васілеўскі рашыў праверыць дакладнасць агню баявым стрэлам. Афіцэр падаў каманду. Праз мінуту раздаўся стрэл. Пападанне было дакладным.

Васілеўскі пахваліў камандзіра батарэі. Воранаў, з усмешкай агледзеўшы прысутных, заўважыў: «Пра што тут гаварыць, страляў жа артылерыст, а не хто-небудзь іншы!» Усе засмяяліся. «Вылазьце, таварышы, з пункта. Камандзіру батарэі трэба працаваць», — сказаў Г. К. Жукаў і, падаючы руку пачырванеламу ад пахвалы афіцэру, пажартаваў: «Выправаджвайце хутчэй начальства, а то не думаю, каб немцам вельмі спадабаўся ваш дакладны стрэл...»

У якіх часцях і падраздзяленнях ні былі прадстаўнікі Стаўкі, усюды іх сустракалі здагадлівыя позіркі салдат і сяржантаў: хоць ім нічога не гаварылася, яны ведалі — хутка пачнецца доўгачаканае наступленне.

Члены Ваеннага Савета А. С. Жалтоў, У. М. Лайок, начальнік палітупраўлення фронту М. В. Рудакоў расказвалі прадстаўнікам Стаўкі пра пехацінцаў, артылерыстаў, танкістаў, сапёраў, кавалерыстаў. Ужо хто-хто, а палітработнікі фронту даходзілі нават да асобных узводаў, добра ведаючы патрэбы, клопаты і радасці кожнага воіна.

15 лістапада тт. Жукаў, Васілеўскі, Воранаў, Ватуцін, Жалтоў, Стэльмах, Іваноў, Красоўскі і я сабраліся на вузле сувязі фронту. Трэба было далажыць у Стаўку аб ходзе падрыхтоўкі наступлення.

Начальнік сувязі фронту далажыў: «Масква на провадзе». Камандуючы фронту прапанаваў гаварыць Жукаву. Той адказаў: «Калі ласка, гаварыце вы, Мікалай Фёдаравіч».

Ватуцін перадаў у Маскву, што ён гатовы. На другім канцы провада Вярхоўны Галоўнакамандуючы сказаў:

— Калі ласка, далажыце аб ходзе падрыхтоўкі. Тут вас слухаюць члены Палітбюро.

І пералічыў прозвішчы.

Ватуцін далажыў аб прыбыцці часцей узмацнення, ступені гатоўнасці радоў войск, аб пытаннях узаемадзеяння з суседнімі франтамі і ўнутры фронту паміж арміямі.

Пачулася пытанне: «Што яшчэ не зроблена?»

Ватуцін адказаў, што яшчэ няма некаторых часцей узмацнення і не

падвезена адна трэцяя патрэбнай колькасці боепрыпасаў. Усё гэта знаходзіцца ў дарозе.

Адразу ж пачулася пытанне:

— Колькі часу неабходна для канчатковай падрыхтоўкі?

Мікалай Фёдаравіч зірнуў на мяне. Я шэптам сказаў: «Чацвёра сутак».

Ён далажыў:

— Прашу чацвёра сутак.

З Масквы сказалі:

— Калі просіце чацвёра сутак, мабыць, трэба даць. А гэтага хопіць? Больш не папросіце?

Камандуючы яшчэ раз зірнуў на мяне, я пакруціў галавой.

— Не, не будзем, таварыш Вярхоўны Галоўнакамандуючы. Да раніцы дзевятнаццатага ўсё будзе гатова.

І. В. Сталін паабяцаў пасадзейнічаць своечасовай дастаўцы эшалонаў з боепрыпасамі і часцямі ўзмацнення. І пажадаў поспехаў.

Жукаў і Васілеўскі, задаволеныя размовай, павіншавалі камандуючага фронту з хуткім пачаткам контрнаступлення.

Воранаў даў мне некалькі карысных парад на гэтыя чатыры дні і пашкадаваў, што сам не можа памагчы: яго і Васілеўскага выклікалі ў Стаўку. Развітваючыся, Воранаў сказаў:

— Усё ідзе нармальна. Жадаю поспехаў.

Закіпела работа. Для падвозу боепрыпасаў са станцый разгрузкі на склады і агнявыя пазіцыі патрэбен быў транспарт і шмат сіл. Вялікая насычанасць войскамі і бездараж вельмі ўскладнялі работу, але салдаты, сержанты, афіцэры і генералы, нягледзячы на цяжкасці, зрабілі ўсё, што ад іх залежала, і пад вечар 18 лістапада ўсё было гатова да наступлення.

Тут нельга не сказаць аб вялізнай дапамозе, якую мы атрымлівалі ад Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання ў Маскве і прадстаўнікоў Стаўкі генералаў Г. К. Жукава, А. М. Васілеўскага, М. М. Воранава на месцы — у штабе і ў войсках фронту. Дапамога гэтая была markрознабаковая: і парада, і асабісты паказ, і добрае слова. Усё гэта рабілася ад шчырага жадання памагчы нам, усім — ад салдата да генерала, у вырашэнні вялікіх і складаных задач, што стаялі перад войскамі.

Тут дарэчы будзе сказаць, што наш камандуючы Мікалай Фёдаравіч Ватуцін карыстаўся вялікім і заслужаным аўтарытэтам як у Стаўцы, так і ў яе прадстаўнікоў. Контрнаступленне пад Сталінградам, кодавая назва якога была «Уран», яшчэ раз пацвердзіла, што Стаўка не памылілася, прызначаючы на пасаду камандуючага войскамі Паўднёва - Заходняга фронту самага маладога з усіх камандуючых: М. Ф. Ватуціну перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны не было і сарака гадоў.

## АПЕРАЦЫЯ «УРАН»

Настала раніца 19 лістапада. Ніхто з нас, вядома, не думаў, што гэты дзень будзе залатымі літарамі ўпісаны ў летапіс Вялікай Айчыннай вайны.

У тую ноч мне не спалася. Спраў было многа, ды і ныла параненая яшчэ на Варонежскім фронце рука. Выйшаў з бліндажа. Быў моцны туман, потым пайшоў мокры, ліпкі снег. Падышоў камандуючы фронту. Павітаўся. Мікалай Фёдаравіч кажа:

— Складаная абстаноўка... Авіяцыя дзейнічаць не можа. Што будзем рабіць?

Я далажыў, што артылерысты пастаўленую задачу выканаюць, і папрасіў дазволу адкрыць агонь у вызначаны час.

Камандуючы маўчаў. Я сказаў, што вечарам, з прычыны туману, дадзены ўказанні камандуючым артылерыяй армій гарматы прамой наводкі і назіральныя пункты падцягнуць бліжэй да пярэдняга краю, назіральныя пункты камандзіраў дывізіёнаў і батарэй размясціць непасрэдна ў першай і другой траншэях наступаючай пяхоты.

— Вельмі добра. Пачнем артылерыйскае наступленне ў вызначаны час, — сказаў камандуючы фронту.

Трэба сказаць, што да 1942 года ніхто не чуў пра артылерыйскае наступленне. У студзені 1942 года Ваенныя саветы франтоў і армій атрымалі дырэктыўнае пісьмо Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання аб выкарыстанні артылерыі ў наступленні. Асноўны сэнс артылерыйскага наступлення заключаецца ў тым, што на ўчастках прарыву сканцэнтроўваецца галоўная маса артылерыйскіх сіл фронту, якія сваім агнём спачатку падрыхтоўваюць атаку, а потым аказваюць няспынную падтрымку наступаючым войскам — пяхоце і танкам, спалучаючы свой агонь з іх рухам уперад.

Набліжаўся доўгачаканы час. Апошні раз зверамы гадзіннікі. Адна за адной ідуць каманды: «Увага», «Зарадзіць», «Нацягнуць шнуры»... І — нарэшце: «Агонь!»

У сем гадзін трыццаць хвілін раніцы тысячы ствалоў гармат і мінамётаў, у тым ліку 550 установак рэактыўнай артылерыі («кацюшы»), адкрылі ўраганны агонь па ворагу.

Спачатку магутны пяцімінутны агнявы налёт з адначасовым удзелам усіх відаў агнявых сродкаў. Потым — перыяд разбурэння і падаўлення на працягу 65 мінут. Дзякуючы старанна і загадзя падрыхтаваным дадзеным для стральбы і добрай разведцы агнявой сістэмы ворага, артылерыйскім камандзірам удалося дасягнуць высокай эфектыўнасці агню. Гарматы батальённай, палкавой і знішчальна-супрацьтанкавай артылерыі вялі прыцэльны агонь прамой наводкай з дыстанцыі 300—400 метраў і бліжэй.

Апошні дзесяцімінутны агнявы налёт усёй артылерыі, мінамётаў, рэактыўных установак і стралковай зброі канчаткова паралізаваў абарону праціўніка. Пры падтрымцы артылерыі пайшла ў наступленне пяхота генералаў І. М. Чысцякова, П. Л. Раманенкі. Уся агнявая сувязь паміж пунктамі і вузламі супраціўлення праціўніка была парушана. І толькі асобныя батарэі ворага спрабавалі весці агонь, але тут жа былі падаўлены агнём артылерыйскіх груп далёкага дзеяння.

Пасняхова наступала і 65-я армія генерала П. І. Батава, якая дзейнічала на Данскім фронце. Пасля прарыву першай пазіцыі галоўнай паласы абароны ворага ўся супрацьтанкавая, палкавая і, часткова, дывізійная артылерыя імкліва пайшла за пяхотай і сваім



«Кацюшы» абвясцілі пачатак контрнаступлення.



Агонь вядзе артылерыя.

агнём забяспечвала бой пяхоты ў глыбіні абароны праціўніка.

Да дванаццаці гадзін дня 19 лістапада ўжо было прынята рашэнне на ўвод у прарыў рухомых груп 1-га, 4-га і 26-га танкавых карпусоў, 3-га гвардзейскага і 8-га кавалерыйскага карпусоў. Найбольшага эфекту пры забеспячэнні танкавых груп і кавалерыйскіх карпусоў, якія дзейнічалі ў аператыўнай глыбіні, дасягнулі знішчальна-супрацьтанкавыя артылерыйскія палкі. Яны ўтрымлівалі захоплены плацдарм на Доне і пераправы, а часткай сіл прыкрывалі флангі танкістаў пры падыходзе да перапраў.



Магутным ударам вызваляецца горад Калач.

1250-ы знішчальна-супрацьтанкавы полк (камандзір — маёр В. А. Кацялоўскі) прайшоў з часцямі 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса ўвесь шлях у гэтай аперацыі. З 19 па 30 лістапада, дзейнічаючы разам з конніцай, полк знішчыў — 62 танкі, 35 агнявых пунктаў, 180 аўтамашын з тэхнікай і жывой сілай ворага. За гераізм і адвагу полк быў узнагароджаны ордэнам Леніна.

Нельга забыць бясстрашша і мужнасць артылерыстаў-коннікаў. У адным з баёў батарэю 275-га кавалерыйскага палка 112-й дывізіі пад камандаваннем капітана Рахматуліна атакавалі з флангаў дзесяць танкаў ворага. Заняўшы кругавую абарону, дзейнічаючы смела і рашуча, коннаартылерысты падпалілі чатыры танкі, і атака ворага захлінулася.

Камандзір батарэі 220-га коннаартылерыйскага дывізіёна капітан Санін, адбіваючы атаку фашыстаў, агнём сваёй батарэі знішчыў амаль роту праціўніка. Убачыўшы, што наводчык адной з гармат паранены, капітан Санін кінуўся да гарматы і, замяніўшы наводчыка, расстрэльваў ворага ва ўпор. Атака праціўніка была адбіта.

22 лістапада 4-ы і 26-ы танкавыя карпусы Паўднёва-Заходняга фронту выйшлі да правага берага Дона. 19-я танкавая брыгада 26-га танкавага корпуса, захапіўшы мост праз раку, заняла плацдарм на левым беразе Дона. Да раніцы 23 лістапада танкісты генералаў А. Р. Родзіна і А. Г. Краўчанкі, з'яднаўшыся, захапілі горад Калач. У гэты момант да хутара Савецкі падыходзілі танкісты генерала В. Ц. Вольскага (Сталінградскі фронт).

Да шаснаццаці гадзін 23 лістапада 45-я танкавая брыгада пад камандаваннем палкоўніка П. К. Жыдкова выйшла ў раён Савецкага і злучылася з 36-й механізаванай брыгадай (камбрыг падпалкоўнік М. І. Радзіёнаў) Сталінградскага фронту.

Такім чынам, у раёне Савецкі — Калач было завершана поўнае акружэнне варожай групоўкі.

Гэта была перамога! Механізаваныя часці Паўднёва-Заходняга фронту, прайшоўшы з няспыннымі баямі за чацвёра з палавінай сутак каля 150 кіламетраў, замкнулі кальцо акружэння арміі Паўлюса.





26-ы танкавы корпус стаў 1-м гвардзейскім танкавым корпусам, а яго камандзір Аляксей Рыгоравіч Родзін быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Мне было прыемна павіншаваць з гэтай высокай узнагародай свайго баявога сябра.

Доўгачаканая сустрэча двух франтоўператварылася ў сапраўдны трыумф. У паветра ляцелі шапкі, і гучнае «ўра» грымела наўкол.

Былі акружаны часці 6-й і 4-й танкавых нямецкіх армій (20 нямецкіх, 2 румынскія дывізіі і каля 160 асобных палкоў і батальёнаў, агульнай колькасцю 330 тысяч чалавек). Акрамя гэтага, войскі нашага Паўднёва-Заходняга фронту разграмілі 3-ю румынскую армію і часці 21-й арміі, узялі ў палон 27 тысяч салдат і афіцэраў каралеўскай Румыніі.

Следам за механізаванымі злучэннямі наступалі, пашыраючы прарыў, стралковыя дывізіі. Яны ўсё больш і больш сціскалі кальцо акружэння. 23 лістапада 64-я і 57-я арміі Сталінградскага фронту выйшлі на рубеж ракі Чарвлёнай і закрылі ворагу шляхі адыходу на поўдзень. У раён Калача к гэтаму часу падышлі перадавыя часці 21-й арміі нашага фронту, не даўшы праціўніку магчымасці прабіцца на захад.

Пад канец кожнага дня штаб фронту дакладваў у Маскву аб выніках наступлення. Вось адзін з такіх дакументаў:

«Масква, таварышу Васільеву *.

Дакладваю, што па стану на 25 лістапада 1942 года ўлічаны наступныя трафеі, захопленыя войскамі фронту за час аперацыі з 19.II па 25.II.42 г.

Гэты пералік поўнасцю яшчэ не ахоплівае ўсёй трафейнай маёмасці, улік якой працягваецца.

Узята ў палон звыш 300 афіцэраў, з іх 3 генералы. Салдат — 53 146 чалавек.

Знішчана: салдат і афіцэраў 32 221 чалавек; самалётаў — 132; танкаў — 84; гармат розных калібраў — 571; кулямётаў — 537; аўтамашын — 172.

Захоплена: самалётаў — 32; танкаў — 234; гармат розных калібраў — 997; кулямётаў — 3 119; снарадаў — 1 012 800...

Камандуючы ПЗФ
генерал-лейтэнант
ВАТУЦІН.

Член Ваеннага Савета
карпусны камісар
ЖАЛТОЎ.

Начальнік штаба
генерал-маёр
СТЭЛЬМАХ».

Багатыя трафеі і палонныя — першыя прыкметы перамогі. Палонных у тыя дні было вельмі многа. Начальніку тылу фронту генералу А. І. Шабуніну былі дадзены ўказанні забяспечыць палонных прадуктамі, параненым аказаць медыцынскую дапамогу.

Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандавання ўлічвала, што праціўнік паспрабуе вырвацца з «катла», таму Данскому і Сталінградскаму франтам было загадана ва ўзаемадзеянні з авіяцыяй ліквідаваць варожую групоўку. Гэтая задача ўскладвалася на камандуючага Данскім фронтам генерал-лейтэнанта К. К. Ракасоўскага. Яму перадаваліся некаторыя арміі з Сталінградскага фронту і 21-я армія Паўднёва-Заходняга фронту. Адначасова Стаўка вырашыла адцягнуць знешні фронт акружэння далей на захад — на 150 — 200 кіламетраў, каб не даць нямецка-фашысцкаму камандаванню магчымасці аказаць дапамогу Паўлюсу і яго войскам. З гэтай мэтай войскам нашага і левага крыла Варонежскага фронтоў загадвалася рыхтавацца да новай наступальнай аперацыі. Гэтая аперацыя атрымала кодавую назву «Сатурн» і была састаўной часткай контрнаступлення савецкіх войск пад Сталінградам. Агульная задума яе зводзілася да таго, каб у сярэдзіне снежня нанесці па ворагу два ўдары: адзін з раёна Верхняга Мамона на поўдзень у агульным кірунку на Растоў і другі з усходу на захад у кірунку на Ліхую.

У разгар баёў да нас на фронт прыехалі саюзнікі-амерыканцы.

* Псеўданім Вярхоўнага Галоўнакамандуючага І. В. Сталіна на перыяд гэтай аперацыі.

Прыезд гасцей, вядома, не быў выпадковы. І мы добра разумелі гэта. Іх вазілі па месцах баёў, яны бачылі разбітую варожую тэхніку, разбурэнні, якія зрабіла наша артылерыя ў абароне ворага, сустракалі вялікія калоны палонных. Усё гэта, безумоўна, не пакінула ў іх ні кроплі сумнення ў тым, што Чырвоная Армія моцная, а савецкія воіны здольны на яшчэ большыя справы.

У канцы лістапада — на пачатку снежня нямецка-фашысцкае камандаванне спрабавала дэблакіраваць акружаную групоўку. З гэтай мэтай 29-ы армейскі і 48-ы танкавы карпусы немцаў, падтрыманыя буйнымі сіламі авіяцыі і артылерыі, зрабілі спробу прарваць абаранільныя пазіцыі нашага Паўднёва-Заходняга фронту і прабіцца да акружаных войск Паўлюса. Усе атакі ворага былі адбіты з вялікімі для праціўніка стратамі. Першая спроба з'яднацца з акружанай арміяй не ўдалася.

Па загаду Гітлера стала паспешліва ствараццa група армій «Дон» пад камандаваннем генерал-фельдмаршала фон Манштэйна. Дарэчы, спачатку на гэту пасаду намячаўся генерал Антанеску, але, відаць, разгром румынскіх войск пад Сталінградам зрабіў уплыў на кар'еру гэтага гітлераўскага прыхвасня.

### КОРАТКА ПРА АПЕРАЦЫЮ «САТУРН»

Марознай раніцай 16 снежня 1942 года пасля магутнай артылерыйскай падрыхтоўкі перайшлі ў наступленне войскі нашага фронту і 6-я армія Варонежскага фронту (камандарм генерал Ф. М. Харытонаў).

Артпадрыхтоўка працягвалася 1 гадзіну 30 мінут. У атаку на ворага пайшлі часці 5-й танкавай, 1-й і 3-й гвардзейскіх армій нашага фронту і 6-я армія Варонежскага фронту. Для паскарэння прарыву тактычнай абароны ворага ў наступленне былі ўведзены 17-ы, 18-ы, 24-ы і 25-ы танкавыя карпусы, а потым і 1-ы гвардзейскі механізаваны корпус.

Дзеянні пяхоты і танкаў паспяхова падтрымлівалі ваенна-паветраныя сілы фронту — 17-я паветраная (камандуючы генерал С. А. Красоўскі) і 2-я паветраная арміі (камандуючы генерал К. Н. Смірноў).

Трымаючы перавагу ў паветры, авіятары памаглі сухапутным войскам прарваць абарону праціўніка і развіць наступленне ў глыбіню. З 16 па 31 снежня авіятары фронту зрабілі каля 5 000 баявых вылетаў.

Наступленне пяхоты і танкаў падтрымлівалі артылерысты і мінамётчыкі.

Гарачы бой разгарэўся ля вёскі Панамароўка. На дапамогу пехацінцам прыйшоў 320-ты гаўбічны артполк. Разгарнуўшыся з марша, гаўбічнікі адкрылі трапны агонь, знішчыўшы толькі за першыя мінуты бою дзве фашысцкія гарматы, тры самаходныя ўстаноўкі, падавілі агонь мінамётнай батарэі і знішчылі да 120 гітлераўцаў.

24-ы танкавы корпус генерала Васіля Міхайлавіча Баданава паказаў асабліва высокі тэмп наступлення. Паспяхова разбіваючы тылы 8-й італьянскай арміі, корпус за пяць сутак уклініўся ў абарону праціўніка на 240 кіламетраў. Спыніўшы корпус за 30 кіламетраў ад станцыі Тацінская, генерал Баданаў прымае смелае рашэнне: «Уперад, на Тацінскую!» Тут у немцаў былі франтавая база і аэрадром. Да пяці гадзін дня 24 снежня корпус авалодаў Тацінскай, захапіўшы вялікія трафеі, у тым ліку 350 самалётаў, якія не паспелі ўзняцца ў паветра.

Аб падзеях, што адбыліся ля Тацінскай, Курт Штрайці апублікаваў у Заходняй Германіі артыкул пад назвай «Пра тых, хто вырваўся з пекла». У раздзеле «Крывавая лазня ля Тацінскай» ён піша: «Раніца 24 снежня 1942 г. Пачынала днець, свяціўся шэры гарызонт. У гэты момант савецкія танкі, вядучы агонь, раптоўна ўрываюцца ў вёску і на аэрадром. Усюды бушуе полымя. Ірвуцца снарады, узлятаюць у паветра склады боепрыпасаў. Мітусяцца грузавікі, а між імі бегаюць з крыкам людзі. Усё, што можа бегчы, рухацца, ляціць, спрабуе разбегчыся ў розныя бакі... Пачынаецца паніка...»

Заняўшы станцыю Тацінскую, нашы войскі перарэзалі важнейшую чыгуначную камунікацыю Ліхая — Сталінград. Праціўнік вымушаны быў адмовіцца ад свайго намеру кінуць войскі апергрупы «Холідт» і 48-га танкавага корпуса на вызваленне акружаных войск Паўлюса і пачаў выкарыстоўваць іх супроць наступаючых войск Паўднёва-Заходняга фронту. Аднак і гэтыя сілы праціўніка былі разбіты.

24-ы танкавы корпус за смелыя і рашучыя дзеянні быў ператвораны ў 2-гі гвардзейскі і ўзнагароджаны ордэнам Леніна. Гэта той корпус, танкісты якога пад камандаваннем генерала А. С. Бурдзейнага 3-га ліпеня 1944 года першымі ўварваліся ў сталіцу Беларусі. Галаўны танк 4-й гвардзейскай танкавай брыгады навечна прапісаны ў горадзе Мінску (ён стаіць на пастаменце ў адным з найпрыгажэйшых месц адроджанага з попелу горада — ля Акруговага дома афіцэраў).

Пры падтрымцы авіяцыі і артылерыі выдатна дзейнічалі таксама 17-ы, 18-ы, 25-ы танкавыя і 1-ы гвардзейскі механізаваныя карпусы пад камандаваннем генералаў П. П. Палубаярава, Б. С. Бахарава, П. П. Паўлава і І. М. Русіянава.

Паспяховае наступленне войск нашага фронту не дало магчымасці праціўніку аказаць дапамогу акружанай групоўцы Паўлюса з Захаду, з Сярэдняга Дона, а наступленнем з поўдня, з раёна Кацельнікава, і закончыўся разгром гітлераўскіх войск пад Сталінградам.

За перыяд снежаньскага наступлення было разгромлена 11 дывізій і тры брыгады праціўніка, узята ў палон больш за 60 тысяч салдат і афіцэраў ворага і вялікая колькасць трафеяў. Асабліва вялікія страты панесла бясслаўная 8-я італьянская армія.

У тыя дні на адной з дарог мне сустрэлася вялікая група палонных італьянцаў. Уперадзе з белым флагам ішоў высокі афіцэр. За ім, панура апусціўшы галовы, пляліся салдаты. Спыніўшы машыну, я запытаў у афіцэра (памагло веданне іспанскай мовы):

— Выходзіць, у палон трапілі?

З горкай усмешкай на пасінелых вуснах афіцэр адказаў:

— Так, пан генерал, вельмі хутка трапілі ў палон...

— Чаму — хутка?

— Хутка наступалі вашы войскі, — афіцэр усміхнуўся і з чыста



# КАВАЛЕР СЛАВЫ



**Мікалая Апанасавіча Лебедзева я застаў у школе за яго рабочым сталом. Перад ім ляжалі кнігі. Шмат кніг. Мікалай Апанасавіч рыхтаваўся да ўрока па грамадазнаўству.**

**Мы пазнаёміліся. І гаспадар перш за ўсё пачаў расказваць, што ў школе створаны музей імя У. І. Леніна. У ім сабраны матэрыялы, прысвечаныя піянерскай арганізацыі, камсамолу, жыццю У. І. Леніна і будаўніцтву камуністычнага грамадства ў нашай краіне. Гэта ініцыятыва настаўнікаў-камуністаў і школьных камсамольцаў.**

**Цераховская сярэдняя школа, якую ўзначальвае Мікалай Апанасавіч Лебедзеў — лепшая ў раёне. Але не пра гэта я збіраюся пісаць. Мяне зацікавіла тое, што дырэктар**



Даваяваліся...

італьянскім гумарам дадаў: — Дарэмна разбуралі нашу абарону, трэба было выгнаць нас з зямлянак, мы б самі замерзлі...

Пасля разгрому 8-й італьянскай, рэшткаў 3-й і 4-й армій каралеўскай Румыніі, групы армій «Холідт» і новасфармаванай 4-й танкавай арміі немцаў былі створаны спрыяльныя ўмовы для знішчэння войскамі Данскога фронту сталінградскай групоўкі ворага і развіцця наступлення нашай арміі на паўднёвым крыле савецка-германскага фронту.

●

Сталінградская бітва аказала велізарны ўплыў на ўвесь ход другой сусветнай вайны і мела вялікае міжнароднае значэнне. Поспехі Чырвонай Арміі ў бітве на Волзе падарвалі веру еўрапейскіх памагатых Гітлера — італьянцаў, румын, венграў, фінаў — у сілу нямецкай арміі. Наступныя ўдары нашай арміі прывялі ўрэшце да разлажэння і распаду разбойніцкай гітлераўскай арміі.

Перамога пад Сталінградам пасяліла веру ў немінучую пагібель фашызму, клікала народы акупіраванай гітлераўцамі Еўропы да супраціўлення і барацьбы.

Зімой 1942—1943 гадоў разгарнуліся наступальныя аперацыі Савецкай Арміі на вялізным фронце ад Ленінграда да Паўночнага Каўказа.

Уперадзе было многа работы і для савецкіх артылерыстаў. У баях пад Курскам і Белгарадам, пад Харкавам і Кіевам, пад Віцебскам і Бабруйскам, пад Ленінградам і Мінскам, пад Ясамі і Кішынёвам, у бітвах за Варшаву, Берлін, Прагу савецкая артылерыя была галоўнай ударнай сілай, якая расчышчала сваім агнём шлях пяхоце і танкам.

Мне выпала ўдзельнічаць у пяці войнах — першай сусветнай, грамадзянскай, у Іспаніі, фінскай і Айчыннай. І калі мяне просяць расказаць пра вайну, пра гераізм і стойкасць людзей, я ўспамінаю перш-наперш 1941-ы.

Было гэта пад Гомелем. Камандуючы Цэнтральным фронтам генерал-лейтэнант Міхаіл Рыгоравіч Яфрэмаў, член Ваеннага Савета, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Панцяляймон Кандратавіч Панамарэнка і я, начальнік артылерыі гэтага фронту, знаходзіліся ў перадавых часцях. Фашысты рваліся да горада. З поўначы горад прыкрываў 696-ы артполк супрацьтанкавай артылерыі. Тры батарэі дывізіёна, дзе камандзірам быў маёр Гаўрыла Ігнатавіч Папоў, асядлалі шашу Доўск — Гомель. Калі мы пад'ехалі да агнявых пазіцый адной з батарэі, бой толькі што закончыўся. Адна з гармат была знішчана прамым пападаннем фашысцкага снарада... Схіліўшыся да прыцэла, навек заснуў наводчык, побач з ім, з апошнім снарадам у руках, ляжаў забіты зараджальны. Камандзір гарматы, малады, з перавязанай закарэлым бінтам галавою сяржант, ляжаў на брустверы акопа, не выпусціўшы з рук бінокля... Уперадзе, непадалёку ад гарматы, гарэла больш за дзесяць танкаў ворага.

Член Ваеннага Савета зняў з галавы шапку і глухім ад хвалявання голасам прагаварыў:

— Запомніце гэта, таварышы, назаўсёды!..

У імя нашай перамогі паміралі савецкія людзі, яны здзейснілі ў гады Вялікай Айчыннай вайны беспрыкладны подзвіг. Будзем заўсёды памятаць іх.

А жыццё наступных пакаленняў няхай ніколі не азмрочваюць хмары вайны.

---

**школы Мікалай Лебедзеў — актыўны ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны і ўзнагароджаны ордэнамі Славы трох ступеняў.**

**Калі я загаварыў пра гэта, Мікалай Апанасавіч замахаў рукамі:**

**— *Ці варта варушыць мінулае? Я нічога асаблівага не зрабіў...***

**Мне ўдалося сёе-тое распытаць у Мікалая Апанасавіча, паглядзець некаторыя дакументы, якія ў яго захаваліся з тых часоў.**

**...Тысяча дзевяцьсот сорак трэці год. Ішлі жорсткія баі пад Арлом. Васемнаццацігадовы камсамолец, выпускнік Вяліка-Колчаўскай сярэдняй школы на Арлоўшчыне, Мікалай Лебедзеў прыйшоў добраахвотнікам на прызыўны пункт. Яго неўзабаве адправілі на фронт. Першае баявое хрышчэнне атрымаў на беларускай зямлі, недалёка ад Добруша. Пад націскам Савецкай Арміі гітлераўцы адступалі на захад. Але вораг пакінуў моцны заслон. Падраздзяленню, у якім служыў Мікалай Лебедзеў, было даручана ліквідаваць яго.**

**Ноччу разведчыкі прабраліся ў тыл. Раптоўная атака, рукапашныя схваткі ў траншэях, і — заданне было выканана...**

**Калі раніцай старшына спытаў у байцоў, хто першы ўварваўся ў траншэю ворага, усе разам адказалі:**

**— Лебедзеў!**

**У маладога разведчыка Мікалая Лебедзева зазззяла на грудзях першая ўзнагарода Радзімы — медаль «За баявыя заслугі».**

**У кастрычніку 1943 года дывізія рухалася на захад. На адным з участкаў паміж Лоевам і Гомелем удалося фарсіраваць Сож. Але стала вядома, што вораг на гэты ўчастак падцягваў жывую сілу і тэхніку, рыхтуючыся да контратакі. Трэба было выведаць планы ворага. Падабралі чатырнаццаць разведчыкаў. Усе камсамольцы. Групу ўзначаліў Мікалай Лебедзеў, які быў тады ўжо сяржантам.**

**Ноч. Туман. Адна за адной узлятаюць у неба варожыя ракеты, а разведчыкі непрыкметна прабіраюцца наперад. Ужо і траншэі гітлераўцаў, іх кулямётная кропка... Байцы «прыраслі» да зямлі. *Раптам пачуўся шоргат: па траншэі ішоў немец.* Як толькі ён пераступіў парог бліндажа, Лебедзеў імгненна накінуўся на немца, аглушыў прыкладам і заткнуў кляпам рот. На дапамогу падышлі разведчыкі з групы сяржанта Бруханава, і ўсе, без страт, вярнуліся ў часць. Разам з «языком» прыцягнулі кулямёт. Заданне выканана! На грудзях Мікалая Лебедзева зазззяў ордэн Славы III-й ступені.**

**Зноў сяржант Лебедзеў прабіраецца ў варожы тыл, гадзінамі праседжвае ў засадзе. На гэты раз ён сочыць за нямецкім сувязістам. Вось ідуць трое, правяраюць лінію. Адзін з іх нахіляецца да дроту. Лебедзеў накідваецца на яго. З другім расправіўляецца Мікалаеў баявы сябар — Звераў. З трэцім валтузіцца Сцебакоў. На дапамогу паспяваюць яшчэ хлопцы, і ўся група Лебедзева паспяхова выконвае заданне. Грудзі бясстрашнага разведчыка ўпрыгожвае ордэн Славы II-й ступені.**

**А трэцяя Слава была здабыта так.**

**Камандаванне дывізіі загадала ўзяць яшчэ аднаго «языка». Ноччу адправіліся на заданне. З Лебедзевым сяржант Назараў, радавыя Мухін, Сычоў, Пракудзін і Яфрэмаў. Пераапрануўшыся ў нямецкую форму і прабраўшыся за лінію фронту, замаскіраваліся ў ляску і пачалі назіраць. Па шашы ішлі танкі, бронемашыны і гарматы. І раптам у цемрыве паказаўся легкавік. Сяржант Назараў выйшаў на дарогу і даў знак спыніцца.**

**У гэты час Лебедзеў ірвануў на сябе ручку дзверцаў. У машыне сядзеў маёр. На каленях ляжаў партфель з дакументамі. Немец спахапіўся, але позна. Лебедзеў выбіў у яго з рук пісталет і выцягнуў немца з машыны. Гэта быў маёр службы бяспекі.**

**«Даставіць за лінію фронту?» — мільганула тут жа думка.**

**— Назараў, за руль! — шэптам скамандаваў Лебедзеў.**

**Савецкія разведчыкі з ходу праскочылі некалькі кіламетраў. У маленькім гарадку нямецкія патрулі, заўважыўшы знаёмыя знакі службы бяспекі, не спынілі машыну. Яшчэ некалькі мінут, і разведчыкі апыніліся ў прыфрантавым хутары. Яны загналі легкавік у пуню, а самі з палонным прабраліся да сваіх.**

**24 сакавіка 1945 года за гэтую баявую аперацыю Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мікалай Апанасавіч Лебедзеў быў узнагароджаны ордэнам Славы I-ай ступені. Так мужны разведчык стаў поўным кавалерам трох ордэнаў Славы.**

**Між іншым, гэтую апошнюю сваю ўзнагароду Мікалай Лебедзеў атрымаў ужо ў шпіталі, калі перасталі бухаць гарматы і фашысцкая Германія капітулявала.**

**Амаль васемнаццаць гадоў Мікалай Апанасавіч працуе ў школах на Гомельшчыне, шчодра аддае свае веды і сілы навучанню і выхаванню падрастаючага пакалення.**

Фадзей СОБАЛЬ.

Савецкай Арміі 50 гадоў. За паўстагоддзя яна вытрымала нямала жорсткіх баёў, заваявала шмат бліскучых перамог, пакрыла сябе неўміручай славай. Сціслыя дакументы архіваў расказваюць пра тое, як стваралася Чырвоная Армія, якую дапамогу ў арганізацыі ўзброеных сіл маладой рэспублікі Саветаў аказвалі працоўныя Беларусі.

Матэрыялы падрыхтавалі супрацоўнікі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР Роза ВАСІЛЬЕВА і Ларыса ЯШЧЭНКА.

# ДЗЕЦІШЧА



# НАРОДА

## ЗАПІС ДОБРААХВОТНІКАЎ УСЁ РАСЦЕ

**Са справаздачы ваеннага аддзела Віцебскага губернскага выканкома**

***16 красавіка 1918 года***

...Запіс добраахвотнікаў у Чырвоную Армію ўсё расце з кожным днём. І цяпер у сярэднім запісваюцца да 45 чалавек у дзень. Да сённяшняга дня ў секцыі запісалася 2 333 чалавекі, з якіх сфарміраваны: 5-ы чырвонаармейскі полк з батарэяй лёгкай артылерыі, 1-ы батальён імя Віцебскага Саўдэпу з усімі адпаведнымі камандамі, 1-ы Латышскі коннаразведвальны атрад, фарміруецца 2-і асобны батальён і ў Себежскім павеце 3-і асобны батальён імя Віцебскага Саўдэпу... На станцыі Багушэўская сфарміраваўся партызанскі атрад з 300 чалавек з трыма гарматамі і 20 партызанскімі ротамі па 120—130 чалавек у прыфрантавой паласе Полацкага павета...

**Таварыш старшыні (подпіс неразборлівы).**
**Сакратар (подпіс неразборлівы).**





1919 год. На фронт адпраўляецца полк, сфарміраваны камбедамі.

## ДА АПОШНЯЙ КРОПЛІ КРЫВІ

**Рэзалюцыя сходу чырвонаармейцаў горада Чавусы Магілёўскай губерні**

**13 кастрычніка 1918 года**

Мы, чырвонаармейцы, у ліку 360 чалавек, усе, як адзін, вітаем Савецкую ўладу і прысягаем абараняць яе да апошняй кроплі крыві, і ўсе, як адзін, гатовы па першаму клічу нашай народнай улады са зброяй у руках узняцца на абарону прыгнечанай беднаты. Мы аб'яўляем бязлітасную барацьбу контррэвалюцыянерам, якія спрабуюць задушыць уладу рабочых і працоўнага сялянства.

...Шлем шчырае прывітанне сапраўднаму правадыру пралетарыяту таварышу Леніну.
Няхай жыве Федэратыўная Савецкая Рэспубліка!
Няхай жыве сусветная рэвалюцыя!
Няхай жыве адзіная партыя рэвалюцыянераў, камуністаў-бальшавікоў!
Няхай жыве Чырвоная сацыялістычная Армія!

**Магілёўскі губернскі камісарыят па вайсковых справах: Ткачоў, *Шчыпіла.***
**Ваенны кіраўнік Галоўка-Улазоўскі.**

## ДЗЁННЫ ЗАРАБОТАК — ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

**Рэзалюцыя агульнага сходу рабочых шклозавода «Труды» Гарадоцкага павета Віцебскай губерні**

**21 снежня 1918 года**

Мы, рабочыя шклозавода «Труды», на працягу чатырох год пакутаваўшыя ад беспрацоўя, атрымаўшы цяпер заработак, дзякуючы мерам, прынятым нашай Савецкай уладай, пастанавілі:

Адлічыць дзённы заработак у карысць нашай Чырвонай Арміі — адзінай абаронцы ўсяго пралетарыяту.

Няхай жыве авангард сусветнай рэвалюцыі — сацыялістычная Чырвоная Армія!

**Старшыня сходу (подпіс неразборлівы).**
**Сакратар (подпіс неразборлівы).**

На абарону рэвалюцыі.



## РАПАРТУЕ ВАЕНКАМАТ

**Данясенні Магілёўскага павятовага ваенкамата губернскаму ваенкому**

**15 сакавіка 1919 года**

Даношу, што з 1 па 15 сакавіка гэтага года зарэгістравана паступіўшых добраахвотна ў рады Чырвонай Арміі 65 чалавек.

**31 сакавіка 1919 года**

Даношу, што з 16 сакавіка па 1 красавіка гэтага года зарэгістравана паступіўшых добраахвотна ў рады Чырвонай Арміі 24 чалавекі.

**15 красавіка 1919 года**

Даношу, што з 1 па 15 красавіка гэтага года прынята ў рады Чырвонай Арміі добраахвотнікаў 28 чалавек.

**Ваенны камісар (подпіс неразборлівы).**
**Памочнік ваеннага кіраўніка: Паўлоўскі.**
**Памочнік начальніка мабілізацыйнага аддзялення (подпіс неразборлівы).**

## УПЕРАД ЖА, ТАВАРЫШЫ!

**Рэзалюцыя пасяджэння ячэйкі спачуваючых камуністам-бальшавікам Лавожскай воласці Віцебскага павета**

**4 снежня 1918 года**

Заслухаўшы даклад таварыша Мосінцава, ячэйка бачыць, што наша маладая Чырвоная Армія, абараняючы інтарэсы і правы працоўных, з нястомнай сілай і энергіяй рухаецца ўсё далей і далей. З кожным крокам уперад нашы слаўныя абаронцы сацыялізма робяць вялікую справу не толькі для Расіі, але і для пралетарыяту ўсяго свету. Зробленае чырвонаармейцамі: узяцце Казані, ачышчэнне Волгі і многае іншае — ясна кажуць за тое, што яны ідуць не за страх, а за сумленне, што гоніць іх уперад не кій, а поўная свядомасць важнасці той справы, якая гісторыяй і ходам рэчаў выпала на іх долю. Гэтыя людзі ў шэрых шынялях, часта знясіленыя, змучаныя, часта па цэлых днях не ведаючы адпачынку і спакою, з кожным днём умацоўваюць усё больш і больш справу рэвалюцыі. Уперад жа, таварышы, па шляху перамогі над капіталізмам. Уперад! На вас глядзяць прыгнечаныя ўсяго свету!

Няхай жыве Чырвоная Армія!
Няхай жыве Савет Народных Камісараў!
Няхай жыве сусветная пралетарская рэвалюцыя!

## ІДУЦЬ НА ФРОНТ КАМУНІСТЫ

**Рэзалюцыя агульнага сходу камуністычнай ячэйкі Вазнясенскай воласці Полацкага павета Віцебскай губерні**

**18 мая 1919 года**

Расійскай Савецкай Рэспубліцы пагражае небяспека. Сусветныя разбойнікі-капіталісты ўсімі сіламі стараюцца задушыць паўстаўшы пралетарыят, знішчыць уладу Саветаў Венгрыі, Баварыі і галоўны асяродак сусветнай рэвалюцыі ў Расіі.

Але мы цвёрда верым у канчатковую перамогу сусветнай пралетарскай рэвалюцыі, поўнае вызваленне працы ад капіталу.

На дапамогу нашай доблеснай Чырвонай Арміі мы пасылаем на фронт $1/3$ членаў нашай ячэйкі, акрамя пасланай раней $1/5$ часткі нашых таварышаў.

Смела, таварышы, уперад!
У бой за вызваленне працы ад ярма капіталу!
Няхай жыве Чырвоная Армія!

**Газета «Известия Витебского губернского Совета», № 120, 3 чэрвеня 1919 года.**

## РАБОЧЫ ПОЛК СФАРМІРАВАНЫ

Асобны рабочы полк імя Мінскага савета прафсаюзаў ужо сфарміраваны. Прыток новых членаў палка працягваецца. Абучэнне палка вайсковаму строю ідзе дружна і паспяхова. У склад палка ўваходзіць старшыня савета прафсаюзаў таварыш Ходаш і ўсе члены праўленняў прафсаюзаў.

**Газета «Звязда», № 457, 8 чэрвеня 1919 года.**

## ПЕРШЫ КАМУНІСТЫЧНЫ СУБОТНІК

13 верасня ў нас адбыўся першы камуністычны суботнік.

Сабраўшыся ў ліку 24 чалавек а пятай гадзіне дня ў памяшканні камітэта партыі, нашы таварышы дружна і бадзёра накіраваліся ў раён вёскі Каралевічы (за чатыры з паловай вярсты ад горада) на акопныя работы.

Там, пад кіраўніцтвам ваенных будаўнікоў прарабіўшы да змроку каля трох гадзін, грунтоўна адрамантавалі прыблізна 40—45 сажняў акопаў.





Агляд часцей Чырвонай Арміі праводзіць М. М. Тухачэўскі.



На артылерыйскую пазіцыю пад Барысавам прыехаў А. Ф. Мяснікоў.

Працавалі спорна і весела. Асабліва вызначаліся нашы камуністкі.

Цяпер можна сказаць, што пачатак камуністычным суботнікам Сенненскай арганізацыяй пакладзен ужо. Пачатак карысны, неабходны і прадукцыйны...

**Газета «Факел», № 84, 16 верасня 1919 года.**

## ПІСЬМО У. І. ЛЕНІНУ

**ад дэлегатаў канферэнцыі старшынь камуністычных ячэек і камісараў часцей 16-й арміі**

**29 студзеня 1920 года**

Канферэнцыя старшынь камуністычных ячэек і камісараў спецыяльных часцей 16-й арміі палка вітае Вас, правадыра расійскага і сусветнага пралетарыяту, і бачыць, што пралетарыят Савецкай Расіі, беспамылкова кіруемы Вамі ў нечувана цяжкіх умовах, выходзіць пераможцам. Недалёка час, калі будуць разбітыя апошнія контррэвалюцыйныя атрады, знішчаны ўнутраны вораг — эканамічная разруха і ўсе працоўныя сілы змогуць быць пастаўлены (на службу) стварэння новых, камуністычных форм жыцця.

Няхай жыве першая ў свеце працоўная камуна і яе правадыр таварыш Ленін!

## ГЛЫБОКАЯ ПАДЗЯКА

**Пастанова з'езда Саветаў Селіцкай воласці Гарадоцкага павета Віцебскай губерні**

**26 лістапада 1920 года**

Прынесці глыбокую падзяку барацьбітам за агульную справу працоўных — чырвоным героям, якія сілай сваёй самаадданасці і рэвалюцыйнай свядомасці разбілі ўсе падкопы буржуазнай контррэвалюцыі і гэтым далі магчымасць прыступіць да аднаўлення разбуранай народнай гаспадаркі.

З свайго боку мы, члены з'езда, абавязваемся ўсе сілы аддаць для барацьбы на мірным фронце працы.

Няхай жыве Чырвоная Армія!
Няхай жыве арганізаваная барацьба з апошнім ворагам — гаспадарчай разрухай.

Байцы 237-га Мінскага стралковага палка.





Л. ШЧЭМЕЛЕЎ. Маё нараджэнне.

З УСЕСАЮЗНАЙ ЮБІЛЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ.



М. ЧЭПІК. 1941 год.

З УСЕСАЮЗНАЙ ЮБІЛЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ.



**Помнік першай савецкай балістычнай ракеце.** Фота **Я. МЯЦЕЛІЦЫ.**



Перакур. Фотаэцюд **Я. МЯЦЕЛІЦЫ.**

# ШЧЫРА І ТОЛЬКІ ДЛЯ «МАЛАДОСЦІ»



Член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар Аляксандр Сямёнавіч Махнач.

*Рэпартаж Аляксандра Дзятлава*

Член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, доктар тэхнічных навук, прафесар Альберт Іосіфавіч Вейнік.



Заданне рэдакцыі было сціслае і дакладнае. Мне трэба было пазнаёміцца з некалькімі віднымі вучонымі і пабываць у іх дома.

— Як распараджаецеся вы вольным ад работы часам? Чым захапляецеся? — падрыхтаваў я пытанні для гутаркі.

Адказы вучоных павінны былі пашырыць нашы ўяўленні аб свеце інтэлігентнага чалавека.

Найцікавейшае заданне! І, да таго ж, як мне здалося, не вельмі складанае. Умовіцца аб сустрэчы. Занесці некалькі радкоў у блакнот. І — перад развітаннем — адзін фотаздымак... Аднак першыя ж крокі на шляху да рэпартажу ўнеслі сумятню ў гэты стройны план. Маё меркаванне наконт лёгкасці выканання аказалася, мякка кажучы, памылковым.

З першых жа тэлефонных перагавораў высветлілася:

што вольны час у вучоных бывае, на жаль, рэдка;

што дома вучоны часцей за ўсё займаецца... тым жа, чым і ва ўстанове, дзе ён працуе;

і што працягласць яго адпачынку вымяраецца мізэрна малымі велічынямі, якія, да таго ж, мне трэба было яшчэ пакараціць сваім візітам.

Але (і я заўважыў гэта ўжо не ў першы раз!) як толькі ўвага сівавалосага субяседніка старанна накіроўвалася мною на назву нашага часопіса, на катэгорыю чытача,— гара падала з плеч. Маладосць дорага ўсім. І ўрэшце рэшт, для «Маладосці» і час, і шчырыя прызнанні знайшліся ў кожнага, да каго б я ні звярнуўся.

Зрэшты, у адным выпадку адбылася свайго роду асечка. Гэта здарылася пры «штурме» доктара навук, якому няма яшчэ і трыццаці гадоў. Праўда, мы з ім сустрэліся і пагаварылі. Ён паведаміў, што захапляецца опернай музыкай і баскетболам і што яму ўдалося сабраць досыць вялікую калекцыю пласцінак з запісамі італьянскіх спевакоў, а па суботах, ад



Доктар гістарычных навук, прафесар Лаўрэнцій Сямёнавіч Абецадарскі.

васьмі да поўначы, ён з калегамі «да сёмага поту ганяе мяч у спартыўнай зале»... Але адкрыўшы ўсё гэта, ён папрасіў літасці. Выявілася, што па самых розных прычынах, у яго за апошнія дні пабывала столькі журналістаў, колькі ён не сустракаў іх за ўсё сваё прафесарскае жыццё.

— Атрымліваецца так, як быццам я не вучоны, а кіназорка,— сумна ўсміхнуўся ён.— Быў бы вельмі ўдзячны, калі б можна было хоць на гэты раз абысціся без упамінання майго імя...

Я паабяцаў яму гэта. І, як бачыце, стрымаў слова.

А зараз можна паведаміць пра ўсе астатнія сустрэчы.

У інстытуце, дзе працуе Аляксандр Сямёнавіч Махнач, мяне папярэдзілі:

Доктар біялагічных навук, прафесар Лідзія Сямёнаўна Чаркасава.





Член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар Уладзімір Гаўрылавіч Вафіадзі.

— Наўрад ці назаве ён сваім захапленнем што-небудзь, акрамя геалогіі. Ён дома заканчвае справы, на якія ў яго не хапіла часу ў інстытуце.

А я заспеў яго дома за шахматамі!

— Цэлымі днямі думаю аб мінулым. Геалогія ж!.. Магчыма менавіта таму,— як лепшы адпачынак,— хоць крыху думак пра тое, што будзе на шахматнай дошцы,— сказаў Аляксандр Сямёнавіч.— Раней гуляў часцей. Многіх пабіваў. Цяпер прыахвоціўся да шашак: на іх патрэбна менш часу. У шахматах пачаў выступаць, пераважна, у ролі трэнера сваіх сыноў. Вось і ўсё...

— Хіба ўсё?

— Ну, калі гаварыць пра лета,— грыбы. Самы захапляючы занятак!

— Ну, а калі яшчэ пра тое, што бывае круглы год?

— А адкуль вы ведаеце? Хакей, футбол і зноў жа шахматы? Прызнаюся — хварэю. Свядома. Раздумваю пра лёс фаварытаў. Зрэдку дазваляю сабе вольнасць — раблюся аракулам. Вось, дапусцім, Ларсен. Хочаце ведаць, як ён закончыць турнір?..

У гэты час пачуўся званок. Аляксандр Сямёнавіч пайшоў адчыніць. І вярнуўся разам з маладым чалавекам, які трымаў у руках таўшчэзную папку і скрутак расфарбаваных карт на васкоўцы.

Нас пазнаёмілі. Гэта быў інжынер-геолаг, які вярнуўся з экспедыцыі. Яму патрэбна была кансультацыя.

— І правільна зрабіў! — азваўся гаспадар, вызваляючы месца на пісьмовым стале.

— У мяне цяжкі від захаплення,— адказаў Альберт Іосіфавіч Вейнік. Вы ж хочаце і сфатаграфаваць мяне ў час бяздзейнасці? Давядзецца чакаць лета.

— ?!

— Турызм!..

— Куды ж вы збіраецеся?.. Зрэшты, гэта будзе ўжо занадта позна...

— А калі я раскажу пра тое, дзе пабываў у апошніх падарожжах?.. Хочаце — пра Сахалін? На гоначных веласіпедах...

— Цікава.

— Або пра Чорнае мора? Плаванне на катамаране...

Доктар філалагічных навук, прафесар Любоў Іванаўна Фіглоўская.



— Цудоўна!

— Не зусім. Пацярпелі крушэнне. Многае затанула. У тым ліку — фотаапарат і касеты з адзнятай плёнкай.

— А сахалінскае што-небудзь ёсць?..

І вось перада мной стос фатаграфій. Мора. Туман. Дождж. Дарогі. Горы. Туман...

— Нас было чацвёра. Мы адчувалі сябе цудоўна!

Слухаючы Альберта Іосіфавіча, я перабіраю шэрыя здымкі. Няўжо не было ніводнага сонечнага дня? І, раптам, вось ён — патрэбны здымак! Камандор прабегу зазняты на фоне ціхаакіянскай бухты.

— А яшчэ?

— Што яшчэ? — цяпер ужо нотка неспакою гучыць у голасе субяседніка.— Яшчэ здымкі?

— Не, дзякую! Але яшчэ пра захапленні...

На гэты раз з палёгкай уздыхае ён.

— Ну, калі хочаце яшчэ: я — морж.

— Купаецеся ў палонцы?

— Дакладней сказаць — плаваю. Займаюся ў секцыі. Не падумайце, аднак, што дзеля спартыўнага інтарэсу. Перакананы, што без гэтага я не мог бы працаваць з той аддачай, на якую аказаўся здольны.

— Значыць, вы — дзелавы морж. А асалоду ад ледзянога купання, даруйце, ад плавання, адчуваеце?

— Велізарную!..

З Лаўрэнціем Сямёнавічам Абецадарскім гутарка наша была вельмі працяглай. Таму, што яна была пра фатаграфію. І яшчэ — пра аматарскае кіно.

— Захапляюся тым і другім,— без пахвальбы сказаў Лаўрэнцій Сямёнавіч.— Часта — за кошт сну. Без гэтага не ўяўляю сябе. Правільней, уяўляю, але ў нікчэмным выглядзе... Сваю фатаграфічную і кінатворчую дзейнасць дзялю на тры напрамкі: для душы, для знаёмых і для справы. Галоўнае, вядома, апошняе. Я многа езджу. Бачу многае, што абагачае мяне, як гісторыка. І тут, перафразіруючы Мічурына, магу сказаць: гісторык не павінен чакаць літасці ад фатографаў. Рабіць патрэбныя фатаграфіі самому — наша задача.

Ён сярдзіта ўсміхаецца. Тапырыць вусы. Глядзіць на мяне паверх акуляраў. Дапытліва.

Мне чамусьці робіцца сорамна за нейкіх незнаёмых фатографаў, якія, напэўна, у нечым падвялі вучонага. А магчыма, падман зрабіў калі-небудзь я сам? Кажу яму:

— Калі ласка, не глядзіце на мяне так строга...

— Вось-вось і яно! — раптам дабрэе яго ўсмешка і абмякаюць вусы.— Вось і шкада, што вы да гэтага часу яшчэ не папрацавалі на нас. Я маю на ўвазе — на карысць кафедры. Кафедра гісторыі вас не забудзе!

На чорнае акно нацэлена труба тэлескопа. За акном мігатлівыя агеньчыкі. Але гэта не зоркі. Гэта горад з вышыні пятага паверху. А тэлескоп, сапраўды, нацэлен на іншыя светы. Добры тэлескоп. Зроблены рукамі Уладзіміра Гаўрылавіча Вафіадзі.

— З дапамогай сына! — гаворыць ён не без гонару.— Таксама, як і вось гэты катамаран...

Ён падводзіць мяне да канструкцыі з двух звычайных ложкаў-раскладушак.

Штосьці адпілавана. Штосьці прыклепана. Штосьці пастаўлена на шарніры.

— У плаванне пойдзем утрох: матрос (сын), я і Чоп...

— Чоп, гэта капітан?

— Не, хутчэй — боцман. Задача Чопа — ахова парадку. І на вадзе, і на сушы, у час прывалаў... Чоп, ідзі сюды! Пакажыся госцю. Павітайся.

У пакой уваходзіць вялікі, кучаравы, рыжы сабака. Глыбакадумна фыркнуўшы, упіраецца халодным, кляёнчатым носам мне ў далонь.

— Ну, добра. Можаш адпраўляцца назад.

Каб не страціць нітку размовы, я думаю ўголас:

— Значыць, падарожжы па вадзе і астрафізіка...

— Астрафізіка — з маленства. Мара і мэта ўсяго майго жыцця. Яшчэ крыху намаганняў, і праз год-два мы зможам сустрэцца з вамі ў Мінскай астрафізічнай абсерваторыі.

Заходзіць размова пра космас, пра лятаючыя талерачкі.

Уладзімір Гаўрылавіч дастае з шафы некалькі кніг. Фантастыка...

— Стараемся з сынам набыць усё, што выдаецца,— гаворыць Уладзімір Гаўрылавіч і ўсміхаецца: — Абгрунтаваныя мары — неабходная пажыва для розуму...

Вучоны сядзіць ля акна. Побач з ім красуецца яго «аптычная чатырохдзюймоўка». Нацэльваю аб'ектыў «Старта».

— Вам могуць перашкодзіць лыжы,— быццам просячы прабачэння, гаворыць ён.— Тырчаць з-за шторы?

І сапраўды, качыныя насы старых тэлемаркаў выглядаюць з-за шторы.

— Выдатная пара! — гаворыць далей ён.— Вось ужо сёмы сезон, па якіх хочаш буяраках — і хоць бы што!..

Выдатна выдадзеныя альбомы з малюнкамі скарбаў ленінградскага Эрмітажа, музеяў Нью-Йорка, Парыжа, Рыма, Дрэздэна, Прагі. Манаграфіі аб Рэмбрандту і Ван Гогу, аб Мікеланджэла і Радэне, шматтомнікі Стасава, энцыклапедыі мастацтва...

Немагчыма пералічыць усё, сабранае Лідзіяй Сямёнаўнай Чаркасавай, заўзятай прыхільніцай выяўленчага мастацтва. Немагчыма і таму, што сабрана ёю вель-

мі многа, і таму, што каштоўная гэтая калекцыя няспынна папаўняецца.

Я спытаў:

— Вывучэнне ўсяго гэтага багацця, любаванне ўсім гэтым, вядома, праходзіць у сваёй сям'і? І адбірае нямала часу? Ужо дома вы, відаць, не займаецеся сваёй навукай?

Добрая, абаяльная жанчына акінула мяне спачувальным позіркам.

— У акадэміі і ўніверсітэце я цэлымі днямі. На людзях. Але ж гэтак жа неабходна і поўнае адасабленне, гадзіны нікім і нічым не парушаемых роздумаў. Таму біяхіміяй я займаюся і дома.

— Калі ж для гэтага знаходзіцца час?

— Часцей за ўсё тады, калі ўсе кладуцца спаць...

Практычна, частку матэрыялу для рэпартажу аб тым, чым занята ў вольны ад работы час Любоў Іванаўна Фіглоўская, я меў яшчэ да таго, як атрымаў рэдакцыйнае заданне. Лёс звёў нас у вагоне экспрэса Масква — Мінск.

Пра што магла расказаць жанчына, *якая правяла некалькі дзён у сталіцы?* Пра тэатр? Пра наведванне музея? Пра пакупкі?

Так, у маёй спадарожніцы быў запас уражанняў і на гэтыя тэмы. Але размову яна сама завяла пра іншае. Ва ўсіх падрабязнасцях расказала яна пра тое, як малады вучоны абараняў доктарскую дысертацыю, прасачыўшы ўплыў Шолахава на літаратуры брацкіх народаў.

Таму, ідучы да *прафесара* Фіглоўскай дамоў, калі яна была свабодная ад універсітэта, я быў упэўнены, што ўсё роўна застану яе за кнігамі і што размова ў нас пойдзе пра літаратуру.

Але так не здарылася. Здарылася так, што яе не аказалася дома. Дамачадцы перадалі яе прабачэнне за ўцёкі і просьбу прыйсці да яе ў музей Якуба Коласа. (У двух кроках ад дома, дзе яна жыве.) Музей, паводле дайшоўшых да яе чутак, атрымаў рад матэрыялаў пра Коласа. Дык хіба вольная ад работы прафесар Фіглоўская магла ўседзець дома?

Я застаў яе каля стэнда з новымі знаходкамі — перапіскай народнага паэта з рускімі сабратамі па пяру.

Ці трэба было мне пасля ўсяго, што ўжо ведаў, пытацца ў Любові Іванаўны *пра яе захапленні ў вольны час?..*

● ● ●

## НАГАДВАЕМ!

### Дарагія сябры!

**Рэдакцыя „Маладосці“ звяртаецца да вас з просьбай: цікаўцеся гераічнымі справамі камсамола рэспублікі, займіцеся пошукамі невядомых яшчэ або забытых герояў — тых, хто змагаўся на франтах грамадзянскай, хто быў на рыштаваннях пяцігодак, хто бараніў Радзіму ў гады Вялікай Айчыннай вайны.**

**Мы будзем удзячны, калі вы прышляце нам дакументы, фатаграфіі або нейкія іншыя матэрыялы пра дзейнасць камсамольцаў на вашым заводзе, у вашым калгасе, школе, навучальнай установе.**

**Дасылайце свае ўспаміны, запісаныя вамі расказы былых камсамольцаў. Рэдакцыя ахвотна будзе змяшчаць іх у часопісе на працягу года. Лепшыя матэрыялы мы зберажом для нумара, прысвечанага юбілею камсамола.**

**За працу, сябры! Чакаем вашых лістоў!**





# «ВУЗЕЛЬЧЫКІ»

# БУДУЧЫМ ФІЗІКАМ

Тыя, хто пасля выпускных школьных экзаменаў наважаць прадоўжыць сваю адукацыю ў вышэйшай школе, а такіх, як паказвае практыка, значна больш, чым здольны прыняць ВНУ, павінны паспяхова вытрымаць конкурсныя экзамены. Натуральна, узнікае пытанне, як лепш да іх падрыхтавацца.

Тут мы хочам падзяліцца сваімі думкамі адносна таго, як праходзілі прыёмныя экзамены па фізіцы ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Адразу зазначым, што ў апошнія гады большасць выпускнікоў сярэдніх школ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў паказвае глыбокія і трывалыя веды па ўсіх раздзелах фізікі, добра спраўляецца з рашэннем задач. Асабліва трэба адзначыць медалістаў, якія, у сярэднім, падрыхтаваны значна лепш у параўнанні з астатнімі абітурыентамі. Праўда, некаторыя пры здачы экзамена па асноўным прадмету не здолелі пацвердзіць выдатную адзнаку, якая стаіць у іх атэстаце. Тыя ж, што атрымалі па фізіцы адзнаку добра і прадаўжалі здаваць экзамены на агульных падставах, за рэдкім выключэннем, здолелі даказаць сваё права быць сярод студэнтаў: яны па астатніх прафіліруючых прадметах набралі высокі бал і паспяхова прайшлі па конкурсу. Гэты факт, дарэчы, лішні раз падкрэслівае, як важна не разгубіцца пры часовай няўдачы, а, будучы ўпэўненым у сваіх ведах, працягваць адстойваць права стаць студэнтам.

Не маючы магчымасці деталёва прааналізаваць узровень падрыхтоўкі па фізіцы выпускнікоў розных школ, мы, тым не менш, хацелі б спыніцца на некаторых момантах, каб разгледзець дадатныя бакі, а таксама і недахопы ў выкладанні курса фізікі. Тым больш, што яны з'яўляюцца агульнымі і характэрнымі для большасці школ рэспублікі. Перш за ўсё, трэба адзначыць добрыя веды вучняў спецыялізаваных школ з фізіка-матэматычным нахілам. Так, напрыклад, выпускнікі школы № 50 г. Мінска, Гарадзейскай сярэдняй школы Мінскай вобласці і раду іншых маюць больш высокую падрыхтоўку па фізіцы, чым выпускнікі звычайных школ. На ўступных экзаменах яны ў радзе выпадкаў выявілі веды ў аб'ёме, большым, чым патрабавалася праграмай уступных экзаменаў.

Адчувалася, што, апрача стабільнага падручніка па фізіцы, яны нядрэнна ведаюць асобныя пытанні з вышэйшага курса фізікі, добра знаёмыя з навукова-папулярнай літаратурай па фізіцы і матэматыцы. Разам з тым, прадметная камісія адзначыла, што выпускнікі гэтых школ, захапіўшыся вывучэннем асобных пытанняў інстытуцкага курса агульнай фізікі, у радзе выпадкаў выявілі нетрывалыя веды па элементарнай фізіцы сярэдняй школы. Яны паспяхова прымянялі паняцці вытворнай, інтэграла пры адказах на такія пытанні, як скорасць, паскарэнне, работа і г. д., але не здолелі справіцца з больш простымі пытаннямі курса фізікі сярэдняй школы. Некаторыя з іх не змаглі разлічыць электрарухаючую сілу батарэі, якая складаецца з двух паралельна злучаных элементаў з рознымі электрарухаючымі сіламі і рознымі ўнутранымі супраціўленнямі, слаба засвоілі праграмны матэрыял па такіх пытаннях, як выпраменьванне і паглынанне святла, прыём і перадача электрамагнітных хваляў, мадуляцыя электрамагнітных ваганняў, інтэрферэнцыя і дыфракцыя святла.

Кіруючыся прынцыпам, што ў навуцы няма дробязей, школы павінны дамагацца, каб пры вывучэнні курса фізікі па павышанай праграме не ўпускаліся і элементарныя пытанні школьнай фізікі. Даводзіцца канстатаваць, што далёка не ўсе абітурыенты дастаткова падрыхтаваны для паступлення ў інстытуты. Асабліва гэта датычыцца тых, хто выбраў сваёй спецыяльнасцю біялогію, геалогію і заха-

цеў дасягнуць вяршынь навукі, займаючыся па вячэрняй сістэме. Складваецца такое ўражанне, што будучыя біёлагі і геолагі зусім цьмяна ўяўляюць сабе перспектывы сваёй спецыяльнасці, сувязь яе з іншымі дакладнымі навукамі. І выбралі яе зусім неабгрунтавана, несур'ёзна, хутчэй за ўсё — з прынцыпу колькасці ўступных экзаменаў і іх складанасці.

Асноўным недахопам быў і застаецца фармалізм у засваенні некаторымі вучнямі асноўных законаў і паняццяў фізікі. Гэта выявілася як пры адказах на пытанні білета, так і пры рашэнні задач.

Прывядзём некалькі прыкладаў. Амаль усе абітурыенты давалі правільнае азначэнне паскарэння, аднак большасць з іх звязвала гэтае паняцце толькі са змяненнем скорасці па велічыні, але не па напрамку. На пытанне аб тым, ці валодае паскарэннем цела, якое раўнамерна рухаецца па скрыўленай траекторыі, многія абітурыенты адказвалі, што ніякага паскарэння ў гэтым выпадку няма. Большасць паступаючых не змагла ўказаць, як накіраваны вектар поўнага паскарэння пры нераўнамерным руху цела па акружнасці. Слаба засвоены і такія пытанні фізікі, як адцэнтрабежная і дацэнтрабежная сілы, сіла трэння і іншае. Многія выпускнікі, напрыклад, сцвярджалі, што пры ўсякім руху па акружнасці, як раўнамерным, так і нераўнамерным, дацэнтрабежнай сілай з'яўляецца раўнадзеючая прыкладзеных да цела сіл. Амаль усе абітурыенты правільна пісалі формулу для сілы трэння — $F_{тр.}=кP_{п}$, аднак пераважная большасць з іх звязвала сілу нармальнага ціску (а значыць і сілу трэння) толькі з вагою цела і не ўлічвала пры гэтым ніякіх іншых сіл, якія таксама маглі аказваць уплыў на сілу нармальнага ціску. Напрыклад, пры вызначэнні сілы трэння цела, якое рухаецца па гарызантальнай плоскасці і якое падвяргаецца дзеянню некаторай знешняй сілы, накіраванай пад вуглом да плоскасці, вучні ў большасці выпадкаў запісвалі — $F_{тр.}=кP$, дзе P — вага цела. Яшчэ ў большай ступені яны бянтэжыліся, калі ім прапаноўвалі знайсці паскарэнне цела, якое рухаецца з трэннем па нахіленай плоскасці пры ўмове, што на цела дзейнічае сіла, паралельная аснове нахіленай плоскасці. Пры рашэнні гэтай задачы выяўлялася, што многія выпускнікі фармальна засвоілі і паняцце сілы трэння, і раскладанне сіл на складаючыя, і, нарэшце, другі закон Ньютана.

Мусіць, у школах бегла разглядаюцца і пытанні аб характары цеплавога руху часціц у газах, вадкасцях і цвёрдых целах. Адказы былі такія: «У газах рух малекул з'яўляецца хаатычным, а ў цвёрдых целах хістальным, але не хаатычным».

Яшчэ адзін вельмі істотны прабел у ведах выпускнікоў — гэта тое, што яны не разумеюць адрознення паміж формуламі, якія выражаюць функцыянальную залежнасць паміж велічынямі, і формуламі, што ўяўляюць сабой алгебраічны запіс поўных фізічных велічынь. Многія абітурыенты, напрыклад, чыталі формулу $C=\frac{q}{\upsilon}$, якая служыць вызначэннем ёмістасці, так: «Электраёмістасць цела прама прапарцыянальна яго зараду і адваротна прапарцыянальна патэнцыялу». Відаць, што недастаткова ўдзялялася ўвагі аналізу залежнасці паміж фізічнымі велічынямі.

У выпускнікоў сярэдніх школ няма поўнага ўяўлення аб законе захавання энергіі. Гэты асноўны закон прыроды вучні звычайна ўяўляюць сабе як закон механікі і зусім не ўмеюць прымяніць яго ў тых выпадках, калі, апрача механічных сіл, на цела дзейнічаюць яшчэ і электрычныя сілы.

Вучні дрэнна разбіраюцца ў тых раздзелах фізікі, дзе важна заданне ўзаемнай арыентацыі фізічных велічынь для апісання той ці іншай з'явы. Напрыклад, няправільна вызначаюцца велічыні магнітнай індукцыі. Пры чытанні формулы $B=\frac{F}{Jl}$ нічога не гавораць пра ўзаемаарыентацыю праваднікa з токам і ліній магнітнага поля, у той час, як гэтая формула правільная толькі ў выпадку, калі праваднік з токам арыентаваны перпендыкулярна сілавым лініям.

З адпаведнымі памылкамі даводзілася сустракацца пры вызначэнні ціску, магнітнага патоку і наогул усюды, дзе фігуруюць праекцыі велічынь на нармаль да паверхні. Слаба ўяўляюцца і засвойваюцца таксама з'явы электрамагнітнай індукцыі і самаіндукцыі, фізічныя працэсы ў трансфарматары, з'явы рэзанансу; дрэнна праводзіцца пабудова і аналіз графікаў; многія не ведаюць залежнасць паміж рознымі велічынямі, якія выражаны гэтымі графікамі. Графікі газавых законаў, напрыклад, правільна чэрцяць у плоскасці P—V, але зусім не разбіраюцца ў адпаведнай залежнасці на плоскасцях P — T і V — T. Адсутнічаюць навыкі шырока выкарыстоўваць пры адказах графікі, дыяграмы, чарцяжы.

Многія не разумеюць глыбока фізічных законаў, не ўмеюць іх растлумачыць і выкарыстаць пры рашэнні канкрэтных задач. Так, напрыклад, іх бянтэжаць такія пытанні, як механізм кіпення вадкасцей, ціск насычанай пары вады пры тэмпературы 100°С. Недастаткова засвойваюцца такія важныя раздзелы фізікі, як оптыка і атамная фізіка, у прыватнасці, інтэрферэнцыя і дыфракцыя святла, выпрамяньванне і паглынанне святла, рэнтгенаўскія прамені, з'ява фотаэфекту і іншыя. Вучні не ўмеюць будаваць адлюстраванняў прадметаў у лінзах і люстрах, асабліва, калі пункт ляжыць на галоўнай аптычнай восі лінзы. Як правіла, у лупе ў іх атрымліваецца сапраўднае адлюстраванне. Ствараецца ўражанне, што на раздзелы «Оптыка» і «Будова атама» ў школе адводзіцца вельмі мала часу, паколькі яны

# ЯК ПАДВОІЦЬ ВЕДЫ

Часта старшакласнікі скардзяцца, што ім цяжка даецца вучоба ў школе, асабліва такія прадметы, як матэматыка, фізіка, хімія, мовы. Калі ж пачынаеш гутарыць з імі больш падрабязна, дык высвятляецца, што галоўнай перашкодай пры вывучэнні гэтых прадметаў з'яўляюцца прабелы і незасвоеныя тэмы з папярэдніх класаў. Навучанне ў школе заснавана на прынцыпе паслядоўнасці.

Новыя веды абапіраюцца на папярэднія, паглыбляюць і пашыраюць іх. Напрыклад, каб вызначыць аб'ём усечанага конуса (геаметрыя ў 10 класе), абавязкова трэба ўмець вызначыць аб'ём усечанай правільнай піраміды, плошчу круга, даўжыню акружнасці. Вось чаму пры вывучэнні новай тэмы не завучвайце яе механічна, а імкніцеся глыбока абдумаць і разабрацца ў ёй. Калі ж вы забылі папярэдні закон, правіла ці формулу, вазьміце стары падручнік і дэталёва разбярыцеся ва ўсім. Інакш вашы веды будуць адрывачнымі, няпоўнымі. Каб засвоіць незразумелыя словы, карыстайцеся слоўнікамі, даведнікамі, энцыклапедыяй.

Большасць вучняў чытае кожны раздзел падручніка нават па два-тры разы, а расказаць яго змест не можа. Працуючы з кнігай або артыкулам, трэба абавязкова абдумваць і запамінаць іх змест. Тое ж самае патрабуецца і калі вы пры чытанні ведзяце запісы.

Вывучаць новую тэму ўрока або артыкул можна па частках ці нават цалкам, калі яны невялікія. Спачатку трэба прачытаць тэму ці артыкул цалкам, каб зразумець сэнс, а пасля перайсці да вывучэння па частках. Скажам, вы прачыталі нейкую адну частку тэмы. Цяпер заканспектуйце яе, прадумайце і толькі тады пераходзьце да наступнай часткі. Правільна, на маю думку, робяць тыя, хто сам сабе расказвае змест прачытанага. Пры вывучэнні тэмы трэба выкарыстоўваць малюнкі, схемы, дыяграмы, чарцяжы, якія прыводзяцца ў падручніках, пастараўшыся глыбока ў іх разабрацца. Калі ж такіх чарцяжоў і малюнкаў няма, можна зрабіць іх самім. Трэба таксама пазнаёміцца з пытаннямі, задачамі, практыкаваннямі, што даюцца ў падручніку ў канцы тэмы. Усё гэта дапаможа глыбей засвоіць матэрыял.

Пры вывучэнні вялікай тэмы, асабліва твораў мастацкай літаратуры, карысна складаць планы, рабіць выпіскі цікавых выразаў, думак, а па матэматыцы, фізіцы, хіміі — правіл і формул.

Для таго, каб лепш запомніць прачытанае, карысна паўтараць яго. Устаноўлена, што забываецца праслуханая лекцыя, урок, прачытаная кніга хутчэй за ўсё ў першыя чатыры-пяць дзён пасля слухання ці чытання. Таму паўтараць трэба тады, калі вывучаемы матэрыял яшчэ не забыты. Даследаванні нямецкага прафесара Меймана паказваюць, што без замацавання на другі дзень у памяці застаецца 62 працэнты вывучаемага матэрыялу, на чатырнаццаты — 41 працэнт, на трыццаты — 20 працэнтаў, на соты дзень — толькі тры працэнты. Таму паўтараць трэба сістэматычна. Карысна, каб лепш запомніць матэрыял, чытаць яго ўголас. Дзякуючы гэтаму наладжваюцца асацыяцыі паміж зрокавымі, слыхавымі і моўнымі вобразамі.

Вельмі карысна для развіцця інтэлекту і агульнага кругагляду чытаць навукова-папулярную і мастацкую літаратуру.

Многія старшакласнікі не проста бегла чытаюць такую літаратуру, але робяць нататкі, праводзяць дыскусіі, вылучаюць свае праблемы, звязваюць прачытанае з тым, пра што даведваюцца на ўроку.

Былая вучаніца нашай школы, цяперашняя аспірантка БДУ імя У. І. Леніна С. Мохарава расказвала мне: «Не было таго дня, каб я не ўдзяліла паўтары-дзве гадзіны ў дзень чытанню навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры. Гэта дапамагло мне глыбей засвоіць праграму сярэдняй школы, закончыць школу на выдатна і паступіць вучыцца далей».

Дапытлівасць, мэтанакіраванасць, прага да ведаў — вось што характэрна для сучаснай моладзі. Трэба прыкладваць усе намаганні, каб гэтыя веды здабываліся самастойна, творча, актыўна.

Важна не толькі самастойна набыць тэарэтычныя веды, але і ўмець іх выкарыстоўваць у жыцці, у працы. Яшчэ ж сустракаюцца сярод старшакласнікаў такія, хто, скажам, па хіміі добра ведае формулы азотных, фосфарных і калійных угнаенняў, а зрабіць разлікі для ўнясення іх у глебу не ўмее. Або, скажам, вучань добра ведае паралельнае і паслядоўнае злучэнне праваднікоў па курсу фізікі, а да звычайнага праваду ў хаце баіцца падысці, не ўмее злучыць яго. Ад такіх ведаў мала карысці. Каштоўнымі з'яўляюцца тыя веды, якімі вучань валодае і тэарэтычна і практычна. Вось чаму дапытлівыя вучні цягнуцца да прыбораў, будуюць мадэлі, імкнуцца паглядзець навукова-папулярныя фільмы.

Сямён МЯЛЕШКА,
дырэктар лельчыцкай сярэдняй школы № 2, заслужаны настаўнік школы БССР.

вывучаюцца ў апошніх чвэрцях выпускнога класа. Не ўдзяляецца належная ўвага такім раздзелам, як гідра-і аэрадынаміка. Не адрозніваюцца такія паняцці, як канвекцыя і цеплаправоднасць.

На ўсё гэта патрэбна звярнуць больш увагі ў старэйшых класах. Нельга забываць і тыя пытанні, якія датычаць праграмы 6-га і 7-га класаў. Адчуваецца, што ў некаторых школах зусім занядбана рашэнне і аналіз задач. У вучняў неахайныя запісы пры адказах, няўмелыя эскізы, чарцяжы і схемы.

Было б вельмі карысна, каб будучыя прэтэндэнты на высокае званне студэнта здолелі ўлічыць усе гэтыя заўвагі і парады, рыхтуючыся да ўступных экзаменаў — аднаго з самых адказных этапаў у сваім жыцці.

Прапануем вам, сябры, некалькі задач, якія найбольш часта сустракаюцца на ўступных экзаменах па фізіцы. Паспрабуйце і вы рашыць іх.

**Задача 1.** На плоскасці, нахіленай пад вуглом $\alpha$ к гарызонту, знаходзіцца бак з вадой. З якой сілай, прыкладзенай паралельна нахіленай плоскасці, трэба рухаць бак, каб узровень вады ў ім стаяў паралельна нахіленай плоскасці? Каэфіцыент трэння паміж плоскасцю і бакам — к; маса бака з вадою — m.

**Задача 2.** Груз, падвешаны на нітцы, верціцца ў гарызантальнай плоскасці так, што адлегласць ад пункта падвесу да плоскасці, у якой адбываецца вярчэнне, роўна h. Знайсці частату вярчэння грузу.

**Задача 3.** На якую глыбіню апусціцца цела (удзельная вага — d) малых памераў, больш лёгкае, чым вада, калі яно ўпадзе з вышыні h у ваду, і як хутка яно затым усплыве на паверхню? Як зменіцца канчатковы вынік, калі цела будзе значных памераў? Трэнне аб паветра і ваду не браць пад увагу.

**Задача 4.** У кандэнсатары з плошчай пласцін S і адлегласцю паміж імі d $^2/_3$ аб'ёму (у выглядзе плоскапаралельнай пласцінкі) запоўнены дыэлектрыкам з дыэлектрычнай пранікальнасцю Σ. На кандэнсатар пададзена напружанне U. Вызначыць зарад на пласцінах кандэнсатара.

**Задача 5.** Дыяметр Сонца бачны з Зямлі няўзброеным вокам пад вуглом 30′. *Які лінейны дыяметр улюстравання Сонца на экране, калі яно атрымана з дапамогай лінзы з галоўнай фокуснай адлегласцю, роўнай 3 метры?*

Рашэнне задач будзе змешчана ў бліжэйшым нумары.

Іван **ЗЯЦЬКОЎ**,
**дацэнт, дэкан фізічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна.**
**Дзмітры УМРЭЙКА,**
**дацэнт, старшыня прадметнай камісіі па фізіцы.**

## НАГАДВАЕМ!

Можа Вы ведзяце дзённік?

А калі не ведзяце, дык вазьміце сшытак і пачынайце з сённяшняга дня запісваць у яго ўсё, што хвалюе Вас.

Рэдакцыя «Маладосці» праводзіць конкурс на лепшы дзённік маладога чалавека.

Наперадзе ў Вас шмат часу.

Апошні тэрмін прысылкі дзённікаў — снежань 1968 года.

Лепшыя дзённікі будуць прэміраваны і надрукаваны, са згоды іх аўтараў, у 1969 годзе.

Юнакі і дзяўчаты! Удзельнічайце ў конкурсе на лепшы дзённік маладога чалавека!





# НАД ПРЫПЯЦЦЮ, У МАЗЫРЫ



ХТО ТЫ, МАЛАДЫ ГАРАДЖАНІН?
ЯК ТЫ ГЛЯДЗІШ НА НАВАКОЛЬНЫ СВЕТ?
У ЧЫМ ТВАЁ ГРАМАДЗЯНСКАЕ ПРЫЗВАННЕ?

### Пралог да спектакля

Вокны, як мядзведзі. Скавыча, вые вецер. Мароз. Завіруха. Двое сядзяць у кафэ, пінжакі зашпілены на ўсе гузікі, а з-пад пінжакоў тоўстыя світэры выглядаюць. П'юць чай з партвейнам. Каб адагрэцца. Яны ніяк не нарадуюцца, што дабраліся на сваіх старэнькіх грузавіках у Мазыр. Зноў і зноў успамінаюць, як за тры гадзіны праехалі ўсяго 20 кіламетраў, як ратаваліся самі і ратавалі другіх, што заселі ў снежных гурбах.

А завіруха была такая, што цэлы тыдзень бульдозеры і экскаватары зграбалі снег на галоўных вуліцах Мазыра.

У тую завейную ноч артысты Мазырскага народнага тэатра спрабавалі і папіхаць свой аўтобус, і цягнуць яго на плячах, а потым махнулі на яго рукой і заначавалі ў вёсцы, дзе ставілі спектакль. У Мазыр вярнуліся толькі праз суткі.

Заўсёды, калі тэатру выпадалі якія-небудзь цяжкасці, галоўны рэжысёр тэатра Міхаіл Колас у прыклад маладым ставіў ветэранаў: Ніну Ісакаўну Зальцман, Веру Іванаўну Казлоўскую, якія ўжо не адзін год выступаюць на сцэне гэтага тэатра.

Галоўны рэжысёр прыгадаў, як аднойчы ўзбунтаваўся яго памрэж Сямён Вайнштэйн. Сямёну дваццаць год, а з выгляду — яшчэ зусім хлапчук. Нізкарослы і хударлявы, ён, як ні дзіўна, паспявае ўсюды: ставіць дэкарацыі, кіруе сцэнічным святлом і сам іграе ў спектаклях. І вымоў, і непрыемнасцей на Сямёнаву долю выпадае крыху больш, чым на долю другіх. У той раз Сямён пакрыўдзіўся і адмовіўся выйсці на сцэну. Давялося тут жа, за кулісамі, збіраць «лятучку». Пытанне адно: ці ёсць у артыста Вайнштэйна пачуццё калектыву? І тады, скрозь слёзы, пачулі: «Я выйду на сцэну, але ў тэатры больш не буду».

Нікуды ён не дзеўся, Сямён Вайнштэйн, бо нельга пакінуць справу, якую любіш. Нельга пакінуць сяброў...

Былі і радасці. Самая вялікая з іх — пастаноўка купалаўскага «Раскіданага гнязда». Божа мой, колькі яны рыхтаваліся! Разам з мастаком Пятром Захаравым Міхаіл Колас аб'ездзіў шмат палескіх вёсак. Выпытвалі ў старых пра ранейшае жыццё. Прыслухоўваліся да інтанацый, прыглядаліся да жэстаў. Набылі для артыстаў вопратку: андаракі, сарочкі, тарноўкі, світкі. Адшукалі дзядоў, якія яшчэ ўмелі плесці лапці...

Што спектакль сапраўды ўдаўся, яны зразумелі ўжо ў Маскве, на фестывалі самадзейнага мастацтва. Крамлёўскі тэатр у той дзень абвясціў поўны аншлаг. Калі паднялі заслону, гледачы прывычна надзелі навушнікі, бо ў афішы было сказана, што тэкст дубліруецца на рускай мове. Але параіўшыся, мазыране вырашылі: тэкст не дубліраваць. Што будзе, тое і будзе. Праз пяць мінут зала прыціхла. Слухалі і глядзелі масквічы з зайздроснай увагай. Цішыню парушалі толькі воплескі. Так мазыране здабылі свае залатыя медалі...

І зноў Міхаіл Колас думае пра тыя перашкоды, якія даводзіцца штодзённа бурыць ужо не на сцэне, не за кулісамі, а ў бясконцых спрэчках з дырэктарам Палаца культуры Белашэўскім. Дырэктар скупаваты, кожны рубель у яго «выбіваецца» з боем. Міністэрства культуры давала Палацу новы аўтобус — Белашэўскі не ўзяў. Артысты ездзяць у старэнькім, цесным аўтобусе, сядзяць адзін у аднаго на каленях, а дэкарацыі грузяць на крышу аўтобуса. Зімой холадна, летам — гарачыня. І ўсё ж, перакройваючы старыя дэкарацыі на новыя, без прыстойнай апаратуры, не як сыны, а як пасынкі Палаца культуры, яны даюць па сорак, а то і больш прадстаўленняў за год. Тэатр, дзе памочнік рэжысёра — токар, гераіня — выхавацельніца дзіцячага сада, а рэжысёр толькі вучыцца...

### Выпрабавальнікі

Ён спадабаўся адразу, хоць з твару ды і па голасу вельмі нагадваў той тып геолага, гэта значыць, чалавека мужнага і мэтанакіраванага, які надакучыў усім у кінааповесцях і лірычна прыўзнятых апавяданнях. Адным словам, было ў яго постаці нешта плакатнае.

Не звяртаючы ўвагі на староннягa чалавека, ён тут жа пачаў нешта даводзіць свайму начальству, а начальства ўсё супакойвала яго, патрабуючы нейкую дакладную. Потым мы засталіся ўдваіх у цесным вагончыку, і я сказаў яму:

— Я хачу, Толя, каб вы проста і сур'ёзна расказалі пра сваю справу і сваіх сяброў. Я не лічу вас рамантыкам. Хоць вы геолаг, але вам даўно мінула васемнаццаць...

Толя Мацвееў загаварыў хутка, крышачку картавячы. І паступова знікаў знешні Толін плакатызм. Перада мной сядзеў хлопец, па натуры сваёй інжынер, нават вынаходнік, якога некалі пацягнула ў вандроўкі. Ён скончыў Адэскі нафтавы тэхнікум і паехаў будаваць нафтаправод «Дружба». Працаваў з энтузіязмам — будоўля яму спадабалася: велізарны маштаб, работа па спецыяльнасці. Машыніст кантрольна-вымяральных прыбораў і аўтаматыкі, Коля Мацвееў даў некалькі рацыяналізатарскіх







Галя Клімовіч — выхавацельніца дзіцячага сада. За выкананне ролі Зосьні ў спектаклі «Раскіданае гняздо» Галя ўзнагароджана залатым медалем на фестывалі самадзейнага мастацтва ў Маскве.

На Прыпяці — зіма.





Доктар Анатоль Шацько.

●

Ім — Сашу Марчанку, Анатолю Матвееву, Пятру Ашарчуку — адкрывае свае таямніцы зямля.

●

Косця Сухавееў, брыгадзір фрэзероўшчыкаў.

●

У вялікі свет мастацтва вядзе рабят Пятро Захараў.







прапаноў. Праўда, не ўсё ўдалося ажыццявіць, ды справа не ў гэтым.

Толік ажаніўся. І гэта прымусіла яго шукаць работу больш стабільную. Так ён апынуўся ў Мазыры, у канторы выпрабаванняў разведвальных шчылін. Да той пары трэст Белнафтагазразведка ўжо штурмаваў новыя плацдармы: Асташкавіцкі, Шацілкаўскі, Давыдаўскі, Вішаньскі, Паўночна-Даманавіцкі...

Толіку далі брыгаду. Чатыры хлопцы, адна дзяўчына. Ён — шосты. Ніхто з іх ніколі не быў выпрабавальнікам. Саша Марчанка і Пеця Ашарчук толькі што дэмабілізаваліся з арміі і наогул нічога не ўмелі. У брыгадзе не хапала вымяральнага інструменту, прыбораў. Карацей кажучы, прадмова была самай што ні на ёсць «рамантычнай».

Толя з дапамогай Сашы Марчанкі, які стаў слесарам на кантрольна-вымяральных прыборах, зрабіў свой тэрмастат. Прыбор гэты мае прадукцыйнасць у дзесяць-дванаццаць разоў большую, чым маскоўскі.

Калі разведчыкі бураць шчыліну, ніхто не ведае, які ціск у глыбінных пластах. Прыкладна разлічваюць па карце і папярэдніх разведках, але памылкі немінучыя. Арыентуюцца на ціск у 200 атмасфер, а ў прабуранай шчыліне — 1000! Тут, выпрабавальнік, пільна сачы за абсталяваннем! Не дагледзеў трубы, не заўважыў, што «стаміўся» метал, — ого, як пырсне! Вада з пяском, нафта, газ са страшэннай сілай ударыць з-пад зямлі! А тут жа працуюць маторы: адна іскра — і спраўляйце памінкі, сябры-геолагі!

Адну сур'ёзную аварыю ім прыйшлося перажыць. Вясёлая была ў іх ночка... І ўсё ж не разгубіліся, ніхто з хлопцаў не спалохаўся. А з брыгадзіра — трэць зарплаты...

Цяпер яны разумнейшыя. На базе правяраюць усе прыборы і трубы. Загадзя выпрацоўваюць дакладны план. І вось вынік — 80 шчылін выпрабавана за год.

Гэта многа ці мала? Памножце 80 на 3. Трое сутак выпрабоўваецца шчыліна. Шэсць выпрабавальнікаў трое сутак запар ядуць на хаду, а спяць — тут жа, ля шчыліны, у зялёным вагончыку. Кожны ў сваім спальным мяшку.

— Дык рамантыкі мы, ці не?

### Маналог афіцыянткі

Прозвішча яе называць не хачу. У Мазыры ўсяго тры рэстараны, а начальству не заўсёды да густу тое, што скажуць пра іх падначаленыя. І яшчэ адна прычына, па *якой я не называю прозвішча*. Афіцыянтка Н. у пэўным сэнсе зборны вобраз. Яна не ўдарніца і не фельетонны тып. Дзяўчына, якіх многа. З сярэдняй адукацыяй. У белым фартушку.

— У мяне нават вымова ёсць, — пачала яна. — Адной наведвальніцы здалося, што марудна яе абслугоўваю, і перасела за другі столік. За гэта мне і ўляпілі. Наогул, не люблю я сваёй работы. Абрыдлі сцены з падцёкамі, пах кухні, п'яныя галасы. Можа, каб быў рэстаран сапраўдны, з аркестрам, светлы, вялікі, прыгожы, то і працавалася б весялей. А так адны і тыя ж людзі... Праўда, пасля якой-небудзь раённай нарады паяўляецца многа новых кліентаў. Калгаснікі? Што вы! — калгасныя кіраўнікі. Заўсёды заказваюць боршч, катлеты, ну і па сто грамаў. Доўга не заседжваюцца. Спяшаюцца на аўтобус.

Рабочыя таксама ў нас бываюць. Асабліва ў дні зарплаты. А большасць нашых наведвальнікаў — служачыя. У суботу і нядзелю настрой наведвальнікаў лагодны, вясёлы. А ў панядзелак... Мужчыны сядзяць, абхапіўшы галовы рукамі, позірк цьмяны і толькі чуеш: «Сто пяцьдзесят і вінегрэт!» І ўсім хутчэй...

Іншыя кліенты капрызныя, як дзеці. Піва не свежае — афіцыянтка вінавата. Катлеты недасмажаныя — зноў афіцыянтка. Прынясі тое, падай другое. А дырэктар наш сядзіць у канторы і гыркае на ўсіх. Якая яму бяда, што піва не свежае, што наведвальнікам не падабаецца меню. От, як завітае трэстаўскае начальства, тады яго не пазнаць. Ён тады — гасцінны гаспадар. У канторы накрываем стол з выбраных страў нашай кухні. Не, не люблю я сваю працу!..





Я слухаю Н., і адно пытанне, як перац, пячэ мне язык. Я ведаю наперад, што здарыцца, калі я задам яго дзяўчыне. І ўсё ж я не вытрымліваю:

— А «на чай» вам часта даюць?

Яе вочы ўспыхваюць, і прыкрая ўсмешка кранае вусны:

— А вы не падумалі, што гэтае пытанне можа пакрыўдзіць мяне?

### Валя і яе антыподы

Мы размаўлялі з першым сакратаром гаркома камсамола Мікалаем Клімавым пра розныя камсамольскія справы. Пра тое, што ў Мазыры стала менш хуліганаў. Што спорт яшчэ не ахапіў шырокія масы моладзі, бо на прадпрыемствах мала кваліфікаваных інструктараў, а добрыя трэнеры надоўга ў Мазыры не асядаюць. Што камсамольцы пасадзілі ў мінулым годзе паўмільёна саджанцаў на схілах яроў і на пясках.

Ведаючы, як цяжка бывае ў невялікіх гарадах уладкаваць на працу выпускнікоў школ, я спытаў пра гэта ў Мікалая Клімава. І ён адказаў:

— У нас гэтай праблемы няма. Ёсць другая. Некаторыя выпускнікі самі не хочуць нідзе працаваць, — і назваў некалькі прозвішчаў.

Да Валі Бобр я ішоў з неахвотай. Лезці ў душу да чалавека, у асабістую, на першы погляд, справу. Выступаць у ролі абвінаваўцы дзяўчыны, якой праз два месяцы споўніцца васемнаццаць... Неэтычна.

Мне адчыніла Валіна маці. Яна мыла бялізну, было ёй няёмка, што падлога запырскана. Яна так і пачала — прабачце, маўляў...

Валя выйшла з бакоўкі, у вузкіх штоніках, тварык рашучы і вочкі калюча свідруюць незнаёмца.

— Да мяне?!

Размова наша была кароткая. Так, яна скончыла школу «на троечкі». Не паступала нікуды, а цяпер вось з дапамогай сяброўкі, якая вучыцца ў ВНУ завочна, рыхтуецца да паступлення. Працаваць не пайшла, бо работа на швейнай фабрыцы яе не задавальняе: вельмі аднастайная і больш як шэсцьдзесят рублёў не заробіш. Пайшла б лабаранткай, бібліятэкаркай, ды не бяруць...

А Валіна маці вось што сказала:

— Яшчэ паспее за сваё жыццё напрацавацца. Няхай пасядзіць да лета — цяпер маразы ды завеі. Я семдзесят шэсць рублёў зарабляю. З нас хапае. А паступіць Валя — вазьму дзвюх студэнтак на кватэру. Рублёў 50—60 ёй у месяц будзе. Ды мы нядрэнна жывём, вы не падумайце. Толькі вось тэлевізар сапсаваўся, дык нідзе адрамантаваць не можам.

Што тут скажаш! Мне не хацелася рабіць прагнозаў наконт далейшых адносін паміж маткай і дачкой. Я пайшоў на швейную фабрыку, да тых дзяўчат, што «больш шасцідзесяці рублёў не зарабляюць». Тут мяне пазнаёмілі з Валіным «антыподам», Зояй Карпавай.

Пяць гадоў назад, яна, як і ўсе дзяўчаты, пачынала са швяі-мотарысткі. Пайшла на фабрыку, не скончыўшы дзесяцігодку, бо трэба было памагаць бацькам. Школу скончыла, ужо працуючы на фабрыцы. Цяпер можа замяніць нават майстра. Зоя — камсорг. Рыхтуецца паступаць у тэхнікум. Завочна.

Ну, чым не ідэал для Валі Бобр? А семдзесят жа працэнтаў фабрычных камсамольцаў — з сярэдняй адукацыяй! Васемнаццаць вучацца ў інстытутах і тэхнікумах!

Я спытаў:

— Ці вялікая ў вас цякучка?

— Бывае. Увосень. Калі дзяўчаты замуж выходзяць за дэмабілізаваных.

— Дзяўчаты не сумуюць на фабрыцы?

— У нас ад суму добрае лякарства ёсць. Вечары. «Агеньчыкі». А летам, як становіцца фабрыка на рамонт, за кошт прафсаюза наймаем аўтобусы і едзем адпачываць на поўдзень. Аб'ездзілі ўвесь Крым...

Вось калі я зразумеў, чаму на некаторых мазырскіх аўтобусах красуюцца севастопальскія эмблемы. На адным з такіх я прыехаў у Пхоў, на завод меліяратыўных машын.



**Вясёлыя стракатыя сарочкі кроіць з гэтай тканіны Зоя Карпава.**

Завод стаіць над затонам, побач з портам. Порт скаваны льдом, баржы і цеплаходы грунтоўна ўмерзлі ў белы лёд Прыпяці. А на заводзе бліскаюць маланкі зваркі, цяжка вухкае кузня, вішчаць станкі. Тут робяць агромністыя фрэзерныя канавакапальнікі: Д-583, якія за гадзіну могуць выкінуць на паверхню 300 кубоў зямлі, і КФН-1200, што ўзнагароджаны залатым медалем на Усесаюзнай выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі. Гэтыя волаты вясною пойдуць у наступленне на сібірскія балоты.

Цяпер нікога не здзіўляе, што ў Беларусі робяць велізарныя машыны. Жодзінскія «БЕЛАЗы», магілёўскія скрэперы і мазырскія канавакапальнікі — на рахунку буйнейшых дасягненняў нашай краіны. Наша машынабудаўнічая прамысловасць развіваецца з касмічнай хуткасцю. І заўсёды крыху зайздросціш тым, чые рукі і розум вывелі нашу рэспубліку на сусветную арбіту.

А яны такія ж, як мы з табой, зусім не асілкі, простыя і шчырыя, і робяць сваю справу не дзеля пахвальбы. Ім няёмка, калі пра іх двойчы і тройчы расказваюць газеты, радыё, тэлебачанне. Косця Сухавееў, кіраўнік брыгады імя XV з'езда ВЛКСМ, так мне і сказаў: «Ну, навошта ж яшчэ раз пра нас! Выканаем свае абавязацельствы — тады, калі ласка...»

Косцева брыгада нядаўна звярнулася да рабочай моладзі Мазыра з заклікам выканаць гадавы план да 50-годдзя Ленінскага камсамола. І гэта не проста зварот. Косця і яго таварышы, фрэзероўшчыкі, абслугоўваюць па 5—6 станкоў замест трох па норме. Але ім мала гэтых станкоў, яны дачакацца не могуць, калі на іх участак паставяць агрэгат для нарэзкі спіральных зубцоў.

Нешта падобнае пачуў я ад Ларысы Верамеевай. Гледзячы на яе, я міжволі падумаў: якім ветрам занесла гэтую прыгажуню ў цэх, завалены грувасткімі дэталямі? Ці не лепш ёй было б у магазіне моднага адзення?

Ее адказ нібыта спецыяльна быў падрыхтаваны для Валі Бобр:

— Я хачу стаць токарам. Я люблю завод. Я люблю машыны, якія мы робім!..

### Палешукі

Люблю Палессе. Мазырскую круцізну і бязмерны абсяг над Пінскам, асабліва вясной, калі разальюцца Прыпяць і Ясельда. Люблю мурагі і дубровы над рэкамі. Мару пра тое, каб зноў апынуцца ў глухамані Чырвонага возера.

Люблю палешукоў. Песні жанок у касавіцу і жніво. Іх шчырую гасціннасць. На ўсё жыццё запомнілася, як пакрыўдзіў некалі, будучы ў салдатах, бабульку. У самую спякоту зайшлі мы да яе напіцца, і, замест вады, яна прынесла нам збанок сцюдзёнага малака. Па прастаце душэўнай мы спрабавалі з ёй разлічыцца...

Палессе яшчэ доўга будзе вабіць нас сваёй самабытнасцю. Тым не менш у каларыце гэтага краю адбываецца шмат перамен.

Пятру Захараву, мастаку Мазырскага тэатра, нялёгка было знайсці старадаўнюю вопратку ў скрынях палешукоў. Песні больш жывучыя. Талент народа не так лёгка цывілізуецца, як вопратка. І калі Захараў арганізаваў пры Палацы культуры студыю выяўленчага мастацтва, сярод яго вучняў былі не толькі мазыране. Пачалі прыязджаць хлапчукі з навакольных вёсак. Памаляваўшы так год-другі, яны паступалі потым у мастацкія вучылішчы, на архітэктурныя факультэты інстытутаў.

Пятро — карэнны паляшук. Тэатр, студыя выяўленчага мастацтва, мастацкія выстаўкі і, урэшце, адкрыццё ў Мазыры філіяла майстэрань гомельскага абласнога мастацкага фонду — вось рахунак чалавека, якому споўнілася трыццаць год.

Хірург Анатоль Шацько — таксама паляшук. Знаёмячыся, часцей за ўсё пачынаеш з надвор'я. І як толькі зайшла гаворка пра апошнюю завіруху, Анатоль прыпомніў сваю практыку ў Слабадской бальніцы.

— У Сібіры, бадай, доктару лягчэй. Там верталёты. А тут так замяце, што ні машына, ні трактар не праедзе. Няхай там «МТЗ» хваляць ці не хваляць, але ў завею гэта не транспарт. Аднойчы павезлі на трактары хворага. Загрузлі. Давялося хворага на руках да гравейкі несці.

Участковая бальніца дала Анатолю вялікую практыку. Тут, як кажуць, ты — і шавец, і жнец, і на дудзе ігрэц. Яму не толькі даводзілася лячыць і хадзіць да хворых, але і весці бальнічную гаспадарку. А колькі часу адбірае асветніцкая работа!

Праз два гады Анатоля Шацько накіравалі ў Мінск на курсы хірургаў. Яго спецыяльнасцю стала ўралогія. Цяпер ён працуе ў Мазыры, у другой абласной бальніцы. Хірург Шацько. Тэрапеўт Шацько. Народны засядацель таварыш Шацько. Проста Толік — для знаёмых дзяўчат. Нешта ён не жэніцца...

Ён хоча паступіць у ардынатуру. Не для таго, каб з'ехаць з Мазыра, а каб адкрыць у бальніцы новае аддзяленне. Доктар Шацько патрэбен на Палессі. І Палессе яму — таксама.

* * *

Вось і пазнаёміліся мы з мазыранамі. Большасць з іх — аптымісты. Працаўнікі — амаль усе. Горад, у якім яны жывуць, невялікі. Ёсць гарады большыя і зусім вялікія. А ёсць гарадкі і гарадочкі. Але дзе б ні жыў малады гараджанін, ён дапытліва ўзіраецца ў навакольны свет. І свет глядзіць на яго: Хто ты? Які ты? Нашто?

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**
Фота аўтара.




# 1968 ГОД

## САКАВІК

# ЗНАМЯНАЛЬНЫЯ ДАТЫ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ



Алесь БАЧЫЛА.



Янка ШАРАХОЎСКІ.

**1—3**

70 гадоў назад (1898) у Мінску праходзіў І з'езд РСДРП.

**1**

*50 гадоў з дня выхаду (1918) у Ленінградзе першага* нумара газеты «Дзянніца», органа Беларускага нацыянальнага камісарыята пад рэдакцыяй Ц. Гартнага (З. Жылуновіча). З шостага нумара газета стала выходзіць у Маскве.

**2**

50 гадоў з дня нараджэння (1918) А. М. Бачылы, беларускага паэта.

**3**

50 гадоў з дня падпісання (1918) у Брэст-Літоўску мірнага дагавору Расіі з дзяржавамі аўстра-германскага блока.

50 гадоў з дня стварэння (1918) Ваеннага Камісарыята Заходняй вобласці для мабілізацыі і фарміравання рэвалюцыйнай арміі на Заходнім фронце.

**4**

50 гадоў назад (1918) Галоўнакамандуючы Заходнім фронтам А. Ф. Мяснікоў аддаў загад аб разгортванні партызанскай вайны ў тыле і на флангах праціўніка.

60 гадоў з дня нараджэння (1908) І. З. Шарахоўскага, беларускага пісьменніка.



**7**

50 гадоў з дня стварэння (1918) Штаба партызанскага фарміравання для кіраўніцтва рухам супроць нямецкіх акупантаў.

95 гадоў з дня нараджэння (1873) В. А. Залатарова, кампазітара, прафесара, народнага артыста БССР, заслужанага дзеяча мастацтва РСФСР.

**8**

50 гадоў з дня нараджэння (1918) М. Г. Ткачова, беларускага пісьменніка.

**12**

100 гадоў з дня нараджэння (1868) П. М. Лепяшынскага, педагога, вядомага рэвалюцыянера.

50 гадоў з дня нараджэння (1918) Э. С. Валасевіча, беларускага паэта-байкапісца.

75 гадоў з дня нараджэння (1893) В. К. Путны, савецкага ваеннага дзеяча, аднаго з кіраўнікоў па вызваленню Беларусі ад белапалякаў.

**16**

40 гадоў з дня ўводу ў эксплуатацыю (1928) у Рэчыцы запалкавай фабрыкі «Днепр».

70 гадоў з дня нараджэння (1898) М. Э. Шнейдэрмана, беларускага дырыжора і кампазітара.

**18**

50 гадоў з дня нараджэння (1918) П. К. Пранузы, беларускага паэта.

**24**

75 гадоў з дня нараджэння (1893) Ц. М. Годнева, вучонага-біёлага, акадэміка Акадэміі навук БССР.

60 гадоў з дня нараджэння (1908) А. К. Глебава, беларускага скульптара, народнага мастака БССР.

**28**

100 гадоў з дня нараджэння (1868) Максіма Горкага (Аляксея Максімавіча Пешкава).

---

Падрыхтавана аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.



В. А. ЗАЛАТАРОЎ.



Мікола ТКАЧОЎ.



М. Э. ШНЭЙДЭРМАН.

Ц. М. ГОДНЕЎ.





# З НАМІ ГУТАРЫЦЬ ГОРКІ

**У сакавіку спаўняецца сто год з дня нараджэння А. М. Горкага. Аляксей Максімавіч шмат увагі аддаваў рабоце з літаратурнай моладдзю, выхоўваючы ў яе высокую адказнасць перад народам, добры літаратурны густ. Парады Горкага маладым і сёння гучаць востра і надзённа.**

ЛІТАРАТАР павінен ведаць усё, або, па крайняй меры, як мага больш. Ён павінен умець выбраць з хаосу ўражанняў, са стракатай блытаніны пачуццяў аб'ектыўнае, агульназначнае, тыповае, павінен умець адкінуць убок вузка асабістае, суб'ектыўнае як няўстойлівае, што пастаянна мяняецца і хутка праходзіць без следу. Калі ён здолее зрабіць першае, ён напіша твор, мастацкі і сацыяльна важны; калі ён не зможа зрабіць другога, ён напіша анекдот, пазбаўлены сацыяльна-выхаваўчага значэння. Усякае мастацтва — свядома і несвядома — ставіць сваёй мэтай абудзіць у чалавеку тыя ці іншыя пачуцці, выхаваць у ім тыя ці іншыя адносіны да пэўнай з'явы жыцця,— гэтую ж мэту зусім свядома ставяць перад сабою прыхільнікі так званага «свабоднага мастацтва для мастацтва» — людзі найболей тэндэнцыйныя, нягледзячы на іх адмоўныя і варожыя адносіны да тэндэнцый сацыяльных.

Работа літаратара вельмі цяжкая: пісаць апавяданні пра людзей не азначае проста «апавядаць», гэта азначае — маляваць людзей словамі, як малююць іх пэндзлем або алоўкам. Неабходна знайсці найбольш устойлівыя рысы характару ў дадзеным чалавеку, неабходна зразумець найбольш глыбокі сэнс яго дзеянняў і пісаць пра гэта такімі дакладнымі, яркімі словамі, каб са старонак кнігі, з-за чорных яе радкоў, з-за сеткі слоў чытач бачыў жывы твар чалавека, каб сувязь пачуццяў і дзеянняў героя апавядання здавалася яму бясспрэчнай. Трэба, каб чытач адчуваў: усё, прачытанае ім, так менавіта і было, і інакш быць не магло.

Сапраўднае мастацтва пачынаецца там, дзе паміж чытачом і аўтарам узнікае сардэчны давер адзін да аднаго. Справа пісьменніка — выплеснуць у свет, на людзі, усё, чым перапоўнена ўмяшчальня яго ўражанняў, якую завуць душою. І калі пісьменнік «ад душы», як перад лепшым сваім сябрам, гаворыць пра радасці і гора нашага жыцця, пра благое і добрае, смешнае і агіднае—ён будзе зразуметы, будзе прызнаны чытачом за сябра свайго.

**З прадмовы да «Зборніка пралетарскіх пісьменнікаў».**

ПІСЬМЕННАСЦЬ — неабходная.

Гэта я кажу сур'ёзна: пісьменнасць вельмі неабходная для ўсіх людзей, а ў асаблівасці для тых, хто займаецца літаратурай.

Я вымушаны напомніць пра гэта па наступнай прычыне: малады рускі літаратар, падарожнічаючы «галопам па Еўропах» і наведаўшы ваколіцы Неапаля, расказвае ў адной з маскоўскіх газет: «Побач — заліў Адрыятычнага мора, з другога боку яго добра відаць Везувій». Спакон веку вядома, што Неапаль знаходзіцца на беразе заліва Тырэнскага мора і заліў гэты завецца Неапалітанскім; што ж да мора Адрыятычнага, то яно знаходзіцца ў другім месцы, так што малады пісьменнік, падарожнічаючы «галопам», хлусіць у кар'ер...

Можна было б і не звяртаць увагі на гэты «анекдот», але мне даводзіцца нярэдка бачыць маладых пісьменнікаў, і, на жаль, усе яны маюць большую ці меншую схільнасць да творчасці менавіта такіх анекдотаў. І мімаволі шкадуеш, што яны падарожнічаюць галопам, а не пехатою, як гэта робяць нямецкія студэнты.

Сучасныя рускія людзі наогул прыязджаюць у Еўропу нібыта толькі для таго, каб паглядзець, як яна развальваецца, і скеміць, ці хутка яна рассыплецца ў прах і пыл. Папытаешся такога падарожніка галопам:

— Як вам падабаецца мора?

Ён горда адказвае:

— Што, у нас сваіх мораў няма, ці што!

Гэты гонар сваімі морамі і пагарда да чужых пашыраецца і на ўсё,

чым багата еўрапейская суша. Напрыклад — музеі. У іх многаму можна павучыцца, многае можна зразумець. Але «горды рос», паблажліва крочачы па пампейскіх залах Неапалітанскага музея, сумна бурчыць:

— Не разумею. Не разумею.

Здавалася б, калі не разумееш, паспрабуй зразумець; разуменне— гэта вельмі добрая чалавечая справа. А малады расійскі літаратар «не разумее» для таго, каб другім было зразумела: усе нешта разумеюць, многія здзіўляюцца, а вось ён, які з Масквы— не разумее. Нават не хоча разумець.

Другі, які галапіруе па залах Уфіцы, можа збянтэжыць такім вывадам:

— Чорт пабяры, якая процьма фарбаў патрачана!

Акрамя музеяў і велічных абломкаў старажытнасці, якія таксама добра вучаць разумець мінулае народа, яго творчасць, яго работу, у Еўропе і па сённяшні дзень людзі працуюць вельмі многа, упарта, разнастайна. Селянін на поўдні Італіі працуе на сваёй зямлі круглы год, а не пяць-шэсць месяцаў, як рускі селянін. Факт цікавы і здольны навесці на роздум вельмі павучальны. Не заўважаецца, каб гэты факт прымусіў людзей задумацца, гэтак жа, як непрыкмечанымі для галапіруючых падарожнікаў застаюцца на дзіва ўмелыя і цяжкія каменныя работы італьянскіх сялян. Наогул, работа, быт — не абуджаюць цікавасці маладых расіян. І, калі чытаеш нарысы іх падарожжаў, здзіўляешся як мала людзі бачылі і як дрэнна бачылі тое, на што глянулі з практычнай мэтай — апісаць. Вельмі мала праяўляюць цікавасці маладыя падарожнікі да мінулага і сучаснага чужых краін.

Магчыма, што ёсць рэчы, не ведаць якія прыемней, чым ведаць. Але я — за тое, каб ведаць усё. Пісьменнік абавязаны ведаць як мага болей...

Маладыя пісьменнікі мала ведаюць. Відаць таму яны слаба адрозніваюць падабенства і розніцу паміж рэчамі гукамі, фарбамі, з'явамі прыроды.

«Верней клади ступень ноги» — раіць адзін паэт, не заўважаючы некаторай розніцы паміж ступнёй нагі і ступенькай лесвіцы...

Празаік піша:

«Он щелкнул щиколоткой калитки», замест «щеколдой».

Трэці піша:

«Степка перестал вертеть задом кадушки».

Чацвёрты:

«Собака вертелась вокруг своего хвоста, скусывая репьи»...

Заўважаецца, што маладыя паэты не чытаюць сваіх таварышаў — празаікаў, а празаікі не чытаюць паэтаў. Адносіны ладзяцца як быццам толькі на знаёмстве асабістым або на чытанні рэцэнзій, якія нярэдка пішуцца людзьмі, што не ўмеюць уважліва чытаць,— пішуцца неахайна, непераканаўча і без усведамлення адказнасці перад чытачом...

Цяпер маладая літаратура з'яўляецца калектыўнай справай класа, які ўзяў у свае рукі, у сваю волю ўладу над велізарнай краінай і энергічна, паспяхова стварае ў ёй новую культуру, новы быт. Гэтая работа павінна мець — і яна мае! — бясспрэчнае выхаваўчае значэнне для працоўных усяго свету. Рускі рабочы клас мае права сказаць, што ён напаўняе паняцце «агульначалавечага» сапраўды агульначалавечым зместам, які засвойваецца пралетарыятам усіх краін. Неабходна, каб у кожнай галіне працы і творчасці, нягледзячы на розніцу індывідуальнасцей, была выразна відаць і адчувалася гэтая дружная, калектыўная, адзіная сіла, якая творыць новы свет.

Ад гутарак з літаратарамі і чытання часопісаў бясспрэчна патыхае затхласцю злоснай «гурткоўшчыны», шкоднай замкнёнасцю ў цесных квадрацікаў групавых інтарэсаў, імкненнем чаго б гэта ні каштавала прабіцца на «камандныя вышыні». Гэта асабліва характэрна ў такой установе, як «Леф», дзе некалькі самахвалаў імкнуцца збянтэжыць маладых літаратараў пропаведдзю непатрэбнасці мастацкай літаратуры.

Калі А належыць да групы Б, то ўсе іншыя літары алфавіта для яго або варожыя або не існуюць. Гэта бывала і раней, але не так і не ў такой меры. «Рэалісты» і «сімвалісты» таксама недалюблівалі адзін другога, але ў іх для гэтага былі больш грунтоўныя прычыны. Леанід Андрэеў у адным са сваіх пісем вельмі нядрэнна сказаў, што сімвалісты «фабрыкуюць літаратуру для купцоў, перасаджваюць Верлена ў Замаскварэчча Астроўскага, дзе тоўстым людзям надакучыла гуляць у шашкі і ў стукалку». «Рэалісты» добра разумелі, чаму прафесар Е. Анічкаў публічна радуецца знікненню з кніжнага рынку «зялёных зборнікаў» «Знания», і чаму на месца іх з'яўляюцца альманахі іншага тону. Але ворагі чыталі і ведалі адзін другога; і калі А. А. Блок пісаў рэцэнзію, скажам, пра Горкага, дык Горкі ў гэтай рэцэнзіі знаходзіў што-нішто тэхнічна карыснае для сябе. Вораг—добры настаўнік. Здавалася б, што і сябрам таксама трэба чытаць і ведаць адзін аднаго, што сябар таксама павінен быць добрым крытыкам. Гэтага не заўважаеш...

**«Пра карысць пісьменнасці».**

ШТО МАСТАЦТВА ніколі не было, не магло быць «самамэтай» для сябе — у нашы дні гэта асабліва відаць па тым, як трагічна знясілела яно разам са старэчай нямогласцю класа, яго старога заказчыка і спажыўца, і як хутка расце яно разам з культурна-рэвалюцыйным ростам пралетарыяту. Гэтак жа, як рэлігія, яно ў буржуазным грамадстве служыла пэўным класавым мэтам, гэтак жа, як у галіне рэлігіі, у мастацтве былі ерэтыкі, якія марна спрабавалі вырвацца з палону класавага гвалту і плацілі за ганьбу сляпой веры ў «непахісныя ісціны» мяшчанства трывогай спусташальнага нявер'я ў бязмежную творчую сілу гістарычнага чалавека, у яго бясспрэчнае права разбураць і ствараць.

Асабіста я прычынай нявер'я лічу адсутнасць страсці да пазнання і недахоп ведаў. Але я не сцвярджаю, зразумела, што веды патрабуюць веры; веды—няспынны працэс вывучэння, даследавання, і калі яны становяцца вераваннем, значыць яны — перапынены.

У нашай краіне прага ведаў разгараецца ўсё больш і больш; асабліва магутна і прадуктыўна гэтая прага заяўляе пра сябе ў галіне навукі і тэхнікі. Маладыя нашы вучоныя і тэхнікі здзіўляюць сваёй сталасцю, пафасам любві да ведаў, багаццем сваіх дасягненняў і дзёрзкасцю намераў. Маладыя літаратары яўна недаацэньваюць значэння ведаў. Яны як быццам занадта спадзяюцца на «натхненне», але мне здаецца, што «натхненне» памылкова лічаць узбуджальнікам работы, яно, мабыць, з'яўляецца ўжо ў працэсе паспяховай работы, як вынік яе, як пачуццё асалоды ад яе. Не зусім дарэчы і вельмі часта маладыя літаратары ўжываюць гучнае і таксама не вельмі пэўнае царкоўнае слова—«творчасць». Пісанне раманаў, п'ес і г. д.—гэта вельмі цяжкая, карпатлівая, дробная работа, якой папярэднічае працяглае назіранне над з'явамі жыцця, накапленне фактаў, вывучэнне мовы.

«Творчасць» большасці драматургаў нашых зводзіцца да механічнага, часта непрадуманага і адвольнага спалучэння фактаў у рамках «загадзя абдуманага намеру», пры гэтым «класавая начынка» фактаў узята павярхоўна, ды гэтак жа павярхоўна абдуманы і «намер»; дрэнна абдуманы намер калечыць факты, не раскрывае іх сэнсу, а да гэтага дадаецца грубая шаблоннасць характарыстык людзей па «класаваму прызнаку»...

Гістарычны чалавек, той, які за 5—6 тысяч гадоў стварыў усё, што мы

называем культурай, у чым увасоблена велізарная колькасць яго энергіі і што з'яўляецца найграндыёзнейшай надбудовай над прыродай, куды больш варожай, чым дружалюбнай яму,— гэты чалавек як мастацкі вобраз — надзвычайная істота! Але сучасны літаратар, драматург мае справу з бытавым чалавекам, які вякамі выхоўваўся ва ўмовах класавай барацьбы, глыбока заражаны заалагічным індывідуалізмам і наогул з'яўляецца істотай вельмі стракатай, вельмі складанай, супярэчлівай. Таму: калі мы хочам — а мы хочам — перавыхаваць яго, нам не трэба спрашчаць сённяшняга, бытавога чалавека, а мы павінны паказваць яго самому сабе ва ўсёй красе яго ўнутранай заблытанасці і раздробленасці, з усімі «супярэчнасцямі сэрца і розуму». Трэба ў кожнай асобнай адзінцы знайсці той індывідуальны стрыжань, які найбольш характэрны для яе і ў канчатковым выніку вызначае яе сацыяльныя паводзіны.

«Класавы прызнак» не трэба наклейваць чалавеку звонку, на твар, як гэта робіцца ў нас; класавы прызнак не барадаўка, гэта нешта вельмі ўнутранае, нервова-мазгавое, біялагічнае. Задача сур'ёзнага пісьменніка — пабудаваць п'есу на вобразах мастацкі пераканальных, дабіцца той «праўды мастацтва», якая глыбока хвалюе і здольна перавыхаваць гледача. Вось, напрыклад, Уінстан Чэрчыль, ён, безумоўна, ужо не чалавек, а нешта невымерна горшае, ён — вельмі характэрны як істота, у якой класавы прызнак выражаны зусім ідэальна ў форме яго кансерватызму і звярынай нянавісці да працоўнага люду Саюза Саветаў. Але калі драматург возьме яго толькі з гэтага боку,— толькі як істоту, якая ненавідзіць,— гэта будзе не ўвесь Чэрчыль і таму— не жывы Чэрчыль. Ён, напэўна, валодае яшчэ якімі-небудзь прыдаткамі да асноўнай сваёй агіднасці, і мне здаецца, што гэта прыдаткі нікчэмныя, камічныя. Я цвёрда ўпэўнены, што ў гэтага лорда ёсць нешта вельмі смешнае, чаго ён саромеецца, што тайком мучыць яго і ад чаго ён так злосна піша свае кнігі.

**«Пра п'есы».**

МЫ ПАВІННЫ дамагацца ад слова найбольшай актыўнасці, найбольшай сілы ўнушэння,—мы даб'емся гэтага толькі тады, калі выхаваем у сабе павагу да мовы, як матэрыялу, калі навучымся адсяваць ад яе пустую мякіну, перастанем калечыць словы, рабіць іх незразумелымі і пачварнымі. Чым прасцей слова, тым больш яно дакладнае, чым лепш яно пастаўлена, тым больш надае фразе сілы і пераканальнасці. Цяга да правінцыялізмаў, да мясцовых выразаў гэтак жа першкаджае яснасці малюнка, як абцяжарвае нашага чытача ўтыканне ў рускую фразу іншаземных слоў.

Вось Барыс Пільняк у кнізе «О'кэй» піша — «лонча и динеря» замест «завтракая и обедая», прычым, снеданне па-англійску вымаўляецца «ленч», а не «лонч»...

Чаму ж могуць навучыцца маладыя «пачынаючыя» літаратары, бачачы ў кнігах «старэйшых волатаў» слоўнае фокусніčанне, малапісьменнае выдумлянне, яўна беспаспяховыя патугі на «арыгінальнасць стылю», нядбайнасць, недапушчальную неахайнасць у рабоце?..

Я зусім не маю намеру прыніжаць заслугі Андрэя Белага перад рускай літаратурай у мінулым. Ён з тых неспакойных дзеячоў славеснага мастацтва, якія няспынна шукаюць новыя формы адлюстравання светаадчування. Шукаюць, але рэдка знаходзяць іх, бо пошукі новых форм — «пакуты слова» далёка не заўсёды выклікаюцца патрабаваннямі майстэрства, пошукамі сілы пераканальнасці яго, сілы ўнушэння, а часцей выяўляюць імкненне падкрэсліць сваю індывідуальнасць, паказаць сябе чаго б гэта ні каштавала — не такім, як сабраты па рабоце. Таму бывае так, што літаратар, працуючы, думае толькі пра тое, як будуць чытаць яго літаратары і крытыкі, а пра чытача — забывае.

**«Аб прозе».**

ЁСЦЬ ВЕЛЬМІ грунтоўная падстава сцвярджаць, што пачуццё сацыяльнай адказнасці развіта ў літаратараў значна слабей, чым у другіх майстроў культуры. Можна нават паставіць пытанне: ці ўсведамляе пісьменнік сваю адказнасць перад чытачом, эпохай, грамадствам, або ён яе адчувае толькі перад крытыкамі? Вельмі часта заўважаеш, што нашым літаратарам дрэнна знаёмая, а то і зусім незнаёмая адказнасць перад матэрыялам. Тэмпература індывідуалізму ў літаратараў куды вышэйшая, чым у другіх майстроў культуры. Кажуць, што гэта тлумачыцца характарам работы,— не бяруся сказаць, на колькі такое тлумачэнне правільнае. Індывідуалізм інжынера і вучонага абумоўліваецца іх спецыяльнасцямі: астраному, астрафізіку не абавязкова ведаць біялогію, медыцыну, будаўнік паравозаў або мастоў, мабыць, можа не ведаць этнаграфію або заалогію.

Літаратар павінен ведаць калі не ўсё, то як мага болей пра астранома і слесара, пра біёлага і краўца, пра інжынера і пастуха і г. д. Недастаткова сказаць пра клапа, што ён—чырвоны або рыжы, як звычайна кажуць нашы літаратары пра ворагаў пралетарыяту. Добра ведаюць і разумеюць пісьменнікі некаторыя старыя афарызмы, накшталт: «Ты—цар, жыві адзін». А афарызмік гэты і няправільны! Цары акружалі сябе вялікім мноствам розных слуг. Упадабняючыся царам, літаратурныя бароны таксама спрабуюць акружыць сябе якой-ніякой чэляддзю. Не выкрэслены з ужытку пісьменнікаў другі старажытны афарызм — «мастацтва для мастацтва», а некаторыя «ўмельцы» спрабуюць фабрыкаваць рафініраваную літаратуру, падражаючы, напрыклад, Дос-Пасасу... Усё яшчэ спрачаюцца пра нібыта існуючую супярэчнасць паміж формай і зместам, як быццам магчыма нейкая форма, пазбаўленая зместу. Напрыклад, гармата, зробленая з паветра,— хоць і паветра таксама ёсць нешта матэрыяльнае,— не гармата, якая страляе сапраўднымі баявымі снарадамі. Чым больш сур'ёзнае сацыяльнае значэнне матэрыялу, тым болей строгай, дакладнай і яснай формы ён патрабуе,— мне здаецца, гэта даўно пара зразумець.

Вельмі многія літаратары зусім не клапоцяцца пра тое, каб тварэнні іх розуму і пяра былі параўнальна лёгка даступныя разуменню чытача,— на гэта я неаднаразова і без аніякага поспеху ўказваў. Калі сказаць нават незаслужанаму літаратару: «Таварыш, а рэч твая—дрэннаватая!»—ён злуецца, бяжыць некуды скардзіцца, і паяўляецца артыкул, які даказвае, што памянёны літаратар геніяльны. Ёсць і такія, якім здаецца, што калі «так было», то, мусіць, «так і будзе», яны з вялікай ахвотаю капаюцца ў брудзе мінулага і, знаходзячы яшчэ некаторыя рэшткі яго ў цяперашнім, не без задавальнення падкрэсліваюць падабенства паміж учора і сёння. Ствараюцца групачкі ўзаемна сімпатычных, ганьбуюць групачку антыпатычных, ім, апошнім, адказвае тым жа і «Литературная газета», і называецца гэты непрыстойны кавардак «літаратурным жыццём»...

Зарубежныя і ўнутраныя ворагі, магчыма, узрадуюцца, скажуць: «Вось і Горкі дае нам кавалачак прыемнай «духоўнай стравы»! Гэта будзе радасць памылковая. Я не маю намеру карміць свіней. Артыкул выкліканы высокімі запатрабаваннямі жыцця Саюза Саветаў. Вышыню і значэнне гэтых запатрабаванняў ворагі пралетарыяту арганічна не здольныя зразумець. Літаратура Саюза Саветаў расце добра, але жыццё велічнае і цудоўнае. Неабходна, каб літаратура дасягнула вышынь жыцця. Вось у чым справа.

**«Пра «кочку» і пра «точку».**



*75 год з дня нараджэння*

# АДНО АПАВЯДАННЕ

Імя Максіма Гарэцкага толькі ў апошнія гады становіцца вядомым шырокаму чытачу. Пасля надрукавання раманаў «Віленскія камунары» і аўтабіяграфічнай аповесці «Камароўская хроніка» мы як бы нанава адкрылі для сябе гэтага надзвычай цікавага і арыгінальнага мастака слова. А між тым, Максім Гарэцкі быў у ліку пісьменнікаў, якія закладвалі першыя цагліны ў падмурак беларускай прозы. Пра адно з апавяданняў Гарэцкага — «Літоўскі хутарок», якое было напісана ў 1915 годзе, у той час, калі пісьменнік знаходзіўся на руска-германскім фронце, мне і хочацца сказаць некалькі слоў.

Дарэвалюцыйнае беларускае апавяданне, прадстаўленае імёнамі Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага), Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, было не надта разнастайным у жанравых адносінах. Псіхалагізм, глыбокае, шматбаковае бачанне жыцця толькі-толькі прабівалі ў ім сабе дарогу. Таму — скажу шчыра — я быў здзіўлены, калі некалькі гадоў назад прачытаў «Літоўскі хутарок» Максіма Гарэцкага. Па ўзроўню творчай культуры гэтае апавяданне можна было параўнаць хіба толькі з лепшым, што стварыў да рэвалюцыі ў прозе Якуб Колас — з яго апавяданнямі «Нёманаў дар» і «Малады дубок».

Гаворка ў творы Гарэцкага ідзе пра звычайную сядзібу Яна Шымкунаса, размешчаную недзе паблізу прускай граніцы, пра яе жыхароў — самога гаспадара Яна, ягоную жонку Даміцэлю, дачок Ядвісю і Монцю, а таксама салдат рускай арміі Ярмашчука і Дудзіка, фейерверкера Сініцу, што сталі сваімі людзьмі на гэтым адзінокім хутары.

Спачатку хутарок знаходзіўся па гэты бок фронту, у межах баявых дзеянняў рускай арміі, потым прыйшлі салдаты кайзера Вільгельма, затым зноў вярнуліся рускія. Вайна парушыла мірны жыццёвы клопат жыхароў хутарка, прынесла ім незлічоныя пакуты. Пра ўсё гэта пісьменнік расказаў з такой чалавечай увагай да іх жыцця, побыту, з такім вялікім болем, спагадай да пакут простых людзей. І разам з тым у апавяданні няма ніякіх знешніх эфектаў, эмацыянальных «выбухаў». Усё ў ім проста, будзённа, звычайна. Але ж расказаць так — значыць валодаць найвышэйшым майстэрствам, быць рэалістам, псіхолагам у самым высокім значэнні гэтых слоў. Вось, скажам, сціслыя і па-мастацку ёмістыя партрэты дачок Яна Шымкунаса: «Чорненькая Ядвіся не была так прыгожа, як большая Монця, але яе бойкія, вясёлыя чорненькія вочкі, чырвона-смугленькія з ямачкамі шчочкі, дзяціна-капрызны са смяшком склад вуснаў, маладыя круглыя ручкі, гібкасць і крутасць паланялі салдатаў, не ведаўшых, чым і як ёй дагадзіць.

Беленькая Монця мела больш строгую красу і была сур'ёзней і неяк задумней. Гэта быў тып літвінкі. Прадаўгаваты тварык з шэрымі, сумнымі, удаўжонага разрэзу вачамі; круглы, але правільны нос; рот з рысамі, лёгка даючымі пакорліва-сумную ўсмешку; роўныя, белыя зубы, доўгая, багатая белакурая з завіточкамі каса.

Не кожны салдат рашаўся жартаваць з Монцяю».

Вось гэтую багатую «прадметнасць», «рэчавасць» бачання жыцця, высокую рэалістычную, псіхалагічную культуру і нёс у беларускую прозу Максім Гарэцкі, пісьменнік надзвычай таленавіты і глыбокі.

Іван **НАВУМЕНКА.**





# ПРАБЛЕМЫ МАЛОГА ЖАНРУ



Дастаткова прыгадаць артыкулы і кнігі Я. Брыля, С. Антонава, Ю. Нагібіна, Я. Скрыгана, каб пераканацца, што пра майстэрства апавядання ярчэй за ўсіх пішуць самі апавядальнікі. Гэтых кніг і артыкулаў, відаць, не было б, каб за апошні час не вырасла само майстэрства апавядання. Пра сучасны стан гэтага жанру, пра майстэрства яго мне і захацелася пагутарыць з Янкам Скрыганом — адным з вядомых нашых апавядальнікаў.

Мае каштоўнасць тая тэорыя, што вырасла на грунце асабістага вопыту. Вось чаму я і пачаў з такой просьбы да пісьменніка: прыгадайце гісторыю стварэння вашых першых апавяданняў.

**— Ні на адну хвіліну не сумняваюся,**— гаворыць Янка Скрыган **што калі б не Янка Купала, Якуб Колас і Змітрок Бядуля, то ў мяне наўрад ці паявілася б патрэба нешта пісаць самому. І таму, што я іх любіў, што іхняя паэзія кранала маю душу, я і сам пачаў з вершаў. Але ўвесь час як бы адчуваў, што гэтага мне мала. Вершамі я мог выказаць настрой, крыўду, гнеў, замілаванне, абурэнне, мог напісаць пейзаж, а мне хацелася перадаць рух, падзею. Хоць вачыма маленства, але я ўжо сёе-тое бачыў: імперыялістычную і грамадзянскую вайну, Кастрычніцкую рэвалюцыю, нямецкую і польскую акупацыі. Усё гэта недзе жыло ў мне і нясмела прасілася ў слова.**

**І от паявіліся першыя маладнякоўскія апавяданні ў газетах, адале ў кніжках — рэвалюцыйная рамантыка Міхася Зарэцкага, «Ваўчаняты» Александровіча, Вольнага і Дудара. Маё ўяўленне пачынала кіпець. І тут я насмеліўся загаварыць прозаю. Сюжэты першых апавяданняў складаліся ў сне: я сам быў у партызанах, мы няшчадна грамілі ворагаў, насцігалі іх на саменькіх тых хвілінах, якія вырашалі поспех перамогі. Я прачынаўся, карціны так ярка бачыліся, што я тут жа накідваў іх на паперу. Але першыя тыя апавяданні не пабачылі свету, бо ў іх, як і ў сне, усё рабілася вельмі наіўна і лёгка.**

**Нават у першую кніжку «Затока ў бурах» папалі такія наіўныя і бездапаможныя апавяданні. Павінен сказаць, што за іх мне і да гэтага часу няёмка.**

— Дзядзька Янка, хацелася б, каб Вы расказалі пра домысел у Вашых апавяданнях, пра яго граніцы.

**— Трохі пра гэта я расказваў у «Сваёй аповесці» і баюся, што прыйдзецца ў сім-тым паўтарацца. Я належу да тых пісьменнікаў, якія не вызначаюцца надта вялікай фантазіяй і ў творах якіх не так многа выдумкі. Аднак жа без домыслу наогул, мабыць, няма мастацкага твора. Памагае ён і мне. Калі больш, а калі менш. Часам, проста каб падняць рэальны матэрыял да ступені мастацкага, а часам — з'яўляючыся асновай твора.**

**Апавяданне «Паваротак ля сасны», скажам, напісана на самым рэальным матэрыяле, аж да таго, што Майбарадзе пакінута яго сапраўднае прозвішча. Аднак жа ўся сутнасць у тым, што домысел — гэта не толькі ўмець дадаваць, а куды больш — умець выкінуць лішняе, непатрэбнае з назапашанага матэрыялу. Прыблізна гэтак пісаліся «Наталя», «След гумавых шын», «Два немцы», «У Кірылы на хутары», «Скажы адно слова».**

**Найчасцей жа бывае, што з домыслу пачынаецца сама ідэя твора, і ўжо яна, гэтая ідэя, збірае каля сябе матэрыял. Тут спатрэбяцца вопыт твайго жыцця, твае нагляданні, уражанні, пачуцці, погляд на рэчы, плынь думак, падгледжаныя жэсты, рысы характару, сітуацыі і многа чаго іншага, вядома, у той меры і ў тым ключы, які адпавядае замыслу. Гэтак пісаліся «Месячная ноч», «У старым доме», «Марына», «Пусты кошык», «Развітанне», «Над гаем кружылі буслы».**

**З «Бусламі» прычыніласся мне многа клопату.**

**На першым пачатку гэта было зусім не такое апавяданне. У аснове яго ляжаў факт мае сустрэчы з старшынём сібірскага калгаса Цярэшчанкам. Але, мабыць таму, што сітуацыя мела надта вузкі, лакальны характар, апавяданне не захацела стаць з'явай мастацтва, яно выглядала наіўна, фальшывіла. Вядома, я яго знішчыў. Але пакінуў пачатак, у ім было нешта мілае мне — партрэт Яніны. Можа з год гэты партрэт не даваў мне быту, трэба было яго ратаваць, пісаць пад яго новае апавяданне, шукаючы адпаведнай танальнасці, адпаведнай сітуацыі. І магу сказаць, што «Буслы» намыслены і напісаны выключна дзеля Яніны.**

— Ці ёсць у Вас сваё любімае апавяданне?

**— Ёсць. І любімы і нелюбімы. Любімы: «У Кірылы на хутары», «Наталя», «Месячная ноч», тыя ж «Буслы». Чаму? Нечым вельмі блізкія мне. Па духоўнай патрэбе чысціні. Па гучанню. Тут нельга адказаць адным складам. Рэч у тым, што густ мяняецца ад многіх акалічнасцей: часу, гадоў, духоўнага фармавання.**

**На першым, далёкім часе майго дачынення да літаратуры найпершая любоў была да прозы Якуба Коласа і Змітрака Бядулі. Пэўны час сваімі рамантычнымі апавяданнямі хвалявалі такія непадобныя пісьменнікі, як Іван Тургенеў і Максім Горкі. Быў перыяд інтэнсіўных пошукаў, і тады за вяршыню дасціпнасці я лічыў апавяданні Ісака Бабеля і Юрыя Олешы. З часоў «Аповесці пра жыццё» і «Залатой ружы» зусім іначай адчуў Канстанціна Паўстоўскага, адкрыўшы, што чароўная мілата яго твораў у вельмі незалежным, свабодным мастацкім мысленні.**

**І ёсць у мяне галоўны чараўнік, у апавяданні якога ўваходзіш, як у храм,— Іван Бунін. Гэты заўсёды мяне гіпнатызаваў, нават не ведаю, чым, мабыць, тайнаю рабіць чытача саўдзельнікам нейкай вельмі блізкай яму трывогі. Бунінскі домысел працуе галоўным чынам, мабыць, толькі**





**на тое, каб абмінаць непатрэбнае. Я не ведаю другога пісьменніка з такой гранічнай нагрузкай на тэкст. Вось у каго нам трэба вучыцца шчодрай пісьменніцкай скупасці.**

— Што такое апавяданне, як жанр, на Вашу думку?

**— Ёсць агульнае вызначэнне: твор эпічна-апавядальнай літаратуры, невялікі памерам, з нямногімі персанажамі, са строгім і дынамічным сюжэтам. Ці згодзен я з гэтым вызначэннем? Як кажуць, у аснове. Практычна апавяданне ў гэтыя рамкі не месціцца. Асабліва сучаснае. І ў Буніна, і ў Паўстоўскага якраз найменш дынамічнасці ў сюжэце, часамі яго наогул няма, а між тым, нешта трымае іхнія апавяданні на высокім мастацкім напружанні. Няйначай, як гэтае «нешта» і складае тайны майстэрства.**

**У маім разуменні апавяданне — гэта вельмі сканцэнтраваная ў фокусе нейкая адна з'ява жыцця. І таму, як у сувеніры, у ім павінна быць характэрнасць. Рэч не толькі ў тым, што яно можа аператыўна адгукавацца на падзеі, а і ў тым, што падзею паказвае праз адну самую характэрную дэталь.**

**Часта пішуць доўгія, пухлыя апавяданні, без разбору напаўняючы іх неабавязковымі, другараднымі падрабязнасцямі, дазваляючы персанажам без канца балбатаць, але гэта ўжо не апавяданне, а расслабленая аповесць. На жаль, часам так і пішуцца аповесці — калі не хапае сілы напісаць апавяданне.**

— Вельмі слушная думка, дзядзька Янка. Працэс «падоўжання» апавядання характэрны асабліва для маладых. У многіх з іх ёсць вялікая патрэба выказаць сябе ў нечым большым, чым апавяданне, але стрымлівае боязь няўдачы. І тады пісьменнік стараецца ўціснуць матэрыял усё ў тыя ж апавядальныя рамкі. Матэрыял «абвісае» па-за жанрам. Каштоўнейшая якасць сучаснай літаратуры — прывязанасць да жыццёвых фактаў — часта паварочваецца сваім адваротным бокам: няўменнем адкінуць лішняе з наяўнага матэрыялу. Сацыяльна-псіхалагічная напоўненасць апавядання не заўсёды адэкватна яго памерам. Гэта вядома з часоў Чэхава і Буніна. Пра тую выключную дакладнасць і гранічна-эканомную выразнасць, якіх патрабуе апавяданне, вельмі добра сказаў Аляксей Талстой у артыкуле «Што такое маленькае апавяданне». Памятаеце? «Навела—найбольш цяжкая форма мастацтва»... Хвілінаачку, у мяне гэта нават выпісана. Вось: «У вялікай аповесці можна «загаварыць зубы» чытачу маляўнічымі апісаннямі, дасціпнымі дыялогамі,—ці мала чым... Тут жа ўсё відаць, як на далоні. Вы павінны быць ашчаднымі, але вы павінны і данесці значную думку — малая форма не вызваляе вас ад вялікага зместу. Вы павінны быць лаканічнымі, як паэт у санеце, але лаканічнасць павінна ісці ад канцэнтрацыі матэрыялу, ад выбару толькі самага неабходнага». Відаць, у гэтым якраз і заключаецца майстэрства апавядальніка. А які сэнс вы ўкладваеце ў паняцце майстэрства?

**— Калі твор глыбока прадуманы і расказаны найбольш выразнымі выяўленчымі сродкамі. Само сабою майстэрства не існуе без канкрэтнага ўяўлення з'явы мастацтва. Ніякі змест не бывае без формы, і я не ведаю, ці можна, наогул, пра гэтыя рэчы гаварыць раздзельна. Твор, напісаны на самую важную тэму, але напісаны слаба, так і не даносіць зместу. На жаль, наша крытыка вельмі часта аналізуе мастацкія творы толькі па лініі зместу, абсалютна ігнаруючы іх якасць — форму. Пры ўсебаковым аналізе, калі была б улічана якасць, не здаралася б выпадкаў, што**

творы, паднятыя да вышыні мастацкіх дасягненняў, тут жа, на нашых вачах, і паміралі.

Майстэрства — гэта не толькі сума прыёмаў. Светапогляд, філасофія сцвярджальнага руху, глыбокае пранікненне ў з'яву, культура мыслення, культура прафесіі, якой павінны быць добра вядомы такія рэчы, як чалавечыя пачуцці, адчуванне меры і такту ў выяўленчых сродках, свабоднае кіраванне сілай слова і многія іншыя рэчы, што складаюць творчую індывідуальнасць пісьменніка,— вось тое, што спадарожнічае майстэрству.

Майстар апавядання, прызнаны знаўца мовы, Янка Скрыган з'яўляецца адным са складальнікаў «Анталогіі беларускага апавядання». Цікава, што ён думае пра сучасны стан беларускага апавядання (псіхалагізм, грамадзянскасць, напоўненасць думкай, дробнатэмнасць і іншае).

— На маю думку,— гаворыць пісьменнік,— не так даўно апавяданне перажывала крызіс. Прычыны былі ўсякія: і матэрыяльныя (бо гэта вельмі нявыгадны жанр, ён не апраўдвае затрат часу і намаганняў), і маральна-этычная (ёсць такі дзікі погляд, што апавяданне — гэта як бы няспелая форма творчасці, што каб стаць папраўдзе пісьменнікам, то трэба абавязкова пераходзіць у раманісты), і даволі спакойныя адносіны да апавядання чытацкай грамадскасці. У выніку такой сітуацыі ў апавядальніках асталася вельмі невялікая група пісьменнікаў: гераічна трываў безнадзейны лёс апавядальніка Янка Брыль; часамі ўспамінаў свае куды больш плённае амплуа апавядальніка, чым раманіста, набожчык Аркадзь Чарнышэвіч; зрэдку спускаліся да «нетрывалага» жанру Іван Мележ, Іван Шамякін, Аляксей Кулакоўскі; таксама гераічна і добрасумленна служылі апавяданню Мікола Лупсякоў, Алена Васілевіч, Іван Навуменка. Але ўсе яны з большай ці меншай надзеяй глядзелі на раман ці аповесць, і апавяданне самаахвярна чахла. Памятаю, быў час, калі ў «Полымі», напрыклад, за год было надрукавана толькі адно апавяданне.

Цяпер жа яно пачынае сябе адчуваць усё больш і больш упэўнена. Яно дужэе, набывае грамадзянскі голас, па майстэрству грозіцца апярэдзіць аповесць і раман. Яно становіцца ўсё больш энергічным і кампактным, напаўняецца роздумам, спрабуе пранікаць у глыбіню з'явы. Мо па гэтых прычынах яно пачало карыстацца большым аўтарытэтам у чытача, і наўрад ці можна лічыць выпадковым, што іменна пад гэты час выпушчана двухтомная анталогія беларускага апавядання. Да прозвішчаў, якія я ўспамінаў, далучыліся новыя, і можна смела сказаць, што цяпер яны з'яўляюцца галоўнымі апавядальнікамі. У апавяданне яны ўнеслі сваё, свежае дыханне, нейкі новы ракурс, свой псіхалагічны рысунак. Я гавару пра пісьменнікаў, якія ўжо вызначылі свае творчае аблічча: пра Івана Пташнікава, Барыса Сачанку, Міхася Стральцова, Вячаслава Адамчыка, Уладзіміра Дамашэвіча, Васіля Быкава, Івана Чыгрынава.

І аднак можна лічыць, што апавяданне яшчэ ў пошуках. Пошук наогул — гэта закон руху, але я гавару тут пра вызначэнне галоўных кірункаў. Яшчэ няма ў яго смелай і ўпэўненай сцвярджальнай філасофіі, няма гістарычнай шырыні ў поглядзе на з'явы жыцця. Яшчэ герой яго нечым балесным утрапёны, найчасцей замкнёны ў сабе. Найбольш ён любіць тупаць каля свайго двара, каля свайго маленства, і часта філасофія яго не сігае за межы таго, што відно з гэтага двара: садранай ветрам страхі, худога каня, косага дажджу, каменьчыка пад нагамі, згубленага на поплаве гусінага пяра... Мне здаецца, што само цяперашняе апавяданне чуе гэту сваю бяду здрабнення і змагаецца з ёю. У сведкі я бяру самыя апавяданні, надрукаваныя ў «Полымі» і «Маладосці» за апошнія гады. Там ёсць многа прыемных удач. Ды пад час такой самадасканаласці нават маўчанне азначае ўдачу.





— Што, на Вашу думку, прынесла і нясе ў беларускую літаратуру маладое пакаленне празаікаў?

— На гэта я ўжо бадай што адказаў. Яны вельмі не падобны адзін на аднаго, маладыя празаікі, і ў гэтым, можа, усё хараство іх талентаў. Толькі што я назваў іх імёны. Ва ўсіх іх ёсць і агульная рыса: удумлівасць, улюбёнасць у сваю прафесію, што не дапускае ніякіх спекуляцый мастацтвам.

За гэтай групкай даволі хораша прастуюць некаторыя з маладзейшых. Найбольш падабаюцца мне Анатоль Кудравец і Мікола Капыловіч. Яны стараюцца не ўпадаць у драбнату, ідуць ад душы чалавека, даследуюць з'явы сацыяльна важныя. Яны эканомныя ў мове, любяць і чуюць слова, і таму фраза ў іх натуральная, граматная.

Вядома, смешна гаварыць пра пісьменніка, што ў яго граматная фраза. Хіба можа быць непісьменны пісьменнік? На жаль, можа. І, на жаль, часта. Мне б хацелася на гэта звярнуць асаблівую ўвагу. Мабыць, мы бяром на сябе цяжкі грэх, заўчасна друкуючы некаторых таварышаў. Надрукуем раз, другі бездапаможнае практыкаванне, сілаю рэдактуры бадай што занава напісаўшы за аўтара тэкст, і аўтар прывыкае глядзець на сваю работу, як на лёгкі спорт. Потым, калі ён пачынае хадзіць у пісьменніках, выяўляецца, што пісаць то ён і не ўмее. Значыць, мы самі вінаваты, што не прышчапілі чалавеку любві і павагі да свае прафесіі або што паспрыялі, каб у літаратуру ўжыўся чалавек зусім выпадковы.

Мне часта прыходзіцца мець справу з рукапісамі, і павінен сказаць, што замест радасці многія з іх прыносяць смутак. Няма мовы. Чалавек не можа выказаць думкі, яму не хапае ні слоў, ні адчування натуральнасці фразы, ні логікі мыслення. А без мовы не можа выявіцца ніякая здольнасць. І шкада, што ў такой моўнай развязнасці некаторыя бачаць наватарства, сучасны стыль, паднаўляюць нашу мову на касмапалітычны капыл і знарок практыкуюцца ў коснаязыкасці. Былі нават і артыкулы такія: мова састарэла, на ёй нельга выказаць новага інтэлекту, давайце рабіць сучасную мову.

Мяне радуе, што асноўная група нашых маладых і малодшых празаікаў робіць сапраўдную літаратуру. Як можа, але сумленна, не баючыся, што цяжка. Мы стаімо на тым этапе духоўнай нашай сталасці, калі без майстэрства наступны крок літаратуры немагчымы. Я веру, што неўзабаве грамадзянскае і мастацкае аблічча нашых твораў будзе вызначаць іх якасць. Іменна ў якасці будзе набываць сваё поўнае выяўленне народнасць і партыйнасць.

Гутарку вёў Аляксей ГАРДЗІЦКІ.



Лідзія АРАБЕЙ

# У КРАІНЕ ТРАНЗІСТАРАЎ І КІМАНО

З паездкі ў Японію

Мы едзем у Японію. Наша група — чатырнаццаць чалавек: масквічы, ленінградцы, беларусы, літоўцы, грузіны. Да Хабараўска ляцелі самалётам. З Хабараўска да Находкі ехалі цягніком. З Находкі да порта Іакагама адплываем на нашым цеплаходзе «Байкал».

І вось — Японскае мора. Цеплаход падплывае да вострава Хансю. З цікавасцю глядзім на японскія берагі. Скалістыя, пакрытыя нізкімі, яшчэ голымі, але чамусьці кучаравымі, дрэўцамі. Колер берагоў цёмна-карычневы. Увесь бераг — палосы гор. Першая паласа, за ёю — другая, за другой — трэцяя, якая патанае ў сінявата́й смузе. Там-сям да скал прыляпіліся дамочкі пад чырвонымі дахамі. Здалёк выдаюць зусім маленькімі, як карабкі запалак.

На моры — лодкі, лодачкі, плаваюць, як шкарлупкі. Гэта — японскія рыбакі. Адзін на сваёй лодачцы адплыў далёка ад берага. А мора бурнае.

Пра японцаў кажуць, што ў іх характар загадкавы, таямнічы. Ніколі, маўляў, не ўгадаеш, пра што японец думае, бо на твары ў яго заўсёды маска — усмешка.

Вядома, дванаццаць дзён, якія мы правялі ў Японіі, вельмі малы тэрмін, каб вывучыць краіну, каб зразумець японскі характар. Ды ўсё ж такія-сякія назіранні зроблены, нешта мы ўбачылі, нешта адчулі, нешта зразумелі.

А галоўнае, Японія стала краінай, якую мы ўбачылі сваімі вачыма, да якой дакрануліся, калі можна так сказаць, сваімі рукамі. Яна была вакол нас, мы бачылі яе наяве, хоць часам і з'яўлялася адчуванне, нібыта мы фільм глядзім, а не жывём у гэтым, такім непадобным да нашага, свеце.

Мы прыплылі на нашым караблі ў Іакагаму — адзін з буйнейшых портаў у свеце. Падплываючы, мы бачылі караблі, на іх сцягі ўсіх краін. За портам высокімі камяніцамі ўзвышаўся і сам горад — шумны, шматлюдны, бяскрайні.

Ад Іакагамы да Токіо — 28 кіламетраў. Аўтобус «Інтурыста» павёз нас да Токіо, з якога пачынаўся наш турысцкі маршрут.

Едзем па шумных вуліцах Іакагамы, дзе тысячы, дзесяткі тысяч машын. Наш аўтобус часта спыняецца — заторы. Азіраемся на бакі — шэрыя шматпавярховыя дамы з рэкламамі. Рэклам, як і машын, вельмі многа. Усцяж вуліц — адкрытыя крамы. Амаль у кожным доме — крама. Зеляніны вельмі мала. Не відаць ні сквераў, ні бульвараў. Разумеем — мала зямлі. Не да бульвараў. Ну, думаем, вось мінем Іакагаму, па дарозе да Токіо хоць кіламетраў дзесяць праедзем полем ці лесам. паглядзім на японскую расліннасць.

Не ўбачылі.

Горад Іакагама адразу пераходзіць у горад Кавасакі, а той — у Токіо, як у нас пераходзіць адзін гарадскі раён у другі. Ніводнага метра незабудаванай зямлі.

І пасля, у гарадах Токіо, Нагоя, Асака, Кіота, мы бачылі гэтую цеснату, гэтае максімальнае выкарыстанне зямельнай плошчы. І не толькі зямельнай, а і падзямельнай, і паветранай, калі можна так сказаць.

Токіо — горад і на зямлі, і пад зямлёю, і ў паветры. У паветры — скарасныя дарогі. Пад зямлёю — кварталы магазінаў, гаражы, бары, метро. І, едучы з горада ў горад, бачыш адно: будынкі і будынкі. Дзіву даешся, дзе тая зямля, якая корміць народ...

Але ёсць і яна — дробныя лапінкі, дагледжаныя так, што воку люба. Роўныя, як падстрыжаныя, радочкі ўсходаў, без адзінай травінкі; парнікі, прыкрытыя цэлафанам замест шкла; залітыя вадою рысавыя палі. Выкарыстоўваецца кожны шматок — на схілах гор, пры самай дарозе, вузенькая палосачка пры доме. Той, хто мае хоць кавалачак зямлі, лічыцца багатым. Як і той, хто мае свой уласны дом.

Цэны на кватэры ў Японіі вельмі высокія. Амаль трыццаць працэнтаў заработнай платы аддаецца на ўтрыманне кватэры. Кватэрная плошча лічыцца не на квадратныя метры, а на татамі. Татамі, гэта пасцель, якую японцы кладуць на падлозе. Колькі татамі можна пакласці на цыноўцы ў пакоі — такая мера жылой плошчы. У простай рабочай японскай сям'і ў адным пакоі жывуць па пяць, па шэсць чалавек. Гэтыя татамі-пасцелі ўдзень прыбіраюцца.

Наогул, аб традыцыях і аб новым у Японіі цяпер пішуць шмат. Традыцыі і новае тут вельмі мірна суіснуюць, не перашкаджаючы адно другому.

У японскім доме, напрыклад, і цяпер спяць на татамі, сядзяць на падушачках каля нізкага століка, ядуць палачкамі. Але ў гэтым жа традыцыйным японскім доме стаіць тэлевізар, ёсць тэлефон, вадаправод, газ і ўсе іншыя атрыбуты сучаснай кватэры.

Збег сучаснага і традыцыйнага — на кожным кроку. У шыкоўных сучасных машынах ездзяць жанчыны ў кімано. Дарэчы, кімано і цяпер асноўнае жаночае адзенне. Асабліва ў пажылых жанчын. А ў маладых еўрапейскі касцюм, у асноўным, для службы. Святочнае адзенне таксама кімано.

Такое сучаснае вынаходства тэхнікі, як тэлебачанне, шырока выкарыстоўваецца для прапаганды нацыянальнага мастацтва. І нават не для прапаганды. Проста, гэта — мастацтва народа, японцы жывуць ім, яно ім патрэбна, як кожнае нацыянальнае мастацтва патрэбна нацыі.

У Токіо шэсць праграм тэлебачання. Ёсць і каляровае. І амаль па ўсіх праграмах — то японскі тэатр, то японскі фільм, то канцэрт, а гледачы ў канцэртных залах часта сядзяць на падлозе на кукішках.

Мы пабывалі ў шасці гарадах Японіі — Токіо, Нагоя, Асака, Кіота, Нара, Іакагама. Калі Токіо, Нагоя, Асака, Іакагама маюць выгляд зусім сучасных гарадоў, шмат у чым нават амерыканізаваных, дзе над традыцыямі пераважае сучаснасць, то ў Кіота, Нары традыцыям аддаецца больш увагі. Гэта ўжо зусім японскія гарады. Асабліва Нара, дзе і архітэктура чыста нацыянальная, і рытм жыцця больш спакойны, і зеляніны ў горадзе шмат — ёсць нават вялікі парк, у якім жывуць прыручаныя алені. Тут жа, у парку, прадаюцца не то пячэнне, не то вафлі — корм для аленяў. Алені бяруць корм проста з рукі, тыцкаючы мокрымі мордачкамі ў далоні.

У горадзе Нара нас размясцілі ў гасцініцы чыста нацыянальнага стылю. У нумарах і мы сядзелі на падушачках, спалі на татамі, елі нацыянальную страву, апрануліся ў кімано. Усё гэта было экзатычна і цікава, але, калі гаварыць шчыра, з непрывычкі не вельмі зручна, і мы з палёгкаю ўздыхнулі, калі зноў пераехалі ў еўрапейскі атэль.

У горадзе Кіота нас запрасілі ў нацыянальны тэатр. Паказвалі драму з феадальных часоў. Нейкі



У тэатры Кабукі.

прынц пакахаў дзяўчыну і ўцёк з ёю ад жонкі, ад бацькоў. Ды па дарозе, хаваючыся ад пагоні ў саломе, запарушыў вочы і аслеп. Даганялі прынца жонка і яшчэ адна дзяўчына, якая таксама кахала ўцекача. Дагналі яго ўжо сляпога. Тры жанчыны, жонка і дзве каханкі, наперабой хацелі заваяваць прыхільнасць прынца, кожная забраць яго да сябе. Але прынц пакінуў іх усіх і *пайшоў у манастыр*.

Не такая цікавая была сама драма, як манера яе выканання. Максімум умоўнасці. Мужчынскія ролі ігралі жанчыны. Тэкст гаварылі пастаўленымі галасамі. Суправаджалі драму хор і аркестр нацыянальных інструментаў. Хор час ад часу падпяваў, таксама пастаўленымі галасамі, з завываннем. Уключаўся ў пастаноўку і аркестр. І ў хоры, і ў аркестры — адны жанчыны. Сядзяць з каменнымі тварамі, не зварухнуўшыся, падкрэсліваючы гэтым значнасць падзей, якія адбываюцца на сцэне.

У тым жа Кіота мы назіралі яшчэ адну выключна нацыянальную з'яву — спаборніцтва мужчын па стральбе з лука. У ёй прымалі ўдзел пераважна пажылыя мужчыны — гадоў па пяцьдзесят, шэсцьдзесят, хоць былі сярод іх і маладзейшыя. Стралялі мужчыны, узыходзячы на нешта, падобнае да сцэны, збудаванай у парку. Метраў за пяцьдзесят ад гэтай сцэны — мішэні. З бакоў — гледачы. Мужчыны-стралкі — у нацыянальных касцюмах. У доўгіх, аж да пят, вельмі шырокіх унізе, са складкамі, шараварах. Адно плячо закрыта накідкаю, другое — голае. На сцэну яны ўзыходзілі па пяць чалавек, з захаваннем самага строгага рытуалу — як павярнуцца, як стаць, як узяць у рукі лук і стралу. Кожны рух быў дакладна разлічаны, быў іменна такі, а не іншы. Твар — строгі і горды. Не верылася, што гэта канторшчыкі ці маклеры, якія прыйшлі пазабаўляцца, патрэніравацца руку.

Асабліва запомніўся адзін стралок. Худзенькі, невялічкі, зусім белы дзядок гадоў пад семдзесят. Але трэба было бачыць, як ён *ішоў па сцэне — з выпраўкаю* бывалага салдата, з адчуваннем уласнай годнасці. Стаў у патрэбную паставу, ускінуў лук, нацягнуў цеціву. Нацягваў доўга, аж рука закалацілася. Выпусціў стралу — папала ў яблычка. І другі раз стрэліў вельмі добра. Вось табе і дзядок! А маладзейшыя прамазвалі...

У горадзе Кіота шмат храмаў. Некаторыя з іх працуюць як установы культу, іншыя — проста музеі, месцы для экскурсій. Некаторыя храмы спалучаюць у сабе адно і другое: там і моляцца, і ходзяць школьнікі, турысты.



Спаборнічаюць стралкі з лука.



Да будыйскага храма ў Кіота сцякаецца самы розны люд. У адным канцы плошчы раскінулі свае палаткі дробныя гандляры — створана нешта накшталт барахолкі. У другім канцы сядзіць заклінальнік змей. Крышку далей ад яго — маг, які прадракае лёс. А побач з ім проста жабрак просіць міласціну. Тут жа на плошчы — сажалка, у якой плаваюць чарапахі. Лётаюць, ледзь не на галовы людзям садзяцца, галубы. А з сярэдзіны храма даносіцца ўдар за ўдарам — нешта накшталт царкоўнага звону. Будыйскі служка з нагала пастрыжанаю галавою цягае за вяровачку — звоніць, б'е нейкай палачкай па барабане — склікае на малітву.

Убачылі мы і традыцыйную вясельную цырымонію. Гэта было ў горадзе Асака. Гаспадыня салона прыгажосці Ямака Ямагуці, энергічная жанчына гадоў пад пяцьдзесят, гасцінна прапанавала нам наведаць яе салон, у якім адбываюцца гэтыя цырымоніі. Мы на таксі паехалі далёка за горад. (Гэта толькі называецца «за горад»: горад так нідзе і не кончыўся, проста там былі ніжэйшыя дамы і крышку зеляніны.) Спыніліся ля шыкоўнага атэля. Ліфт падняў нас на шосты паверх.

Вясельная цырымонія ў японцаў своеасаблівая. Пасля кароткага благаслаўлення будыйскага або сінтаісцкага папа (гледзячы якой веры прытрымліваюцца маладыя) ідзе доўгая цырымонія фатаграфавання. Фатаграфуюць больш маладую, якая апранута ў нацыянальны шлюбны ўбор. Гэта адмысловае, вельмі дарагое і прыгожа вышытае кімано. На галаве — шапачка-каптур, надзетая на вельмі складаную прычоску. Сама маладая так нагрыміравана і напудрана, што выглядае больш падобнай на ляльку, чым на жывую дзяўчыну. Напудраны і загрыміраваны не толькі твар, але і шыя, і рукі. І ў такім вось выглядзе яе пачынаюць фатаграфаваць. І ў анфас, і ў профіль, зноў у профіль, і зноў у анфас, седзячы і стоячы. Нашу



Скорасная аўтастрада ў Токіо.

гаспадыню мы ўбачылі тут, так сказаць, за справай. Яна бегала вакол маладой, папраўляла на ёй то кімано, то пояс, па-мастацку выкладвала складкі, калі маладая садзілася ў крэсла, прамакала пот на твары дзяўчыны, які праступаў праз крэм і пудру, і ў гэты ж час не забывалася ўсміхацца нам, запрашаць, каб і мы фатаграфавалі маладую. Пасля мы падумалі, што гасціннасць пані Ямагуці, напэўна, была не зусім бескарыслівая: мусіць, нашым прыходам хацела зрабіць сабе рэкламу.

Калі маладая, нарэшце, паднялася, каб ісці, мы ўбачылі, што ногі ў яе спутаны — даніна нацыянальнай традыцыі, сімвал пакорлівасці жанчыны: спутаная, далёка не ўцячэ ад мужа.

Зноў было фатаграфаванне — у калідорах і на двары. Маладая не пакідала міла ўсміхацца. Радасць выказваў і малады — сімпатычны хлопец у чорным фраку.

Пад гукі вагнераўскага вясельнага марша ўваходзілі госці ў залу, дзе іх чакаў пачастунак. Малады і маладая, іх бацькі, стоячы пры дзвярах, паклонамі сустракалі гасцей. Сталы былі накрыты чалавек на сто. Перад кожным гос-

цем картка з яго прозвішчам. Малады і маладая, сват і сваццproperly селі за асобны стол, тварам да ўсіх гасцей. За стол насупраць, праз усю залу, селі бацькі маладой і маладога.

І тут пачалося нечаканае для нас. Сват стаў перад мікрафонам, прымацаваным да стала, разгарнуў скручаны ў трубачку рулёк паперы, спісанай іерогліфамі, і пачаў чытаць. Чытаў вельмі доўга. Перакладчыкі растлумачылі нам, што ён расказвае гасцям пра будучых мужа і жонку: колькі гадоў аднаму і другому, якія навучальныя ўстановы яны скончылі, дзе цяпер працуюць, дзе і як пазнаёміліся, хто іх бацькі. Пераконваў гасцей, што малады і маладая вельмі любяць адно аднаго і вельмі адно да другога падыходзяць. Госці ўважліва слухалі. Праўда, шмат хто з мужчын сядзеў з заплюшчанымі вачыма, склаўшы рукі на грудзях. Гэта я заўважыла не толькі на вяселлі. Падчас прамоў японцы часта сядзяць, заплюшчыўшы вочы і склаўшы рукі на грудзях. Ніяк не магла я разабрацца — ці гэта ім сумна, ці проста ў іх такая манера слухаць. Праўда, назіранні паказалі, што, калі гаворыцца нешта цікавае, японцы расплюшчваюць вочы. Але, мусіць, і такая манера слухаць не лічыцца тут недалікатнай. Пасля свата слова далі начальніку той установы, дзе працуе малады. Ён зноў доўга гаварыў аб тым, як малады працуе, аб яго дзелавых якасцях.

Мы не даслухалі ўсіх прамоў. Пайшлі з гэтага вяселля, тым больш, што за стол нас не запрасілі. Прыгадалі, што, каб у нас вось так трапілі на вяселле старонпія людзі, іх без пачастунку не адпусцілі б.

Спутаныя ногі ў нявесты... Гэта не толькі даніна традыцыі. Хоць цяпер жанчына ў Японіі і дамаглася нейкіх правоў, хоць па канстытуцыі яна роўная з мужчынам, у жыцці гэтая роўнасць далёка не захоўваецца. Жанчыне вельмі цяжка знайсці работу. Бяруць на работу толькі маладых дзяўчат. Некаторыя кампаніі проста адкрыта ставяць умовы: «Бяром на работу, будзеце ў нас працаваць, пакуль вам не споўніцца дваццаць пяць год. Да гэтага часу пастарайцеся выйсці замуж, бо з работы ўсё роўна звольнім».



Жабрак, якіх многа каля храма ў Кіота.

Некаторыя жанчыны пакорліва падпарадкуюцца такім патрабаванням. Іншыя набіраюцца адвагі пратэставаць. У горадзе Асака, у Доме японa-савецкай дружбы, дзе мы сустракаліся з актывістамі гэтага таварыства, адна жанчына расказала нам пра выпадак, калі работніца падала ў суд на кампанію, дзе яна працавала. Работніцу звольнілі, бо даведаліся, што яна выйшла замуж, але жанчына не хацела пакідаць работу, яна падала ў суд на кампанію і выйграла працэс.

Жанчыны ў Японіі атрымліваюць зарплату меншую, чым мужчыны, хоць і робяць адну і тую ж работу. Жанчын не дапускаюць да адказных пасад. Яны працуюць толькі ў гандлі, сцюардэсамі, у аўтобусах і на прадпрыемствах, дзе патрэбны далікатныя жаночыя рукі.

Трэба сказаць, што моцнае ўражанне засталося ў нас ад знаёмства з японскімі дзецьмі. Дзеці ўсюды дзеці. Цяжка дапусціць, каб японскія дзеці не свавольнічалі, не рабілі нечага недазволенага. Але там, дзе мы бачылі іх, — дома, на вуліцы, на экскурсіях, — яны паказвалі ўзоры дысцыплінаванасці, выхаванасці і паслухмянасці. Прытым, яны зусім не выглядалі вымуштраванымі. У іх вясёлыя і спакойныя твары. Жывыя вочы. Выхавацелі на іх не крычаць, не падганяюць. Я наогул не заўважыла, каб у Японіі маці, бацька ці выхавацель крычалі на дзіця. З дзецьмі гавораць спакойна і ласкава. І дзеці паслухмяныя.

У вялікіх гарадах — у Токіо, у Асака, у Нагоі — з раніцы на вуліцах дзіцячае царства. Дзеці вялікімі групамі ходзяць на экскурсіі, у музеі, у паркі. Выхавацель ці настаўнік ідзе наперадзе калоны і нясе ў руцэ сцяжок, — жоўты, сіні ці зялёны, каб дзеці здалёк бачылі сваю калону і не зблыталі з іншай. Настаўнікі і выхавацелі — мужчыны.

У кожнага школьніка на грудзях таблічка, на якой напісаны яго прозвішча, адрас, школа і клас, у якім вучыцца. Мусіць, гэта таблічка дысцыплінуе. Яна — як пашпарт. Калі які хлапчук нашкодзіць, то не трэба пытацца яго імя і прозвішча, дзе вучыцца і дзе жыве, гэта адразу відаць па «пашпарце». Акрамя таго, калі які малы вучань згубіцца ў вялізным горадзе, па «пашпарце» лёгка даставіць яго дахаты. Усе дзеці чысценькія, у белых блузках і кашульках, у белых панчошках. За плячыма ў кожнага мяккі ранец, больш падобны на маленькі рукзак. На баку — фляга.

Усюды, дзе толькі можна, дзіцячыя пляцоўкі. На такійскай тэлевізійнай вежы, куды водзяць турыстаў, каб з вышыні 333 метраў паглядзець на Токіо, цэлыя паверхі з дзіцячымі забаўкамі — каруселямі, машынамі, конікамі. Нават ва ўнівермагу на апошнім паверсе — басейн і караблік, на якім катаюць дзяцей, кафэ з марожаным і ласункамі, карусель.

Японскія дзеці засталіся для нас у некаторай ступені наогул загадкаю. Бо калі паслухмянасць і дысцыплінаванасць школьнікаў можна растлумачыць выхаваннем, то чым растлумачыць тое, што і зусім малыя, якім па году, па два, вельмі спакойныя? Часта ў аўтобусах, у цягніках з намі ехалі японцы з дзецьмі, і тых дзяцей нават не чуваць было: сядзяць сабе ціханька, бліскаюць чорнымі вачанятамі.

Японкі носяць малых дзяцей за спіною. Яны там сядзяць, пазіраюць на бакі, альбо спяць, адкінуўшы галоўку, ажно страшна робіцца: здаецца, так спаць яму нязручна. Але дзеці, мусіць, прывыкаюць. Я бачыла, як маці прывязвала дзіця сабе на спіну. Падхапіла яго паскам пад пахі і закінула за спіну, як мех з мукою. Пасля падвязала пад ножкі, захінула зверху накідкаю і падвязала яе ў сябе пад падбародкам. Тое дзіця толькі валюхалася на спіне і — хоць бы вякнула.

Японцы любяць дзяцей. У іх існуюць нацыянальныя традыцыйныя святы — дзень дзяўчынак, які адзначаецца 3 сакавіка, і дзень



Дзеці, скрозь — дзеці...

хлопчыкаў — 5 мая. Дзень дзяўчынак святкуецца ў самым пачатку вясны, калі пачынае зацвітаць сакура — вішня. Усе атрыбуты святкавання падкрэсліваюць пяшчотнасць, хараство, якія сімвалізуюць вобраз жанчыны. На гэта свята падаецца спецыяльная ежа — салодкая і прыгожа аформленая. А ў дзень хлопчыкаў над хатамі, дзе ёсць хлопчыкі, развяваюцца зробленыя з тканіны вялізныя карпы — метраў па тры, па чатыры даўжынёю. Карп у Японіі лічыцца дужай і мужнай рыбай. Гэта значыць, і хлопчыкі павінны расці дужыя і мужныя. І ежа ў гэтыя дні падаецца асаблівая: хлопчыкам гатуюць ежу, якую некалі бралі з сабою ў паход воіны.

Традыцыі ваяўнічыя, але ў сённяшняй Японіі ўсе памятаюць трагедыю Хірасімы і разумеюць, што можа прынесці новая вайна. Прагрэсіўныя колы Японіі выступаюць супроць амерыканскіх баз, якіх шмат на тэрыторыі Японіі, супроць амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме.

Першага мая мы былі ў горадзе Асака і бачылі першамайскую дэманстрацыю японскіх працоўных. Асака — вялікі прамысловы цэнтр. Тут добра арганізаваны пралетарыят, моцныя прафсаюзы. Збіралася дэманстрацыя на плошчы, дзе да вайны было шмат заводаў. Амерыканцы моцна бамбілі гэты раён. Нягледзячы на тое, што кожная лапінка зямлі ў Японіі вельмі дарагая, гэты раён не забудоўваецца, каб моладзь памятала, што тут былі заводы і амерыканцы знішчылі іх. Цяпер на гэтай плошчы наладжваюцца рабочыя мітынгі, дэманстрацыі. Першага мая сюды прыйшло тысяч дваццаць рабочых Асакі. Усе са сцягамі, з лозунгамі, на якіх словы пратэсту супроць палітыкі кабінета Сата, супроць павышэння цэн, супроць звальнення рабочых. Лозунгі пратэсту, напісаныя іерогліфамі, узнімалі ў паветра рознакаляровыя шары. Рабочыя прыйшлі на дэманстрацыю ў святочным адзенні, з павязкамі на руках, на галовах. На павязках таксама заклікі. На плошчы быў мітынг, а пасля дэманстранты з лозунгамі і сцягамі прайшліся па вуліцах горада.

На нашым турысцкім аўтобусе было напісана, што мы з Савецкага Саюза, што прыехалі як дэлегацыя ад Таварыства япона-савецкай дружбы, і калі наш аўтобус праязджаў паўз калоны дэманстрантаў, рабочыя шчыра віталі нас — усміхаліся нам, махалі рукамі, а пасля заспявалі «Інтэрнацыянал».



Свята дзяўчынак.

Калі з раніцы на вуліцах вялікіх японскіх гарадоў царства дзяцей, то ўдзень, мусіць, царства іен — японскіх грошай. На вуліцах ходзяць заклапочаныя людзі з партфелямі, круцяцца дзверы банкаў і кантор, бясконцым патокам ідуць машыны, бойка гандлююць крамы. Людзі зарабляюць грошы. Хто як можа. Хто як умее. Хто колькі можа. Усе занятыя, усе заклапочаныя. Ні хвіліны, патрачанай дарэмна.

Але вось надыходзіць вечар. Закрываюцца ўстановы, магазіны. Цяпер настае царства бараў. Іх агні, рэкламы ўпрыгожваюць горад, як навагоднюю ёлку. Вакол усё свеціцца, круціцца, міргае. Па вуліцах ідзе ўжо бясклапотны натоўп. У маладых хлопцаў вясёлыя вочы. Магчыма, ужо выпілі?

Бары на кожным кроку. Ёсць цэлыя вуліцы, завулкі, дзе ў кожным доме — бар. І ў кожнага бара







Першамайская дэманстрацыя ў горадзе Асака.

свая уласная, адмысловая шыльда-рэклама.

Акрамя бараў, у вялікіх гарадах Японіі ёсць і яшчэ адзін спосаб бавіць вячэрні час — пагуляць у шарыкі. Гэта нешта накшталт нашага дзіцячага більярда, толькі гэты більярд не на стале стаіць, а запраўлены ў аўтамат. На пэўную суму чалавек купляе металічных шарыкаў. Шарыкі па адным кідае ў аўтамат, націскае на спружынку, і шарык ляціць між жалезных цвічкоў. Калі трапіць у патрэбную клетачку, аўтамат выкідвае столькі шарыкаў, колькі ігрок выйграў. Гульня гэта, мусіць, карыстаецца ў Японіі вялікай папулярнасцю, бо ва ўсіх гарадах мы бачылі вялізныя залы, застаўленыя гэтымі аўтаматамі-більярдамі.

У горадзе Кіота мы сустрэліся са студэнтамі ўніверсітэта. Перад тым, як распачалася гутарка, нас павялі па студэнцкім інтэрнаце паказаць, як жывуць студэнты. Будынак інтэрната вялікі, пяціпавярховы. Жывуць студэнты па чатыры чалавекі ў пакоі, ложкі размешчаны, як нары, на два паверхі. На сценах — фатаграфіі артыстак, выразаныя з часопісаў. Вялікая студэнцкая сталоўка на першым паверсе. Ходзяць па ўсім будынку толькі ў шкарпэтках, абутак пакідаюць пры ўваходзе.

У часе гутаркі японскія студэнты распытвалі нас пра тое, як жывуць савецкія студэнты, ці атрымліваюць стыпендыю і якую, ці могуць студэнты жаніцца.

Мы, у сваю чаргу, спыталіся ў іх, ці ўсе студэнты, якія ў Японіі заканчваюць навучальныя ўстановы, забяспечваюцца працай. Аказваецца, не. Студэнт заканчвае навучальную ўстанову, а пасля сам павінен шукаць сабе работу. Кіраўнік кампаніі, які бярэ да сябе на работу маладога спецыяліста, наладжвае яму спецыяльны экзамен. Вытрымаць гэты экзамен важней, чым атрымаць дыплом. Можна мець дыплом у кішэні і хадзіць без работы.

На развітанне студэнты папрасілі, каб мы праспявалі ім якуюнебудзь савецкую песню. Калі мы заспявалі «Кацюшу», японскія студэнты пачалі нам памагаць. Пасля яны праспявалі японскую песню. Пасля ўсе разам заспявалі «Інтэрнацыянал».

У канцы кожнай сустрэчы нас прасілі, каб мы праспявалі сваю песню, а яны спявалі народныя японскія песні. У горадзе Асака ў Доме япона-савецкай дружбы, дзе ў нас была сустрэча з членамі гэтага таварыства, прысутныя ў канцы сустрэчы заспявалі рускую

«Рабіну», пасля рабочую рэвалюцыйную песню «Смела, таварышы, ў ногу». У Японіі добра ведаюць нашу «Кацюшу», «Падмаскоўныя вечары», «Калінку».

Японцы вельмі свабодна, нязмушана паводзяць сябе ў кампаніі. Гуляюць у розныя гульні, танцуюць, спяваюць. У іх няма той непатрэбнай сарамлівасці, якая часам бывае ў нас, калі кожны ў кампаніі баіцца быць самім сабою, каб не страціць гонару. Мы некалькі разоў былі сведкамі, калі ў зале, перад людзьмі, да мікрафона падыходзілі якія-небудзь жанчына і мужчына і пачыналі спяваць песню, якая ім падабалася. Мы былі ў бары, дзе каля аркестра стаіць мікрафон, і кожны з гасцей можа падысці да яго і заспяваць, што яму захочацца. І падыходзяць, і спяваюць.

Затое прафесійным спевакам у Японіі, мусіць, цяжэй. Яшчэ па дарозе ў Японію, спачатку ў самалёце, пасля на караблі, з намі ехаў японскі юнак Норыя Оку. Я звярнула на яго ўвагу, бо ў юнака на пінжаку быў значок: «Мінск». Вельмі цікава, ад'ехаўшы ад дому так далёка, у японскага юнака ўбачыць значок роднага горада! З размовы высветлілася, што юнак у Маскве жыў у гасцініцы «Мінск» і там купіў гэты значок, што ён едзе дахаты ў Японію з Італіі, дзе вучыўся спяваць. Так што Норыя Оку — артыст, спявак. У яго рэпертуары рускія народныя песні, італьянскія, японскія. Калі мы плылі ўжо на караблі, Норыя Оку па просьбе пасажыраў спяваў — спяваў на палубах, на трапах карабля, у салоне. У яго прыгожы голас, і слухаць яго было прыемна.

А вечарам на караблі быў наладжаны канцэрт самадзейнасці. Выступалі члены каманды, дзяўчаты-афіцыянткі. Хто спяваў, хто танцаваў. Запрасілі і Норыя Оку прыняць удзел у гэтым канцэрце.

І вось выходзіць на сцэну наш, ужо добра нам знаёмы, юнак. Але што гэта? Што за вопратка на ім? У самалёце, на караблі Норыя Оку быў у звычайным еўрапейскім касцюме. Цяпер на юнаку была нейкая роба ў рудую палоску з капюшонам. Сам юнак выглядаў падобным на маляра, бо гэтая роба была ўся ў плямах. Толькі калі прыгледзеліся, дык зразумелі, што гэта роба ўся размаляваная. Ззаду, на спіне, каляровым алоўкам намаляваны партрэт жанчыны і побач — прабітае стралою сэрца. Далей яшчэ нейкі малюнак, ужо абстрактны. І кругом, па ўсёй робе, аўтографы, подпісы, малюнкі. Подпісы і аўтографы на розных мовах. Яны — знакі тых гарадоў, дзе пабываў юнак, як этыкеткі, што наклейваюцца на чамаданы ў гасцініцах. Гэта куртка, аказваецца, канцэртны гарнітур Норыя Оку. І артыст у такім гарнітуры выконвае «Аве Марыя». Не вельмі, мусіць, добрыя справы твае, Норыя Оку, калі ты такім чынам збіраешся зацікавіць публіку.

З назіранняў, якія зрабілі ўражанне, хочацца яшчэ расказаць пра тую адданасць, пра тую нават віртуознасць, з якой простыя японцы робяць сваю работу. Як падносіць, налівае страву афіцыянт. Як вядзе машыну, даглядае яе шафёр. Як гандлюе ў магазіне прадавец. У гэтым няма ніякіх фокусаў, нічога незвычайнага, але ўсё гэта робіцца з вялікай вывучкай і дакладнасцю, а галоўнае — з любоўю да сваёй работы і з адчуваннем, што тут, на гэтай рабоце, ты самы неабходны, самы патрэбны чалавек.

Мы бачылі праз акно, якое выходзіла на вуліцу, як у маленькім бары кухар мясіў цеста. Што ён з ім вырабляў! Так, мусіць, не працуе жанглёр у цырку са сваімі шарамі ды колцамі. Кухар і падкідаў гэта цеста, і расцягваў, і перакручваў, і ўсё гэта з такім спрытам, з такім артыстызмам, з такой віртуознасцю, што мы аж спыніліся каля акна.

А ўпакоўка ў магазінах, калі кожную, нават самую дробную пакупку табе пакладуць у карабок, карабок загорнуць у прыгожую паперу, паперу заклеяць, ды яшчэ зверху перавяжуць прыгожай стужкаю! Ды яшчэ некалькі разоў дзякуй скажуць за тое, што ты ў іх нешта купіў.

У Токіо мы былі на рыбным базары. Сам гэты базар — цікавая з'ява. Нешта накшталт «Чэрава Парыжа». Пачынае ён сваю работу ў чатыры гадзіны раніцы. Сюды прывозяць сотні тон рыбы. Яе купляюць гаспадары крам, бараў. Купляюць оптам. Тут жа, на месцы, работнікі рынку яе сартуюць, чысцяць, што трэба — запакоўваюць. Якіх толькі марскіх дзівосаў няма на гэтым базары! Тут і крэветкі, і крабы, і васьміногі, і вялізныя, па дзвесце і больш кілаграмаў, тунцы, і нават акулы. І які парадак, чоткі рабочы рытм! Ніхто не стаіць без справы, не перакурвае, у кожнага свая работа, якую ён робіць, не азіраючыся на бакі, не звяртаючы ўвагі на турыстаў. Віртуозна, як у цырку, коцяць па вузенькіх праходах тачкі з рыбаю, з карабкамі і скрынкамі.

Побач — аптовы рынак гародніны. Уся гародніна чыста памытая, у капронавых сетачках, адборная, свежая. Калі тавар тут будзе хоць крышку нясвежы, нядобра запакаваны, яго проста не купяць.

Мы натрапілі на момант, калі ішла распрадажа гародніны. Чалавек сто купцоў, гаспадароў крам, стаялі пры сцяне адзін за адным, як артысты ў хоры. Перад імі, як дырыжор, — маклер. Маклер выкрыкваў цэны, і з «хору» несліся галасы — колькі хто купляе, колькі хто дае. Купцы перакрыквалі адзін аднаго, паказвалі нешта на пальцах. Тавары ва ўсіх узбуджаныя, усхваляваныя. Вядома, у гэты час над імі лунаў дух іен...

...У часе нашай паездкі было цудоўнае надвор'е, паветра празрыстае, з вокан цягнікоў і аўтобусаў адкрываліся прыгожыя краявіды. Мы бачылі пакрытыя лесам горы, зялёныя даліны, японскую зямлю ў майскай зеляніне і квецені. У курортнай мясціне Хаканэ плавалі на караблі па сінім горным возеры, якое нагадвае возера Рыцу, любаваліся пакрытай снегам вяршыняй знакамітага вулкана Фудзіяма. І ўвесь час над намі было яснае неба і вакол адчувалася прыязнасць, таварыскасць. І хацелася б, каб гэтая таварыскасць, гэтая прыязнасць былі не ўяўнымі, каб цёплыя адносіны не былі звычайнай японскай ветлівасцю. Хацелася б, каб неба Японіі было заўсёды чыстае ад чорных хмар варожых самалётаў, якія цяпер не-не, ды кладуць цень на японскую зямлю...

Фота аўтара.



**У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ—**

**СЛОВА АБ ГОРКІМ,**

●

**ГЕОРГІ ШТЫХАЎ РАСКАЗВАЕ АБ ЗНАХОДКАХ НА ЗАСЛАЎСКІМ ЗАМЧЫШЧЫ,**

●

**ДЗЕСЯЦІКЛАСНІКАМ ДАЕ ПАРАДЫ НАТАЛЛЯ ПАПОВА.**



### ГЛАБАЛЬНЫ ТЭЛЕФОН

У адным з камітэтаў пры ААН распрацаваны план стварэння глабальнага сусветнага тэлефона. Гэтая аўтаматычная сістэма сувязі павінна дазваляць без дапамогі тэлефаністак злучацца з абанентам любога пункта нашай планеты. Да 1970 года сусветны тэлефон ужо ахопіць большасць краін. Сусветная нумарацыя тэлефоннай сувязі запатрабуе набору некалькіх лічбаў. Першая лічба — нумар для падключэння ў сусветны ланцуг. Другая — ключ для сувязі з патрэбнай краінай. Трэцяя ўключыць адпаведны населены пункт. Чацвёртая, апошняя,— выкліча самога абанента. Усе краіны будуць падзелены на дванаццаць зон. Савецкі Саюз належыць да зоны «7».



### САМАЯ ЦЯЖКАЯ КНІГА

Брытанская фірма атрымала з ЗША кантракт на дванаццаць мільёнаў долараў, паводле якога яна павінна надрукаваць самую цяжкую кнігу ў гісторыі кнігадруку. Гэтая кніга будзе складацца з 610 тамоў, у кожным па 704 старонкі, і заважыць паўтары тоны. Калі, прыкладна, праз дзесяць гадоў работа закончыцца, увесь камплект будзе каштаваць 8000—9000 долараў. А будзе гэта — самы вялікі каталог кніг, якія ёсць у буйнейшых бібліятэках ЗША, Канады і Мексікі.

### ПЫЛАСОСНАЯ СІМФОНІЯ

Тры пыласосы, палацёр і чатыры стрэльбы былі ўведзены ў склад Дартфордскага сімфанічнага аркестра пры выкананні вялікай уверцюры Малькольма Арнольда.

Чатыры жанчыны кіравалі пыласосамі і палацёрам, настроенымі на сі-мажор і ўстаноўленымі ў духавой частцы аркестра, а мужчыны са стрэльбамі памагалі ўдарнікам. Палацёр, як тлумачыць кампазітар, надае своеасаблівую рытмічнасць спевам пыласосаў, а стрэлы ствараюць цудоўны эфект у фінале твора.

Выкананне мела ашаламляльны эфект і першы раз адбылося ў Лондане.

### БАЛІВІЯ І МОРА

Балівіі таксама не патрэбны марскі флот, як і Швейцарыі, але... у Балівіі ёсць адміралы.

Вось што адбылося з адным балівійскім адміралам, які меў афіцыйны візіт у Венесуэлу ў часе дыктатуры Маркаса Пераса Хіменеса. У аэрапорце венесуэльскі рапарцёр задаў яму хітрае пытанне: «Скажыце, як гэта Балівія, не маючы выхаду ў мора, мае адмірала флоту?» Адмірал адказаў: «Сіньёр, а як жа Венесуэла пры рэжыме прэзідэнта Пераса Хіменеса мае міністра юстыцыі?»

Балівійцы ніяк не могуць пагадзіцца з думкаю, што іх краіна зусім ізалявана ад мора.







# КРУТЫ ПАВАРОТ



Гэта пазней да мяне ўсведамленне прыйшло, што я і сапраўды Цыбулька. А раней чалавекам быў. І прозвішча, адпаведна, меў чалавечае.

Пачалося ж усё з таго, што закінуў мяне лёс у адзін інстытут. Цяпер дык і называць яго, яй-богу, язык не паварочваецца.

Карацей: стаў я спецыялістам... Не таму, што вельмі хацелася. Проста конкурс прынадзіў: паўчалавека на месца. Хачу папярэдзіць (па-сяброўску): палохацца няма чаго, бо гэта называецца толькі — паўчалавека. Прымаць усяго, цалкам — асцерагаюцца: а раптам не тая палавіна ў інстытут трапіць?..

Ну, ды гэта, як пісаў мой сябар па літаратурных курсах, «дела давно минувших дней»...

Галоўнае — у мяне дыплом! Помніцца: саджуся ў трамвай, а ён так і тапырыць кішэню (дыплом, канешне). Бачу, між іншым, тып адзін падазрона прыглядаецца. Во, чорт, возьме ды выцягне яшчэ: падумае, каштоўнасць якую ў кішэні вязу! Узяў ды вылез, пешкі пайшоў.

А дома — пацеха, гармідар. Усе думалі, што ўладкуюся я на кантрольнай станцыі. Бачылі можа: сядзяць на базарах такія дзядзькі вышэйшай укормленасці,— з вішнёвымі насамі,— пячаткі на кумпяках ставяць. Месца яно цёплае. Ды не па здароўю: як гляну на гэтыя рэбры ды вантробы розныя — язык па-здрадніцку кудысьці аж да страўніка адступае. Ну, і, самі разумееце,— ванітаваць...

Дык рашыў я навуку ашчасліваць. На месца (карацей, у калгас) ехаў амаль з гатовай дысертацыяй (словам, не з пустымі рукамі): вёз тэму і ідэю, як сказаў бы крытык.

Гады два — страх не вялікі. А там — і за кафедру. Кандыдатам навук!

Старшыня калгасны спачатку засумняваўся, ці, карацей, спалохаўся па цемнаце сваёй. Як гэта, кажа, у вас мудрона ўсё: утрыманне свінога пагалоўя з выхаваннем прагрэсіўнага групавога свабодна-выгульнага інстынкту пры агрэсіўна-індывідуальным халодным кармленні. Ну, тут я, зразумела, падпусціў красамоўства. «Ды што вы,— смяюся,— вопыт быў, у Каўказскіх гарах, а нам — замацаваць толькі, падагуліць». Ды размаляваў яшчэ, як закрасуюцца ў газетах старшынёвы партрэты, як зашуміць радыё, як хлынуць дэлегацыі: сядзі толькі ды банкеты адпраўляй. А свінінкі, дзякуй богу, хопіць!



І здаўся старшыня, не ўстаяў перад аўтарытэтам навукі, ці проста — ля чужой славы пагрэцца закарцела...

Перш за ўсё загадаў я выкінуць з фермы запарнікі (карацей, варварскія агрэгаты па знішчэнню вітамінаў), ліквідаваць розныя там катухі і загарадкі ды пусціць на злом вузка-індывідуальныя цабэркі і карыты. Свінаркі, праўда, упарціліся, а некаторыя нават прыхавалі тое-сёе з посуду. Прыйшлося шукаць і ламаць, не раўнуючы, як самагонныя апараты. Кансерватызм такі, разумееце, мясцовы. Ды я яму хутка рогі абламаў. Асабліва, калі карэспандэнт райгазеты з падтрымкай ініцыятывы выступіў. Прагноз быў самы аптымістычны: заваліць раён (заваліць — зразумела, узняць) у сэнсе свініны.

Ім, канешне, лягчэй напісаць. Мне ж — рабіць трэба. А на ферму не зайсці, ступаеш, як па мінным полі. Добра яшчэ, боты паляўнічыя захапіў: як кажуць, канечнасці хоць у бяспецы.



І ўсё ж метад мой прасоўваўся. Свінні, урэшце, зажылі, як свінні: стадам. Агульнае доўгае карыта, што з'явілася пасярод двара, узняло іх жыццедзейнасць, актывізавала апетыт. Карацей, я любаваўся кожны раз, як тарпедамі вырываліся з дзірак, прарэзаных у сцяне (лазамі па-навуковаму завуцца), свінні, калі далятаў да іх лязгат вядра.

Ну, рыхт агрэсары! І як гэта я трапна прыдумаў, назваўшы кармленне агрэсіўна-індывідуальным!

Карацей, відовішча непаўторнае. У мяне нават верш з душы выліўся:

Свінні хлешчуць вітаміны,
толькі вухамі трасуць.

(Дарэчы, для даследчыкаў: гэта і быў мой першы, яшчэ падсвядомы, крок у літаратуру.)

Праўда, здаралася часам: двое свіней адразу ў адну дзірку сігалі. Вось тады ўжо — крышка. Прыходзілася выклікаць аварыйную брыгаду ў складзе вартаўніка дзеда Гарошкі. Добра, калі стары пад рукой, а то глядзіш — і свежына для новага банкета гатова.

Ды, карацей, гэта ўсё дробязі. Галоўнае зімой пачалося. Ідэя будучай дысертацыі бліскуча пацвярджалася. Свабодна-выгульны інстынкт у маіх падапечных мацаваўся і па *днях, і па начах. Я кажу па начах, бо гэта засведчана бухгалтарам Костачкам і яго жонкай.* Імення ноччу да іх у хату (дзверы пасля банкета аказаліся не на клямцы) уварваліся свінні. Ажно з фермы пачулі, шэльмы, пах варыва! І, заўважце, налёт быў групавы. Як і задумана мною (гэта я не пра налёт — аб дысертацыі, канешне).

Доказ быў фенаменальны. Хоць і не зусім законны. Прыйшлося вартаўніку Гарошку ўсыпаць крыху — за страту пільнасці: гэтак жа свінні чорт ведае куды збегчы могуць!

А дзед, карацей,— да мяне:

— Ды што ж гэта робіцца, *начальнік*: свінні цэлую ноч зубамі *ад холаду ляскаюць*, бо ў лазы ж гэтыя не толькі яны, але і мароз, трасца яго матары, прэцца. Ды яшчэ скажу: хутка і зубамі ляскаць перастануць, бо зубоў тых не будзе.

Тут ужо я не на жарт раззлаваўся.

— Ды ты,— кажу,— хаця б сам не ляскаў. Бач, у кажух у які ўлез. А таго не разумееш, што свіней гэтым самым палохаеш. Умоўны рэфлекс іхні на летні лад трэба настройваць, а ты сваім кажухом сігналы холаду ў нервовую сістэму падаеш.

І зарваўся Гарошка, такое загнуў пра навуку! Карацей, самы цёмны цемрашал пазайздросціў бы яго цемнаце...

Але і я *пагарачыўся: навошта ж так на мароз чалавека старога распранаць?* Тым больш, што ён цяпер як бы асістэнт мой: не задрамаў бы — і доследу б з начным набегам не было. Ды і зараз вось пра зубы гаварыў... Гаварыў? Чакайце, чакайце... Выпадаюць, гаварыў? А чаму?

І пашыбаваў я да Гарошкі.

— Пэўна, цынга ўвалілася? — пытаю.— Можа б — цыбулькі ім?

Карацей, стаў я з лёгкага дзедавага языка Цыбулькам.

А неўзабаве — *мусіў зрабіць круты паварот у жыцці*: дэбют быў, псеўданім ёсць — падаўся ў гумарысты. Здзіўляецеся? А што ж мне, па-вашаму, заставалася? Збіраць ды падлічваць свіныя зубы?.. А яны-такі пасыпаліся. Казаў дзед, ад таго, што свінні мярзляціну ды сцены грызлі. Я, праўда, здорава сумняваўся: не магло такога быць — усё ж строга па метаду рабілася.

Карацей, уцёк я ноччу...

Затое цяпер — кум каралю. Сяброў, гасцей — штодня поўная хата. Ды ўсе задзірыстыя, вясёлыя, словам, знаёмцеся самі.

**Антось Цыбулька.**
Мал. **А. Волкава.**



Дзьердзь **МІКЕШ**

# ЯК ГАВОРАЦЬ НАШЫ ЖОНКІ

**Зачыні акно.**

— Мог бы ўжо, нарэшце, і зачыніць гэтае акно!

**Вячэра гатова.**

— Колькі разоў я яшчэ буду зваць цябе вячэраць!

**Добра, што ты апусціў штору.**

— Ну, нарэшце ты здагадаўся апусціць гэтую няшчасную штору!

**Мне трэба прыбраць у пакоі.**

— Божа, колькі мне яшчэ трэба прыбіраць за табой!

**Рашыце з сынам задачы.**

— Ты лепш бы сеў ды задачкі з сынам парашаў, а то ўсё на мяне спадзяешся!

**Сходзім у кіно.**

— Мог бы хоць раз і мяне ў кіно звадзіць!

**Ты не забыўся?**

— Проста дзіва дзіўнае, што ў цябе з галавы не вылецела!

**Падай мне, калі ласка, вады.**

— Вядома, ты і вухам бы не павёў, калі б я памерла ад смагі, і табе нават не стукне ў галаву падаць мне кубак вады!

**Нехта звоніць.**

— Ты што — аглух?

**Ты пакінуў шафу адкрытай.**

— Ты думаеш, у мяне няма іншага клопату, чым толькі бегаць за табой ды зачыняць пасля цябе шафу?

**Калі я папрашу, ты пасцелеш?**

— І ў цябе карона з галавы не зваліцца, калі раз пасцелеш!

**Ты чытаеш?**

— Зноў уткнуў нос у кніжку?

**Уключы тэлевізар.**

— Тэлевізар хоць бы ўключыў, ці што?

**Выключы тэлевізар.**

— Ужо цэлую гадзіну прашу — выключы ты гэты тэлевізар!

**Пойдзем, пагуляем.**

— Ведаючы, што ты жмінда, прапаную самую дзяшовую праграму: пойдзем проста пагуляем.

**Я згатую каву.**

— Я ўжо нават не адважваюся прасіць вяльможнага пана згатаваць мне каву. Я згатую сама.

**Па дарозе дамоў купі кіло садавіны.**

— На цябе можна спадзявацца? Не забудзеш? Прынясі кіло якой-небудзь садавіны. Са-да-віны, разумееш? Адзін кілаграм! Не два кілаграмы, а адзін! Ты чуеш, што я гавару?

**Ты абтрос попел не ў попельніцу.**

— Ты што, сляпы, не бачыш? Вунь попельніца пад носам!

З венгерскай мовы.
Пераклад **Алеся МАЖЭЙКІ.**



## РАЗБІРАЮЧЫ ПОШТУ

### ШТО ДАРАЖЭЙ

*Высылаю дэтэктыўны раман «Слова — серабро, маўчанне — золата». Парайце, як быць: пісаць ці кінуць?*

Трымайцеся валютнага курса: золата ёсць золата.

### ЯШЧЭ РАЗ АБ ПАЧУЦЦЯХ

*Люблю паэзію — і пішу, пішу...*

Мушу засмуціць: каханне без узаемнасці.

### ПАКУТЛІВЫЯ ДНІ

*Дзень добры! Гэта я: Курачкін. Прабачце за доўгае маўчанне.*

І не прасіцеся, гром на вас з перунамі! Столькі пакут прынеслі, столькі пакут: трыццаць дзён не было каго абазваць графаманам.

### ПА-ДЖЭНТЛЬМЕНСКУ

*Давайце супрацоўнічаць: мае словы, ваша музыка.*

За ўвагу дзякую. Але пішу зараз песню без слоў.



# наша аўтары

●

**ПАЎЛАЎ Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Замошша на Случчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях газет і на радыё.

Аўтар зборнікаў «Узлётная паласа», «Далягляд», «Светацені».

●

**БУРАЎКІН Генадзь** нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне. Закончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў у часопісе «Камуніст Беларусі», на Беларускім радыё. Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва».

Аўтар зборнікаў вершаў: «Майская просінь» (1960), «З любоўю і нянавісцю зямною» (1963), «Дыханне» (1966). У Маскве, у выдавецтве «Молодая гвардия», выдадзена кніжка яго вершаў «Голоса расстояний» (1964).

●

**ШАБАН Яўген** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Калодзіна на Мядзельшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў акцёрам і загадчыкам літаратурнай часткі тэатра імя Якуба Коласа. Цяпер працуе на Мінскай студыі тэлебачання.

●

**СІДАРЭВІЧ Анатоль** нарадзіўся ў 1947 годзе ў Слуцкім раёне. Скончыў сярэднюю школу, працаваў рабочым у Слуцку. Цяпер культработнік. Першыя апавяданні надрукаваў у «Маладосці».

●

**ВЯРЦІНСКІ Анатоль** нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Дзямешкава на Лепельшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях раённых і рэспубліканскіх газет.

Аўтар зборнікаў «Песня пра хлеб», «Тры цішыні».

●

**СМАГАРОВІЧ Марк** нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Забалоцце Акцябрскага раёна. Удзельнік партызанскага руху. Аўтар зборнікаў: «Мой таварыш», «На крыллях песні», «Маё выступленне», «Крокі». Жыве ў Астрашыцкім Гарадку.

●

**АЛЯХНОВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1938 годзе на Слонімшчыне. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны эканамічны інстытут. Працаваў у рэдакцыі «Сельскай газеты», у экспедыцыях Беларускага інстытута воднай гаспадаркі. Цяпер працуе ў Дзяржаўным камітэце Савета Міністраў БССР па друку.

●

**КАЗЛОВІЧ Анатоль** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Горск Бярозаўскага раёна. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты. Цяпер — студэнт філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

●

**ДЗМІТРЫЕЎ Міхаіл** нарадзіўся ў 1898 годзе ў вёсцы Пятроўскае былой Петраградскай губерні. У 1941 годзе скончыў акадэмію Генеральнага штаба. У час Вялікай Айчыннай вайны камандаваў артылерыяй Цэнтральнага, Бранскага і іншых франтоў.

●

**АРАБЕЙ Лідзія** нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна. У гады Айчыннай вайны была партызанскай сувязной. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і аспірантуру. Кандыдат філалагічных навук. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтар кніг: «Творчасць Цёткі», «Ларыса», «Экзамен», «На струнах буры», «Сярод ночы» і іншых.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 2**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Тэлефоны: **2-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **2-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы. **2-93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **2-93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 29/XII-67 г. Падпісана да друку 31/I-68 г.
АТ 08530. Тыраж 11083. Зак. 660. Цана 40 кап. Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 16.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспр. 79.**




**Ф. ФЕВЕЙСКІ** (Масква). **Провады.** Гіпс.

**З УСЕСАЮЗНАЙ**

**ЮБІЛЕЙНАЙ**

**МАСТАЦКАЙ**

**ВЫСТАЎКІ.**